**ББК 83.3 Бел 7**
**К 90**

*Рэцэнзент*
*Н. Я. Пашкевіч*

Книга Валентины Кулешовой - это и воспоминание об отце, народном поэте Белоруссии Аркадии Кулешове, и одновременно исследование его творчества.

Книга написана эмоционально, подкупает меткостью суждений, умением автора понять и показать сложность и многогранность поэтической натуры известного мастера белорусской поэзии.

4603020102-142
К ------------------------ 81-89
М 302(03)-89

## ПАЖАР

-----

Колькі я памятаю свайго бацьку, ён заўсёды баяўся пажару. Варта было каму-небудзь з дзяцей дакрануцца да запалак, як ён перасцерагаў: «Кінь запалкі, хату падпаліш!» У такія хвіліны бацьку як падмянялі: ён рабіўся ўпартым, падобным да тых старых, якім ужо нічога нельга давесці. А бацька ж быў яшчэ зусім малады, калі мы ўпершыню сутыкнуліся з гэтай асаблівасцю яго характару, а калі дадаць, што па-сапраўднаму старым ён так ніколі і не стаў і, відаць, не стаў бы ў далейшым,— можна сабе ўявіць, чаму такая рэакцыя здзіўляла нас. Мы, дзеці, так і лічылі б гэта, напэўна, дзівацтвам, калі б з цягам часу не зразумелі, што на тое былі сур'ёзныя прычыны.

Незадоўга да смерці мой бацька, беларускі паэт Аркадзь Куляшоў, пачаў расказваць мне час ад часу драматычныя эпізоды свайго жыцця, нібыта спавядаючыся.

Свае прызнанні ён пачынаў звычайна здалёк, скорагаворкай, як бы між іншым, і ў гэтай паспешлівасці адчувалася адначасова і рашучасць выказаць нарэшце ўсё, што набалела, і боязь, што цябе не зразумеюць. Здаралася, што потым, праз пэўны час, ён удакладняў нешта са сказанага раней, і тады мы пачыналі ўсведамляць, чаму з такім хваляваннем, гэтак нясмела і марудна распачынаў бацька свой раскаЗ Цяпер я разумею, што многае з таго, пра што ён пачынаў гаварыць, засталося недагавораным, а да многага так і не дайшла чарга.

А пра пажар мы пачулі ўвосень семдзесят сёмага. Здарылася так, што мая маці, Аксана Фёдараўна Куляшова, паехала ў санаторый лячыцца, і бацька каля двух тыдняў жыў на Нарачы з шасцігадовай унучкай, маёй дачкой Вольгай, а мы з мужам разы са два на тыдзень наязджалі туды, каб неяк наладзіць іхні побыт. Памятаю, як аднойчы мы, дарослыя, сонечным восеньскім ранкам завіхаліся на кухні — бацька ў вольныя хвіліны вельмі любіў назіраць за гатаваннем і нават даваў парады, хоць сам умеў варыць толькі яйкі. Раптам Вольга, схапіўшы запалкі, пабегла з хаты. Бацька адразу ж насцярожыўся. Адчуўшы ягоную трывогу, я адабрала ў дачкі запалкі, спытаўшыся жартам у бацькі, чаму ён так баіцца іх. Глухім ад хвалявання голасам ён сказаў:

— Таму, што я аднойчы спаліў вёску...

Сказаў і заспяшаўся ў свой пакой, а мы нібы аслупянелі, уражаныя і тым, што пачулі, і тым, як гэта было сказана. Так бацька гаварыў толькі пра тое, што некалі цяжка перажыў і пра што

заўсёды гаварыў з болем. Звычайна яго хваляванне перадавалася нам і стрымлівала ад далейшых роспытаў. Ды яны, зрэшты, нічога б і не далі: у такія хвіліны ўся энергія, відаць, ішла ў бацькі на сам факт прызнання, і мы ўжо ведалі: цяпер ён будзе ляжаць на сваёй канапе і гадзіну, і дзве, думаючы пра нешта, і турбаваць яго нельга. Тут, дарэчы, трэба дадаць, што з гэтай бацькавай позай у свядомасці яго дзяцей з маленства было цесна звязана ўяўленне аб таямніцы творчасці, бо так ён звычайна абдумваў будучыя творы і ўставаў толькі, каб запісаць прыдуманае.

Саму гісторыю мы пачулі пасля, калі бацька змог ужо гаварыць пра гэта больш-менш спакойна.

Здарылася так, што чатырохгадовага Аркадзя і яго сямігадовага сябра пакрыўдзіў сусед-гаспадар, і дзеці вырашылі адпомсціць. Завадатарам быў старэйшы, але дзейнічалі разам. Хата бацькоў старэйшага хлопчыка стаяла побач з хатай крыўдзіцеля. Прыставіўшы да страхі драбіны, дзеці ўзлезлі наверх і кінулі ў салому запаленую сярнічку. Усчаўся пажар. Дзень быў ветраны, і палова вёскі згарэла. Раз'юшаны натоўп прагнуў пакарання вінаватых, і бацька сямігадовага хлопчыка на вачах усіх так збіў сына, што той праз тры дні памёр. Хацелі пакараць і Аркадзя, але маці не аддала яго на расправу. Кацярына Фамінічна была настаўніцай. Людзі паважалі яе і не адважыліся адабраць сына сілком.

Думаецца, што гэты трагічны выпадак адыграў сваю ролю ў выбары будучым паэтам першага літаратурнага псеўданіма. «Збор твораў Куляшова-Няшчаснага» — так назваў ён свой першы «зборнік» вершаў — вучнёўскі сшытак, дзе занатоўвалася ўсё, што «ў сэрцы набалела», што хвалявала дзіцячую душу, што адбівалася ў ёй:

По морю лодочка несется,
А в ней красавица сидит.
Она в той лодке бьется,
На милого глядит.

Гэтае чатырохрадкоўе — самае ранняе з таго, што бацька запомніў са складзенага тады. Будучаму паэту было ў той час шэсць гадоў.

Верш, як бачыце, папісаны па-руску. Магчыма, руская мова «выбрана» з-за тэрытарыяльнай блізкасці родных мясцін хлопчыка да Расіі, але, відаць, прычына не толькі ў гэтым. Нельга не ўлічваць, што бацькі паэта былі настаўнікамі і па традыцыі дарэвалюцыйных часоў, калі беларуская мова была яшчэ забароненай, выкладалі па-руску.

Бацька будучага паэта, Аляксандр Мікалаевіч Куляшоў, паехаўшы шаснаццацігадовым юнаком у Маскву, пэўны час працаваў на фабрыцы Марозава, а потым быў вучнем аптэкара на Прэсні. Падчас свайго знаходжання ў Маскве ён спяваў у народнай оперы, бо меў прыгожы і моцны голас. Добра спявала і маці Аркадзя Аляксандравіча, К. Ф. Ратабыльская. Чысты, нейкага віяланчэльнага тэмбру голас захоўваўся ў яе да глыбокай старасці, так што нават і мы, унукі і праўнукі, заслухваліся ім.

Слухалі мы, бывала, і бацьку. У гэтым сэнсе асабліва пашанцавала мне, старэйшай з дзяцей. Як самае дарагое захоўваю я з даваенных часоў памяць аб тых хвілінах, калі бацька, гушкаючы мяне на калене, спяваў «Як пры лузе, пры лужку», «Бывайце здаровы», «Распрагайце, хлопцы, коні», «Мы с чудесным конем» і многае іншае. Звычайна гэта адбывалася па вечарах, калі мы з ім нудзіліся, чакаючы, пакуль маці вернецца з работы.

Спяваў бацька і потым, у пасляваенных застоллях на Беларускай (цяпер Ульянаўскай) вуліцы ў Мінску, дзе яны з Петрусём Броўкам перапявалі адзін аднаго, выконваючы беларускія народныя песні. Далей я ўжо не памятаю, каб бацька спяваў голасна, так, як спяваюць у бесклапотнай маладосці. Затое напяваў ён часта, і мы з ім неаднойчы смяяліся, заўважыўшы, што напяваем адно і тое ж.

Увогуле, музыка іграла важную ролю ў жыцці Куляшова. Менавіта праз музыку — рамансы Вяльцавай і Панінай, песні Плявіцкай і оперныя арыі, якія любілі слухаць бацькі паэта (яны былі ўладальнікамі адзінага ў Саматэвічах грамафона),— ён далучаўся да рускай песеннай культуры, да рускай літаратурнай мовы.

Песні грамафонныя
Ў вячэрні час
Пад трубой зялёнаю
Зноў збіралі нас,
Зноў гучалі згадкаю
Зборышчаў былых,
Дзе — за самапрадкаю —
Напявала іх
Маці нам,— за пяльцамі
Альбо за шытвом,—
Гэткім, як у Вяльцавай,
Срэбным галаском.
А змаўкаў замучаны
Грамафон стары,

Запявалі гучна мы
Песню аб Дняпры
Дружнаю чацвёркаю,—
Аб плыўцах рачных
З валацужнай, горкаю
Адзінотай іх.

«Песню аб Дняпры», якую ўспамінае Куляшоў у аўтабіяграфічнай паэме «Далёка да акіяна», ён не проста любіў. Яна была для яго сімвалам дзяцінства, чысціні, светлай маладой тугі і юнацкіх мар. Усе яго сустрэчы з роднымі мясцінамі заўсёды пачыналіся і завяршаліся гэтай песняй, якую ён тады спяваў разам з бацькамі альбо проста слухаў у часе развітальнай вячэры.

На скале перед рекою
Молодой пловец сидел.
Он с глубокою тоскою
В даль туманную глядел.

Днепр широкий и глубокий
Волновался и шумел.
И пловец наш одинокий
Тихо песенку запел:

Здесь не люди, здесь нет жизни,
Здесь жестокие сердца.
Здесь не любят, здесь погубят
Злые люди молодца.

Смолк пловец, и в даль седую
Устремил свои глаза.
И на грудь его младую
Покатилася слеза.

«Песня аб Дпяпры», відаць, увайшла ў свядомасць паэта вельмі рана, бо ўсё жыццё ён ставіўся некрытычна да яе мастацкіх вартасцей і нават аднавіў у фільме «Запомнім гэты дзень».

Днепр широкий и глубокий,
Лейся чистою волной.
Лейся, лейся, ты разлейся
На поля страны родной!

Дзіцячае ўяўленно аб сувязі рытмічна арганізаванай мовы з музыкай аказалася такім трывалым, што ўсе свае раннія вершы Куляшоў ствараў, як песні, разам з мелодыяй. Расказваючы нам пра гэта вясной 1972 года, бацька падмацаваў свае словы песенным выкананием верша «Бывай!..» (песні Ігара Лучанка «Алеся», напісанай паводле гэтага верша, яшчэ не існавала).

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая!
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець,—

спяваў ён у рытме танга, і да мяне праз напластаванні многіх гадоў прабіваўся абаяльны ў сваёй эмацыянальнай чысціні і адкрытасці малады Куляшоў. І надумалася, што і сёння жыве ў ім і творыць менавіта гэты чалавек, чыя ранімасць навучыла яго хаваць свае пачуцці, нават перад блізкімі.

Вяртаючыся да гаворкі пра мову першых вершаў Куляшова, трэба адзначыць: тое, што яму чыталі ў дзіцячым узросце, было напісана па-руску. Хлопчык, пэўна, і не здагадваўся, што мова, на якой ён гаворыць,— іншая, беларуская. І на ёй таксама можна пісаць вершы. Першая кніга, якая адкрыла Куляшову беларускую мову як літаратурную, трапіла ў яго рук і, калі хлопчыку споўнілася дзесяць. Гэта была купалаўская «Жалейка».

Акрамя таго, менавіта з рускай паэзіяй звязана першае яркае эстэтычнае ўражанне, якое падштурхнула пачынаючага паэта да свядомай творчасці.

У 1952 годзе, улетку, калі мы з бацькам упершыню пасля вайны наведалі яго родныя Саматэвічы, ён вадзіў мяне памятнымі мясцінамі, знаёміў з дарагімі яму людзьмі. Гэты рытуал паўтараўся пры кожным нашым прыездзе на радзіму бацькі. Пачыналі заўсёды з адведзін незабыўнага Сцяпана Андрэевіча Брыліянтава, выкладчыка матэматыкі, лепшым вучнем якога ў выпуску Саматэвіцкай сямігодкі ў 1928 годзе быў Аркадзь Куляшоў. Вучань таксама ганарыўся сваім настаўнікам і паважаў яго так, як нават родныя дзеці рэдка шануюць сваіх бацькоў. І сапраўды, было кім ганарыцца! Сцяпан Андрэевіч быў тым, каго мы з пачцівасцю называем «стары інтэлігент». У яго чалавечым вобліку над усім панавала высакароднасць. Высакароднасць перш за ўсё! Як гэта важна, каб ля вытокаў нашых лёс паслаў нам хаця б аднаго такога настаўніка! Усё сваё свядомае жыццё Брыліянтаў правёў у Саматэвічах, вывучыўшы не а дно пакаленне. Яго вучнем быў, дарэчы, і беларускі празаік Іван

Чыгрынаў, з якім тады ж, у 1952 годзе, і пазнаёміў нас Сцяпан Андрэевіч. Вядомы сёння пісьменнік быў тады дзесяцікласнікам.

Але вернемся да саміх адведзін. Пасля сустрэчы з Брыліянтавым мы заўсёды ішлі да хаты, дзе нарадзіўся бацька (частка яе яшчэ захавалася), міма драўлянага мастка праз раку Чарнавутку, што працякае за хатай. Бацька доўга стаяў там у задуменні, а потым паклікаў мяне і паказаў ледзь прыкметны надпіс: «Аркадзь Куляшоў красну шапачку знайшоў!» Гэты масток разбурылі зусім нядаўна і пабудавалі на яго месцы новы, бетонны. Як хвалявалі бацьку жывыя прыкметы дзяцінства, як радаваўся ён таму, што знаходзіць іх! Гэта былі хвіліны, калі ў ім збіралася энергія для будучай творчасці. У такія хвіліны я адчувала, якім удзячным сынам сваёй малой радзімы быў мой бацька, і зайздросціла яму крыху, адчуваючы сябе абдзеленай ад таго, што я, карэнная гараджанка, не маю свайго такога кутка.

Ад мастка, які жыхары Саматэвіч ахрысцілі «куляшоўскім», мы накіроўваліся да хаты, размаўлялі з цяперашнімі яе жыхарамі і праходзілі ў двор. Там, ля невялікага грудка, бацька затрымаўся, чым крыху здзівіў мяне, а калі заўважыў маё недаўменне, сказаў: «На гэтым месцы была паграбня, дзе я любіў сядзець пад вясновым сонейкам. Калі мне споўнілася восем гадоў, я прачытаў тут паэму Лермантава «Мцыры». Яна зрабіла на мяне такое ўраяжанне, што я сказаў сабе: «Годзе лайдачыць! Час брацца за работу!»

Варта адзначыць, што імя Лермантава хлопчык у гэты час ужо добра ведаў. Вось што ён скажа ў 1969 годзе ў артыкуле «Тры сустрэчы з Лермантавым»: «...Калі верыць успамінам маіх бацькоў, знаў Лермантава я літаральна з калыскі, з таго самага моманту, калі сярод іншых цацак і забавак увага мая спынілася на хатнім альбоме. То быў альбом пісьменнікаў — дадатак да часопіса «Пробуждение», які выпісвалі мае бацькі — вясковыя пастаўнікі. Добра і нават багата аформлены, ён, можна сказаць, пазнаёміў мяне з гісторыяй рускай літаратуры ў асобах. Хутка я беспамылкова адрозніваў Жукоўскага ад Пушкіна, Лермантава ад Някрасава, Тургенева ад Талстога, Горкага ад Леаніда Андрэева. Чамусьці асаблівай маёй увагай, любоўю і прызнаннем карысталіся Пушкін і Лермантаў, яны адразу і цвёрда ўвайшлі ў мой калысковы лексікон. Не таму, вядома, што я ўжо тады прадчуваў нялёгкі лёс перакладчыка іх твораў на беларускую мову. Жарты жартамі, але, як знаць, можа б, і іншай была мая будучая любоў і цяга да літаратуры без гэтага завочнага знаёмства...»

Сустрэчу ж з лермантаўскім словам, пра якую я ўпершыню пачула ад бацькі ў двары яго роднай хаты, ён таксама апісаў у артыкуле.

Праўда, паграбня тут ператварылася ў лаўку ля школы, але гэта не так істотна, як істотна і цікава тое, што ён расказвае пра сваю першую сустрэчу з музай вялікага паэта: «Я быў ахоплены нейкім незразумела таямнічым і чараўнічым хваляваннем, я ўвесь палаў як у агні, музыка і палымянасць лермантаўскага верша гарачылі маю кроў... Калі я дачытваў паэму, з вачэй ліліся слёзы, і я не мог стрымаць іх. Ці то лёс бяздомнага юнака, сілаю запёртага ў манастыр, ці краса і прыгажосць свету і паэзіі, якія раптам адкрыліся мне, ці магутная прырода горнай краіны, якую я ўжо горача і на ўсё жыццё палюбіў, ці то ўсё гэта, разам узятае, так ярка і моцна ўсхвалявалі мае ўяўленне. Літары мільгалі, скакалі перад вачыма, і я ніяк не мог дачытаць да канца вядомыя радкі:

Калі пачну я памір аць —
І, вер,— недоўга ўжо чакаць,—
Няхай мяне перанясуць
У любы кут мой, дзе цвітуць
Акацый белых два кусты...
Там шоўк травы такі густы!

Быў май. Нада мной гэтак жа цвілі белыя акацыі, і мне здавалася, што я далёка-далёка ад родных мясцін, там, дзе

...ззяе промень залаты
На лісцях, свежасцю вакол
Там вее ўсё — і высь і дол.
І там пак ласці загадай
Мяне. Блакітны небакрай
Убачу я ў апошні раЗ
Адтуль зірну я на Каўказ!

Паэма дачытана, адхлынула першае непаўторнае хваляванне... І тут, нечакана для сябе, з поўнай выразнасцю і недзіцячай адказнасцю, я пачынаю разумець, што пазнаёміўся з чымсьці вельмі важным і істотным, што цяпер мой лёс вырашаны — я павінен прысвяціць сваё жыццё гэтаму істотна важнаму, толькі яму...»

Першы верш беларускага паэта Аркадзя Куляшова быў надрукавапы праз чатыры гады, у дваццаць шостым, у газеце «Клімавіцкі працаўнік».

## «БАЦЬКА РАСКАЗВАЎ...»

-----

3 лютага 1984 года сярод матэрыялаў, прысвечаных сямідзесяцігоддзю з дня нараджэння народнага паэта БССР Аркадзя Куляшова, у газеце «Літаратура і мастацтва» павінны былі ўбачыць свет і мае ўспаміны. Некалькі старонак я занесла ў рэдакцыю без загалоўка, і першае, што кінулася ў вочы, калі ў дзень юбілею я разгарнула газету,— набраная блакітнай фарбай назва «Бацька расказваў...».

Я не адразу зразумела, у чым недакладнасць такога погляду на маю працу, ды з пункту гледжання і рэдакцыі, і чытача, яе, мабыць, і не было, калі нават мая маці, прачытаўшы артыкул, пракаменціравала напісанае наступным чынам:

— І як толькі ты ўсё гэта запомніла?!

«Запомніла», «расказваў» — увесь дзень круцілася ў думках, пакуль не афармілася ў горкі вынік: «Каб жа расказваў!»

І адразу ж, невядома адкуль узятая, усплыла ў свядомасці ідылічная карцінка: сядзіць у коле сям'і гэткі сівы патрыярх і дзеліцца вопытам з маладзейшымі — дзецьмі, унукамі... Як гэта цудоўна! Але і як не падобна да жыцця нашай сям'і, дзе нават агульныя застоллі з іх шчырымі размовамі, у якіх прымаюць удзел усе, незалежна ад узросту, адбываліся часам толькі на Нарачы, у канцы жыцця майго бацькі.

Прычына была, відаць, не столькі ў тым, што бракавала сямейных традыцый (мая маці засталася круглай сіратой у двухгадовым узросце, а бацька чатырнаццацігадовым з'ехаў з дому назаўсёды), колькі ў іх суровым жыцці з яго раннім горкім вопытам.

Мала расказваў бацька. Затое як многа значыла для нас сама яго прысутнасць, адбіццё падзей у ЖЭСЦЕ, слове ці ўчынку бацькі...

5 сакавіка 1953 года на досвітку мяне пабудзіў голас Левітана, які даносіўся з рэпрадуктараў, устаноўленых на вуліцы.

Радыё прынесла сумную вестку: памёр Іосіф Вісарыёнавіч Сталін.

Пачуўшы жахлівую навіну, я кідаюся да кабінета бацькі,— невялічкага пакоя ў глыбіні кватэры, каб паведаміць аб няшчасці.

Расчыніўшы з разбегу дзверы, са здзіўленнем бачу, што бацькі ўжо не спяць, а сядзяць, апранутыя, на канапе, дзе звычайна бацька любіў адпачываць. Зялёнае святло настольнай лямпы нагадвае колер вакзальнай светамаскіроўкі.

— Сталін памёр! — выкрыкваю я, гатовая зайсціся ў плачы, і чую ў адказ кароткае, як стрэл:

— Не смей плакаць! Не варта!

У архіве бацькі я знайшла папку, што ляжала асобна ад усяго.

У ёй было толькі некалькі здымкаў.

Разглядаючы іх, я зразумела, што тут захоўваюцца партрэты дарагіх сэрцу бацькі жанчын. Сярод фотаздымкаў Алесі Карыткінай, Лілі Драздовай, Леакадзіі Масленікавай, Ізольды Ізвіцкай, Алы Ларыёнавай, мамінага і майго я раптам знайшла партрэт Сталіна.

Памятаю, што гэты партрэт правадыра з люлькай быў у ліку тых падарункаў, якія даваліся дэлегатам аднаго са з'ездаў партыі.

І мне ўспомнілася:

Стелются черные тучи,
Молнии в небе снуют.
В облаке пыли летучей
Трубы тревогу поют.
С бандой фашистов сразиться
Сталин отважных зовет.
Смелого пуля боится,
Смелого штык не берет.

Гэтая песня — першая з тых, якім мяне вучылі ў школе. Гэта было ва Уральску, у 1943-м.

Мая настаўніца, інтэлігентная жанчына ў гадах, Клаўдзія Паўлаўна (прозвішча яе я, на жаль, не памятаю), у мінулым навуковы супрацоўнік Акадэміі навук Украінскай ССР, размножыла для нас, вучняў, тэкст песні на лістках газетнай паперы, якія служылі нам тады і сшыткамі.

Школа з гэтай яе добрай чараўніцай, якая не толькі штодня расказвала што-небудзь новае і цікавае, але і клапацілася пра нас як маці, была тады для вучняў, асабліва з бежанцаў, сховішчам ад усіх тых нягод, якія спадарожнічаюць жыццю.

Кідаючы погляд на той прамежак свайго жыцця, я разумею, што ні ад чаго ў ім не магу адцурацца. Існуе, відаць, сувязь паміж абставінамі і душой чалавека.

Прыпамінаецца мне, як раззлавана цыкнуў мой бацька на маці і яе сяброўку Аню Барысенка, калі ў дні жалобы па Сталіну яны пачалі ўголас абмяркоўваць нейкія гаспадарчыя справы; і што ў бацькавай бібліятэцы па сённяшні дзень стаіць Збор твораў Сталіна.

І, нарэшце, верш «Бацька», якім адкрываліся адразу пасля вайны ўсе зборнікі паэзіі Куляшова, што, праўда, было ў тыя часы традыцыйным для кожнай кнігі паэзіі. Тут мой бацька, як і многія, аддаў даніну звычаям свайго часу. Таму, шукаючы ў вершы «Бацька»

тыпова куляшоўскае, мушу звярнуць увагу на шчырасць пачуцця, якая робіць і гэты верш па-сапраўднамў паэтычным. Многія добрыя беларускія паэты і празаікі прызнаваліся мне, што гэта быў іх любімы куляшоўскі верш. Але за гэтай натуральнай для Куляшова шчырасцю наўрад ці хаваецца грамадзянская арыгінальнасць паэта.

Таму, перш чым разважаць далей, пазнаёмімся з гэтым, цяпер ужо мала каму вядомым творам:

Калі вайна мой мірны край агорне
Ці ў месяц май, ці ў месяц лістапад,
Я забягу, апрануты па форме,
Да роднае дачкі ў дзіцячы сад.

З-пад яблыні крыніца мкне жывая.
Я й сам пайду — у гэты дзень — туды.
Тваім вядром, дачка мая малая,
Я зачарпну сцюдзёнае вады.

Закружыцца —
у раніцу разлукі —
Маім штыком з галінкі збіты ліст.
Вазьму цябе, маленькую, на рукі,
І ты заснеш, птушыны ўчуўшы свіст.

Пад яблыняю спаць цябе пакіну,
Пайду на Захад, смагу сцёршы з губ,
Каб вораг не таптаў маю краіну,
А конь чужы травы яе не скуб.

Каб не данёс ён ад свайго парога
Лент кулямётных жоўтыя клыкі
Да нашых сёл, да веку залатога,
Да ранішняга сну маёй дачкі.

Мы з боем пройдзем княжацкія пожні,
На піках несучы канец вайне.
Там, на зямлі чужой, свой дзень апошні,
Магчыма, давядзецца ўбачыць мне.
І на радзіму з водгуллем па рэках
Наказ мой прыйдзе, што даю цяпер:
Дачка мая,

ты ўбачыш чалавека,
Любі яго, як я люблю цябе.

Ён — бацька мой, сям'і ў яго багата,
Яго красой красуецца зямля,
Ён кожны год, калі бывае свята,
Ідзе на плошчу Красную
з Крамля.

Зірні на рысы твару дарагога,
Як я, ты зразумееш
зноў і зноў,
Што гэта бацька родны, у якога
Шмат на вяку загінула сыноў.

Яму за сына кожнага
асобна
балела сэрца
ў часы нягод;

Прыжмурыць вочы, і маршчынкі дробна
Акрэсляцца,
Як сведкі мужных год.
Ён — бацька мой.
Мне паміраць не страшна.
Да кроплі ўсё жыццё яму аддам,
Бо недарэмна кроў пральецца наша,
І ўнукі ўнукаў
Дзякуй скажуць нам.

Думаючы пра ўсё гэта, я зразумела, што яго «не смей плакаць!» датычыла і майго лёсу.

Гэта ж у яго свядомым жыцці былі і трыумфальны рух краіны па шляхах пяцігодак, і перамога ў Вялікай Айчыннай.

Але тых горкіх выпрабаванняў, якія выпалі на долю яго пакалення, ён не жадаў ні мне, ні тым, хто пойдзе ўслед.

А з уласнага лёсу ён не выкрэсліваў, мне здаецца, нічога.

5 сакавіка 1953 года мне было 17, бацьку — 39. Мой жыццёвы вопыт — вынік грамадскага выхавання — зводзіўся да наступнага:

Сталин — наша слава боевая,
Сталин — нашей юности полёт...

Ці зусім ужо роднага, купалаўскага:

Аб Сталіне-сейбіту песня мая...

І раптам такое: «Не смей плакаць!» Стайоўча, цвёрда. Я зразумела: тлумачэнняў не будзе. Не можа быць.

Тлумачэнні прынёс час, 1956 год, XX з'езд партыі. Тады, як сведчыць паэт Аляксей Русецкі, на адным са сходаў Саюза пісьменнікаў БССР Куляшоў сказаў: «Мы былі шчырымі ў тым, што пісалі, бо наша свядомасць была абумоўлена грамадскай псіхалогіяй нашага часу».

Пасля XX з'езда партыі адкрылася і таямніца знікнення выдатнага беларускага празаіка Платона Галавача, майго дзядзькі.

З гэтым імем у жыцці маіх бацькоў, як, зрэшты, і многіх з тых, каго звяло з ім жыццё, звязана многае і, мабыць, самае лепшае, таму што ён быў з тых людзей, без каго, як сказаў Някрасаў пра Дабралюбава, «заглохла б нива жизни».

Для маёй маці, у дзявоцтве Ксеніі Фёдараўны Вечар, Галавач зрабіўся другім бацькам пасля таго, як яна, круглая сірата, трынаццацігадовай пераехала з вёскі ў Мінск, у сям'ю Платона Раманавіча, за якім была замужам яе старэйшая сястра Ніна.

Сям'я Галавача, дзякуючы таварыскасці гаспадара, жыла надзвычай адкрыта. Да іх ішоў кожны, каму патрэбна была сяброўская падтрымка, парада, дапамога ці проста спачуванне.

Вясковы хлапчук, сірата з трохгадовага ўзросту, Платон Галавач на хвалі рэвалюцыйнай перабудовы грамадства здолеў узняцца да вышынь сусветнай культуры, а ў літаратурным жыцці рэспублікі зрабіўся адным з найбольш аўтарытэтных людзей свайго часу. У сваіх літаратурна-грамадскіх кантактах ён не абмяжоўваўся рэспублікай. Вядома, што ён вёў шырокую перапіску з Лідзіным, Максімам Горкім і Рамэнам Раланам.

Галавач мог даць найбольш кваліфікаваную ацэнку новага твора, і да яго думкі прыслухоўваліся, тым больш што эрудыцыя, літаратурны густ і прынцыповасць камуніста, які да таго ж займаў кіруючыя пасады ў Саюзе пісьменнікаў, камсамоле, наркамаце асветы рэспублікі, спалучаліся ў Платона Раманавіча з надзвычайнай сціпласцю, сумленнасцю, добразычлівасцю. Ва ўспамінах пра Галавача Мікола Хведаровіч расказвае, што той мог сярод ночы пайсці ў другі канец горада шукаць пачаткоўца, даведаўшыся ўвечары, што таго днём незаслужана пакрыўдзілі.

А якой даверлівасцю, высакароднасцю і чысцінёй дыхае ад яго прысвячэнняў на кнігах хоць бы «Лукашыку», як пяшчотна называў

Галавач калегу па Камупістычным універсітэце крытыка Луку Бэндэ, што глядзіць на нас з групавога здымка мядзведжым позіркам!

Як горка плакаў Платон Раманавіч, дазнаўшыся ў тыя трагічныя дні, што Янка Купала, гонар беларускай літаратуры, патрапіў пад націск асобных крытыкаў, якія называлі паэта «шляхецкім вырадкам», і рабіў спробу пакончыць з сабой.

Галавач быў першы, бадай што адзіны, хто адважыўся ў той час сказаць сваё аб'ектыўнае, актуальнае і сягоння слова пра месца Купалы ў беларускай літаратуры. Апрача таго, ён, Галавач, быў ініцыятарам паездак Купалы па новабудоўлях рэспублікі, вынікам якіх сталі вядомыя творы паэта трыццатых гадоў.

Як мастака, Галавача вылучала сярод празаікаў яго пакалення абвостранае пачуццё сучаснасці. Свае творы — адпавяданні, аповесці, раманы — ён пісаў па слядах падзей, у якіх прымаў непасрэдны ўдзел. У гэтым сэнсе творы яго аўтабіяграфічныя: аповесць «Спалох па загонах», раман «Праз гады». Кар'ерызм і авантурызм, як галоўную небяспеку ў жыцці маладога грамадства, Платон Галавач кранае ўжо ў гэтым рамане і робіць галоўнай у сваім апошнім творы — рамане «Ён», якога чытач так і не ўбачыць. Але пра гэта — пасля.

А зараз мне хацелася б нагадаць, што менавіта тут, у кватэры Платона Галавача, ад яго самога мая маці, тады яшчэ шаснаццацігадовая дзяўчынка, упершыню пачула пра таленавітага маладога паэта Аркадзя Куляшова. У Галавачоў яна потым і пазнаёмілася з дзёрзкім маладым чалавекам, чый імпэт ёй прыйшлося астудзіць, выліўшы на яго трошкі кіпеню з чайніка, у якім яна разносіла чай гасцям.

У 1934 годзе Ксенія Вечар і Аркадзь Куляшоў пасяліліся разам і жылі недалёка ад сям'і Галавачоў на вуліцы Асаавіяхімаўскай, а потым і Маскоўскай:

Я жыву на вуліцы Маскоўскай...
Пад вясновым громам
І дажджом,
Адлюстраваны ў панелі коўзкай,
Там стаіць шматпавярховы дом.

Пакланіўшыся вясне і маю,
Кліч зязюлі ўчуўшы з-за ракі,
Кожны год
У вёску ад'язджаю

Падышаць, чым дышуць землякі.

Нехта з іх, за гутаркай сяброўскай,
У мяне спытае: «Дзе жывеш?..»
Адкажу:
«На вуліцы Маскоўскай...»
(На той самай, пра якую верш.)

І, пачуўшы вуліцу такую,
Ён ласкава гладзіць вус сівы
І ўяўляе, мусіць,
Што жыву я
Недзе недалёка ад Масквы...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шчаслівая пара! Маладыя, прыгожыя, нічым не абцяжараныя, яны жылі, як бедныя студэнты, спадзяваннямі на будучыню і цешыліся новым, невядомым для іх шчасцем — быць уладальнікамі ўласнага кутка. Чым гэта павінна было быць для іх сірочых душ — можна сабе ўявіць!

У кватэры на Маскоўскай ім належалі два з трох пакояў. Суседкай была нейкая Базарэўская, якую ўсе за вочы чамусьці называлі вар'яткай. Мне ж гэтая вар'ятка падабалася, бо дазваляла скакаць на спружынным матрацы свайго ложка (матрац і ложак уяўляліся мне тады атрыбутамі вялікага дастатку: у бацькоў маіх была толькі старая канапа), але ўсё гэта адбывалася пасля, калі мне ўжо споўнілася гады два-тры. А пакуль што...

У студзені 1936-га ў сям'і Аркадзя Куляшова нараджаецца дачка. У дужках трэба адзначыць, што гэта была я, а гэтую гісторыю пачула некалі ад бацькоў.

Прайшоў люты, ідзе сакавік. У госці да Куляшовых завітваюць сваякі: Ніна Фёдараўна і Платон Раманавіч. Між іншым цікавяцца, як завуць дачку. Высвятляецца, што яна ўсё яшчэ не мае імя, бо маці хоча назваць яе Ганнай у гонар любімай гераіні рамана «Зачараваная душа» Рамэна Ралана, але бацька не дае згоды: яна ні тады будзе Ганнай Аркадзьеўнай, што, як вядома з той самай літаратуры, нічога добрага не абяцае.

— Гэтыя мне літаратары! — напаўжартам-напаўсур'ёз абураецца Галавач. — Усё яны чыталі, усё ведаюць, а дзіця ўжо трэці месяц без імя жыве. Гэтак вы, чаго добрага, забудзецеся, калі яна нарадзілася! Будзе Валянцінай! — рашуча заяўляе ён і дадае летуценна: — Я сёння прачытаў у Багрыцкага цудоўны верш:

Валя, Валентина, что с тобой теперь?
Белая палата, крашеная дверь...

— Дык гэта ж «Смерть пионерки»! — з жахам выкрыквае маці.

— Што кіем, што палкай! — падсумоўвае бацька, і дачка становіцца Валянцінай.

Аднак замест 27 студзеня бацька запісвае ў дакументах, што яна нарадзілася 28-га, бо калі ён урэшце знаходзіць час, каб выбрацца ў загс па пасведчанне аб параджэнні, дык заблытваецца ва ўжо больш жывых для яго асацыяцыях паміж датамі дуэлі і смерці Пушкіна (у гэты час ён працуе над перакладам «Цыганаў») і не інакш, як у імкненні душэўна адмежавацца ад чорнай справы забойства вялікага паэта, бацька выбірае адзіную нейтральную з лічбаў дату: дваццаць восьмае.

Калі ж гаворка заходзіць пра Галавача, я заўсёды бачу адно і тое ж: да мяне, вельмі, відаць, маленькай, нахіляецца чалавек, твар якога, калі ён схіляе галаву, зацяняе густая льняная шавялюра. Мне так падабаюцца гэтыя мяккія валасы, што, працягваючы руку за падарункам, я спярша дакранаюся да валасоў.

Падарунак — чырвоная сукенка — таксама запомніўся мне, бо на кішэні была аплікацыя: сіні зайчык з сінелькі.

Ад маці, якая, дарэчы, карысталася вялікім даверам Галавача, я даведалася, што гэта быў яго апошні візіт да маіх бацькоў. Платон Раманавіч прыехаў з Масквы ў сярэдзіне ліпеня 1937 года, а на пачатку жніўня сям'я Куляшовых паехала адпачываць у Дом творчасці пісьменнікаў «Пухавічы», куды ўслед за імі Кузьма Чорны прывёз жахлівую вестку: у ноч з пятага на шостае жніўня Платон Галавач быў арыштаваны.

Да маіх бацькоў прыйшла трывога. У тое, што Галавач можа быць у нечым вінаваты перад радзімай, яны не верылі, бо надта добра ведалі гэтага крыштальнай чысціні і прынцыповасці чалавека і камуніста, і таму разумелі, што сталі ўдзельнікамі нейкай вялікай сацыяльнай драмы, якая да таго ж можа не абысці і іх.

Такая пагроза сапраўды існавала. Увесь 1937 год Куляшова адмаўляліся друкаваць, і сям'я перабівалася з хлеба на ваду.

Летам наступнага года адбылося такое. У вёсцы каля хаты, дзе штогод адпачывала наша сям'я, з'явіліся раптам нейкія чужыя людзі. Яны змяняліся, але не зніказі. Так паўтаралася на працягу трох дзён.

Першы звярнуў на гэта ўвагу мой бацька і, падумаўшы, сказаў:

— Давай развітвацца, Ксаня!

Назаўтра, калі бацька з маці выйшлі за парог, гатовыя да разлукі, яны ўжо нікога ля хаты пе зпайшлі. Незнаёмыя больш не з'явіліся.

Пасля вайны Панцеляймон Кандратавіч Панамарэпка, які заўсёды добра ставіўся да майго бацькі, расказаў яму неяк, што ў 1938 годзе з ведамства Яжова да яго на подпіс прышеслі паперу — ордэр на арышт. Спіс адкрываўся імёнамі Купалы і Коласа, а апошнім у ім, трынаццатым, быў Аркадзь Куляшоў. Нехта з «добразычліўцаў» беларускай літаратуры разгледзеў, відаць, што нядаўні хлапчук беларускахі паэзіі выйшаў ужо з дзіцячага ўзросту ў жыцці і літаратуры.

Што да Панамарэнкі, дык ён тады адмовіўся падпісаць ордэр, паехаў з ім на ўласны страх у Маскву, папрасіўся на прыём да Сталіна і быў прыняты.

Трагедыя трыццаць сёмага, асмужыўшы лёсы бацькі і маці, кранула багата чым са сваіх смутных праяў і мае дзіцячыя дні. З гэтага часу, і я гэты рубеж памятаю, маці замест калыханкі пачала спяваць мне «Колодников», песню на словы рускага паэта А.К. Талстога:

Спускается солнце за степи,
Вдали золотится ковыль,—
Колодников звонкие цепи
Взметают дорожную пыль.

Идут они с бритыми лбами,
Шагают вперед тяжело,
Угрюмые сдвинуты брови,
На сердце раздумье легло.

Идут с ними длинные тени,
Две клячи телегу везут,
Лениво сгибая колени,
Конвойные с ними идут...

Калі ля маёй калыскі ўпершыню загучала гэтая песня, я, засынаючы пад яе гукі, бачыла быццам у сне: проста на мяне з глыбіні прасторы, зварочваючы ўправа, як вядзе дарога, рухаецца пад канвоем калона скаваных ланцугамі людзей. Усе яны ў аднолькавай ці, можа, падобнай вопратцы колеру мешкавіны. Гэты колер зліваецца ў адну цьмяную гаму з зямлістым колерам іх твараў і дарожнага пылу. Сумная карціна кранае сэрца тым больш, што фонам для яе служыць барвовы захад сонца і зелень травы...

Трэба адзначыць, што мае бацькі верылі ў невінаватасць Галавача, у тое, што ён жывы і што аднойчы адзавецца, і рабілі ўсё магчымае, каб даведацца пра яго лёс і нават неяк павярнуць яго к лепшаму.

Але за Галавачом як бы зачынілася жалезная брама...

Ці не з гэтай прычыны так блізка да сэрца прымаў бацька трагедыю рэпрэсіраваных і ў канцы саракавых хадайнічаў перад Панамарэпкам за Рыгора Бярозкіна, які сядзеў тады паўторна? Праўда, у той жа час бацька не вельмі ветліва паставіўся да просьбаў сына Андрэя Александровіча, Радаслава, чалавека сумленнага і таленавітага, лёс якога ў пэўнай ступені быў падарваны трагедыяй роднага бацькі. Загадка дзіўных паводзін майго бацькі ў адносінах да яго ўсё жыццё непакоіла Радаслава Андрэевіча, а я так ніколі і не адважылася сказаць яму, што мой бацька лічыў яго бацьку павінным у трагічным лёсе Галавача і багата здзіўляўся нашаму сяброўству. Хочацца думаць, што бацька памыляўся.

Беларускі паэт Станіслаў Шушкевіч, рэабілітаваны адначасна з Платонам Галавачом XX з'ездам партыі, на вечары, прысвечаным васьмідзесяцігоддзю пісьменніка, перадаў мне такую запіску:

«Твайго дзядзьку Платона Галавача і Васіля Каваля я бачыў апошні раз 3 кастрычніка 1937 года. Іх прывялі сведчыць супроць мяне. Першым павінен быў гаварыць Галавач. Скатаваны і знясілены, ён доўга маўчаў. Нарэшце Платон Раманавіч загаварыў:

— За ім няма ніякай віны, таксама, як за кожным з нас.

Сказаў і заплакаў. Іх хуценька вывелі. А мы неўзабаве даведаліся, што 29 кастрычніка Платона Галавача і Васіля Каваля не стала».

На сцяне камеры, з якой Галавач выйшаў у апошні раз, людзі, калі верыць сведчанню Міколы Хведаровіча (ён расказаў гэта маім бацькам адразу ж пасля таго, як вярнуўся са ссылкі), прачыталі: «Бывайце, таварышы, гісторыя нас рассудзіць!»

Гэта сцвярджае і паэт Сяргей Грахоўскі, спасылаючыся на запіску таго ж зместу, якую яны, вязні, знайшлі за вадасцёкавай трубой у месцах агульнага карыстання. Яна была напісана на папяроснай паперы і скручана ў танюсенькі, ледзь прыкметны валік.

Адразу ж пасля пісьма ЦК КПСС, якое абвясціла рэабілітацыю бязвінна пакараных у трыццаць сёмым людзей, бацька папрасіў, каб яму паказалі следчую справу П.Р. Галавача.

— Яна была вельмі аб'ёмістай,— расказваў ён нам,— але ўся яе сярэдзіна аказалася вырванай. Засталіся толькі матэрыялы абвінавачвачання і прысуд. Галавач праходзіў па справе як «глава трацкісцкай змовы супраць Главы дзяржавы».

Як мы потым даведаліся ад В.С. Галадзед, жонкі рэпрэсіраванага М.М. Галадзеда, гэта было абвінавачванне, якое выносілі найбольш буйным дзеячам беларускай дзяржавы, культуры і навукі. Для такіх людзей ратунку не было. М.М. Галадзед, Старшыня Саўнаркома БССР, дарэчы, сябра П.Р. Галавача, не дажыў нават да следства.

Што можна было, калі б нават і хацелася, расказаць дзецям пра страты, тлумачэння якім не знаходзілася на працягу дзесяцігоддзяў?

Пра гэта можна было толькі маўчаць, загнаўшы боль у глыбіні свядомасці, пакуль ён не вырвецца адтуль чымсьці накшталт вершаў цыкла «Маналог». Вось адзін з іх:

Не бачыўся я ўсё жыццё амаль
З сябрамі незабыўнымі маімі.
Зноў выклікае на размову з імі
Навекі разлучыўшая нас даль.

Каня свайго сядлаю і ў дарогу,
Цяжэйшую з усіх былых дарог,
Кіруюся адзін,— як маналог
На пошукі жывога дыялогу.

Але ці след спяшацца мне, калі
Цень падаўжэў, конь пакалечыў ногі,
І там, куды я еду, дыялогі
Спяць вечным сном, набраўшы ў рот
зямлі?

Не прыпыняйся, не жахайся слова!..
Хай адвячорак доўгім ценем лёг —
Магчыма немагчымая размова
Датуль, пакуль магчымы маналог.

Вершы «Маналога», надрукаваныя ў 1965 годзе, Куляшоў прысвяціў не Галавачу, а сябрам свайго юнацтва, паэтам-мсціслаўцам Змітраку Астапепку і Юлію Таўбіну, рэпрэсіраваным, як і Платон Раманавіч.

А апошні раман Галавача, скончаны напярэдадні арышту, як сцвярджаюць яго блізкія, можа, і не загінуў канчаткова. Ён быў у ліку напер, перапіскі і багатай бібліятэкі пісьменніка, канфіскаваных у часе арышту гаспадара. Стрыечны брат Галавача З. Бародзіч расказваў бацьку ў нашай прысутнасці, што бачыў асобныя старонкі рамана ў архівах дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна ў Маскве, калі

працаваў там над пасмяротным Зборам твораў П. Галавача пасля яго рэабілітацыі.

Скажыце, ведаючы ўсё гэта, ці мог мой бацька захаваць першапачатковую непасрэднасць у адносінах з людзьмі?

Ва ўсякім разе ён не любіў «непатрэбных» размоў і не прыахвочваў да іх сваіх дзяцей.

А ідылічная карцінка, якая прымроілася мне на пачатку нашай размовы, з іншага псіхалагічнага вымярэння.

## «У ПЯКЕЛЬНЫМ АГНІ ТРАГЕДЫІ»

-----

Рукапісаў бацька мой не зберагаў, але асобныя лісткі розных фарматаў — ад дарожнага блакнота да школьнага сшытка — пранёс праз усе франты. Гэта рукапіс паэмы «Сцяг брыгады». Не канчатковы, а толькі першы яе варыянт, тое, што вырвалася з яго збалелай душы за лета і восень 42-га.

«Зімой 1942 года ў адной маскоўскай кватэры сабраўся гурток сяброў-пісьменнікаў, каб паслухаць беларускага паэта Аркадзя Куляшова, які прыехаў з фронту з новай паэмай у палявой сумцы».

«Першае знаёмства з гэтым творам — адно з найбольш яркіх і дарагіх для мяне ўспамінаў ваеннай пары»,— напіша пасля А.Т. Твардоўскі ў артыкуле «Паэма «Сцяг брыгады».

Пэўны час паэму чыталі вось так, у пісьменніцкіх колах, а ў студзені 1943 г. адбыліся яе чытанні ў Доме літаратара ў Маскве.

Пімен Панчанка гаварыў мне, што ўпершыню пачуў «Сцяг брыгады» ў выкананні аўтара ў нумары гасцініцы «Масква», дзе абодва спыніліся, прыехаўшы з фронту. Пімен Емяльянавіч слухаў тады паэму не адзін, а разам з А. Фадзеевым, А. Малышкам і А. Твардоўскім, адзіным, хто ўжо чуў паэму раней, але кожны раз слухаў яе з нязменным захапленнем.

Дачка выдатнага беларускага празаіка Кузьмы Чорнага Рагнеда Мікалаеўна Раманоўская неяк у размове са мной успомніла даўні эпізод, сведкай якога стала ў тыя дні, як, дарэчы, і Панчанка.

Да яе хворага, прыкаванага да ложка бацькі прыйшлі ў адведзіны два вядомыя беларускія паэты, якія, як і Чорны, жылі тады ў гасцініцы «Масква».

Убачыўшы на тумбачцы рукапіс «Сцяга брыгады», паэмы, якую яны станоўча не прымалі, паэты да таго раз'юшыліся, што Чорны, хвалюючыся за лёс рукапісу, вымушаны быў стрымліваць іх.

— Хлопцы,— прасіў ён слабым голасам,— што вы робіце, гэта ж твор вялікага таленту!

Рагнедзе ішоў тады пятнаццаты год, але эпізод гэты захаваўся ў памяці дзяўчынкі, якая ўжо супрацоўнічала пазаштатна на беларускім радыё. Дапамагала рыхтаваць перадачы на тэрыторыю акупіраванай немцамі Беларусі.

У тым, што паэма Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады», якая сёння па праву ўваходзіць у залаты фонд савецкай літаратуры, не ўсюды і не адразу знайшла належную ацэнку,— няма нічога дзіўнага. Яна не толькі ў пэўнай ступені ламала традыцыі вершаскладання, якія ўжо

ўстаяліся ў беларускай літаратуры, але ўзрывала і каноны пабудовы сюжэта, уводзячы ў паэзію будзённыя дні вайны з іх нетыповымі, невядомымі мірнаму часу трагедыямі.

І трэба было быць Твардоўскім, каб зразумець сапраўдную вартасць паэмы, даць ёй аб'ектыўную ацэнку ў прэсе і вызначыць шлях у літаратуру.

Не так даўно, калі я зноў гартала дарагі мне рукапіс, маю ўвагу прыцягнулі да сябе на ступныя радкі:

Ці дарога пеш змагла,
Што глядзець я не змог,
Невядома,
Толькі вочы заслала імгла
І зямля з-пад ног паплыла,
І я ўпаў
І згубіў прытомнасць.

Прыцягнулі апошнімі трыма радкамі, якія ў канчатковым варыянце паэмы гучаць інакш. У першапачатковай рэдакцыі, як і ў апошняй, гэтыя радкі былі заключнымі ў эпізодзе з Васільком:

Хлопчык босы бяжыць да дубровы
Па дровы.
Хлопчык светлагаловы.
Пяцігадовы...
Свецяць сінія вочы здалёк.
Я паклікаў яго:
— Васілёк!

Ён стаіць у здзіўленні
Перада мною:
Што за дзядзька ў адзенні
Абшарпаным з даўгой барадою?
Залатая
Нас засыпае
Пурга
Лісцяў шумам і звонам.
— Жыў у Мінску ты, хлопчык?
— Ага.
— Дзе ж твой бацька?
— У войску чырвоным.
— Як выходзіў з мінскае хаты,

Там пакінуў каня ты...
Ты катаўся на тым кані
З кута ў кут заўсёды.
Конь згарэў, Васілёк, у агні...
— Мне каня не шкода
І не трэба...
— Чаго ж табе трэба?
— Кавалачак хлеба.
Хлеб? Зарудны яго нясе
У мяшэчку дарожным:
Паўбуханкі, НЗ,
На дваіх, на ўсё падарожжа.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я аддаў яму хлеб
І вось
Стаў за дуб шумлівы
І гляджу, як бяжыць да калёс
Хлопчык з хлебам.
Шчаслівы...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мне здаваўся даўгім яго шлях.
Босы, бег ён праз ямы,
Па халоднай зямлі, па лістах
І па сэрцы маім
Таксама.
Ці дарога мяне змагла,
Што глядзець я не змог,
Не знаю.
Толькі вочы заслала імгла...
І пайшлі мы, і след замяла
У дуброве мяцель залатая.

Цяпер, у канчатковай рэдакцыі паэмы, пра тое, што радок «толькі вочы заслала імгла...» не раскрываў усяго, што адбылося з героем, гаворыць шматкроп'е. Яно прыгадвае тое, пра што аўтар сціпла маўчыць, лічачы, відаць, што ўсведамленне бязмежнасці народнага гора не дае яму права гаварыць аб асабістых нягодах.

Мне ж радкі, якія не ўвайшлі потым у паэму, прыводзяць на памяць вельмі многае з біяграфіі майго бацькі.

У канцы 1977 года, якраз у той перыяд, калі бацька па прычыне, якой я тады не разумела, расказваў мне час ад часу асобныя выпадкі

свайго жыцця з тых, якія я тады для сябе не зусім, мабыць, трапна акрэсліла «страшнымі таямніцамі» яго душы, бацька голасам, які перарываўся ад хвалявання, пераказаў мне здарэнне амаль саракагадовай даўнасці.

І я ўспомпіла, як вяспой 1941-га паміж бацькам і маці вяліся размовы пра тое, куды ехаць у адпачынак. Бацька зваў у Хоцімск, дзе жылі яго бацькі, а маці прасілася ў Пухавічы, бо ёй вельмі хацелася пабываць на спектаклях МХАТа, які павінен быў гастраліраваць у Мінску ў чэрвені. Сышліся на тым, што бацька паедзе ў Хоцімск, а маці з дзецьмі — у Пухавічы, якія знаходзяцца ў шасцідзесяці кіламетрах ад Мінска і адкуль заўсёды можна «падскочыць» да горада.

Бацька ад'язджаў першы. Праз многа гадоў я, чытаючы бацькаў ліст да Твардоўскага, даведалася з яго, што гэта было 23 мая, сам жа гэты дзень запомніўся мне назаўсёды.

З ранняга дзяцінства, таго часу, калі маці, ідучы на працу, пакідала мяне на бацьку, я неяк само сабой пачала ўспрымаць яго так, як дзеці ўспрымаюць толькі маці, і кожную разлуку з ім перажывала цяжка.

Памятаю, што ў той дзень, калі ён, збіраючыся на вакзал, выходзіў з дому, я чаплялася за бацьку, плакала і прасіла яго застацца. Ці то мой непакой перадаўся яму, ці яго — мне, але апошнімі словамі бацькі пры развітанні з намі быў наказ, які ён даў жонцы:

— Глядзі, Ксаня, калі, не дай божа, пачнецца вайна, бяры дзяцей — і ў Хоцімск.

І вось дзверы за ім зачыніліся. Я пабегла на кухню, узлезла на падаконнік і прагна ўглядалася ў яго постаць, пакуль яна не знікла за паваротках.

Пачуўшы, што пачалася вайна, бацька адразу ж выехаў у Мінск, але нас там не знайшоў. Мы пачулі жахлівую вестку ў Пухавічах, і я, памятаючы бацькавы словы, настаяла на тым, каб мы адразу ж выехалі ў Хоцімск (маці збіралася яшчэ заехаць у Мінск па нашу цёплую вопратку).

Ведаючы, што мы не ў Пухавічах, і не знайшоўшы нас у Мінску, бацька пайшоў у Саюз пісьменнікаў, адкуль адыходзіў апошні грузавік, што эвакуіраваў пісьменнікаў. «Бачыш, уюнаша, табе ўжо месца няма!» — сказаў бацьку старшыня праўлення, думаючы яшчэ, відаць, катэгорыямі мірнага часу.

Тады ён кінуўся шукаць ваенкамат. Але і з ваенкаматам не пашанцавала: яны ўжо таксама паспелі эвакуіравацца, і бацька з выпадковымі спадарожнікамі — Іванам Васільевічам Куляшовым і

журналістам, прозвішча якога я, на жаль, не ведаю — пайшлі ў прыгарадныя Калодзішчы, дзе перад вайной знаходзілася адна з нашых вайсковых часцей.

Было гэта 24-га, у дзень, калі Мінск перажыў адну з першых і самых жудасных бамбардзіровак. Вось як апіша бацька ў паэме «Сцяг брыгады» родную вуліцу ў гэты трагічны для горада дзень:

І пазнаць я не мог
Роднай вуліцы, ліп і каштанаў;
Рэха тысячы ног
Аглушыла мяне нечакана,
Падхапіла мяне, маё гора,
Жаданні, трывогі
І панесла за горад
Па бітаму шклу мае ногі.
Як у час навальніцы
Ад дрэва лісток адарваны,
Пакідаў я сталіцу,
Пажарам бязлітасным гнаны.

— У Калодзішчах мы ўжо нікога не знайшлі,— расказваў мне бацька,— а зялёная трава пляца чырванела ад пятліцаў...— Далей ён гаварыць не змог — перахапіла дыханне.

У 1979 годзе, калі мой сын, у той час студэнт інстытута замежных моў, працаваў на Усесаюзным перапісе насельніцтва, да яго неяк падышоў адзін з кіраўнікоў іх групы, выкладчык беларускай літаратуры ў інстытуце І.В. Куляшоў, і сказаў, што ведае Валодзевага дзеда з часоў вайны, што ў першыя дні вайны яму нават давялося несці Аркадзя Аляксандравіча на самаробных насілках тры дні па дарозе з Мінска на Оршу пасля таго, як той раптам страціў прытомнасць у Калодзішчах:

Ці дарога пеш змагла,
Што глядзець я не змог,
Невядома,
Толькі вочы заслала імгла,
І зямля з-пад ног паплыла,
І я ўпаў
І згубіў прытомнасць...

Дык вось адкуль яны, гэтыя радкі!.. Гэта не плён уяўлення, а факт біяграфіі паэта, і менавіта гэтая, глыбока асабістая іх афарбоўка

прымусіла, мне думаецца, аўтара замяніць іх на больш нейтральныя ў канчатковай рэдакцыі паэмы.

І яго няцяжка зразумець. Уражлівы паэт, відаць, саромеўся гэтых палярных, «жаночых», праяўленняў пачуцця, усведамляючы, што яго герой павінен быць (і з'яўляецца на самой справе) больш мужны. А па-другое, і галоўнае, яго герой на фронце — гэта баец, які не мае права на тыя асабістыя пачуцці і рэакцыі, што не працуюць на агульную ідэю вызвалення народа.

Нават Кутузаў, вялікі рускі палкаводзец, памятаючы пра пачуццё абавязку перад радзімай, не адкрыў людзям глыбіню свайго гора, калі страціў на полі бою любага зяця Ф. Ціненгаўзена.

На другі дзень нехта, хто зазірнуў да Кутузава нечакана, знайшоў Міхаіла Іларыёнавіча ў роспачы і слязах. Тлумачачы яму свой стан, Кутузаў сказаў, што ўчора ён быў салдатам, а сёння — бацька.

Уменне падпарадкоўваць асабістае справе, лёсу народа, вызначала і герояў Вялікай Айчыннай...

Што ж да Івана Васільевіча Куляшова, дык ён так ніколі і не даведаўся, чаму яго спадарожнік, паэт Аркадзь Куляшоў, страціў прытомнасць у Калодзішчах і чаму ім давялося несці яго. Бацька не гаварыў пра гэта, не здолеўшы ўтаймаваць свой боль нават праз дзесяцігоддзі.

Думаецца, што якраз ён, гэты боль, вадзіў яго пяром, калі, пры цьмяным святле «слімака» з тэлефоннага кабелю, ён накідваў у зямлянцы радкі сваёй песмяротнай паэмы:

Я хачу, каб вякі
Чорных асаў спалілі праклёнам,
Каб спалілі забойцу таго,
Яго сына і ўнука,
Хто з-пад крылля свайго
Бомбу першую кінуў на брук наш.
Хай загіне ўвесь род
І таго, хто апошнюю кіне,
Хай загіне ўвесь род, увесь зброд,
У пакутах загіне!

Не бачу, што б другое, акрамя гэтага пякучага болю, магло даць бацьку сілы на такі звышчалавечы высілак. Ён жа пісаў «Сцяг брыгады» па начах таму, што днём аддаваў сілы працы на патрэбу аператыўнай франтавой газеты, для якой пісаў артыкулы і вершы на рускай мове.

Уладзімір Барысавіч Фарбераў, галоўны рэдактар газеты «Знамя Советов», дзе служыў Куляшоў, ставіўся адмоўна да гэтай «звышурочнай» працы свайго супрацоўніка, хоць ва ўспамінах піша пра гэта інакш. Тут няма ніякай супярэчнасці. Успаміны ён пісаў пасля вайны, калі жыццё ўжо даказала, што Куляшоў рабіў тады патрэбную справу. А ў цяжкім для фронту 42-м Фарбераў падыходзіў да гэтага з жыццёвых пазіцый: шанаваў сілы супрацоўніка. Тым болш што яны ішлі на работу, сэнсу ў якой Уладзімір Барысавіч тады не бачыў — паэма пісалася на беларускай мове і быць надрукаванай у яго газеце не магла, нават калі б аўтара яе і нанаткала творчая ўдача.

Хто сказаў, што мой горад загінуў,
Што ён зруйнаваны?
Я не веру ні зарыву ўночы,
Ні воблакам дыму,
Бо чаму, як заплюшчу я вочы,
Стаіць прад вачыма
Мінск жывы, не нябожчык,—
І звоняць трамваі на плошчах?..

Які эмацыянальны напал у гэтых словах! Які зарад энергіі!

Ці не яе — гэтую «таямніцу славянскай душы» — адчуў у паэме рускі паэт Міхаіл Дудзін некалі ў блакадным Ленінградзе, але дадзім слова яму самому:

«Я памятаю, як у блакадным Ленінградзе Павел Кабзарэўскі, які толькі што вярнуўся са шпіталя і яшчэ не паспеў уставіць выбітыя асколкам зубы, чытаў мне, шапялявячы, паэму Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады», чытаў на беларускай мове. І я, прадзіраючыся праз падманлівае падабенства мовы і нетры тлумачальнага падрадкоўніка, бачыў у яе святой трагедыйнасці перамогу Беларусі і перамогу Ленінграда.

Гэта быў цуд Мастацтва з вялікай літары. Гэта быў цуд пранікнення паэзіі ў самую святую сутнасць народнай душы, у яе сімвалы.

Я ўбачыў праз радкі гэтай паэмы сцяг веры ў сэрцах землякоў паэта, і ў яго сэрцы, і ў сваім таксама. Сцяг — святая святых сумлення, веры, мужнасці,— нягледзячы на здрадніцтва і прадажніцтва, на пяньковую пятлю і стрэл у спіпу, заставаўся ў спрадвечнасці сваёй чысты і недасягальны для ворага.

Ён быў самой несмяротнасцю.

Такой гэтая паэма засталася для мяне назаўсёды.

І зараз, праз дзесяцігоддзі, я, перачытваючы яе, бытцам уступаю, а не ўваходжу ў храм, дзе ўсё свята, усе падпарадкавана высокай і строгай думцы, усё поўна высакароднай сур'ёзнасці. Перачытваючы яе, сапраўды пачынаеш разумець, што ўсё прыгожае — сур'ёзна.

І чым болей аддаляецца яна ў часе, тым больш чыстай і прыгожай робіцца яе мова, яе музыка.

Адрываўся ад спраў,
Слёзы, кроў, дым і попел пажараў
Не ў радкі я старанна збіраў,
А ў магутную хмару.
Дышуць полымнай сілай радкі.
Судны дзень набліжаецца.
З хмары
Хутка грозных маланак штыкі
Па варожых галовах ударацъ!

І гэтай хмары далёка несці запас азону і маланак. Запас пашай мужнасці, веры і вопыту, грознага прыкладу таго, як гартаваліся і ачышчаліся душы ў пякельным агні трагедыі».

Зусім нядаўна давялося даведацца: яшчэ адным чалавекам апрача маці, з кім бацька падзяліўся тым, што перажываў на пачатку вайны, быў Пімен Панчанка. Пра гэта ён мне і расказаў, такі ж, як і Аркадзь Куляшоў, паэт-франтавік. З ім бацька нават падзяліўся наступнай сваёй здагадкай: лік яго інфарктаў трэба весці адтуль, з сорак першага.

## «ХЛОПЦЫ АПОШНЯЙ ВАЙНЫ»

-----

«Паэму «Хлопцы апошняй вайны» Аркадзь Куляшоў напісаў у 1940 годзе,— пісаў у сваіх успамінах А.С. Русецкі.— Другая сусветная вайна колькі месяцаў ужо грымела на Захадзе. Гітлераўскія арміі, лёгка сціраючы бранявой навалай дзяржаўныя граніцы, усё шырэй распаўзаліся па Еўропе.

Дваццаціпяцігадовы паэт не чакаў лёгкай перамогі ў гэтай, як ён уяўляў, апошняй ванне — апошняй не каляндарна, а наогул апошняй для чалавецтва.

І застанецца вайна тая ў
казках,—
Як дзесяць хлапцоў ішлі ў яе
дым
У вопратках сініх,
У цёмных касках
І як у жывых застаўся адзін...
Пра гэта
Раскажа дзесяты, жывы...

І давялося паэту расказаць пра вайну за кожнага чацвёртага жыхара Беларусі, што загінуў у яе полымі, расказваць у вершах, паэмах «Сцяг брыгады», «Прыгоды цымбал», «Простыя людзі»...

Паэму «Хлопцы апошняй вайны» я нагадаў яму ў далёкім горадзе Калініне. Я апынуўся там на дзевяты дзень вайны.

Неяк у гарачы поўдзень першай паловы ліпеня, паблізу гарадскога тэатра, я чакаў у чарзе ля кіёска, каб выпіць шклянку морсу. Раптам пачуў сваё прозвішча. Азірнуўся і ўбачыў Аркадзя Куляшова.

Нізкарослы, у шэрай кепцы і шэрым пакамечаным гарнітуры, ён не вылучаўся ў стракатым натоўпе гараджан і прыезджых. У звычайны час, можа б, кінулася ў вочы яго чорнае скуранов паліто, што вісела на левай сагнутай руцэ. Ён шырока ўсміхнуўся цёмнымі засмяглымі губамі.

— Вось дык сустрэча!..

Мне здалося, што не бачыў яго ўжо некалькі гадоў, бо шмат было пражыта ў апошнія дні. А сустракаліся мы на святочным вечары пад 1 Мая ў Доме пісьменніка ў Мінску. Пятро Глебка выступаў з дакладам. Я зайшоў у буфет, і мяне там запрасіў да свайго століка Аркадзь Куляшоў, сказаў некалькі прыемных слоў пра мае вершы. Пацягваючы папяросу і прыжмурыўшы вочы, паэт неяк

непрыкметна перайшоў ад паэзіі да будучыні, і я быў здзіўлены захапленнем, з якім ён гаварыў пра камунізм, духоўную свабоду чалавека, пра палёты да планет...

Цяпер мы пілі морс, і Аркадзь Куляшоў расказваў сваю адысею. Пакінуўшы ахоплены полымем Мінск, ён ішоў на ўсход і ўдзень і ўночы, галодны, пад абстрэлам дыверсантаў і бамбёжкамі. Пешкі дабраўся да Оршы.

— Вось мы дзе апынуліся — хлопцы апошняй вайны...— сказаў я пры развітанні.

Куляшоў сумна ўсміхнуўся і адказаў радкамі пушкінскага «Прарока»:

— Нам «шестикрылый серафим» не даў замест языка «жало мудрыя змеи...».

На душы было смутна і трывожна. Вораг усё далей прабіваўся на ўсход. Куляшоў быў засмучаны і тым, што не ведаў пэўна, дзе яго сям'я. Але ён ужо тут напісаў рускаю моваю два вершы пра вайну і здаў у рэдакцыю калінінскай газеты. Праз дзень-два яго накіруюць на фронт...

На вайне кожны атрымаў сваё, «наканаванае лёсам». Пасля Дня Перамогі мне яшчэ давялося пабываць з нашымі войскамі ў Манголіі, а потым — у Кітаі. Калі ехаў з Порт-Артура ў 1947 годзе, мне трапілася на нейкай сібірскай станцыі паэма Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады», перакладзеная на рускую мову Ісакоўскім. Захапілі жывасць апавядання, рытмічны малюнак, навізна, рэльефнасць простых вобразаў. Прыемна было бачыць у першай палове паэмы нешта з перажытага і расказанага мне ў Калініне».

Тое, што пазнаў у паэме Аляксей Сцяпанавіч, мы таксама ўжо ведаем. Давайце ж паспрабуем адшукаць у недалёкай яшчэ гісторыі Вялікай Айчыннай і тое, пра што таксама згадаў у «Сцягу брыгады» Аркадзь Куляшоў і чаго яшчэ не ведаем ні мы з вамі, ні А.С. Русецкі, які развітаўся з земляком якраз у той момант, калі бацька стаяў на парозе новых выпрабаванняў.

Стаў я іншым, суровым,
Стаў новым ад ног да пілоткі,
Чалавекам вайсковым,—
Былой не пазнаеш находкі.

Я з усіх сваіх рэчаў былых,
Асабістых, адзіных,
Для паходаў узяў баявых

Лыжку, боты, гадзіннік.

Лыжка трэба байцу на вайне
Для баршчу і для кашы,
Боты ўсюды спатрэбяцца мне —
І ў баях і на маршы.

А гадзіннік? Шчаслівы яго
Кіне так, без увагі,
Бо заўсёды ад шчасця свайго
Ён п'яны, як ад брагі.

Я ж гадзіннік з сабой захапіў,
Час па ім
Назіраю,
Бо шчасліўцам ніколі не быў.
Быць такім
Не жадаю.

Не хачу сабе долі такой
У часы, калі гора
Разлілося слязьмі і крывёй
Скрозь ад мора да мора.

Я прайду з табой мпога дарог,
Мой гадзіннік, мой браце,
І я ўбачу часы перамог
На тваім цыферблаце!

Нам гарматы ўжо чутны.
І рэха іх ловіць гушчар.
Мы ідзем.
Выклікае Зарудны —
Палкавы камісар...
(«Сцяг брыгады»)

Бацька вельмі ганарыўся і неаднойчы загаворваў пра тое, што калі ён прыбыў у 11 Армію Калінінскага фронту, яго запрасіў да сябе для знаёмства член Ваеннага Савета Арміі дывізіённы камісар Іван Васільевіч Зуеў. Даведаўшыся, што Куляшоў — паэт, сказаў:

— Прысвойваю вам званне малодшага палітрука!

Слухаючы тады бацьку, я не вельмі разумела, што ў гэтым звычайным, на мой погляд, факце так радуе яго, затое заўсёды адчувала, што пра Зуева ён гаворыць з нязменным захапленнем.

Неаднойчы, калі гаворка заходзіць пра паэму «Сцяг брыгады», я чую, як людзі, якія ў стане даць належную ацэнку гэтаму твору, дзівяцца, як мог 28-гадовы паэт у самы цяжкі перыяд вайны, калі вораг рваўся да Волгі і стаяў ля сцен Ленінграда, здолець асэнсаваць, вынасіць і сказаць прарочае і моцнае слова пра вайну, якая мела яшчэ цягнуцца тры гады?

Думаючы пра гэта, я зразумела, што чалавечы і творчы лёс майго бацькі быццам знарок складваўся так, каб укласці гэтае слова, якое павінна было быць сказаным, у яго вусны.

Аркадзь Куляшоў нарадзіўся ў 1914 годзе. У вершы 1930-га ён гаворыць пра сябе і сваё пакаленне так:

Я сцюжай гадоў загартован не быў,
Не жыў, не рабіў за варштатам рабочым,
Таму так хачу не скаўзнуцца ў нябыт,
Таму так хачу не сарвацца, не збочыць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
З дарогі, дзе людзі сцягамі шасцяць
І пройдуць, цябе не прыкмеціўшы, міма,
За песняй жыцця і за сонцам жыцця,
За новай дарогай і новай радзімай.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я толькі паэт... Але я не адзін,
Са мною маё пакаленне і сіла,
Якія не кінуць хадзіць і хадзіць
Па песню, па сонца ў абветраных мілях.

( «Пра сябе» )

Якая прага дзеяння, якая вера ва ўласныя сілы і якая мэтанакіраванасць у гэтых радках!

Аптымістычная танальнасць вершаў Куляшова, відаць, ад гэтай цэльнасці ўспрыняцця свету.

Але вось на пачатку 30-х гадоў у ёй з'яўляецца новы матыў, матыў будучай вайны, які да канца дзесяцігоддзя перарастае ў тэму. Дастаткова прыгадаць паэмы «Крыўда» (1930-1931) і «Хлопцы апошняй вайны» (1940), і лірыку гэтага дзесяцігоддзя, верш «На штурм апошні» (1936).

П'ю дарагое сонца і цяпло
Той будучыні, што да вас ідзе,

Што залатое ўскінула вясло
Каля калгаснай хаты на вадзе...

За будучыню б гэту тройчы я
Пад Ільескасам з мёртвых уваскрос.
Іспанія! Іспанія мая!
Тваю б зямлю я на далонях нёс...

Тваю ваду, дыханне яе рыб,
Яшчэ па кроплі мёду ад пчалы,
Я нёс бы ў сэрцах тых, што пачалі
Гнаць ідала з яго старых сядзіб.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Іспанія мая! З табою мы.
У крэпасці дамы ператвары,
Каб ты не знала чорнае турмы,
Каб не кіпелі горкімі слязьмі
Сервантэса раманы на кастры...
На штурм, на штурм апошні, змагары!

Штурм гэты, на жаль, аказаўся толькі рэпетыцыяй апошняга штурму гітлераўскага фашызму. Гэты штурм у 1941-м звёў разам на адным з самых драматычных франтоў — Паўночна-Заходнім — загартаванага ў баях дывізіённага камісара І.В. Зуева і навабранца Вялікай Айчыннай малодшага палітрука Аркадзя Куляшова.

Праз многа гадоў, у канцы шасцідзесятых, калі ў Куляшова завязалася перапіска з аднапалчанінам Якавам Сцяпанавічам Бабковым, які служыў пры Зуеве афіцэрам для асобых даручэнняў, бацька даведаўся ад Якава Сцяпанавіча, што і Зуеў ставіўся да маладога палітрука-газетчыка з вялікай павагай і нават пяшчотай, менавіта ён даў пуцёўку ў жыццё літаратурнаму герою Куляшова Аляксею Пятрову, роднаму брату Васіля Цёркіна, справамі якога ўжо ў 41-м цікавілася ўся армія Паўночна-Заходняга фронту, назіраючы за імі па публікацыях у газеце «Знамя Советов».

«Салдаты, камандзіры і палітработнікі 11 Арміі,— піша ў сваіх успамінах Я.С. Бабкоў,— палюбілі Аляксея Пятрова, многія з іх лічылі, што існуе рэальны Аляксей Пятроў».

У адным з падраздзяленняў Штыкаўскай 202-й стралковай дывізіі Іван Васільевіч звярнуў увагу на тое, з якім захапленнем чытаюць салдаты свежы нумар газеты «Знамя Советов», падышоў да іх і спытаўся:

— Ну, як наша газета, цікавая ці не?

— Вельмі цікавая, таварыш дывізіённы камісар,— пачуў ён у адказ,— зачытваем да дзірак!

Салдаты чыталі нумар газеты, у якім было надрукавана паведамленне Аркадзя Куляшова пра тое, «як Пятроў знішчыў дыверсантаў».

Куляшову як аўтару «Сцяга брыгады» пашанцавала і ў тым, што на пачатку вайны ён трапіў менавіта сюды, на Калінінскі фронт. Армія, у якой бацька служыў, зведала перамогі ўжо ў 41-м. Аперацыі армій Паўночна-Заходняга фронту ўскладнілі немцам рух да Ленінграда, а паспяховая аперацыя пад Ціхвінам дапамагла нашым войскам адстаяць Маскву. Гэта не магло не адбіцца на бачанні перспектыў вайны яе салдатамі, у тым ліку і Куляшовым.

Г.В. Зуеў знік без вестак у чэрвені 42-га, калі, забяспечваючы вывядзенне войск 2-й ударнай арміі з кола акружэння, сам павёў людзей на прарыў.

Ніхто, у тым ліку і Куляшоў, не ведаў тады, што здарылася з камісарам.

Толькі ў 1965-м з публікацыі ў «Известиях» даведаўся мой бацька пра лёс Зуева. Пра гэта ён напіша дзесяцігоддзем пасля ў «Литературной газете» наступнае: «Аднапалчане і сябры Зуева расказалі, што калі нашыя войскі трапілі ў акружэнне ў раёне Мясны Бор, паміж Ноўгарадам і Чудавам, камісар стаў адным з арганізатараў прарыву. Іван Васільевіч ішоў у атаку ў баявых радах, быў паранены, але не пакінуў строй. Калі фашысты перакрылі агнявы калідор, камісар з групай салдат схаваўся ў лесе».

Лёс Зуева бацька перажываў як асабістую трагедыю. Перажываў моўчкі, но адважваючыся адкрыць свае пачуцці, бо ў той час лёс Зуева быў невядомы, а магчымыя здагадкі — па аналогіі з Уласавым — не ў карысць камісара.

Усё гэта я зразумела па той вялікай радасці, з якой бацька сустрэў спачатку публікацыю ў «Известиях», а потым і кнігу Я.С. Бабкова «І.В. Зуеў».

Бацька чытаў яе і перачытваў, па дзесяць разоў паказваў мне фота Зуева, дарэчы, сапраўды надзвычай прыгожага чалавека, і гаварыў, гаварыў пра камісара. Гаварыў з захапленнем, шчаслівы ўжо тым, што можа, нарэшце, даць выхад пачуццю, якое доўгія гады трывожыла яго сумленне і памяць.

Аднак, вяртаючыся ў той страшны 42-гі, варта адзначыць, што сустрэчы з камісарам Зуевым пакінулі глыбокі след у душы бацькі, які давяраў свайму пачуццю і не меў звычкі здраджваць яму. Таму

ўжо тады за знікненнем камісара Зуева ён разгледзеў драму і даў яму новае жыццё ў паэме «Сцяг брыгады» пад прозвішчам камісара Заруднага.

Паэма «Сцяг брыгады» — гэта, увогуле, драма веры.

Сапраўды, давайце ўзважым, хто такі ў паэме камісар Зарудны? І ці так неабходны гэты вобраз для разгортвання сюжэта?

Ёсць там Алесь Рыбка, сцяганосец, і наводчык Мікіта Ворчык, малавер і таму дэзерцір. Вось два полюсы драмы, якая разгортваецца ў душах людзей у цяжкі для Радзімы час. Гэтыя два персанажы і рухаюць сюжэт паэмы, а Зарудны ў ёй — як сцяг, як сімвал веры, тое, што дае аднаму з іх сілы ў схватцы з рэальнасцю, бо, згодна з ёю, паранены камісар, якога трэба несці, толькі ўскладняе і без таго цяжкую задачу акружэнцаў.

Журналіст Я.С. Бабкоў у сваёй кнізе пра І.В. Зуева ўспамінае, як, незадоўга да падзей чэрвеня 42-га, убачыўшы ў лесе безыменную салдацкую магілу, Зуеў затрымаўся ля яе, пастаяў, ушаноўваючы памяць героя, памаўчаў і сказаў:

— Безыменных магіл у нас быць не навійна!

Ён быццам бы прадбачыў уласны лёс...

Калі да іх у акружэнне прыйшоў па Зуева апошні самалёт, камісар пасадзіў у яго свайго даручэнца Я.С. Бабкова з пакетам у Стаўку, ратуючы такім чынам жыццё свайго падначаленага, а сам застаўся з акружэнцамі.

Каля двух тыдняў яны блукалі па лесе. Калі ж зразумелі, што без дапамогі насельніцтва не абысціся, на сувязь вызваўся ісці Зуеў. Ён быў пры ўсіх воінскіх рэгаліях і так, з ромбамі дывізіённага камісара на пятліцах, выйшаў да сваіх, сагнаных на работы на чыгунку людзей.

Зуеў папрасіў хлеба. Нехта вызваўся пайсці з ім у вёску, што віднелася на недалёкім пагорку. Зуеў тым часам распытваў людзей пра месца, дзе яны знаходзяцца, пра дыслакацыю немцаў.

Неўзабаве паказаўся пасыльны. Ён быў не адзін. За ім беглі немцы.

— Ратуйцеся! — крыкнулі Зуеву людзі.

Але камісар ведаў, што ў лес бегчы нельга — навядзе на знясіленых салдат. Шукаючы да таго ж спосабу папярэдзіць іх пра небяспеку, ён пачаў адстрэльвацца, а апошні патрон пакінуў для сябе.

Абшукваючы камісара, ворагі знайшлі дакументы, з якіх людзі даведаліся, сведкамі чыёй пагібелі ім давялося стаць.

Амаль праз дваццаць гадоў, летам 1961-га, піянеры вёскі Каломаўка Чудаўскага раёна Наўгародскай вобласці знайшлі ля чыгуначнага палатна безыменную магілку. Пачалі распытваць

жыхароў навакольных вёсак і нехта ўспомніў эпізод, што ўрэзаўся ў памяць людзей сваім амаль біблейскім драматызмам.

«На 105-м кіламетры чыгункі Ленінград — Масква, ля самога палатна, знаходзіцца магіла героя. Тут быў устаноўлены сяміметровы манумент,— расказаў у сваёй публікацыі ў «Литературной газете» ад 1 студзеня 1975 года Я.С. Бабкоў.— Разам з баявымі саратнікамі Івана Васільевіча я ўдзельнічаў у адкрыцці помніка бессмяротнаму камандзіру. Мяне асабліва ўзрушыла, што цягнікі, праходзячы міма, кожны раз гудком салютавалі Зуеву».

У тым самым пум ары газеты ёсць і словы бацькі пра Зуева:

«Мне запомнілася,— піша ён,— размова з Зуевым у рэдакцыі напярэдадні гадавіны Кастрычніка. Мы з захапленнем слухалі камісара.

Гаварыў ён шчыра, незаштампавана, выказваючы глыбокія і вельмі дакладныя думкі пра вайну. Мы тады не ведалі, што ён, трыццацічатырохгадовы камісар, ужо прымаў удзел у баях у Іспаніі, што за ўдзел у складзе Інтэрбрыгад быў узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга і Чырвонай Зоркі. Сустрэча з гэтым разумным, яркім чалавекам, які меў здольнасць прыцягваць да сябе людзей, запала мне, як кажуць, у душу.

Чытачы часта пытаюцца ў мяне, хто быў прататыпам вобраза Заруднага ў паэме «Сцяг брыгады», і я адказваю, што не магу назваць такога чалавека. Яго і сапраўды не было, але знаёмства з камісарам Зуевым садзейнічала стварэнню вобраза Заруднага. Я не пісаў партрэт Зуева, але сустрэча з ім не магла прайсці бясследна, яна працавала на вобраз Заруднага».

«Набліжаецца трыццацігоддзе Перамогі,— пісаў бацька Бабкову 9 студзеня 1975 года.— Вось было б добра, калі б Івану Васільевічу пасмяротна прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза! Ён гэта заслужыў».

## «НЕ СУСТРЭЛІСЯ НІ РАЗУ МЫ З ТАБОЮ ЗА ВАЙНУ...»

-----

У ваеннай лірыцы Куляшова ёсць два вершы, прысвечаныя пошце часоў вайны. Вось адзін з іх:

Да цябе шляхоў не знаю, да мяне — не знаеш ты,
Лепей нас дарогу знаюць нашы частыя лісты.

Як на фронце адсвяткую перамогі нашай дзень,
Твой лісток недачытаю, пакладу сабе ў кішэнь.

На машыну скочу тую,
На якой прывезлі ліст,
Разам з ім тады пачую
Колаў стук і ветру свіст.
Я паеду тым жа шляхам,
Па якім ішлі лісты.
Пад сваім далёкім дахам
На адказ чакацьмеш ты.

Я ў акно тваё, дзяўчына, пастучуся ў ранні час,
Ты падумаеш, дзяўчына, што прыйшоў на ліст
адкаЗ

А як глянеш, то адразу
Здагадаешся без слоў,
Што замест майго адказу
Я нарэшце сам прыйшоў.

*(«Адказ», 1044)*

Ведаючы глыбіню і сур'ёзнасць паэтычнага мыслення бацькі, маючы такія бліскучыя доказы гэтых яго вартасцей, як паэмы «Сцяг брыгады» і «Прыгоды цымбал» альбо вершы «Ліст з палону», «Балада аб чатырох заложніках» ці «Над брацкай магілай», нельга не здзівіцца пэўнай легкаважкасці ў распрацоўцы тэмы. Усё тлумачыць дата, якая стаіць пад ім.

Каб зразумець, што я маю на ўвазе, варта звярнуцца да лірыкі другіх савецкіх паэтаў, Сямёна Гудзенкі напрыклад, у вершах якога ў гэты перыяд «трофейный рыжий ром» змяняе «снег белизны госпитальной» начатку вайны.

Блізіўся час перамогі, і можна ўжо было звярнуць увагу на тое, што на двары вясна і што салдат непакояць салаўі...

Для лірыкі Куляшова гэты агульны настрой — толькі фон, на які лягла памяць аб кур'ёзным здарэнні, што мела месца на пачатку вайны і было звязана з поштай. Але пра гэта — у свой час, а зараз — пра тое, як ўсё пачыналася ў бацькавым і нашым, яго блізкіх, лёсе...

Напярэдадні вайны ў нашым доме часта гучала імя Чапаева. Цікавасць маіх бацькоў да асобы легендарнага героя была абумоўлена поспехам фільма братоў Васільевых. Дзякуючы размовам пра фільм і Чапаева, ён зрабіўся і маім любімым героем. Думка пра Чапая не давала спакою: усё здавалася, што яго можна было выратаваць, што гэта не позна зрабіць і зараз, калі вельмі захацець...

— Тата, дзе загінуў Чапаеў?

— У Лбішчанску, над Уральскам, дачушка.

— А гэта далёка?

— Вельмі далёка...

— А калі ўсё будзе добра, вы звозіце мяне туды?

(Выраз, безумоўна, быў запазычаны мною з лексікону бацькоў, якія, мабыць, шырока карысталіся ім.)

— Звозім, звозім, спі...

Такія размовы адбываліся паміж мною і бацькам напярэдадні вайны. Хто б мог тады падумаць, што мая мара здзейсніцца так нечакана? Калі вайна стала явай, бацька сеў на станцыі «Камунары» ў першы цягнік, які ішоў на Мінск. У Мар'інай Горцы, ля Дома творчасці «Пухавічы», адкуль мы напярэдадні паехалі, ён злез, але ніхто там не змог сказаць яму дакладна, куды мы падзеліся.

У Мінску, на Маскоўскай, 24, бацька знайшоў толькі нашу нянечку Хрысціну, якая прыехала з Елаўца напярэдадні, 21 чэрвеня.

— Дзе Ксаня, дзеці? — выкрыкнуў ён з парога.

— Не ведаю, я іх не бачыла.

— Уцякай, Хрысцінка! Кідай усё — і дадому! І не марудзь!

— На цягнік я ўжо не трапіла,— расказвала мне восенню 1972 года Хрысціна Афанасенка,— і да Елаўца прыйшлося дабірацца пешкі. Я ішла амаль месяц, у кроў збіўшы ногі яшчэ на паўдарозе. І Елавец, і Хоцімск, і суседні Альшоў былі ўжо захоплены немцамі, і мяне арыштавала паліцыя. Шукалі вас — жонку і дзяцей Куляшова, як потым высветлілася. Збіраліся, як быццам, павесіць...

У той час, калі бацька ехаў з Хоцімска ў Мінск, мы, здзяйсняючы яго наказ, дадзены жонцы 23 мая, рушылі ў Мінск.

Як зараз бачу гэтае душнае купэ, мулкія лавы і цьмянае шкло вагона, да якога я прыціснула твар.

Наш цягнік стаіць на станцыі, а паўз яго, паволі набіраючы хуткасць, цягнецца сустрэчны.

Я ў купэ сама, і, стоячы ля акна, сачу вачыма за вагонамі, што праплываюць міма. Раптам у адным расчыненым акне я бачу яго, бацьку! Ён таксама пільна ўглядаецца ў вокны нашага цягніка.

Я прыпадаю да шкла, спрабую, завіснуўшы на скабе, адчыніць акно, заву маці, але ўсё дарэмна. Акно не паддаецца, маці не прыходзіць, а сустрэчны набірае хуткасць і знікае з вачэй.

ЦК ЛКСМ Белоруссии

15.7.1941г.

Удостоверение

Предъявитель сего, тов. Вечар Ксана Фёдоровна — жена белорусского писателя т. А. Кулешова — направляется с детьми в г. Саратов, в порядке эвакуации.

ЦК ЛКСМБ просит все партийные, комсомольские и военные органы оказывать тов. Вечар содействие в передвижении. Секратарь ЦК ЛКСМ Белоруссии

Мих. Зимянин

«Мандат», напісаны рукой М.В. Зімяніна, зрабіўся нашым пропускам у тыл пасля таго як разам са сваімі выратавальнікамі высадзіліся мы ў Клінцах, адзінай станцыі на бліжэйшай дарозе, яшчэ не захопленай немцамі.

Адсюль пачалося наша вандраванне па дарогах вайны. Памятаю, як ноччу мы спалі на адкрытай платформе, на якой і зараз возяць тэхніку. Асабліва цяжка прыходзілася жанчынам — маёй маці і бацькавай сястры Надзеі, якія па чарзе дубелі, бо адзіная цёплая рэч — вялікая старасвецкая хустка з воўны, нешта накшталт пледа, закінутая ў машыну ў хвіліну развітання, як і чайнік, бабунькай, так мы, дзеці, называлі бацькаву маці Кацярыну Фамінічну,— пераходзіла па чарзе да той, у каго на руках спалі дзеці.

У Бранску нас ужо бамбілі. Памятаю, з якім жахам глядзелі мы ў неба, на самалёты, што кружылі над станцыяй, заходзячы ў піке, і самым жахлівым было пачуццё бездапаможнасці.

Бамбёжка заспела нас ужо ў вагоне-вуглярцы, які адрозніваўся ад звычайнага тым, што не меў даху, а ад платформы — тым, што меў высокія барты.

Калі пачалася бамбёжка, нехта зачыніў вагон звонку (можа, баючыся панікі?), і нам заставалася адно: пазіраць за тым, што

адбывалася ў небе, разлічваючы на лёс. З таго часу мяне не вабяць ні пячоры, ні падзямеллі, а толькі прастор і воля...

Памятаю, як на адной са станцый мы ледзь не згубілі маці. У маладыя гады яна вылучалася сярод іншых рашучасцю і кіпучай энергіяй.

У вагоне мы ўсе ляжалі ўпокат. Не хапала вады, але людзі ўжо не рызыкавалі выходзіць на станцыях, бо тыя былі перагружаны саставамі, што ішлі на фронт і з фронту і краталіся з месца паводле ім адным вядомага раскладу.

Аднак наша маці была аптымісткай. Аптымізм сваёй прыгажунійжонкі — мініяцюрнай, як лялечка, зграбнай жанчынкі з сінімі вачыма і цяжкімі русымі косамі — высока цаніў мой бацька: паэту-бессярэбраніку цяжка было б жыць з іншай жанчынай. Але бацька разумеў і тое, чым гэты стыхіпны аптымізм можа абярнуцца ў экстрэмальных умовах. Таму часам, даючы маці дакладныя ўказанні, бацька патрабаваў іх няўхільнага выканання. Гэта здаралася надзвычай рэдка і толькі ў дачыненні да спраў выключнай важнасці. Так было з наказам адразу ж ехаць у Хоцімск, калі толькі пачнецца вайна.

Справа ў тым, што бацька ведаў, як ставілася да Напалеона наша маці.

З Пухавіч у Хоцімск мы рушылі не марнуючы часу таму, што на гэтым, абапіраючыся на аўтарытэт бацькі, настаяла я. У акружэнне ж у Хоцімску трапілі, можна сказаць, з ласкі Напалеона, бо маці і слухаць не хацела пра эвакуацыю адтуль, лічачы, што Гітлер не дойдзе да Магілёва. Кожнаму, хто, сумняваючыся ў гэтым, прыводзіў ёй прыклад Напалеона, яна з абурэннем тлумачыла: «Дык то ж быў геній!»

Варта было цягніку пры ўездзе па станцыю прыцішыць ход, як маці, прыхапіўшы чайнік, амаль на хаду выскачыла з вагона і знікла за вуглом панурага станцыённага будынка, за якім знаходзілася вадакачка.

Ведаючьт, што маці блізарукая, я заняла месца ля шырока расчыненых дзвярэй вагона, каб не згубіць яе з поля зроку.

Прайшоў пэўны час. Раптам цягнік ірвануўся і паволі паплыў уздоўж перона. Пэўны час нас вазілі па станцыі туды-сюды, пакуль не паставілі ў нейкім далёкім тупіку.

Пакуль цягнік манеўраваў, я не адрывала вачэй ад вугла таго будынка, за якім знікла маці.

Яна, відаць, адстаяла вялікую чаргу, калі ўсё, пра што я тут расказваю, прайшло міма яе ўвагі.

І вось маці на пероне. Я бачу, як яна замітусілася, не ведаючы, куды кінуцца, як апусціліся яе рукі, бразнуўся аб зямлю чайнік.

«— Вось і ўсё, згубіла дзяцей!» — маланкай пранеслася думка і абудзіла ў памяці сумны твар мужа.

«Мама, мама, мы тут, ідзі сюды!» — Гэта быў мой голас, які даносіўся адтуль, дзе стаяў нейкі цягнік.

Нам усім тады пашанцавала: цягнік, якога чакалі на першы пуць, яшчэ не прыйшоў і не перакрыў бачнасці.

У наступным кадры маіх ваенна-дарожных успамінаў дзяжурны па станцыі ўсаджвае нас у вагон. Гэты вагон не перапоўнены людзьмі, як тыя, у якіх мы ехалі раней. Ён камфартабельны — гэта пасажырскі вагон. У ім толькі жанчыны і дзеці. Але ўсе яны нейкія дзіўныя — злосныя і не згаджаюцца пусціць нас, «чужых», у свой вагон, хоць тут і ёсць месца. Урэшце дыспетчар уладкоўвае нас там сілком. Пэўны час жанчыны яшчэ сварацца і на дыспетчара, і на маю маці, і на цётку Надзею. Потым на нейкі час лаянка сціхае, але ж на першай станцыі завяршаецца наступным здарэннем.

На гэтай станцыі наша маці, як звычайна, выскаквае па ваду. Але тут яе прыходзіцца набіраць не з-над крана, а падстаўляючы чайнік пад струмень, які падае звысоку, з паравознай вадакачкі.

Маці вымакла да ніткі, і сукенка шчыльна абляпіла яе зграбную фігурку. Так яна і з'явілася ў вагоне, выклікаўшы дружны смех пасажырак. Асабліва здзекавалася з маці тая, што больш за ўсіх спрачалася з дыспетчарам.

Ці таму, што ўсё гэта адбывалася ў разагрэтым ліпеньскім сонцам вагоне, дзе з-за зачыненых вокнаў не было куды дзецца ад спёкі, ці то ад таго, што, убачыўшы маму, яна ўскочыла, зарагатала і пачала размахваць рукамі,— але ў жанчыны пацякла з носа кроў. Яна села, падперла галаву рукамі, і перад ёю на падлозе хутка ўзнікла лужынка крыві.

Усе маўчаць, быццам нічога не здарылася, а лужынка расце, і твар жанчыны ўжо зусім белы...

Дзіўна! Зусім яшчэ нядаўна яны бушавалі ад нянавісці да нас, «чужых», а зараз такая абыякавасць да сваёй!..

Мама не вытрымлівае. Яна ўсхопліваецца і, загадаўшы жанчынам устаць, кладзе хворую на лаўку.

Гэтыя шыкоўныя, у параўнанні з намі, жанчыны, як потым высветлілася — жонкі ваенных, мелі ўсё: і харчаванне, і нават нейкія чамаданы, але не мелі галоўнага, таго, пра што трэба ўвесь час клапаціцца самому,— вады.

Апошнія кроплі яе маці вылівае з чайніка на насоўку і прыкладае да пераносся хворай. Крывацёк паволі сціхае і нарэшце зусім спыняецца.

Памятаю я яшчэ жоўты стэп — панурую, распаленую сонцам раўніну, якая цягнецца нясцерпна доўга. Гэтую сумную карціну паляпшалі для нас, дзяцей, толькі маленькія жоўтыя палявыя кветкі, што раслі на адхонах дарогі, і якія мы тады ж ахрысцілі «сабачкамі».

Колькі мы так ехалі — не ведаю, але прыехалі ў Нова-Бурасы, што знаходзяцца не так далёка ад Саратава, дзе мы атрымалі першую вестку ад бацькі.

А было гэта так. Памятаю, як спякотным летам сорак першага, калі на Волзе, дзе не было каму працаваць на ўборцы, бо ўладары «сталёвых коней» пайшлі на фронт, маю маці ледзь не на каленях упрошваў выйсці ў поле старшыня калгаса ці саўгаса.

Справа ў тым, што сярод жыхароў Нова-Бурасаў толькі мая маці і Алена Канстанцінаўна, жонка Кандрата Крапівы, умелі жаць сярпом.

Жанчыны ўжо працавалі ў полі некалькі дзён, калі ў адной з іх раптам захварэлі дзеці. Трохгадовага Валодзю і мяне, якой ішоў тады шосты, у адзін дзень зваліў адзёр.

Як момант найвялікшага адчаю маці, памятаю я той дзень.

Мы ляжалі ў гарачцы, а маці, якая заўсёды цяжка пераносіла хваробу сваіх дзяцей, плакала ў куце, сціскаючы правай рукой вялікі палец на левай. Яна толькі што секанула па ім сякерай, спрабуючы нарыхтаваць для самавара паленцаў з тугіх вербавых галін.

Маці плакала ад болю, але яшчэ больш ад трывогі за дзяцей, якіх не было чым лячыць, не было чым карміць. Пакуль хадзіла ў поле, ёй давалі паёк, які яна, прызвычаеная з дзяцінства галадаць, аддавала дзецям.

Гэтая яе праца была ратункам для сям'і, а жаць ёй было не прывыкаць.

Яе танюсенькая постаць ужо мільгала недзе далёка наперадзе, калі Алена Канстанцінаўна, таксама спрытная жняя, але жанчына грузная, толькі набліжалася да сярэдзіны палоскі.

Старшыня маліўся на іх, сваіх галоўных працаўніц. І вось адна з іх не выйшла ў поле. Ён прыбег да нас запыхапы і кінуўся проста да маці. Вокны былі зацемненыя, і ён не адразу заўважыў, што яна трымаецца за палец. Старшыня яшчэ спрабаваў угаворваць маці, калі заўважыў, што ў яе паміж пальцаў сочыцца кроў.

Забыўшыся альбо не ведаючы, што хворым па адзёр святло шкодзіць, ён сарваў з акна чырвоную заслону і, глянуўшы на маміну руку, моўчкі выбег з хаты.

Неўзабаве ён вярнуўся, ведучы за сабой урача і... паштальёна, які прынёс нам першую вестку ад бацькі і яго грашовы атэстат.

Маці заўсёды гаварыла мне пра гэты момант, як пра ракавы ў яе жыцці. Мне ж ён і зараз бачыцца ў такім святле ці то з-за ліхаманкі, якая мяне тады трэсла, ці то з прычыны чырвонага, проста-такі інфернальнага святла, якое асвечвала тыя падзеі...

Што ж да бацькі, дык ён быў такі шчаслівы, адшукаўшы сям'ю, што факту перапіскі з жонкай прысвяціў нават верш «Галубкі», напісаны з нагоды смешнага непаразумення.

Неяк, калі да бацькі на перадавую прынеслі пошту і ён даведаўся, што яму «не пішуць», затое пішуць нейкаму невядомаму, бацька без вагання папрасіў, каб гэты ліст без адрасата аддалі яму, бо ён чакае ліст ад сваёй жонкі.

Бацька не памыліўся — ліст быў да яго. А верш «Галубкі» — вось ён:

Не сустрэліся ні разу мы з табою за вайну,
А твае лісты з маімі стрэчу мелі не адну.
Кожны раз на паўдарозе сустракаюцца яны:
На вайну твой ліст імкнецца,
мой спяшаецца з вайны.
Праз дажджы ляцяць, праз буры,
Быццам тыя галубкі,
Не залежацца на пошце
Нецярплівыя радкі.
Толькі кінь лісток у скрыню,
Ён сваёй дарозе рад,
Дойдзе, знойдзе, не загіне,
Жыў бы толькі адрасат.
Так да нас лісты прывыклі,
хоць без адраса пусці,
Усё роўна ліст, як голуб,—
не саб'еш яго з пуці.
Так ім любы пуцявіны,
Што да нас з табой вядуць.
Быццам зерні за навіны,
З нашых рук яны клююць.

У Бурасах мы жылі невялічкай беларускай калоніяй, якую стварылі сем'і Кузьмы Чорнага, Віталя Вольскага, Змітрака Бядулі, Кандрата Кранівы, Васіля Барысенкі, наша і Алеся Кучара, ад якога, дарэчы, бацька даведаўся, што мы не ў акупацыі.

Айзік Евелевіч — для нас Алесь Яўгенавіч — быў сярод тых, хто вывез нас з Хоцімска. Менавіта ён падказаў кіраўніку групы, калі яны праязджалі па тых мясцінах, што тут знаходзіцца сям'я Аркадзя Куляшова.

Кіраўнік групы, кажуць, не вельмі хацеў спыняцца (яго, зрэшты, можна зразумець: нямецкія танкі прайшлі ўжо на Рослаў, і Хоцімск апынуўся ў танкавых абцугах), але на тым, каб забраць нас, настаяў, быццам бы, трэці — журналіст з Мінска, які загінуў потым на фронце.

Што ж да А.Е. Кучара, дык усё жыццё бацька адчуваў сябе абавязаным гэтаму чалавеку, як, зрэшты, кожнаму, хто зрабіў для яго хоць нештачка добрае.

Трэба адзначыць, што бацька ўвогуле вышэй за ўсё цаніў у людзях дабрату, а калі ж яна да таго была актыўнай і спалучалася з яшчэ нейкімі якасцямі, дык магла выклікаць у бацькі за- хапленне.

Так захапляўся ён камісарам Зуевым.

Уважаемый тов. Кулешов!

К Вам обращаются следопыты клуба «Поиск» средней школы № 1 г. Сольцы Новгородской области.

Нам стало известно, что во время Великой Отечественной войны Вы были в нашем городе.

Мы очень просим Вас поделиться с нами своими воспоминаниями и, если можно, прислать свои стихи, фотографии или какие-либо документы для нашего музея.

С нетерпением ждем Вашего ответа.

Члены клуба «Поиск» средней школы № 1 г. Сольцы

Наш адрес: 175040, г. Сольцы Новгородской области, ул. Комсомола, д. 24, ср. школа № 1, клуб «Поиск».

Не ведаю, што адказаў мой бацька клубу «Пошук». Але на адвароце ліста захаваліся яго накіды. Сярод іх такія словы:

«Я тогда думал, что Зуев, человек недюжинного ума и несгибаемой воли, безусловно, принадлежит к тем комиссарам, которых солдаты защищают грудью в тяжелом бою».

Таму так прыемна было мне пачуць, што пачуццё майго бацькі да легендарнага камісара было ўзаемным. Пра гэта я пачула 17 лютага 1987 года ад Якава Сцяпанавіча Бабкова. Ён расказваў, што малодшага палітрука Аркадзя Куляшова вельмі любілі саслужыўцы і паміж сабой называлі Аркашам. Так называў яго і Зуеў у размовах з Бабковым.

— Заедзем да Аркашы! — гаварыў ён Якаву Сцяпанавічу, калі выпадала вольная хвіліна, і яны ехалі ў рэдакцыю «Знамени Советов». Потым, калі І.В. Зуева, а разам з ім і Я.С. Бабкова перавялі ў другую армію, паміж Іванам Васільевічам і Аркадзем Куляшовым завязалася перапіска. Магу сабе ўявіць, якім асірацелым адчуў сябе бацька, калі яны паехалі, і ўжо зусім не ўяўляю, як ён перажыў знікненне Зуева. Ратавала, відаць, толькі праца. Праца і ўдзень і ўночы.

Хочацца сказаць яшчэ некалькі слоў пра таго, хто ўсё ваеннае жыццё Зуева знаходзіўся побач з ім, хто пасля вайны зрабіў што мог для ўшанавання светлай памяці камісара, хто дапамог яго ўдаве паставіць на ногі сыноў Івана Васільевіча.

Я гавару пра Якава Сцяпанавіча Бабкова, аднаго з мільёнаў вядомых і невядомых салдат, што засланялі грудзямі радзіму. Ён і ў не менш складаных умовах мірнага жыцця застаўся верны суровым законам воінскага братэрства.

Падобных людзей мы сустракаем не на кожным кроку, хоць выглядае ўсё гэта звычайна: у цяжкіх ваенных умовах падтрымліваць сябра, застацца верным яго памяці нават тады, калі лёс кідае на яго цень, дапамагаць яго сям'і, дабівацца ўшанавання памяці героя.

Гэта ўсё проста, але такія справы робяцца коштам жыцця, якое ва ўсіх адно і патрабуе шмат сціпласці, адданасці, любові...

Неяк увесну, на Нарачы, бацька расказваў мне пра цяжкі бой ля возера Ільмень, дзе ён ледзь не загінуў...

З публікацыі Барыса Гусева ў дзевятнаццатым нумары «Недели» за 1984 год я даведалася, што было тады з Зуевым і Бабковым.

«Першыя цяжкія дні вайны... Горыч адступлення. Армія адыходзіла, стараючыся захаваць баявыя парадкі. Зуеў заўсёды знаходзіўся на самых небяспечных участках фронту. Асабістая мужнасць камісара, яго арганізатарскі талент з асаблівай сілай выявіліся ў цяжкіх баях пад Старай Русай, Сольцамі, Шымскам. У раёне Русы фашысты прарвалі фронт. Гэта пагражала акружэннем часткам Чырвонай Арміі, якія вялі баі ў раёне возера Ільмень. Асобныя падраздзяленні пачалі адыходзіць без каманды. Даведаўшыся пра гэта, Зуеў крыкнуў Бабкову:

— Яша! У машыну!

Яны паімчалі да Старай Русы, невядома якім цудам праскочылі праз мост, ахоплены полымем, і...

Усё навокал гарэла. Над полем і дарогай на брыючым палёце праносіліся «месершміты», расстрэльваючы ўцекачоў. Выбухі бомб, снарадаў і мін зліліся ў незмаўкальны гул. Зуеў і Бабкоў кінуліся насустрач адступаючым пехацінцам.

— Стаяць усім! Слухай маю каманду! — крыкнуў Зуеў і выхаціў пісталет. — Там, ля Ільмені, нашы салдаты сыходзяць крывёю, а вы?!

Ёнірвануўся наперад да кінутых гармат, ведучы за сабой салдат.

— Лейтэнант Бабкоў! Бяры на сябе камандаванне батарэяй і — прамой наводкай па ворагу!

А Зуеў павёў байцоў у атаку».

Думаючы пра гэтых людзей, ведаючы асабіста некаторых з тых, з кім бацька сябраваў з вайны, я разумею яго тугу па чысціні тых адносін...

А сяброўства з Кучарам — іншае, драматычнае, як час...

У падобных сімбіёзаў часам зусім нечаканыя і здарэнні і вынікі.

Толькі што адгрымела вайна. Як паэт, Куляшоў выйшаў з яе дастойна, з вялікім і важкім паэтычным набыткам. Ён паказаў сябе сапраўдным грамадзянінам, хто самы цяжкі перыяд вайны (з сорак першага па сорак чацвёрты) правёў у дзеючай арміі. Меў бацька і баявыя ўзнагароды і асабліва ганарыўся медалём «За отвагу» і ордэнам «Боевого Красного Знамени». Усё гэта і было нрычынай асаблівай пашаны, якой карыстаўся бацька ў П.К. Панамарэнкі.

Адчуваючы сваю адказнасць перад народам і ва ўмовах мірнага часу, бацька адчуў патрэбу выказацца па найбольш набалелым для Беларусі таго часу пытанні — нацыянальным.

Ён пісаў артыкул усю ноч, а на досвітку прачытаў яго жонцы. Абмеркаваўшы артыкул і пакінуўшы напісанае на бацькавым пісьмовым стале, яны пайшлі снедаць.

Праз пэўны час у дзверы пастукалі. Прыйшоў знаёмы. Яго з'яўленйе было такой звычайнай справай, што не парушыла раскладу жыцця гаспадароў: яны снедалі далей, а візіцёр бадзяўся па хаце ў пошуках занятку.

Праз дзень бацьку выклікалі да Панамарэнкі.

— Аркадзь Аляксандравіч,— звярнуўся да яго на развітанне Панцеляймон Кандратавіч,— вы, спадзяюся, ведаеце, што ў нацыянальным пытанні ў нас больш за ўсіх разбіраецца Іосіф Вісарыёнавіч?

Увечары мае бацькі распальвалі грубку лістамі артыкула па нацыянальпым пытанні...

Вяртаючыся да падзей нашага жыцця ў эвакуацыі, трэба адзначыць, што мы, бурасаўцы, увесь час марылі аб тым, каб злучыцца з асноўнай часткай пісьменніцкіх сем'яў, тымі, хто жыў у Алма-Аце.

Памятаю ноч, скрып колаў і наш табар, што рухаецца на падводах, запрэжаных каровамі, па непралазнай гразі за трактарам,

у якой дарослыя, бо на падводах толькі мы, дзеці, гразнуць па калена.

Колькі цягнуўся гэты пераезд, не ведаю, але ехалі мы і ўночы, і мне гэта ўсё здалося доўгім сном.

Наступны ўспамін прыемны, таму што над галавой мірнае зорнае неба. Гэта Саратаў, дзе мы спім на прывакзальнай плошчы проста па зямлі.

Усё гэта адбывалася глыбокай восенню, у канцы кастрычніка, напярэдадні бітвы пад Масквой. Развітаўшыся, нарэшце, з Нова-Бурасамі, мы рушылі ў Алма-Ату.

У дваццаці мінутах язды ад Уральска — мары майго даваеннага дзяцінства — цягнік спыняецца, прапускаючы, відаць, воінскі састаў. Такія нечаканыя спыненні «в чистом поле» былі ў ваенныя часы справай звычайнай. Нават у 1944-м, пераязджаючы з Масквы ў толькі што вызвалены Мінск, мы ехалі такім макарам некалькі сутак.

А тут, пад Уральскам, ус, як звычайна, высыпаюць з вагонаў, каб трохі размяцца.

Раптам цягнік робіць рывок і рухаецца: ён спыніўся ненадоўга. Але цягнік набірае хуткасць паволі і ўсе ўскакваюць ад яго руху. I тут — крыкі. Па насыпе бяжыць Бядуля. Наш вагон праплывае міма, яго — наступны. Бядулю працягваюць рукі і ўсцягваюць у вагон.

Праз пэўны час да нас прабіраецца Алік, які прыносіць сумную вестку: Змітрок Бядуля памёр. Мы ўжо набліжаемся да Уральска, і мая маці прапануе ўсім высадзіцца тут: сям'ю Бядулі нельга пакідаць адну ў горы.

Ва Уральску нам становіцца вядома, што тут мы не адзіныя беларусы. Тут у эвакуацыі знаходзіцца Віцебскі драматычны тэатр. Дзякуй Іосіфу Львовічу Дорскаму, загадчыку літчасткі тэатра, які ўзяў на сябе арганізацыю пахавання Бядулі і ўсе клопаты аб нас, бежанцах, якія нечакана зваліліся на яго плечы.

У той вечар я ўпершыню апынулася ў тэатры. Памятаю, як змагаліся ўва мне стома і цікаўнасць, як зачароўваў фантастычны свет дзеяння — таго, што адбывалася на сцэне. Тэатр ставіў якраз «Несцерку» Віталія Вольскага.

Я сядзела ў чырвоным аксамітавым крэсле дырэктарскай ложы і, здаецца, не дачакалася канца спектакля. Стома брала сваё — выйшла так, што ўсе мы назаўтра прачнуліся ў тэатры: хто ў ложах, а хто і на лаўках у фае. Пакуль іншага не займелі прытулку, так цягнулася з тыдзень.

Алма-Аце наканавана было застацца нашай няздзейсненай марай, а ва Уральску выпала перажыць самы цяжкі перыяд вайны.

Гэты перыяд асацыіруецца ў маёй памяці з вальсам «На сопках Маньчжурыі» і вадкім гематагенам — самым спакуслівым прысмакам часоў вайны. Раз у месяц маці прывозіла двухсотграмовуго бутэлечку з лесанарыхтоўкі, куды адна з усёй нашай калоніі ездзіла на працу ў летнюю спёку і ў саракаградусныя ўральскія маразы. Адтуль маці прывезла і малярыю, у прыступе якой мы ледзьве яе не страцілі.

І, урэшце, адно з самых моцных уражанняў тых гадоў. Гэта былі альбо апошнія дні сорак трэцяга, альбо самы пачатак сорак чацвёртага. Бацька настаяў на нашым пераездзе над Маскву. Ці то мы вырашылі перабрацца ў Арэхава-Зуева, ці то анынуліся там выпадкова, гэтага я не памятаю, затое на ўсё жыццё запомніла сам пераезд.

Калі я гляджу хроніку ваеннага часу, мне абавязкова ўспамінаецца той наш вагон, бітком набіты аднымі вайскоўцамі. Як мы туды трапілі, не ведаю. Можна было б спытацца маці, але гэта ўжо яе ўспаміны.

У гэтым вагоне нас частавалі: кармілі белым хлебам і нават нейкай рыбай, па чым можна меркаваць, што салдаты ехалі, відаць, з Далёкага Усходу. Але ўсе гэтыя прысмакі і ўражанні — дробязь у параўнанні з тым надзвычайным пачуццём уздыму, з якім мы з братам вандравалі з купэ ў купэ, дзе ўсе радаваліся нам так, як быццам мы былі апошнія ў іх жыцці дзеці. Нас гушкалі на калене, спявалі песні і змагаліся за права патрымаць на сваёй лаўцы. Асаблівым поспехам карыстаўся пяцігадовы сінявокі Вовачка.

А на нас, дзяцей, асаблівае ўражанне зрабіла адчуванне кіпення жыцця, выкліканае, відаць, прысутнасцю вялікай колькасці маладых, здаровых, энергічных, непасрэдных, вясёлых, добрых і дужых мужчын — відовішча, ад якога мы ў жаночым тыле прызвычаіліся, і якога пасля вайны ўжо не ўбачылі...

З таго часу я не магу пазбавіцца ад пачуцця, што ў тым цягніку — і ці быў ён увогуле? — жорсткі ваенны час назаўсёды замчаў у нябыт тых, хто мог бы вызначыць іншы, лепшы ход пасляваеннага жыцця...

На пачатку сямідзесятых гадоў я па бацькавай просьбе разбірала яго перапіску.

Сярод лістоў я знайшла адзін, які мае дачыненне да жыцця нашай сям'і ў эвакуацыі.

Гэта ліст Р.І. Свераноўскай, жонкі Кузьмы Чорнага, з якой мы жылі ў Бурасах і Уральску адзінай сям'ёй.

На старонках вялікага ліста, напісанага жонкай Мікалая Карлавіча ў першы дзень прыезду ў Маскву, гаворка ідзе як пра ўральцаў, успаміны аб якіх яшчэ жывыя ў памяці, так і пра першыя ўражанні ад атмасферы жыцця беларускіх літаратараў, што знаходзіліся ў рэзерве арміі і жылі тады ў гасцініцы «Масква».

Пра многае, што нагадаў нам гэты ліст, гаварылі мы з бацькам і маці ў той вечар, і я, між іншым, адважылася нарэшце сказаць бацьку, што бачыла яго ў сустрэчным цягніку, калі мы пераязджалі з Мар'інай Горкі ў Хоцімск.

— Валя, гэта ж табе прымроілася! — перапыніла мяне маці і, звяртаючыся да бацькі, дадала: — Гэта ў яе з вайны. З той хвіліны, калі яна ўчыніла мне скандал у цягніку. Яна тады даводзіла, што бачыла цябе ў сустрэчным і вінавація мяне за тое, што я выйшла з купэ, а сама яна не здолела адчыніць акно...

Тата знакам папрасіў маці памаўчаць і, хвалюючыся, пачаў распытваць мяне падрабязна пра тое, як гэта было.

Я расказала.

— Так, ты мяне сапраўды бачыла! — пацвердзіў бацька ўзрушана,— Я тады ляжаў на верхняй лаўцы справа, таму ты бачыла мяне злева, і, высунуўшы галаў, углядаўся ў вокны сустрэчных цягнікоў, спадзеючыся ўбачыць вас... — І, звяртаючыся да мамы, дадаў: — Вось бачыш, Ксаня, дарэмна ты ёй не паверыла...

І ўжо толькі сабе самому, пасля паўзы, якая сведчыла аб горкім роздуме:

— Вось табе і «не сустрэліся ні разу»...

## «КАПАЮ РЭЧЫШЧА ЎЛАСНАЙ РАКІ»

-----

12 красавіка 1980 года мне ўдалося сабраць у Маскве бацькавых сяброў — паэтаў, каб запісаць на кінастужку слова пра Куляшова.

Сваёй просьбы я не канкрэтызавала, і можна сабе ўявіць, якім было наша агульнае здзіўленне, калі, праслухаўшы расказы (кожны запісваўся асобна і пра што гаварылі іншыя — не ведаў), мы зразумелі, што трое з чатырох выступаўшых расказвалі пра адно і тое ж — паэму «Сцяг брыгады».

— Я нават памятаю колер вокладкі тых нумароў часопіса «Знамя» за 1943 год, дзе друкавалася паэма,— пачаў сваё выступление народны паэт Кабардзіна-Балкарыі Кайсын Кулiеў, у заключэнні якога прагучалі словы: — Беларусь, зразумелі мы, набыла, каб выразіць сябе, свае пакуты, свае надзеі і чаканні, голас таленавітага, вялікага паэта!

«Дарагі Пімен! — пісаў Аркадзь Куляшоў у канцы кастрычніка 1942 года на Калінінскі фронт у паштоўцы, адрасаванай сябру, беларускаму паэту Пімену Панчанку, які служыў тады ў газеце «За Савецкую Беларусь»,— 22 кастрычніка я скончыў працу над вялікай рэччу — паэмай «Сцяг брыгады».

Далей Куляшоў тлумачыў сябру, што не спадзяецца на тое, што той зможа надрукаваць паэму ў сваёй газеце (газета выходзіла на беларускай мове, і вершы бацька друкаваў у ёй), улічваючы вялікія памеры паэмы, і таму прапанаваў Панчанку прыехаць на некалькі дзён у Маскву, каб пазнаёміцца з яго новым творам, Сустрэча ў Маскве адбылася, а сама паэма ўбачыла свет у перакладзе Міхаіла Ісакоўскага ў тых нумарах часопіса «Знамя», пра якія расказваў Кайсын Кулiеў. Ён чытаў іх на фронце, і можна сабе ўявіць, чым паэма была для салдата, мяркуючы хоць бы па такіх радках:

Ля прыёмніка мы трэці дзень,
З ім расстацца павінны;
Перад ім я саджуся на пень,
Каб паслухаць навіны.
Да яго мае рукі
Прывыклі, нібы да штурвала,
Спаць кладземся пад гукі
«Інтэрнацыянала».
Б'е гадзіннік. Прыгадваю я,
Што мы ў лесе, не дома.

Дзе вандруе мая сям'я,
Жонка, дзеці мае?
Невядома.
Ці ўцяклі ад навалы яны,
Ад ваеннай навалы?
Зводкі слухаем мы дзень пры дні,
Зводкі радуюць мала.
Чуем: горад пакінуты наш,
Стане крыўдна і горка.
Выйдзеш моўчкі адзін, за шалаш:
Што ты скажаш, вавёрка?..
Хіба я не прайшоў
Край з маленства мне любы.
І не бачыў я жлобінскі роў —
Закапаныя трупы?..
Там дзяцей, там бацькоў і жанок
Закапалі жывымі.
Доўга жоўты пясок
Варушыўся над імі.
Можа, ён і цяпер
Там варушыцца?
Чуеш, вавёрка,
Я пытаю ў цябе,
Хіба гэта не горка?
Хіба слухаць фашысцкія трубы,
Лязгат гусеніц не абрыдла,—
І як гаўкае ў радыёрупар
Праклятае быдла?
Хіба слухаць чужацкія маршы
І песні не горка?
Ці па любай зямлі, ці па Марсе
Ідзём мы, вавёрка?

Высокая паэзія «Сцяга брыгады» была блізкая паэзіі лепшых вершаў Канстанціна Сіманава, Аляксея Суркова, творам Аляксандра Твардоўскага.

Такія творы ў вайну рабіліся зброяй. Пімен Панчанка ў сваіх выступленнях па тэлебачанні расказваў, што вершы Куляшова «Ліст з палону», «Над брацкай магілай», «Балада аб чатырох заложніках», падобна «Беларускім партызанам» Купалы, закідваліся самалётамі ў тыл ворага.

«Летам мінулага года, будучы ў Югаславіі,— гаварыў Ніл Гілевіч у 1976 годзе ў выступленні на VII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі,— я выпадкова спаткаўся з выдатным чарнагорскім паэтам Радаванам Зогавічам, з якім калісьці пазнаёміўся ў Дубултах. Зогавіч — камуніст і антыфашыст. Гадоў сем-восем назад у Маскве выйшаў яго вялікі зборнік «Упрямые строфы» з прадмовай Назыма Хікмета. Мы паехалі разам у горы, недалёка ад Любляны, дзе ён быў на адпачынку. Там, каля царквы-помніка рускім ваеннапалонным, мы доўга гутарылі і раптам Зогавіч спытаў: «А як пажывае, што піша Аркадзь Куляшоў?» І затым расказаў вось што:

— Дзесьці ў канцы 43-га года ў Чарнагорыю, дзе мы вялі цяжкія баі, савецкі самалёт даставіў пазарэз патрэбныя нам боепрыпасы і медыкаменты — і тое і другое ў нас катастрафічна скончылася. Гэта быў высокі акт баявога братэрства. Але разам з боепрыпасамі і медыкаментамі аказалася і некалькі новых савецкіх кніг аб вайне, у тым ліку — паэма Куляшова «Сцяг брыгады» ў перакладзе Ісакоўскага. Паэма літаральна ашаламіла мяне. Я чытаў яе і перачытваў шмат разоў, чытаў таварышам па зброі, якія трохі разумелі рускую мову, а для тых, што не разумелі, асобныя мясціны сам перакладаў на сербскую. Гэта была паэзія, якая радніла нас з савецкімі братамі — радніла ў нянавісці да фашыстаў і верай у перамогу, паэзія, якая прыдавала нам духоўнай моцы і сілы...»

Паэма, якая была напісана ў 1942-м, убачыла свет у 1943-м і была адзначана вышэйшай літаратурнай узнагародай — Сталінскай прэміяй першай ступені ў 1946-м, заняла адно з першых месц у савецкай літаратуры свайго часу і ўзняла на гэтую вышыню і свайго стваральніка.

«Дарагі Аркадзь! — пісаў у лісце да Куляшова 6 лютага 1946 года, віншуючы яго з днём нараджэння, аднапалчанін, журналіст Іларыён Максімаў, зямляк, аднакашнік паэта па Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме. — Ад шчырага сэрца віншую цябе з высокім гонарам сталінскага лаўрэата. Я і сябры мае па зброі ганарымся табою і ўпэўнены, што ты і не такое яшчэ грымнеш...»

У 1974 годзе, віншуючы юбіляра з шасцідзесяцігоддзем, Пятрусь Броўка ў газеце «Літаратура і мастацтва» пісаў наступнае:

«...У Вялікую Айчынную яго паэма «Сцяг брыгады» была адным з лепшых твораў усёй савецкай паэзіі».

Знамянальна, што гэтыя справядлівыя словы былі сказаны адным з найбольш аўтарытэтных беларускіх пісьменнікаў, чыя думка часам адбівалася на лёсе «сабрата па пяры» самым непасрэдным чынам. Выказаная ў 1974 годзе, яна ўжо не мела актуальнасці хаця б таму,

што твор даўно перастаў быць прадметам нават кулуарных спрэчак, трывала запяўшы сваё пачэс- пае месца ў гісторыі савецкай паэзіі.

Вернемся ж да тых часоў, калі паэма была навінкай літаратуры. Многія з беларускіх літаратараў глядзелі тады на яе інакш, не прызнаючы тым самым за Куляшовым таго месца ў літаратуры, на якое ён фактычтна ўзыходзіў, тлумачачы яго ўсесаюзную славу тым, што паэту пашчасціла быць заўважаным вядомымі пісьменнікамі.

Водгукі гэтай пазіцыі мы знаходзім нават у тым самым юбілейным для Куляшова годзе ў артыкуле П. Броўкі, прысвечаным памяці М.В. Ісакоўскага, дзе ён, між іншым, піша:

«Вядомая паэма Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады» атрымала шырокую дарогу не толькі дзякуючы вартасці арыгінала, але і дзякуючы цудоўнаму перакладу М. Ісакоўскага».[1]

Думка Броўкі слушная ў тым сэнсе, што Куляшову сапраўды пашчасціла быць заўважаным яшчэ перад ванной такімі аўтарытэтамі савецкай паэзіі, як Ісакоўскі і Твардоўскі. Гэтым ён быў абавязаны выключна сваёй паэзіі. Агульнавядома, што Твардоўскі быў надзвычай патрабавальным у адносінах да ўзроўню паэзіі чалавекам. «Строгая избирательность его была наглядна»,— скажа ў наш час пра гэтую рысу А. Твардоўскага У. Лакшын у кнізе «Другая сустрэча». А Куляшоў пацвердзіць гэтую думку словамі паэмы «Варшаўскі шлях»:

Ён пры жыцці быў крытыкам суровым
Сваім.
Тым песням падаваў руку,
Дзе пачуццё было невыпадковым,
З непазычанай думкай у радку.
Яго дзялянка ўсім відна цяпер...

Калі мы ўжо звярнуліся да цытат, дык я дазволю сабе прывесці тут і яшчэ адну, цяпер ужо з артыкула Аркадзя Куляшова, напісанага да сямідзесяцігоддзя М. Ісакоўскага, які носіць назву «Першаадкрывальнік»:

«У пачатку трыццатых гадоў да нас у Беларусь часта прыязджалі нашы блізкія суседзі — пісьменнікі Смаленшчыны. Разам з А. Твардоўскім, М. Рыленкавым, Д. Осіным наведваў Мінск і іх старэйшы таварыш Міхаіл Ісакоўскі. У тыя часы ўжо вядомы рускі паэт, аўтар цудоўных кніг «Правады ў саломе», «Правінцыя», «Майстры зямлі».

[1] Пятрусь Броўка. Збор твораў у 7 т. Т. 6. С. 374.

Помніцца, на адным літаратурным вечары я, тады яшчэ зусім зялёны юнак, сядзеў побач з Міхаілам Ісакоўскім стаіўшы дыханне, баючыся, як кажуць, вымавіць лішняе слова. Як жа быў здзіўлены я, калі раптам Ісакоўскі ціха, быццам сам сабе, прачытаў на памяць радкі з маёй паэмы «Крыўда», пры гэтым правільна і выразна вымаўляючы беларускія словы. Такая незвычайная ўвага да маёй ранняй рэчы, праўдзівая да асобных яе строф, прагучала як сяброўская падтрымка старэйшага таварыша. Гэты звычайны літаратурны вечар, напэўна, забыты самім Ісакоўскім, на ўсе гады застаўся ў душы дарагім успамінам. Помню яшчэ адну сустрэчу тых часоў. На гэты раз з маладым Аляксандрам Твардоўскім, які, прачытаўшы ў беларускай газеце ўрывак з новай маёй паэмы, звярнуў маю ўвагу на спрошчанае рашэнне некаторых момантаў. Заўвагі былі з тых падказак, якія патрэбны бываюць маладому паэту па шляху пошукаў і памылак і да якіх мы з прагнасцю прыслухоўваемся ў маладосці. Я не ведаў тады, што Твардоўскі якраз у той час пісаў «Краіну Муравію» і, як старэйшы, па сутнасці, дзяліўся са мной спелым вопытам, поглядамі, прынцыпамі, якія ўжо леглі ў аснову яго новай, пакарыўшай нас усіх паэмы.

Гэтыя два эпізоды ўспомніліся мне таму, што яны, кожны па-свойму, сведчаць аб той сапраўднай творчай атмасферы добразычлівасці і патрабавальнасці, якая вызначала нашых смаленскіх гасцей. Душою іх, безумоўна, быў тады Міхаіл Ісакоўскі.

Імя Ісакоўскага, вялікага друга беларускай літаратуры, даўно дарагое для нас. На яго сардэчнай, песеннай паэзіі вучылася не адно пакаленне беларускіх паэтаў. Ён адным з першых пачаў перакладаць на рускую мову беларускія вершы. Для яго ў выбары рэчы для перакладу заўсёды існаваў адзін бясспрэчны аўтарытэт — якасць. Міхаіл Ісакоўскі аднолькава ахвотна перакладаў і верш народнага паэта Янкі Купалы «Алеся» і верш-песню «Бывайце здаровы» маладога паэта Адама Русака. І гэта невыпадкова. І «Алеся» і «Бывайце здаровы» належаць да ліку рэдкіх знаходак, якія адкрываюць сваім з'яўленнем першую старонку ў новай для паэзіі тэме. Сам першаадкрывальнік, Міхаіл Ісакоўскі заўсёды востра адчуваў сучаснасць, па-новаму адлюстраваную ў творах другіх блізкіх яму духоўна паэтаў.

Калі пачынаецца размова аб Ісакоўскім як аб перакладчыку, то я, аўтар многіх перакладзеных ім паэм і вершаў, кожны раз адзначаю не толькі блізкасць яго перакладаў з арыгіналамі, але і надзвычайную натуральнасць і праўдзівасць іх слававыяўлення. Чытаюцца яны лёгка і нязмушана. У тэатры, зачараваныя добрым акторскім

выкананнем ролі, мы забываемся на ўмоўнасці сцэны. Нешта падобнае адбываецца з намі, калі мы чытаем пераклады Ісакоўскага».

І зноў — Іларыён Максімаў:

«І яшчэ вельмі прашу цябе — прышлі мне «Сцяг брыгады» ў беларускім варыянце. Пераклад Ісакоўскага, які́м бы добрым ён ні быў, не дае поўнага ўяўлення аб тваёй паэзіі».

Што гэта? Некампетэнтнасць? Не. Праўда. Таксама праўда.

Агульнавядома, што пры перакладзе на іншую мову выйграюць, звычайна, пасрэдныя паэты, бо добры перакладчык імкнецца «дацягнуць» арыгінал, а Беларусі з перакладчыкамі на рускую мову шанцавала.

Што ж да Куляшова, дык ён аказаўся паэтам таго ўзроўню паэзіі, якая ўвогуле цяжка паддаецца перакладу. У падобных выпадках перакладчыка не ратуе нават добрае валоданне мовай арыгінала.

Я цалкам згаджаюся з бацькам ва ўсіх кампліментах, сказаных ім у адрас М. Ісакоўскага і як чалавека (дзякуючы бацьку я таксама мела гонар быць з ім знаёмай), і як паэта, і як перакладчыка твораў Куляшова. Апошняе лепей за Ісакоўскага мог зрабіць бадай толькі Твардоўскі, калі меркаваць па ўзроўні яго адзінага перакладу з Куляшова — вершы «Крылы». Зрэшты, на сур'ёзнасці гэтага сцвярджэння я не настойваю: у астатнім яно апрыёрнае.

Што ж да перакладчыка, дык не бяда яго, а шчасце, што паэма Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады» аказалася такім творам, якому спатрэбяцца, мабыць, намаганні многіх, каб ён загучаў на рускай мове так, як гучыць сёння толькі на беларускай.

Невыпадкова ўсё хараство паэмы А.С. Пушкіна «Яўгені Анегін» адкрыў для балгарскага чытача толькі сёмы яе перакладчык, паэт Грыгор Ленкаў, які аддаў гэтай працы восем гадоў жыцця і надрукаваў свой пераклад у 1975 годзе.

Па гэтай логіцы можна спадзявацца, што праз некалькі дзесяцігоддзяў і рускі чытач, магчыма, убачыць пераклад «Сцяга брыгады», адпаведны арыгіналу, калі ўлічваць узровень першай спробы.

У творчай біяграфіі Куляшова, як я цяпер разумею, паэма «Сцяг брыгады» зрабілася пераломным момантам на шляхах выпрабавання славай.

Бацька, які пачаў працаваць на ніве паэзіі двацаццацігадовым, у шаснаццаць быў ужо аўтарам вядомай паэмы («Крыўда»), што, аднак, не прыбавіла яму паважнасці, а калі ўзяць пад увагу яго невялікі рост, стане зразумелым, чаму нейкі дасціпнік пусціў пра яго такую эпіграму:

Рамэн Ралан і Бернард Шоу
Купляюць цацкі Куляшову.

Пра гэта прыгадаў нядаўна вядомы беларускі паэт Сяргей Грахоўскі, які ведаў майго бацьку ўжо ў тыя далёкія гады. Мы з ім пасмяяліся і не без задавальнення адзначылі, што наўрад ці хто з сённяшніх паэтаў адмовіўся б ад такіх нянек.

Аднак я зусім не ўпэўнена ў тым, што нашага хлапчука-паэта магла задавальшць мянушка сысунка.

Не выключаиа, што якраз ёй, гэтай эпіграме, абавязаныя мы тым, што думка паэта пачала працаваць у кірунку, які даў даваеннай беларускай паэзіі праграмны верш Куляшова «Мая Бесядзь», яшчэ тады адзначаны Твардоўскім.

Кажуць, што рэкі птушкамі створаны,—
Такімі малымі на першы пагляд,—
Капалі і ў дзюбах адносілі ў бор яны
Мяшэчкі з зямлёй
І ляцелі назад.

А каня гуляла ды мыла іх здзекамі,
І птушкі наслалі ёй вечны праклён,
Таму і лятае яна над рэкамі
І просіць піць
Аж да сённяшніх дзён.

Канаючы ўлетку штодня на спякоце,
Той рэдкаю кропляй яна існуе,
Што хмарка, дажджом прашумеўшы
ў лістоце,
З нябёсаў часамі пашле для яе.

Я ўпарты, не кіну пачатае справы,
Каменне крышу,
Разграбаю пяскі,
Пад кпіны аматараў лёгкае славы,
Капаю рэчышча ўласнай ракі.
З надзеяй гляджу на крыніцу спатканую,
Хачу, каб яна разлілася ракой...
Не Волгай магутнай,
Не нават Камаю
Хоць Бесяддзю, што на радзіме маёй.

Бо прагай да працы ахоплены часта я,
І сэрца абпалена смагай радка,
Бо жыць не магу,
Як каня няшчасная,
Кропляй дажджу з лесавога лістка.
( «Мая Бесядзь», 1940)

Нават гэты ранні верш Куляшова — сведчанне таго, як сур'ёзна ставіўся ён да паэзіі — справы жыцця.

І вось ён, трыццацідвухгадовы, з выгляду той жа хлапчук з вечна пракуранымі пальцамі, ужо амаль што «жывы класік» савецкай літаратуры. А слава — хіба ж не выпрабаванне?

Здавалася мне слава явай блізкай
Тады, калі схілялася ў цішы
Паэзія, як маці над калыскай,
Над слепнем недасведчанай душы.

Каб рос хлапчук, не дбаючы аб цудзе,
Каб не лічылі людзі сысунком,
Яна да болю матчыныя грудзі
Пякучым націрала палыном.

Пасля, малыя выверыўшы крокі
На бітым шкле і на жарстве дарог,
Рукою паказала свет шырокі
І босага пусціла за парог.

З тых дзён, калі падносяць кубак славы,
Я лішняе спакусы не глыну.
Бо ўсё яшчэ мне помніцца гаркавы
На смаглых вуснах прысмак палыну.
(«Пра славу», 1973)

Тэма славы праходзіць праз усю творчасць Куляшова, а гэты верш — як вынік шматгадовага роздуму, падсумаванне, якое робіць паэт у пару сталасці. Тут усё: і захапленне пачаткоўца і абачлівасць мудрага.

«Талент — гэта даручэнне, якое неабходна выканаць любой цаной» — гэтак лічыў Баратынскі.

Калі верыць, што гэта сказана слушна, дык трэба прызнаць: самыя таленавітыя тыя, хто больш паслядоўна кіруецца сваім

прадвызначэннем, не зважаючы на шматлікія жыццёвыя акалічнасці.

Адсюль і донкіхотства таленавітых.

«Талент — пытанне колькасці,— пісаў амаль сто гадоў назад французскі пісьменнік Жуль Рэнар. — Талент не ў тым, каб напісаць адну старонку, а ў тым, каб напісаць іх трыста. Дужыя не хістаюцца. Яны садзяцца за стол, яны карпеюць. Яны давядуць справу да канца, яны спішуць усю паперу, яны звядуць усё чарніла. Вось у чым адрозненне людзей таленавітых ад маладушных... Літаратуру могуць рабіць толькі валы. Самыя магутныя валы — гэта геніі, тыя, што не пакладаючы рук працуюць па васемнаццаць гадзін у суткі. Слава — гэта бесперапынныя намаганні».

Я — вязень твой, а ты — мая турма,
Асуджан я любоўю пажыццёва.
Зняволенне маё датэрмінова
Ты скараціць спяшаешся дарма.

Дарэмна, заняволіўшы другога,
Ты варту памяншаеш мне ўдвая —
Не мае сэнсу гэта засцярога
І гэтая прадбачлівасць твая.

Я не збягу, пазбаўлены нагляду,
Не перастану ланцугом грымець,
Штодзень хадзіць на шпацыр па раскладу,
Галадаваць і ў карцэры калець.

Не можаш ты мяне пазбавіць мовы,
Змяніць мой лёс уладаю сваёй,
Не ты мяне абрала — вязень твой
Абраў цябе на тэрмін пажыццёвы.

(«Да паэзіі», 1960)

Не вытрымай мой бацька выпрабавапня славай, ён не глядзеў бы на сябе як на вязня паэзіі, яго не называлі б самаахвярнікам. Усё было б інакш, калі б, зрабіўшыся лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі, бацька палічыў магчымым дзяліць свае сілы паміж паэзіяй і прадстаўніцтвам у «ідэйным парламенце нацыі», а такая магчымасць у яго была, калі П.К. Панамарэнка ў 1948 годзе прапанаваў бацьку стаць сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Бацька быў разумным чалавекам, добрым дыпламатам, цудоўным прамоўцам і нават уласныя вершы чытаў без меладраматычнай

дэкламацыі, так, як і зараз іх не чытаюць нават лепшыя нашы акцёры. Грамадская кар'ера не патрабавала ад бацькі нічога такога, што было б недасягальным для яго, але сваім вышэйшым грамадскім абавязкам Куляшоў лічыў працу пры пісьмовым стале. Ён, які так рашуча адкідаў усё, што перашкаджала гэтай працы, не адмовіўся толькі ад пасады старшыні Беларускага камітэта абароны міру.

Я адрасую слова
Да Аб'яднаных Нацый.
Падпальшчык вайны нанова
Пляце ланцуг правакацый.

Ён хоча новай вайною
Людскія скасіць пакаленні,
Ад нас хаваючы зброю
Атамную ў кішэні.

Дазволіць я не жадаю,
Каб бомбу падпальшчык кінуў,—
Я дом пад страхою маю,
Што ўстаў нядаўна з руінаў.

На бомбу я накладаю
Сваё законнае вета,—
Я сына малога маю,
Хай знаюць, усе пра гэта.

Няхай жа гучаць набатам
Трывогі мае, надзеі.
Я гэта кажу дэлегатам
Шаноўнае Асамблеі!

(«Слова да Аб'яднаных Нацый», 1946)

Да працы ў Камітэце абароны міру бацька ставіўся як да абавязку воіна, але любой чыноўніцкай кар'еры пазбягаў, працягваючы штурмаваць вяршыні паэзіі зноў і зноў, кожны раз рызыкуючы страціць набраную напярэдадні вышыню.

Знамянальна, што якраз гэтая рыса характару бацькі была аднойчы — ці аднойчы, зрэшты? — выкарыстана «мудрымі» людзьмі. Справа ў тым, што наступнай адзнакай Куляшова ў паэзіі была Сталінская прэмія другой ступені, якую ён атрымаў за паэму «Новае рэчышча» ў 1949 годзе.

Калі ж праз два гады на атрыманне Сталінскай прэміі трэцяй ступені была вылучана яго паэма «Толькі ўперад», дык на пасяджэнні Камітэта па прэміях прагучала:

— Калі мы зараз дадзім Куляшову прэмію трэцяй ступені, дык распішамся ў тым, што развіццё яго як паэта ідзе па сыходнай лініі.

Выпрабаванне славай Куляшоў вытрымаў, таму што належаў да плеяды тых паэтаў, чыё даравапне падпарадкоўвае сабе чалавечы лес.

— Мой сябра беларускі паэт Аркадзь Куляшоў,— сказаў 13 красавіка 1984 года на вечары ў ЦДЛ, прысвечаным сямідзесяцігоддзю Аркадзя Куляшова, Кайсын Кулieў,— быў шчаслівым чалавекам, бо меў мужнасць займацца ў жыцці тым, для чаго быў народжаны — паэзіяй!

— Калі чалавеку ёсць што сказаць, ён скажа, чаго б гэта яму ні каштавала! — неаднойчы любіў паўтараць бацька, папракаючы мяне ў тым, што я не бяруся за пяро, спасылаючыся на жыццёвыя ўмовы.

Залежнасць лёсу сапраўднага паэта ад яго прызначэпня мой бацька ўсвядоміў ужо на пачатку свайго творчага шляху, а ў канцы яго даў увасабленне сваёй думцы і ў такіх радках паэмы «Варшаўскі шлях»:

Усім такія словы гаварыла
Паэзія, калі вяла ў паход:
«Не вер, што свет шырок, ён думкам цесны.
Хай ісціны старэюць з году ў год,
Хай сэрца разрывае гук жалезны,
А ты за ўсё ў адказе, мой балесны,
За справу, за дзяржаву, за народ.
Далёкае разгледзь арліным вокам,
Лаві на слых ледзь чутны крок бяды:
Мяне абраўшы, мусіш быць прарокам.
Як не прарокам,
кім жа быць тады?
Не бойся слова гучнага — прарок! —
Прарок не бога — праўды слых і зрок.

## КАБ ПАРАЎНЯЦЦА З НАШЧАДКАМІ

-----

Паэма М.Ю. Лермантава «Мцыры» абудзіла ў Куляшова моцнае пачуццё прыгожага. Спазнанае аднойчы, яно зрабілася патрэбай душы, асновай фарміравання характару.

Многія ведалі за бацькам такую рысу: ён не любіў пошласці, мяшчанскіх абгавораў і плётак. Ніколі не ганіў ён людзей і надта не любіў, калі хто-небудзь спрабаваў рабіць гэта ў яго прысутнасці. У такія хвіліны бацькавы вялікія шэрыя вочы вузелі, на твары з'яўляўся выраз болю, і ён імкнуўся альбо пайсці, альбо змяніць тэму гаворкі.

Не так даўно нас, блізкіх Куляшова, вельмі здзівіў адзін пісьменнік, які ў сваіх мемуарах адзначыў, што ён, мой бацька, меў невялічкія, вузкія вочы.

Мы доўга дзівіліся, не разумеючы, як можна было так памыліцца? Вочы ж майго бацькі былі не толькі вялікія, але і вельмі выразныя. Нашае недаўменне развеяла нечая здагадка: размова з гэтым чалавекам была для бацькі непрыемнай.

Хочацца сказаць яшчэ некалькі слоў пра колер бацькавых вачэй. Я іх ведаю светла-шэрымі з цёмным абадком.

Маці ж неяк расказвала, што калі яны пазнаёміліся, бацькавы вочы здаліся ёй блакітнымі.

— Выцвілі, мабыць, ад тытуню,— здагадалася яна, а я ўспомніла, што амаль кожны са старэйшых беларускіх пісьменнікаў, з кім мне даводзілася апошнім часам гаварыць пра маладога Куляшова, падкрэслівалі выразнасць яго вачэй, невысокую шчуплую постаць падлетка і... прасмаленыя пальцы.

— Твой бацька да вайны глядзеўся хлапчуком сярод дарослых,— сказаў мне неяк паэт бацькавага пакалення Сяргей Грахоўскі. — Яго і ўспрымалі спачатку так, напаўсур'ёзна.

У 1976 годзе, позняй восенню, бацька працаваў у санаторыі «Нясвіж».

Звычайна ён сяліўся там у пакоі нумар 61. Гэты двухпакаёвы нумар-люкс знаходзіцца за мурамі замка на крапасным вале.

Бацьку падабаліся тут і таўшчэзныя сцены, і спрыяльная для роздуму адасобленасць гэтага кутка, і магчымасць, калі спатрэбіцца, прымаць гасцей.

Трэба адзначыць, што, шукаючы неабходных для працы ўмоў, бацька сумаваў па блізкіх, бо прызвычаіўся жыць вялікай сям'ёй, і раптоўны пераход ад мнагалюднасці да адзіноты даваўся яму цяжка. Ён ніколі не прызнаваўся ў гэтым, бо ўвогуле не меў звычкі

скардзіцца на што б там ні было, але мы гэта разумелі, тым болей што аб гэтым сведчыў рытуал развітвання з намі, што паўтараўся кожны раз, калі мы адвозілі бацьку ў Нясвіж, альбо Аксакаўшчыну, ці Каралішчавічы.

Звычайна мы адвозілі яго ў санаторый ці Дом творчасці ў нядзелю і спяшаліся ў дарогу, бо альбо дзень падыходзіў к канцу, альбо чакала ў Мінску тэрміновая праца і г. д. Бацька ўсё гэта добра ведаў, але, не зважаючы ні на што, прасіў пабыць з ім, ставіў чай і не адпускаў, пакуль мы не пасядзім з ім за сталом.

У наступныя дні мы стараліся выкраіць час, каб наведаць яго, а калі-нікалі нават заставаліся ў яго з суботы на нядзелю.

Аднойчы такая магчымасць выпала нам па Кастрычніцкае свята, здаецца, таго ж 1976 года.

Мы ўжо збіраліся ад'язджаць, калі пазваніў бацькаў зямляк — магілявчанін, рускі паэт Ігар Шклярэўскі, які прыехаў у Мінск па нейкіх справах.

Раней ён некалькі разоў наведваўся да бацькі з другім паэтам, мінчанінам Навумам Кісліком, у той час, калі апошні перакладаў паэму Куляшова «Хамуціус».

Памятаючы, што гэта былі цікавыя, змястоўныя размовы з тых, якія прыносілі бацьку радасць, я прапанавала Шклярэўскаму паехаць з намі ў Нясвіж.

Ён прыняў запрашэнне, але паведаміў, што з намі паедзе яшчэ адзін маскоўскі паэт, яго спадарожнік Гарольд Эль-Рэгістан.

У Нясвіж мы трапілі ўвечары. Бацька сустрэў нас надзвычай ветліва, і мы арганізавалі застолле ў нумары. Завязалася размова пра маскоўскія літаратурныя навіны. Не памятаю, хто з нас, гасцей, быў павінны ў такім павароце гутаркі, але неўзабаве яна адхілілася ў бок ад літаратуры. Пачаліся расказы пра кур'ёзныя выпадкі, што здараліся з кім-небудзь з пісьменнікаў. Мы весела смяяліся, пакуль я выпадкова не зірнула на бацьку. Зірнула... і збянтэжылася. Ён сядзеў пахмурны, з выразам пакуты на твары, і яму ніяк не ўдавалася схаваць свайго настрою, хоць бачна было, што ён з усіх сіл стараецца зрабіць гэта.

Вось калі я зразумела, чаму бацька быў такі пераборлівы ў выбары сяброў (я маю на ўвазе тых з іх, каго ён выбіраў сам). Бацька ахоўваў у сабе неабходную для творчасці вышыню духу.

Затое які шчаслівы бываў ён, калі побач з'яўляўся хто-небудзь з сапраўдных сяброў-аднадумцаў, такія, як рускія паэты Аляксандр Твардоўскі, М. Ісакоўскі, М. Луконін, М. Дудзін, як украінцы Андрэй Малышка, Леанід Нервамайскі, Максім Рыльскі, Мікола Нагнібода,

Алесь Ганчар, як беларусы Пімен Панчанка ці Іван Мележ (я не гавару тут пра даўняе і цеснае сяброўства-супрацоўніцтва з Максімам Лужаніным альбо Якавам Хелемскім — з кожным сваё), як калмык Давід Кугульцінаў ці балкарац Кайсын Куліеў.

Сяброўства Куляшова з Кайсынам Куліевым і Давідам Кугульцінавым асабліва замацавала агульная страта — смерць Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага, якую бацька перажыў вельмі цяжка. Перш за ўсё гэта была для яго страта блізкага чалавека. Пакутаваў ён і ад таго, што лепшы паэт Савецкай краіны пры жыцці не быў як належыць ацэнены. І, нарэшце, смерць Аляксандра Твардоўскага, здавалася Куляшову, падвяла рысу пад творчасцю ўсяго паэтычнага пакалення, да якога ён адносіў і сябе. Невыпадкова ў нізцы вершаў «Запісная кніжка», прысвечанай Кайсыну Куліеву, Куляшоў напісаў такія, поўныя роспачы, радкі:

Галоўнае ўжо сказана. Што можна
Да сказанага некалі дадаць?

Аднак, як паказала жыццё, дадаць было што. Пасля 1971 года Куляшоў, апрача вершаў і перакладаў, напісаў дзве выдатныя паэмы — «Варшаўскі шлях» і «Хамуціус» — і, акрамя таго, пайшоў ад нас з задумамі яшчэ дзвюх паэм, кожная ў яго ўжо выспела і гатова была выліцца на паперу.

Я маю на ўвазе, па-першае, паэму пра нашага вялікага земляка Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага, рамантычная постаць якога даўно вабіла бацьку. Збіраючы дакументальны матэрыял для паэмы, бацька спісаў цэлы стос паперы (яго нататкі склалі таўшчэзную папку). Памятаю, як ён пераказваў нам многія факты з біяграфіі Жалезнага Фелікса. З асаблівым хваляваннем чытаў ён верш Дзяржынскага. Мне думаецца, што менавіта эмацыянальны бок асобы Фелікса Эдмундавіча рабіў яго блізкім майму бацьку.

Па-другое, Куляшова зацікавіла паданне пра дзяўчыну Хацім'ю (ён прачытаў яго ў «Віленскім календары» за 1910 год) — яе імя быццам бы легла ў аснову назвы мястэчка Хоцімск на Магілёўшчыне, дзе доўгі час жылі бацькі Куляшова і дзе зараз жыве яго маці.

Звычайна, вынасіўшы задуму паэмы, бацька з'язджаў у які-небудзь ціхі куток (у розныя часы гэта былі Хоцімск ці Елавец, Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў «Каралішчавічы», санаторый «Нясвіж», Нарач, дзе ў 1954 годзе ён пачаў будаваць дачу) і садзіўся пісаць.

Пісаў бацька «запоем», не шкадуючы сябе, падтрымліваючы неабходны стан і кавай і курывам. Я была на Нарачы якраз у той час (лета 1974 г.), калі ён пачаў працаваць над паэмай «Хамуціус».

Бацька зачыняўся ў сваім пакоі і працаваў па 16 гадзін, выходзячы толькі, каб зварыць сабе кавы (ён піў яе з вялікага кубка, які мы варожа ахрысцілі «цэбрам»),

Аднойчы, не вытрымаўшы, я падлавіла хвіліну і зайшла да яго. У пакоі і без таго было накурана, а ён зноў запальваў цыгарэту.

— Тата, што ты робіш? Хіба ж можна жыць у такім рэжыме?

— Жыць нельга — працаваць можна,— адказаў ён жартам. І дадаў ужо сур'ёзна: — Зразумей, інакш мне «Хамуціуса» не напісаць. У мяне няма для гэтага ні часу, ні здароўя...

Каб зразумець, што гэта азначала, трэба ведаць, што ў 1966 годзе бацька перанёс трэці інфаркт. Не ведаю, адкуль ён узяў гэта, але сцвярджаў, быццам медыцынская статыстыка сведчыць, што пасля трэцяга інфаркту людзі жывуць не больш як шэсць гадоў. Таму пасля 1972 года бацька жыў у кепскім прадчуванні.

Адыходзім, нібы ў падарожжа,
Мы ў той край, дзе вечны супакой.
Хутка і мая чарга, быць можа,
Тленныя пажыткі браць з сабой.

Любыя бярозы па-над кручай!
Ты, зямля! Прастор мой дарагі!
Перад гэтай доляй немінучай
Не магу я не адчуць тугі.

Вельмі ўжо любіў я ўсё на свеце,
Што ў палон душу маю ўзяло.
Мір асінам, што, прасцёршы веце,
Заглядзеліся ў рачное шкло.

Шмат я думаў у цішы маркотнай,
Шмат я песень аб сабе злажыў,
І на гэтай на зямлі гаротнай
Тым шчаслівы, што кахаў і жыў.

Тым шчаслівы, што на цёплых межах
Кветкі рваў, валяўся на траве
І звяр'ё, як пабрацімаў меншых,

Колькі жыў, не біў па галаве.

Знаю я, што шыяй лебядзінай
Не звініць там колас ні адзін.
Вось таму і вее дамавіннай
На мяне тугой ад дамавін.

Знаю я, што ў тым краі не будзе
Ніў, заліўшых золатам палі.
Вось таму мне любы свет і людзі,
Што жывуць са мною на зямлі.

Бацька перакладаў гэты ясенінскі верш на Нарачы залатой восенню 1975 года. Наша шматлікая сям'я ўжо раз'ехалася (летам на леціпічы за стол садзілася не мепш як тузін жыхароў нашага дома). Цяпер засталіся мы ўтраіх: ён і я з дачкой. У той дзень я, як звычайна, завіхалася на кухні, а бацька час ад часу выходзіў са свайго пакоя з перакладам новай страфы, каб параіцца. Пераклад гэтага верша даваўся яму асабліва цяжка. Звычайна бацька балюча рэагаваў на заўвагі блізкіх (матчыны і мае), а на гэты раз сам, відаць, адчуваў, што нешта не ладзіцца і прыходзіў, каб пераканацца ў слушнасці свайго ўражання.

Памятаю, што асабліва цяжка, з вялікай колькасцю варыянтаў, перакладаў ён другую і пятую страфы.

На жаль, я ўжо не магу іх прыгадаць, а рукапісы бацька звычайна знішчаў. Неаднойчы мы ваявалі з ім з-за гэтага, але бацька быў няўмольны. І чым больш я даводзіла, што рукапіс дае магчымасць зазірнуць у творчую лабараторыю паэта, тым больш упартым ён рабіўся.

— Не хапала толькі, каб потым у іх капаліся розныя там літаратуразнаўцы! — гаварыў ён з абурэннем.

Нарэшце я зразумела, што якраз ад гэтага пранікнення ў святая святых яго душы ён і бараніўся. Ішло гэта, відаць, ад прагі дасканаласці ва ўсім, а тым больш у галоўнай справе жыцця — паэзіі. Таму тое, што праходзіла этап эксперыменту, пошуку, было для яго тым запаветпым кутком, куды ён не хацеў пускаць нікога.

З усіх варыянтаў, што ў той дзень чытаў мне бацька, запомніўся толькі адзіны — страфа, якая напачатку гучала ў яго так:

Любыя бярозы па-над кручай!
Ты, зямля! Прастор мой дарагі!
Перад гэтай доляй немінучай

Не магу стрымаць сваёй тугі.

Толькі к вечару верш загучаў так, як мы яго сёння чытаем, і бацька прыйшоў, каб прачытаць яго мне. У голасе яго чуліся задавальненне і адначасова тая самая туга па ўсяму прыгожаму на зямлі, з чым надыходзіць час развітацца.

Пасля завяршэння паэмы «Хамуціус» стан здароўя бацькі рэзка пагоршыўся. Ён ужо самастойна пе выходзіў з кватэры, а на Нарачы не мог прайсці да санаторыя, дзе звычайна купляў газеты. «Па прэсу» бегала цяпер малая Вольга. Бацька казаў, што хадзьба павялічвае ў яго арытмію. А ён жа быў з тых вясковых хлапчукоў, хто ў дзяцінстве і юнацтве сходжваў па грыбы ды ягады дзесяткі кіламетраў і для каго лес улетку замяняў родную хату. Ён і ў Каралішчавічах і на Нарачы доўгі час лічыўся першым грыбнікам ды ракаловам. Але...

Цяперашні этап здароўя не дазваляў яму распачаць новую вялікую работу, і натхненне праходзіла, гарачае вуголле нерэалізаванай задумы пакрываў халодны попел. З'яўляліся новыя ідэі, бацька захапляўся імі. Да студзеня 1978 года ён «выпасіў» ужо дзве паэмы, але калі б яму ўдалося прыняцца за работу, магла «перамагчы» і трэцяя, задума якой была свежая.

Неўзабаве пасля смерці А.Т. Твардоўскага бацька, перажываючы страту, часта вяртаўся ў размовах да Аляксандра Трыфанавіча, гаварыў пра тое, якую ролю ў яго ўласным паэтычным лёсе адыграў старэйшы таварыш. Не буду спрабаваць пераказаць тут усё, што я тады пачула, бо ёсць магчымасць сказаць пра галоўнае вуснамі Аркадзя Куляшова. Яго стаўленне да Твардоўскага як паэта выказана ў артыкуле «Аб новай зямлі», напісаным да шасцідзесяцігоддзя вялікага савецкага паэта. Я ж прывяду ўрывак, у якім бацька вызначае месца паэмы Твардоўскага «Краіна Муравія» ў савецкай літаратуры. Аднак, перш чым даць бацьку слова, хачу сказаць ад сябе, што добра памятаю той прадваенны час, калі з вуснаў майго бацькі не сыходзілі словы «Краіна Муравія», а імя Мікіта Маргунок гучала часцей, чым імёны любога з дамашніх. Мне было тады гады два-тры, і я, вядома ж, не разумела, ні як уварваўся ў нашае жыццё гэты неспакойны Мікіта, ні адкуль з'явілася гэтая цудоўная зялёная краіна.

Затое на ўсё жыццё запала мне ў душу адчувапне, што з іх з'яўленнем у нашым доме запахла азонам, стала неяк свежа, сонечна і святочна, як пасля веснавой навальніцы.

«З'яўленне «Краіны Муравіі»,— гаворыць Куляшоў,— зрабіла на нас, першых яе чытачоў, ашаламляльнае ўражанне. За кожным радком

мы пазнавалі навакольнае жыццё, здзіўляліся мноству дэталяў новай савецкай рэчаіснасці, што прыкмечаны паэтам. І хоць у кожнага з нас выйшла з друку не адна кніжка вершаў, мы зразумелі, што, па сутнасці, намі яшчэ нічога не створана. Мы — маладыя тады паэты — па-добраму зайздросцілі Твардоўскаму і радаваліся, зразумеўшы, якой павінна быць паэзія».[2]

Тады ж бацька неяк успомніў адну сваю размову з Аляксандрам Трыфанавічам. Яна адбылася, здаецца, у Барвісе, у санаторыі, дзе ў 1964 годзе бацька падлечваўся пасля інфаркту. Твардоўскі, які любіў бацьку, відаць, як малодшага брата, сказаў яму тады з ноткай смутку ў голасе: «А знаешь, Аркаша, какие чудесные стихи я бы написал на твою смерть!»[3]

Бацька расказваў гэта, заліваючыся шчаслівым смехам. І мы зразумелі, што і пра смерць яны гаварылі абстрактна, безадносна да сябе, выключна як пра падставу для творчасці.

І вось Твардоўскага не стала. Хто ведае, ці з'явіўся б на свет «Варшаўскі шлях», калі б лёс Твардоўскага быў больш шчаслівы...

Але, па Цютчаву, «нам сочувствие даётся, как нам дается благодать»...

Прысвечаная памяці Аляксандра Твардоўскага паэма «Варшаўскі шлях» — гэта перш за ўсё расказ Куляшова «пра час і пра сябе», але і рэквіем Твардоўскаму, сабе і ўсім сапраўдным паэтам усіх часоў...

Вайна ягоны век укараціла?..
Хвароба?.. Не!
Не падуладна ім
Любоў да працы прагнай, што спаліла
Звышчалавечым высілкам сваім
Яго жыццё, нібы маланка лес,
Які ў агні самазнішчальным згінуў.

«Самазнішчальны агонь» у Аркадзя Куляшова — гэта агонь творчасці.

---

[2] Аркадзь Куляшоў. Збор твораў у 5 т. Т. 5. С. 460.
[3] Доказаў таму многа, і адзін з іх — аўтограф на тытульнай старонцы кнігі «Теркин на том свете»:
Нам тому не кланяться,
С нами этот свет,
«Маленький» мой пьяница
И большой поэт!

Я неяк прысутнічала пры размове бацькі з Варленам Бечыкам, у якой ён прызнаўся апошняму, што працэс творчасці суправаджаецца ў яго ні з чым не параўнальным адчуванпем... палёту.

Я ўжо згадала пра тое, што ў апошнія гады жыцця майго бацькі асабліва цесным стала яго сяброўства з Кайсынам Куліевым і Давідам Кугульцінавым. Звычайна яны сустракаліся ў Маскве, у час розных мерапрыемстваў Саюза пісьменнікаў СССР, сесій Вярхоўнага Савета СССР альбо проста дамовіўшыся аб сустрэчы. Сустракаліся яны і ў Мінску на тэлевізійным аўтарскім вечары Аркадзя Куляшова ў 1973 годзе, на яго юбілейным вечары ў 1974-м, у перыяд працы бацькі над перакладам «Кнігі зямлі» Куліева на беларускую мову і г. д.

Як цешыла бацьку гэтае высакароднае сяброўства! Як многа гаварыла яго душы!

Аднойчы, а гэта было ў апошні прыезд Куляшова ў Маскву 20-22 снежня 1977 года, калі ён выступаў на аўтарскім вечары Кайсына Куліева па Цэнтральным тэлебачанні, яны, сустрэўшыся ў гасцініцы з Давідам Кугульцінавым, прагаварылі... 21 гадзіну!

Пра характар іх размоў Давід Мікітавіч расказаў мне наступнае: «Мы часта гаварылі з ім пра рэчы на першы погляд далёкія ад літаратуры. Гаварылі пра адкрыцці Гердана, англійскага генетыка, пра адкрыцці Нікіцінай, нашага савецкага вучонага, якая працуе ў той жа галіне, гаварылі пра адкрыцці Поля Дзірака, вялікага англійскага фізіка, нашага сучасніка, які, па сутнасці, адкрыў антыматэрыю.

Разважалі мы і пра тэорыю квантаў і пра многае яшчэ, што на першы погляд не ман нічога агульнага з нашай справай, паэзіяй. Але нягледзячы на тое, што ні я, ні Аркадзь не займаліся гэтымі навукамі глыбінна, іх дасягненні мелі непасрэднае дачыненне да яго паэзіі, бо тое, над чым ён працаваў, Куляшоў рабіў не на адзін дзень.

Калі б у мяне спыталіся, якія рысы яго асобы я лічу галоўнымі, я б назваў мужнасць і мудрасць. Вялікая мужнасць і вялікая мудрасць яго былі ў тым, што ён не спяшаўся браць ад жыцця тое, што яно яму прапапавала. Некаторыя хапалі, а ён не дакранаўся. А каб не спакусіцца на тое, што ідзе ў рукі, патрэбна многа мужнасці і многа мудрасці. Ён жа не рабіў гэтага, бо разумеў, як часта тое, што возьмеш сёння, аддаляе ад цябе тое, што ляжыць далёка ў часе.

Будучыня, далёкае судзяць нас па нашых справах строга, але аб'ектыўна і справядліва. Куляшова не вабілі лёгкія поспехі. Ён думаў аб сабе, аб блізкіх, аб сваім народзе, аб чалавецтве як сын, як асоба зацікаўленая. Таму да ўсяго ён ставіўся як да таго, што належыць і

яму самому, і не толькі яму сённяшняму, але і заўтрашняму, яму будучаму.

Мы гаварылі з ім не толькі пра жыццё, але і пра смерць. Калі ён гаварыў пра смерць, дык уяўляў яе сабе як мяжу, праз якую трэба пераступіць у тую далячынь, адкуль і ён будзе глядзець на сябе сённяшняга, адкуль будуць глядзець на яго нашчадкі і праз яго пазнаваць наш час. Ён добра разумеў, што яго талент належыць не яму аднаму і нават не столькі яму, колькі яго народу.

Усведамленне свайго лёсу, свайго выбранніцтва, свайго абавязку даецца не кожнаму. Калі б яно давалася кожнаму, тады, магчыма, і ў жыцці, і ў паводзінах многіх з нас усё было б іншым — больш прадуманым, больш мудрым, больш добрым...»

Такія сустрэчы былі для бацькі святам душы, ад якога часам перападала і нам, блізкім.

Гаворачы пра «пераборлівасць» майго бацькі ў сяброўстве, я назвала некаторых з яго сяброў-літаратараў. Але мне не хацелася, каб у чытача склалася ўражанне, што Куляшоў сябраваў выключна з людзьмі свайго асяроддзя.

Калі ў творчасці выпадала паўза і здароўе дазваляла вырвацца на радзіму, бацька з захапленнем кідаўся ў вір кантактаў: ён гутарыў з роднымі, аднавяскоўцамі, з любімым настаўнікам, з саматэвіцкімі трактарыстамі і елавецкімі пастухамі, а калі гэта здаралася на Нарачы, дык з тымі, хто адпачываў у санаторыі, куды бацька, пакуль мог, хадзіў гуляць у шахматы.

Неяк у санаторыі «Нясвіж», калі, напрацаваўшыся, бацька выйшаў пагуляць у шахматы, да яго ў напарнікі выпадкова трапіў Аляксандр Данілавіч Раманаў, журналіст, чалавек значна маладзейшы за бацьку.

Бацька яго не ведаў. Пачалася гульня: зусім неспадзявана для бацькі гуляў той у шахматы вельмі добра. Спецыялісты сцвярджалі, што на ўзроўні кандыдата ў майстры спорту, калі не вышэй, яго абыгралі. Уражаны, бацька толькі зараз прыгледзеўся да свайго партнёра. Дзёрзкі малады чалавек меў жывы, рухавы твар.

— Адкуль ты, такі шустры? — спытаўся ў яго бацька.

— Адтуль, адкуль і вы, Аркадзь Аляксандравіч,— прагучаў адказ — З тых самых Саматэвічаў!

— Дык хто ж ты такі?! — усклікнуў Куляшоў, кідаючыся абдымаць земляка.

— Я — Саша Раманаў, сын вашай аднакласніцы Агаф'і Ларковай.

— Дык дзе ж ты, такую тваю растакую, прападаў? Чаму не прыходзіў?

— Прабачце, Аркадзь Аляксандравіч, неяк няёмка было...

Шахматы бацька вельмі любіў. Нават я памятаю, што перад вайной ён часам з-за іх вяртаўся дадому раніцой.

Гэтая гульня, мне думаецца, была для бацькі адначасова адпачынкам і гімнастыкай мозгу. Гуляючы ў шахматы, бацька заўсёды знаходзіўся ў добрым гуморы, жартаваў і балбатаў.

Расказваючы пра першыя пасляваенныя гады ў Саюзе пісьменнікаў БССР, Аляксей Русецкі ўспамінае такі эпізод: «Звычайна ў канцы рабочага дня ў Саюз наведваўся Куляшоў, каб з кім-небудзь згуляць у шахматы. Найчасцей партнёрам быў Павел Кавалёў, тагачасны адказны сакратар Саюза. Іх абступалі «балельшчыкі». Сваіх партнёраў Куляшоў часта азадачваў чарговым ходам. Яны надоўга задумваліся. А ён не проста браў фігуру праціўніка, а жартаўлівым жэстам падсякаў яе рукой з прымаўкай: «Цап-лап» альбо, недзе прачытаўшы на дзвярах: «Габінет урача», казаў: «Габ і нет урача...» І тут адчувалася яго няспынная праца над словам».

Усё жыццё сярод сяброў бацькі былі шахматысты. Наш дом часта наведваў майстар спорту па шахматах Павел Верасаў, добры шахматыст Яўмен Рыгоравіч Канавалаў, акадэмік і вучань Кацярыны Фамінічны Ратабыльскай, як потым высветлілася. А з 1969 года бацька гуляў у шахматы пераважна з суседам, тады студэнтам кансерваторыі Расціславам Бузуком. У пяцідзесятых гадах бацька нават прняў удзел у рэспубліканскім турніры па шахматах, дзе заняў другое месца, за што і атрымаў прыз — паляўнічую стрэльбу.

Акрамя шахмат, бацька захапляўся гарадкамі. Памятаю, як з яго лёгкай рукі гуляў у гарадкі ўвесь Дом творчасці «Каралішчавічы» (гэта было з 1949 да 1952 года, калі ўся наша сям'я праводзіла там лета). А ў Мінску бацька нязменна браў мяне з сабой у парк імя Чэлюскінцаў, дзе збіраліся мінскія гарадошнікі. Многія гады, пачынаючы з 1946-га, я хадзіла з ім амаль на кожны футбольны матч.

Увогуле ж, гаворачы пра выбар сяброў, варта адзначыць выключную дэмакратычнасць майго бацькі. У яго нават і ўяўлення не было пра нейкую там «саслоўнасць», ніколі не набіваўся ён у дружбакі так званым «патрэбным» людзям, ніколі нідзе не карыстаўся сваім званнем пісьменніка, а людзей на пасадзе абходзіў, баючыся, каб яго не западозрылі ў карысці. Сардэчная прыхільнасць была для яго адзіным матывам сяброўства. Так ствараў ён для сябе эмацыянальна дадатны клімат — неабходную ўмову паспяховай творчасці.

Такім складам душы тлумачыцца, відаць, і бацькава вернасць памяці сяброў юнацтва — паэтаў Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенкі, трагічную разлуку з якімі ён ніколі не змог забыць, а яго «Маналог»,

прысвечаны ім цыкл вершаў, стаў для Куляшова «аглядкай на свае магілы», калі карыстацца паэтычным вобразам Ільы Эрэнбурга.

Сябры мае! Пад пустак дыванамі
Ці не абрыдла безназоўнасць вам?
Дзе дзверы, што замкнуліся за вамі?
Як вас знайсці? Якіх пытацца брам?

Маўчыць нябыт каменных пліт паважных,
Дзе з надпісаў дажджы змываюць пыл,
Там я блукаў, але імёнаў вашых
Не адшукаў на вокладках магіл.

Няма куды сваю жалобу ўкласці
Ні жонкам, ні знаёмым, ні бацькам.
Сябры мае, хіба аб гэткім шчасці
У маладосці марылася нам?

Вяло нас музы строгай блаславенне
На шлях цяжкі, ды што казаць аб тым...
Я — ваша памяць, вы — маё сумленне,
Я — дрэўка, вы — трывалы сцяг на ім.

Наколькі я разумею свайго бацьку, для яго паняцце «мінулае» было вельмі адноснае. Ён быццам існаваў ва ўсіх вымярэннях адначасова: сіла пачуцця не дазваляла забыць тое, што было, і таму мінулае для яго было толькі тым, што прайшло ў часе, але засталося жывым у памяці і сэрцы, дзе яно пасялілася навечна, стаўшы часткай асобы паэта, яго душэўнага вопыту. Таму да гэтага «мінулага» ён звяртаецца ў вершах з той жа натуральнасцю, як і да сучаснасці, нават стыкуючы іх часам.

Сябры, каго вайна скасіла кулямі,
Дыханне ваша чую за спіной.
Зноў грозна, разварушанымі вуллямі,
Гудуць франты... Не ціхне вечны бой.

Зноў прыпадае з жалем Бесядзь родная
Да каранёў дубоў, да ног сяліб —
Хвалюецца, што нечысць вадародная
Даверлівых яе атруціць рыб.

Дубы глядзяцца ў глыб ракі, і кволыя
Спяшаюцца да завадзяў сады,

Каб стрэсці з плеч напалмавае полымя,
Што прагне перакінуцца сюды.

Вам цяжка дыхаць, вы ў адчаі просіце
Зямлю, каб адпусціла вас назад
На вольны свет. Я знаю,
вы зайздросціце
Жывым. А ім хіба лягчэй нашмат?

Гэтак жа натуральна побач з сучаснасцю жыла ў душы Куляшова будучыня.

Прымі прывітанне, бясконцы сусвет
Далёкіх Цэнтаўраў і Львоў,
Далёкі таварыш, далёкі паэт
З няходжаных Млечных Шляхоў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мы творчаю прагай разбурым мяжу,
Працуй над складанасцю схем,
І я калі-небудзь табе раскажу
Урыўкі пачатых паэм.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Тады мы ў прасторы абжытых планет —
Да іх жыхароў і жылля —
Ад нашых хацін адашлём свой прывет:
«Увага!..
Гаворыць...
Зямля!»

(«*** Як дзень адыходзіць...», 1930)

Мне неяк трапіўся на вочы крытычпы артыкул 30-х гадоў, у якім аўтар, маючы на ўвазе падобную «касмічную» тэматыку ў вершах Куляшова, абвінавачвае паэта ў «адцягненасці» яго паэзіі.

Не падумаў паважаны крытык, што словам «адцягненасць» ён ненарокам акрэслівае ў Куляшова другое паняцце — «прадбачанне». Сваю размову з жыхаром пазазямной цывілізацыі паэт вёў у... 1930 годзе, калі нават трактар многім, у тым ліку і самому Куляшову (прыгадайце: «Я за трактарам калісьці бег, кінуўшы ў агонь вярцёл ды сала...»), яшчэ здаваўся цудам тэхнікі. А паэт ужо загаварыў пра касмічныя палёты, ды так натуральна, нібыта быў паплечнікам другога, яшчэ невядомага ў той час летуценніка, будучага Галоўнага Канструктара Сяргея Каралёва.

Куляшову было тады 16 гадоў, узрост, калі на фарміраванне асобы можна яшчэ ўплываць. Але дзякуй богу, што ён аказаўся «цяжкім падлеткам» і пакінуў без увагі навучанні «цвярозага» крытыка.

Верш «Як дзень адыходзіць» стаў пачаткам асваення Куляшовым касмічнай тэмы, якая заставалася новай у савецкай паэзіі яшчэ і ў перыяд напісання яго верша «Зямля», што ўбачыў свет у 1947 годзе. Тэма космасу займала фантазію Куляшова трывала. Памятаю, якія спрэчкі вяліся ў нашым доме пра паходжанне тунгускага метэарыта пасля нейкай публікацыі 1946 года. Бацька тады даказваў, што гэта быў іншапланетны карабель. Цікавасць да праблем космасу радніла яго з рускім паэтам Сяргеем Арловым і беларускім Піменам Панчанкам, сустрэчы з якімі звычайна ператвараліся ў «сімпозіумы» па праблемах космасу.

Мне думаецца, што верш «Зямля» для Куляшова — наступны этап засваення касмічнай тэмы, на якім яна ўжо арганічна ўваходзіць у светаадчуванне паэта як яго частка.

Зор вам ніяк не злічыць, астраномы,
Вабіць даўно вас сусвет незнаёмы.
Колькі вы ў марах ракет
Збудавалі,
Колькі планет
Вы на іх абляталі?

Тысячагоднія вашы намеры
Спраўдзяцца некалі не на паперы.
Вас у абдымкі касмічнага пылу
Кіне матор на ўсю моц, на ўсю сілу.

Ён, несучыся наперад нястомна,
Будзе вучыць вас, як жыць эканомна:

Дасць вам на суткі паветра з балону,
Каб вашы сэрцы не ведалі скону,

Дасць і вады з механічнае флягі
Столькі якраз, каб не ўмерлі ад смагі.

Дасць вам аднойчы, адкінуўшы шторы,
Глянуць з ракеты імклівай на зоры.

Так вам убачыць здалёк давядзецца
Зорку, якая зямлёю завецца.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пра сваё ўражанне ад гэтага верша праз многа гадоў напіша ў сваёй кнізе чалавек касмічнай эры, касманаўт беларус Пятро Клімук: «Я ажно вачам не паверыў, убачыўшы над ім дату: 1947. Быць не можа! Яшчэ раз прачытаў, пасля яшчэ — як тут не падзівіцца сіле паэтычнага ўяўлення. Не, нездарма кажуць, што паэзіі падуладна ўсё!»

Канчатковы этап засваення Кулятшовым касмічнай тэмы — гэта зборнік вершаў «Новая кніга», кніга філасофскай лірыкі. Кожны з яе вершаў можа служыць доказам таго, што касмічная тэма ў лірыцы паэта і яго светаадчуванні зрабілася ўжо такой важкай, што перавяла само гэтае светаўспрыманне на якасна новую ступень — ступепь касмічную. І ў гэтым перш за ўсё, на маю думку, сапраўднае наватарства «Новай кнігі». Як прыклад наўмысна прывяду тут не самы характэрны ў гэтым сэнсе верш, у якім аўтар звяртаецца ўсяго толькі да каханай жанчыны:

Праз дзесяць год ты з'явішся з-за хмары,
Закончыўшы касмічны свой палёт,
А на зямлі, па вылічэнню мары,
Гадоў міне не менш, як восемсот.

Не знаю я, што, прыляцеўшы з неба,
Вачыма новых дзён убачыш ты,
А толькі не шукай, шукаць не трэба,
Сярод магільных пліт маёй пліты.

Лепш завяжы любімую хусцінку,
Сатканую з праменняў і нябёс.
І хай нясе цябе, сваю дзяўчынку,
На лёгкіх крыльцах неўміручы лёс.

Нясе на месца тое, дзе спатканне
У нас з табой апошняе было —
Там будзе спачываць маё каханне,
Што без кахання век свой пражыло.

Гэты верш, напісаны праз год пасля таго, як у космас паляцеў першы чалавек, сведчыць, між іншым, і пра тое, што Куляшоў ужо

быў добра падрыхтаваны, каб адгукнуцца на падзею, што ўзарвала стары светапогляд зямлян, вершамі, у якія новае ўвайшло арганічна.

Асабліва добра адчуваецца арганічнасць куляшоўскіх вершаў касмічнага цыкла, калі параўнаць іх з тым чатырохрадкоўем, якім у 1957 годзе адгукнуўся на выхад на арбіту першага савецкага спадарожніка Зямлі адзін з вядомых савецкіх паэтаў:

Запускали мы ракету.
А она, ракета та,
Превратилася в планету
И летает — красота!

На новай ступені асэнсавання касмічнай тэмы для Куляшова характэрна абвостранае хваляванне за лёс Зямлі і чалавецтва. І невыпадкова, што яго стылёвая манера вызначаецца глыбокім драматызмам, выключнай цеплынёй і лірычнасцю. Тут мы маем справу з канкрэтным чалавекам, яго настроямі і пачуццямі, а не з рацыяналістычным «планетарызмам» шмат якіх паэтаў-папярэднікаў.

Таму, калі гаварыць пра тэму будучыні ў паэзіі Аркадзя Куляшова, варта адзначыць, што, як трапна сказаў пра такіх людзей вядомы амерыканскі паэт Роберт Лоўэл, ён быў тым, «хто абганяе сваю эпоху, каб параўняцца з нашчадкамі», а гэта значыць — сапраўдным паэтам.

# САМАТЭВІЧЫ

-----

Праглядаючы бацькавы падшыўкі часопіса «Новый мир» за 1969 год, я знайшла ў адным яго нумары лісток паперы, які служыў некаму, хто чытаў федзінаўскі «Костёр», закладкай.

З хваляваннем, як вестку з мінулага, узяла я ў рукі гэтую паперку.

Можна сабе ўявіць, якім было маё расчараванне, калі я зразумела, што аніякай сувязі з бацькам яна не мае.

Аказалася, што гэта спіс дзяжурных афіцэраў воінскай часці, у якой тады служыў мой муж Валерый Бязручкін.

Перабіраючы ў памяці здарэнні тых гадоў і амаль механічна праглядаючы спіс, я раптам адчула, што нешта ў ім мяне грэе.

«Што б гэта магло быць?» — здзівілася я і ўзялася нанова перачытваць паперку з прозвішчамі: Белкін В.А., Шуб Т.А., Дабраловіч Т.І., Кудловіч Н.Т., Саматыевіч П.І. ...

Саматыевіч! Вось яна, прычына радасці, што скаланула душу!

Паходжанне назвы бацькавай роднай вёскі, наколькі я памятаю, заўсёды выклікала цікавасць і ў яго, і ў яго блізкіх. Яна кожны раз узнаўлялася, калі бацьку даводзілася пісаць свае нешматлікія біяграфічныя нататкі.

Самацеевічы, Саматэвічы, Саматэевічы і нават Самацэвічы, як толькі ні прыкідваў бацька і ў рэшце рэшт спыняўся на Саматэвічах па фанетычных меркаваннях, бо этымалогія яму ўсё роўна не давалася. Малая радзіма, дзе бацьку, на жаль, даводзілася бываць не так часта, як хацелася б, прыцягвала яго стала. Пачуццё сувязі з краінай маленства і юнацтва было для бацькі чымсьці моцным і трывалым. Пра гэта красамоўна сведчыць лірыка Куляшова, нават даваенная, вершы, якія выйшлі з-пад пяра зусім яшчэ маладога чалавека.

Калі сівым зраблюся дзедам,
Усімі паважаны госць,
У вёску родную прыеду,
У ельнік,
Што за вёскай ёсць.

Убачу радасныя змены,
Што сябра мой — таксама дзед,
Ў бакоўцы захавалі сцены
Сляды знаёмых нам газет.

Ў раённай выцвіўшай газеце
Знайду
«Паведамленне ТАСС»
І ўспомню ўсё, чым жыў на свеце,
І ўсё,
што хвалявала нас.

Захочацца з юнацкай далі
Яшчэ раз навіну пачуць,
А там,
як класікі пісалі,
На век забыцца і заснуць.
(«Паведамленне ТАСС», 1940)

Але стан здароўя, абставіны жыцця, адлегласць і магілёўскае бездарожжа прывялі да таго, што з 1954 года бацька не быў на радзіме.

Адведзіны ўзнавіліся ў 1972-м, калі мне ўдалося ўгаварыць бацьку адважыцца на вандроўку. Сваю настойлівасць я тлумачыла тым, што самы цяжкі адрэзак шляху — 35 км, якія звязваюць Касцюковічы з Хоцімскам, ужо заліты асфальтам. Былі ў мяне і іншыя, патаемныя намеры.

У снежні 1971 года мне прапанавалі перайсці на працу ў Галоўную рэдакцыю літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Асвоіўшыся крыху з працай, я заўважыла, што ў фондах тэлебачання няма матэрыялаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю дзеячаў беларускай культуры і, у прыватнасці, літаратуры.

Працуючы ў далейшым у гэтым напрамку (як аўтар ці рэдактар тэлеальманаха «Літаратурная Беларусь», цыкла пісьменніцкіх тэлемемуараў «Старонкі памяці» і аўтарскіх вечароў народных пісьменнікаў БССР), я зразумела, што на шляху рэалізацыі гэтай праграмы стаіць шэраг перашкод.

Перашкоды былі не толькі суб'ектыўнага характару, але і аб'ектыўныя — ліміты кінастужкі, адсутнасць аператыўнай кінакамеры і г. д.

Тым не менш удалося ўтрываліць на кінастужцы Міхася Лынькова, Петруся Броўку, Пімена Панчанку, Аркадзя Куляшова, Міколу Аўрамчыка, англічаніна-перакладчыка Уолтэра Мэя, балгарскіх паэтаў Івана Давідкава, Найдзена Вылчава, Хрыста Радзеўскага, Андрэя Германава і іншых.

Працоўны кантакт з творчымі людзьмі даў мне як журналісту вельмі многа.

Прывяду прыклад. Восенню 1974 года пасля перагавораў, якія цягнуліся літаральна месяцамі, мне ўдалося «зацягнуць» у студыю народнага пісьменніка Беларусі Пімена Панчанку.

Гэта павінна было быць яго першае выступленне на тэлеэкране. Разам з Панчанкам мы запрасілі і Генадзя Бураўкіна, паэта маладзейшага пакалеыня.

Выступленні рыхтаваліся для тэлеальманаха «Літаратурная Беларусь», і сваю рэдактарскую задачу я разумела так: паэты розных пакаленняў, выступаючы перад тэлегледачамі з новымі вершамі, скажуць некалькі слоў і пра гісторыю іх узнікнення.

У тыя часы тэлебачанне, ва ўсякім разе наша, беларускае, падобнай практыкі не мела, і мне здалося, што жывое слова пісьменніка ўнясе нотку непасрэднасці ў яго кантакт з гледачом.

Аднак калі перад пачаткам запісу я выказала выступаючым сваю думку, Пімен Емяльянавіч раптам збянтэжыўся, у той час як Генадзь Мікалаевіч толькі кіўнуў галавой і адразу ж пацвердзіў сваю згоду справай.

У выступленні Пімена Емяльянавіча мы абмежаваліся толькі вершамі, а ўступнае слова пра іх сказаў потым вядучы.

З гэтакім унутраным спалохам трымаўся заўсёды перад тэлекамерай і мой бацька, які заўсёды рабіў нешта адно і гэтым адным часцей за ўсё была творчая праца.

У далейшым, запісваючы пісьменніка для тэлеперадачы, мы імкнуліся адштурхоўвацца ад уласцівасцей асобы выступаючага.

Так, Петруся Броўку, напрыклад, мы запісалі з расказам пра пісьменнікаў, якіх бачым побач з ім на фотаздымках асабістага архіва Петруся Усцінавіча.

Міхась Ціханавіч Лынькоў расказаў пра сустрэчы з Купалам, а паэт Мікола Аўрамчык выступіў з успамінамі пра класікаў беларускай літаратуры, празаікаў Кузьму Чорнага і Змітрака Бядулю, а таксама паэтаў Аркадзя Куляшова, Аркадзя Гейне, Міколу Сурначова і іншых.

Пра ўсё гэта можна было б і не нагадваць, калі б наведванне радзімы бацькі не было звязана з рэалізаванай тады ж задумай дакументальнага фільма пра Аркадзя Куляшова.

Усведамленне, што я жыву побач з вялікім паэтам, было ў мяне заўсёды. Таму я лічыла сваім абавязкам зняць бацьку на кінастужку, каб захаваць яго чалавечы воблік для патомкаў.

Ведаючы, што знятыя па тэлебачанні матэрыялы не могуць захоўвацца доўга, а часам і губляюцца, я зразумела, што калі мне пашчасціць схіліць бацьку стаць перад аб'ектывам, гэта павінен быць аб'ектыў кінакамеры.

Калі ж я завяла размову пра гэта на кінастудыі «Беларусьфільм», мая прапанова, як на дзіва, не выклікала захаплення, а нехта нават зрабіў заўвагу, што Куляшоў як аб'ект для кіно не цікавы з-за сваёй неэмацыянальнасці.

Такое меркаванне здзівіла мяне сваёй абсурднасцю і прымусіла задумацца над прычынамі яго ўзнікнення.

І мне ўспомнілася, як выглядаў мой бацька, калі трапляў у кадр кінахронікі дзе-небудзь у апошніх радах прэзідыума. Твар яго ў такія хвіліны бываў напружаны і сведчыў адзіна пра тое, што ён замкнуўся ў сабе.

Так, зразумела я, задача не з лёгкіх... Калі ж улічваць у сцэнарыі і ўсе патрабаванні хадульнага кінаканона тых часоў, зусім нерэальная.

І я пачала перабіраць у памяці ўсе сітуацыі жыцця майго бацькі, у якіх яго выпрацаваная замкнёнасць саступала прыроднай непасрэднасці.

І знайшла! Радасць сустрэчы з роднымі мясцінамі, сябрамі юнацтва, бацькамі, аднавяскоўцамі — вось дзе бацька не стане замыкацца! Фільм будзе, зразумела я, і, угаварыўшы бацьку ехаць са мной на радзіму, панесла заяўку на кінастудыю.

Аднак падтрымкі я там не знайшла. Вялікае дзякуй рэжысёру Уладзіміру Паўлавічу Цеслюку і яго сыну Уладзіміру Уладзіміравічу, вядомаму ўжо сёння кінааператару і рэжысёру-дакументалісту, які толькі ўступаў тады на шлях бацькі.

Яны выпадкова ўбачылі на стале ў рэдактарскай заяўку, выпісалі тысячу метраў кінастужкі пад «адыходзячую натуру», пазванілі нам, і мы рушылі ў дарогу ў край маленства, туды, адкуль усё пачыналася і ў жыцці і ў творчасці Куляшова і чаму ён прысвяціў цудоўныя радкі прадмовы да паэмы «Далёка да акіяна». Вось фрагмент яе:

Жыццё —
шляхоў і рэк падабенства:
Рух падарожны распачынае
Юнацтва наша
з крыніц маленства
І ў акіян небыцця
ўпадае.
Жыццём агораўшы

век суровы,
Адбедаваўшы
час навальнічны,
Людская памяць
плысці гатова
Зваротным шляхам
у край крынічны.

Мы выехалі з Мінска другога ліпеня. За чатыры дні, што былі адведзены нам на здымкі, кінагрупа наведала тыя мясціны Магілёўшчыны, якія звязаны з дзяцінствам і юнацтвам беларускага паэта і да якіх ён звяртаецца з наступнымі словамі сваёй аўтабіяграфічнай паэмы:

Край магілёўскі!
З гармат Еўропы
Смерць засявала
твой шнур жалезам
Ды
не змагла — зараслі акопы,
А не дарогі, травой і лесам...

Першай на дарозе «ў край крынічны» — край вытокаў — была новая сустрэча з Варшаўскім шляхам. Гэтай старой дарогай, некалі адзіным шляхам, што ішоў праз Мінск з Варшавы на Маскву і наадварот, мы, бацька з сям'ёй, ездзілі і раней — пасля вайны і перад ёю — у Хоцімск і Елавец да бацькоў Куляшова, а адтуль ужо наведваліся ў яго родныя Саматэвічы, што знаходзяцца ў шасцідзесяці кіламетрах ад Хоцімска.

Нават і зараз гэты шлях, даўжынёй ледзь не ў пяцьсот кіламетраў, забірае ў падарожнікаў цэлы дзень ад зары да глыбокай ночы.

Вандроўкі з бацькам вучылі нас, дзяцей, назіраць за прыродай, таму што цэлы дзень, праведзены ў машыне, ствараў умовы для таго, каб сачыць за аблокамі, адзначаючы, як змяняецца іх колер ад усходу да захаду сонца, каб назіраць за тым, як коцяцца па жыце хвалі, як шумяць прыдарожныя бярозы, а ўвечары адрозніваць у хвалях цёплага паветра пахі лясных кветак, парнога малака, вогнішча...

Здаецца мне, што не будзь побач бацькі, які так жыва рэагаваў на ўсё, што бачыў вакол сябе, я, можа б, і не навучылася б радавацца звычайным праявам жыцця...

Што ж да Варшаўскага шляха, дык я яшчэ памятаю яго драўляны насціл, на які звярнуў нашу ўвагу бацька, тлумачачы, што гэта кругі папярочнага спілу сасны.

Бацька вельмі любіў дарогу, рух. Ці не адсюль ідзе яго абагульнены вобраз «дарогі-ракі», так грунтоўна распрацаваны ў паэме «Далёка да акіяна»?

Як у Дняпро,
у нашу Варшаўку
Цякуць рачулкі
дарог глыбінных,
Выносяць жвір
на траву-мураўку
Па дрогкіх
памяці
каляінах,
Там неабсяжнасць
нябёсаў сініх!
Там Сож і Проня,
Віхра і Бесядзь
Рукамі чулых
прытокаў сынніх
Лугі і пушчы
І нівы песцяць.

У апошнія месяцы свайго жыцця бацька неяк сказаў мне:

— Сваю любоў да вандравання я рэалізую праз цябе!

— Хіба ж ты любіш вандраваць? Ты нават да мяне ў Балгарыю ніколі не прыехаў!

— Валя, ты ж ведаеш, як я ў тыя гады хварэў! А мае інфаркты пасля Англіі і Амерыкі? Не, мне, відаць, супрацьпаказаны падарожжы, а табе, мабыць, наадварот, і я табе зайздрошчу!

Мы ўжо згадвалі пра тое, што бацьку для заключнага этапу творчасці неабходны быў не толькі стан спакою, але і нерухомасці. Тлумачыцца гэта, мабыць, той здольнасцю да суцэльнай засяроджанасці на адной справе, якою быў адораны мой бацька. Рух быў супрацьпаказаны гэтаму стану, стану саманазірання, творчасці ў яго куляшоўскім варыянце.

Вандроўкі ж на машыне былі бацьку пад сілу. У такіх падарожжах ён не рухаўся, і нішто не перашкаджала яму думаць (не дай божа было загаворваць з ім у такія хвіліны!), а тое, што як «на жывым экране» праплывала за вокнамі, давала імпульс для роздуму.

Стан, які навявалі бацьку шляхі, быў, відаць, падобны да таго, які ён малюе ў вершы «Дарогі», напісаным у трыццатым годзе. Паслухайце:

Калі адзін сяджу ў сваім пакоі,
Калі стучыцца дождж паціху ў вокны,—
Здаецца мне, туды, у далёкі свет,
Пакінуты у розныя часы
І ў розныя часы прачуты мною,
Перанашуся я...
Разгортваю старонкі
Шляхоў пад небам сінім, па якіх
Ішлі, ішлі і след кідалі ногі;
На хвалях успамінаў,
Здаецца, падхапіў мяне палёт —
Ад болю лёгкага, ад песень сэрца млее,
А там, унізе, моцнымі рукамі
На гэтай вышыні мяне трымаюць
Усе мае семнаццаць год жыцця.
( «Дарогі», 1930)

Часам, асабліва калі мы бывалі адны ў падарожжы, бацька спыняў машыну, выходзіў і ўступаў у размовы з людзьмі, якія нам сустракаліся. Ён гаварыў з імі пра ўмовы іх жыцця і змены ў ім, пра будучы ўраджай, пра грыбы і ягады, пра ядахімікаты, што атруцілі ўсё наваколле так, што нават ракі ў рэках павывеліся, і пра многа іншае з таго, што хвалявала сялян і яго, як іх сына...

І вось яна зноў — мілая сэрцу Варшаўка! Вось месца пад Доўскам, две мы звычайна спыняемся. Бацька шчаслівы. Ён жартуе, смяецца, чакаючы традыцыйнай яешні, якую я смажу на турысцкім прымусе...

А ўвечары мы ўжо ў Мсціславе.

Сніць пад ззяннем месяца,
Лёгшы ўздоўж ракі,
Месца, што не месціцца
Назвай у радкі.
Мсціславам, Амсціславам,
Як не назавеш —
Словы ўсё не сціслыя,
Не даюцца ў верш...

У паэме «Далёка да акіяна» бацька адводзіць гэтаму гораду даволі многа месца.

Гэта не дзіўна. У старажытным Мсціславе ён пражыў каля двух гадоў і спазнаў святыя для яго пачуцці сяброўства, еднасці па справе жыцця. Тут, у Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме, бацька пазнаёміўся і пасябраваў з паэтамі Юліем Таўбіным і Змітраком Астапенкам.

Новая сустрэча з Мсціславам, дзе бацька бываў рэдкім госцем, стала для яго спатканнем з тымі, з кім ён рос «адзіным дрэвам дружбы».

Глядзіце без дакору і пагарды
Вы на мяне з экранаў вашых кніг,
Як кінастужак спыненыя кадры,
Гатовыя крануцца кожны міг.

На старце вы. Ад быстрае пагоні
Мне не ўцячы, а вам не перагнаць
Мае маршчыны і сівыя скроні,
Якім рукой да фінішу падаць.

Для тых, хто вас не бачыў, вы —
партрэты
Адстартаваўшых год. А для мяне —
Вы назаўжды майго юнацтва леты,
Што не падставяць скроні сівізне.

Для іншых вы — ахвяры радавыя
Крутых гадоў, бязлітасных судоў.
А для мяне — вы маршалы, якія
Камандавалі б арміямі слоў.

Боль гэтай горкай сустрэчы з маладосцю ўтаймоўвала ўсведамленне споўненага перад памяццю дарагіх людзей абавязку. Я маю на ўвазе цыкл вершаў «Маналог», адзін з якіх мы толькі што прыгадалі.

На другі дзень нашага падарожжа па радзіме паэта, зняўшы эпізод на фоне царквы, помніка архітэктуры, дзе ў той час вяліся рэстаўрацыйныя работы, мы паехалі да Віхры, ракі, што працякае ля Мсціслава.

У фільм увайшла пасля панарама ракі і вялікая крыніца дыяметрам у 25-30 см, якая стварае празрыстае, як вока, азярцо ля самай вады.

Бацька быў узрушаны сустрэчай з ракой свайго юнацтва. Трэба сказаць, што ў адносінах да рэк, як і да шляхоў, у бацькі было нешта

першабытнае, паганскае, магчыма. Можа, яны ўяўляліся яму артэрыямі, што жывяць зямлю?

Ва ўсякім разе ён стаяў ля ракі ў задуменні, з замілаваннем глядзеў, як коціць яна свае воды, потым зайшоў у ваду па калені і стаяў там у роздуме...

— Тата, чаму б табе не скупнуцца?

— Я ж не купаюся з таго часу, як прымарозіў ногі.

— Дзе?

— У акопах Калінінскага фронту...

— І ты гэта і зараз адчуваеш?

— Так, яны ў мяне баляць...

Так, сапраўды ж, не купаецца... Не акунаецца нават ніколі... Нават на Нарачы, дзе хата стаіць ля самай вады. А зараз вось рызыкнуў. Увайшоў і стаіць, усміхаецца... Пэўна, нейкаму ўспаміну...

Потым былі Елавец, Саматэвічы, Хоцімск.

Трэба адзначыць, што, здымаючы фільм, мы не стваралі эпізодаў. Ведаючы наперад, якія мясціны наведае Куляшоў, мы здымалі там тое, што пашчасціць «падглядзець».

Але рэчаіснасць аказалася багацейшай ад нашага ўяўлення аб ёй, і шмат чаго мы не здолелі зняць, тым больш што былі абмежаваныя нават несінхроннай стужкай, а сінхроннага запісу ў нас увогуле было мінуты на тры, не болей.

Такім чынам ў Елаўцы, напрыклад, мы страцілі цудоўны эпізод сустрэчы з пастухом.

Туды мы прыехалі рана, гадзін у сем, і выйшлі з машыны за аколіцай, накіроўваючыся да хаты, будынка былой школы, дзе доўгія гады настаўнічала, а пэўны час і жыла бацькава маці.

У гэтай хаце перад вайной і ў першыя пасляваенныя гады летам адпачывала наша сям'я.

— Аляксандравіч! — гукнуў раптам нехта бацьку.

Мы азірнуліся і ўбачылі, што ад ракі да яго бяжыць пастух. Бацька памкнуўся насустрач, і мы ўбачылі, што яны абдымаюцца.

Разгортваць апаратуру было ўжо позна. Мы толькі паспелі падысці бліжэй і сталі сведкамі цікавай размовы, змест якой я памятаю зараз толькі ў агульных рысах, ды галоўнае і не ў гэтым, а ў тым, што мы тады зразумелі, які эпізод страцілі.

Навука, што праўда, не была дарэмнай: дзякуючы ёй, мы ўжо заўсёды былі напагатове. Вынікам стаў адзін з лепшых эпізодаў фільма — сустрэча з трактарыстамі.

Машынны двор саўгаса. На фоне трактара — механізатары. Яны занятыя рамонтам машыны. Заўважыўшы, што да іх нехта кіруецца,

трактарысты спыняюць працу і ўглядаюцца ў постаць таго, хто ідзе да іх. Той, што хвіліну назад поркаўся ў маторы, паспешна выцірае нейкай анучай рукі, сціраючы машыннае масла, і падае руку нечаканаму, але дарагому госцю, якога ён нарэшце пазнае. Мужны, прыгожы, скрозь спаласаваны зморшчынамі перажытага твар асвятляе сарамлівая ўсмешка.

Гэта Павел Усціменка, малодшы брат сябра Куляшова, таксама трактарыста, якому ў юнацтве бацька крыху зайздросціў і прысвячаў вершы. Сябра не прыйшоў з вайны, а сустрэча з яго братам — як спатканне з маладосцю сталых людзей, якія шмат пабачылі на сваім вяку.

Таму так хвалюе заключны кадр эпізоду, дзе гэтыя людзі моўчкі дрыготкімі пальцамі скручваюць і запальваюць самакрутку. Іх рытуальная самакрутка — як для іншых доўгі вечар успамінаў...

Гэтак жа незапланавана быў зняты эпізод ля кнігарні.

Памятаю, як гудзела ад захаплення глядзельная зала, калі ў лютым 1983 года, адзначаючы чарговую гадавіну з дня нараджэння Куляшова на радзіме паэта, у Саматэвічах, на вечарыы ў Палацы культуры паказалі фільм «Край крынічны».

У эпізодзе ля кнігарні людзі — а яны тады ўпершыню глядзелі фільм — пазнавалі сябе, сваякоў, сяброў...

А ўзнік эпізод так.

Пасля здымкаў на Бесядзі, калі, адпрацаваўшы, група вярталася ў Саматэвічы, усе, у тым ліку і бацька, вырашылі зазірнуць у кнігарню. Але, акрамя яго, ніхто больш туды не трапіў, бо ужо на ганку земляка пазналі і акружылі аднавяскоўцы. Бачачы, з якой радасцю вітаюць яны свайго паэта, аператар схапіў кінакамеру.

Так яму ўдалося зняць, на жаль, несінхронна, размову Куляшова з землякамі, якая скончылася ўручэннем кветак. Іх дзяўчаты «назбіралі» ў кветніку бліжэйшай хаты.

У Хоцімску мы здымалі сустрэчу з бацькамі, застолле і яшчэ адзін эпізод, на які пайшла амаль уся наша сінхронная кінастужка і які, аднак, у фільм не ўвайшоў.

У біяграфіі нашай сям'і ёсць чорная пляма. Звязана яна з імем дзеда, бацькавага бацькі Аляксандра Мікалаевіча Куляшова.

Неўзабаве пасля таго, як немцы занялі Хоцімск, яны сабралі людзей і загадалі ім выбраць старасту.

Ніхто з сям'і Куляшовых — а ў акупацыі, апроч дзеда, засталася маці Аркадзя Куляшова і яго зводныя брат і сястра — на гэтым сходзе не прысутнічаў. Нехта назваў прозвішча майго дзеда, тлумачачы свой выбар тым, што ён як настаўнік трохі валодае

нямецкай мовай. Не выключана, што прозвішча дзеда прагучала не з вуснаў добразычліўца.

Так Аляксандр Мікалаевіч зрабіўся нямецкім старастам, даведаўшыся пра гэта пазней за ўсіх.

На гэтай «пасадзе» ён прабыў сорак дзён, а папярэдзіўшы яўрэяў пра небяспеку, якая ім пагражае, і аддаўшы ключы ад прадуктовых складаў былога калгаса партызанскаму сувязному, знік з дому. Доўгі час ён хаваўся ў Алены Букетавай, сястры Кацярыны Фамінічны, у вёсцы Дарагая, а калі нарэшце вярнуўся, быў арыштаваны разам з сям'ёй.

Вось першы пасля вызваленпя Хоцімска ліст да нас, напісапы бабуляй:

«Добры дзень, дарагія мае ўнучаткі Валечка і Вовачка!

Атрымала ад вас ліст з малюнкамі і вельмі ўзрадавалася, што вы жывыя і здаровыя.

Я за гэтыя гады стала зусім старэнькая. Праклятыя немцы мяне састарылі, але дзякуй нашай доблеснай Чырвонай Арміі, якая вызваліла нас ад нямецкіх вылюдкаў!

Я радавалася за вас, мае дарагія ўнучаткі, што вам не прыйшлося быць пад уладай праклятых катаў.

Мне вельмі хочацца пабачыць вас і расказачь, як немцы каталі мяне, дзядуньку і Валодзю. Мы ўсе сядзелі ў нямецкай турме. Я захварэла тыфам, а дзядуньку і Валодзю некуды навезлі».

Калі Аляксандр Мікалаевіч з падлеткам-сынам вярнуліся з нямецкай няволі, ім нэўны час — пакуль разбіраліся ў справе — не дазвалялі выязджаць з Хоцімска.

Нядобразычліўцам Куляшова ад літаратуры гэта, як кажуць, развязала рукі, і яны давялі паэта да такога стану, што ён вымушапы быў пайсці на «ваенную хітрасць» — напісаць старшыні Саюза пісьменнікаў ліст, у якім ставіў перад Лыньковым пытанне аб тым, ці не павінен ён як камуніст адмовіцца ад бацькі?

Хітрасць была ў тым, што бацька разумеў: афіцыйна ніхто не адважыцца даць яму такую параду. Больш таго, ён быў упэўнены, што дзед не вінаваты, а яго ганіцелі добра ведаюць гэта і проста карыстаюцца момантам.

Што ж да Міхася Ціханавіча, дык ён асабіста, магчыма, і не быў разам з ганіцелямі Куляшова, але інтрыга не абмінула яго як асобу афіцыйную.

І на гэтай справе кропку паставіў Папамарэнка, абвясціўшы, што ён не дазволіць пляміць імя Аркадзя Куляшова — «сапраўдпага паэта-франтавіка». Падкрэсліваючы заслугі майго бацькі перад Радзімай у

гады народнага ліхалецця, Панцеляймон Кандратавіч зыходзіў з рэальнага, маючы на ўвазе хаця б такую акалічнасць: на вядомым групавым здымку пісьменнікаў-супрацоўнікаў Цэнтральнага штаба партызанскага руху з Панамарэнкам на чале з пагонамі толькі адзін Куляшоў.

Нягледзячы на тое, што ў хуткім часе было пацверджапа, што дзед у гэтай гісторыі без віны вінаваты і што роля яго як старасты — роля сабатажніка, цень яе, якую падтрымлівалі плёткі людзей зацікаўленых, перыядычна лунала над бацькам.

Мой бацька доўгія гады не мог, у сваю чаргу, дараваць дзеду гэтай яго, хай сабе нават міжвольнай, але віны. Як кожны максімаліст, ён нават не хацеў унікаць у акалічнасці справы, бачачы адзін толькі яе фармальна-ганебны бок.

— Трэба было збягаць адразу ж, у першы дзень, каб ні дня не пляміць свайго імя назвай нямецкага старасты! — гаварыў ён, не ўлічваючы таго, што вясковы чалавек прывязаны да месца жыхарства яшчэ і патрэбамі зямлі-карміцелькі, і абвінавачваў дзеда ў злачыннай легкадумнасці. Час пацвердзіў бацькава меркаванне, але ў самым нечаканым ракурсе.

На пачатку пяцідзесятых гадоў да бацькі за дапамогай, не памятаю ўжо па якой справе, звярнулася жанчына, што прыехала з Хоцімска.

Скончыўшы свае справы ў Мінску, яна зноў завітала да нас, каб развітацца, і, ужо збіраючыся адыходзіць, раптам успомніла пра нешта і вярнулася ад дзвярэй. Яна доўга поркалася ў сваіх рэчах, потым гэтаксама доўга развязвала вузельчык, з якога выцягнула шматок паперы, вырваны некалі са школьнага сшытка, і працягнула яго бацьку.

Бацька быў больш чым здзіўлены, разабраўшы напаўсцёртыя радкі такога зместу:

«Подательнице сего выдать два пуда муки как многодетной жене красноармейца».

Запіска, якую жанчына зберагала з часоў ванны, была напісана рукой дзеда ў тыя злашчасныя сорак дзён.

За ёй стаяў такі факт іх агульнай біяграфіі: у першыя дні акупацыі жанчына звярнулася да дзеда як «прадстаўніка ўлады» з просьбай дапамагчы ёй, жонцы чырвонаармейца, на руках якой засталося пяцёра малых.

Яшчэ існаваў склад з прадуктамі, які сцярог усё той жа калгасны вартавы. Да яго і накіраваў Аляксандр Мікалаевіч прасіцельку з запіскай для яснасці.

Адарваўшы вочы ад запіскі, бацька загледзеўся некуды ўдаль, потым схамянуўся і падзякаваў жанчыне за тое, што яна зберагала гэты шматок паперы.

Пасля гэтага здарэння мы адчулі пацяплепне ў адносінах бацькі да дзеда, хоць, трэба адзначыць, ён усё жыццё быў узорам сыноўскай любові і павагі да бацькоў, у чым, мне думаецца, была немалая заслуга і маёй маці, жанчыны шырокай душы і добрага сэрца.

Так, напрыклад, сваю прэмію 1946 года бацька пусціў на тое, каб пабудаваць дом бацькам замест спаленага немцамі, у той час як гэтыя грошы не былі лішнімі і ў нашай сям'і, якая толькі пачынала абжывацца ў кватэры на Беларускай, 4, да таго ж чакала папаўнення. А калі ўлічыць і тое, што бацька яшчэ не ачуняў пасля хваробы, дык можна сабе ўявіць, што я не перабольшваю.

Неўзабаве сям'я дзеда перайшла ў новы дом, а будачка — маленькі часовы дамок — засталася стаяць у глыбіні саду як напамін бяды, а на будучае — сховішча для паэтаў. У гэтай будачцы любіў працаваць мой бацька, калі пасля вайны прыязджаў у Хоцімск адведаць бацькоў. Тут была напісана паэма «Новае рэчышча» і шэраг вершаў.

Справа ў тым, што гэтае месца ў глыбіні саду забяспечвае спакой, ствараючы ўмовы для творчасці. Апрача таго, тут ёсць усё неабходнае для аўтаномнага існаваіння: ложак, маленькая грубачка і столік-падаконнік. У канцы шасцідзесятых вопыт бацькі скарыстаў мой брат Уладзімір, напісаўшы тут манаграфію па матэматыцы пад назвай «Тэорыя гіперпалёў».

А эпізод з песняй паводле задумы сцэнарыста — я выступаю там пад прозвішчам Бязручкіна — павінен быў стаць цэнтральным у фільме «Край крынічны».

Лаўка ў глыбіні саду пад акном маленькага, нібыта лялечнага, дамка. Злева, калі мець на ўвазе кадр са словамі: «Ну што, папаша і мамаша,— так дзіўна звяртаўся чамусьці мой бацька да сваіх бацькоў,— праспяваем нашу любімую?», герой фільма з'яўляецца ў кадры і падсаджваецца да бацькоў, што сядзяць на лаўцы перад будачкай.

У наступных кадрах яны ўтрох выконваюць рытуальную ў іх сям'і песню «Плавец» — «Песню аб Дняпры», як назваў яе Куляшоў у паэме «Далёка да акіяна».

Бацькі Аркадзя Куляшова мелі добрыя галасы. У асабістым жыцці яны акурат «спеліся», што і паслужыла, мабыць, прычынай таго, што мой прадзед, Фама Кузьміч Ратабыльскі, чалавек сталы і грунтоўны, не ўхваліў гэтага шлюбу. Калі дачка, малодшая і горача каханая Кацярына — яе імя ён назваў у хвіліну смерці,— просячы бацькавага

блаславення на шлюб, сказала, што любіць свайго будучага мужа, мой прадзед адказаў па гэта так:

— Христос велел нам любить ближних! — з націскам на слове «велел».

Так што ў 1972 годзе, калі мы запісвалі для фільма сямейнае трыо Куляшовых, яно яшчэ гучала вельмі прыемна.

Калі гэты эпізод, з улікам якога будаваўся фільм, аказаўся страчаным, фільм згубіў асноўнае — сваю іскрынку, артыстычную атмасферу бацькоўскай хаты Аркадзя Куляшова, якая, мне здаецца, многае тлумачыць у яго паэтычным лёсе.

Эпізод гэты, на вялікі жаль, выпаў...

Пачынаючы з 1972 года, бацька наведваў малую радзіму штогод, прыязджаючы туды на машыне са мной і Валерыем.

Зараз я разумею, што з першай хвіліны знаёмства з радзімай бацькі заўсёды глядзела на Саматэвічы яго зачараванымі вачыма.

Мне падабалася адасобленасць гэтага маляўнічага кутка Беларусі ад цэнтраў цывілізацыі. Нават глыбокая калдобіна пасярэдзіне мястэчка, з-за якой мы ніколі не змаглі пад'ехаць да роднай хаты бацькі, і тая была мне мілай. Я неяк не заўважала, што стары парк глухне і чэзне, што царква рушыцца, што ўсё навокал пазначана пячаткай запусцення.

У гэты зман уводзілі мяне, відаць, маляўнічыя краявіды Саматэвічаў, некранутасць наваколля: у чыстай Бесядзі яшчэ вадзіліся ракі, у яе старыцы раслі белыя лілеі, а з берагавой стромы да вады «сыходзілі» стогадовыя дубы. Зараз гэтае ўрочышча высеклі, прадалі, як мне па-гаспадарску растлумачылі, у Фінляндыю на паркет.

А тады, наведваючы разам з бацькам Саматэвічы, я нават і не здагадвалася, што ў яго памяці жыве іншы іх вобраЗ

Здагадка з'явілася нечакапа восенню 1982 года, калі мы зноў наведалі Саматэвічы разам з фатографам, каб зняць для фотаальбома «Аркадзь Куляшоў» родныя мясціны паэта.

З'явілася сапраўды нечакана, але не без прычыны.

Стан дарог у Касцюковіцкім раёпе яшчэ заставаўся такім, што нам прыйшлося змяніць наш «гарадскі» транспарт на райкомаўскі «газік».

Выязджалі мы ў тую раніцу з Хоцімска, і да нас ў спадарожніцы папрасілася Надзея Аляксандраўна, жанчына гаваркая і таварыская.

Гэтыя якасці маёй цёткі і вызвалі да жыцця багатую інфармацыю пра Саматэвічы часоў бацькавага дзяцінства, калі высветлілася, што за рулём — яе зямляк і аднагодак.

Як зачараваныя слухалі мы іх, калі, забыўшыся пра нас, загаварылі яны пра Саматэвічы свайго дзяцінства, юнацтва майго бацькі.

Саматэвічы, куды маладыя настаўнікі Аляксандр Куляшоў і Кацярына Ратабыльская прыехалі ў 1913 годзе на працу, былі вялікім, багатым і вядомым за межамі Беларусі мястэчкам. Сюды, на традыцыйныя кірмашы на Іллю з'язджаліся з таварам сяляне беларускіх, рускіх і ўкраінскіх вёсак.

Пра гэтыя кірмашы і гаварылі Надзея Аляксандраўна са сваім субяседнікам. Успомнілі яны і мілагучны перазвон царкоўных званоў, залачоныя крыжы, ліпы ў старажытным парку, праз які дзеці штодня хадзілі ў школу, і, між іншым, пра тое, што назва «Саматэвічы», ці «Саматэевічы», паходзіць, паводле мясцовага падання, ад словазлучэння «самыя тыя», ці «самыя тэя» ў магілёўскай гаворцы.

Такім чынам, вяртаючыся да згаданага прозвішча Саматыевіч, варта адзначыць, што яно вельмі дакладна перадае першааснову назвы Саматэвічаў — Саматэевічы, Саматыевічы,— калі кіравацца літаратурнай мовай, і вызначае паходжанне продкаў носьбіта гэтага прозвішча.

Слухаючы размову саматэвіцкіх старажылаў, я нечакана адкрыла для сябе і Саматэевічы бацькавага дзяцінства і тую простую ісціну, якая часам так цяжка ўпісваецца ў шаблон нашага мыслення, што паняцце «новае» не заўсёды сінанімічна паняццю «лепшае».

І сталі зразумелымі эмацыянальныя вытокі верша «Адзіны серп на сённяшнім жніве», які, выбіваючыся з агульнай аптымістычнай танальнасці паэзіі Куляшова, гучыць сумнай канстатацыяй не толькі надыходзячай старасці, але і думкі аб не заўсёды добрых выніках навукова- тэхнічнага прагрэсу.

Заглух той дом, што быў маім гняздом,
Што ў свет пусціў і радасць і бяду маю.
Не вечна ўсё пад месяца сярпом,
Хоць ён не зжаў нікога,— так я думаю,
Сялом і полем ідучы з кійком.

Мой след, што пяцьдзесят гадоў назад
Знаёмы быў з вясёлай сцежкай школьнаю,
Пакрыла забыццё трапой няўмольнаю.
Ды смешна прагай папракаць няўтольную
Зялёную траву, якой я рад.
Электрастанцыя над рэчкай сіняю,
Магутнасцю на сорак кілават,
Не свеціць больш, хоць ёй гадоў няшмат.

Ніхто, апроч высакавольтнай лініі,
У змрочнасці яе не вінават.

Камбайн, жніва гарачага ўладар,
Давёў сярпы да стану непрыгоднасці.
Не вечна ўсё. Конь, хоць не страціў годнасці,
Але і ён ва ўладзе неабходнасці
Таго, што сеў на трактар гаспадар.

Старэючы, і я сачу з трывогаю
За часам, што мяне перажыве.
Тут месяц ні пры чым. Няхай плыве
Ягоны серп над палявой дарогаю —
Адзіны серп на сённяшнім жніве!

## АЛЕСЯ

-----

У заключным эпізодзе дакументальнага фільма пра Аркадзя Куляшова ёсць такія кадры: паэт паволі падымаецца на курган, стаіць там і з гэтай вышыні ўглядаецца ўдалячынь, туды, дзе каласіцца жытнёвая ніва і хлопец з дзяўчынай, узяўшыся за рукі, знікаюць у жыце.

Гэтыя кадры — адзінае, на ўвядзенні чаго ў фільм настаяў мой бацька. Настаяў ужо тады, калі «Край крынічны» быў прыкідачна зманціраваны. Каб дазняць іх, мы выехалі ў раён Мінскага мора, зняўшы там, між іншым, і чаек над вадой, якія прысутнічаюць у фільме як фон для тытульных кадраў і глядзяцца так неарганічна ў пейзажы буслінага магілёўскага краю.

Стваральнікі фільма не сталі распытваць Куляшова пра сімволіку кадраў, якія ён прапапаваў. Яна нам здавалася празрыстай: дзяўчына і хлопец — сімвал жыцця, тым больш што недзе там, на даляглядзе, мільганулі і камбайны, прыкмета нашага часу, і паэт, чый погляд звернуты да іх, глядзіць нібы ў будучыню...

Для мяне, аднак, ужо тады было зразумела, што гэтыя кадры маюць для бацькі іншы, глыбінны, сэнс, што іх гучанне для яго глыбока асабістае, што яны таксама частка яго малой радзімы, «краю вытокаў» паэзіі Куляшова...

У адным з нумароў газеты «ЛіМ» за 1981 год быў надрукаваны нарыс пісьменніка Алеся Пісьмянкова пра наведванне радзімы Аркадзя Куляшова, у якім малады паэт расказаў і пра свае гутаркі з маці Аркадзя Аляксандравіча і яго сястрой.

Сярод паэтаў мінулага, акрамя Пушкіна, Лермантава, Тараса Шаўчэнкі, Янкі Купалы і Шэкспіра, Куляшоў вылучаў яшчэ аднаго нашага вялікага земляка — Адама Міцкевіча, які адкрыў польскай літаратуры высокую паэзію жыцця.

Вобраз Адама Міцкевіча прыцягваў бацьку многім. Ён сэрцам адчуваў, якім нялёгкім быў шлях Адама Міцкевіча да прызнання ў польскай літаратуры, калі нават мова яго твораў была далёкая ад ідэалу польскай літаратурнай мовы таго часу.

Міцкевіч нарадзіўся і гадаваўся ў беларускім асяроддзі. Беларускай мовай будучы паэт валодаў лепей, тым больш што польская ў гэтых мясцінах была моцна скажоная ўплывам беларускай моўнай стыхіі. Адсюль шматлікія беларусізмы паэзіі Адама Міцкевіча, пачынаючы ад лексічных і канчаючы сінтаксічнымі.

Аднак на забароненай беларускай мове не вучылі і не нісалі. На ёй, па сведчанні самога Міцкевіча, гаварыў, спяваў і перадаваў з вуснаў у вусны казкі, паданні і легенды даўніны працавіты, мужны, чыстасардэчны і таленавіты славянскі народ.

У чымсьці падобную сітуацыю заспеў яшчэ на другім канцы Беларусі, усходнім, нават і мой бацька. Яго бацькі, беларускія настаўнікі, вучылі дзяцей беларусаў на рускай мове па інерцыі яшчэ пэўны час і пасля Кастрычніцкай сацыялістычпай рэвалюцыі.

Таму паэзія Адама Міцкевіча цікавіла бацьку і як помнік замацаванай у польскай літаратуры беларускай даўніны: па яго творах, сюжэты для якіх Міцкевіч браў з жыцця беларусаў Навагрудчыны, мы можам сёння меркаваць пра жыццё нашых нрадзедаў.

Бацька дапускаў нават, што першыя вершы Міцкевіч пісаў хутчэй за ўсё па-беларуску, бо гэтая мова павінна была быць у яго вуснах больш арганічнай, чым польская. Невыпадкова першае аўтарытэтнае выказванпе пра мову беларусаў з еўрапейскай трыбуны палежыць Міцкевічу. У курсе лекцый, прачытаных ім у Калеж дэ Франс у Парыжы, сказаўшы шмат добрых слоў пра народ, у асяроддзі якога ён нарадзіўся і вырас, Міцкевіч ахарактарызаваў мову гэтага народа наступным чынам: «На беларускай мове, якую называюць русінскай, ці літоўска-рускай, гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек. Гэта самая багатая і чыстая гаворка, яна склалася даўно і цудоўна распрацаваная».

І вось, думаючы пра Міцкевіча, яго веліч і цяжкое жыццё, пра яго дзейнасць на карысць народаў, пра яго жыццё ў выгнанні і трагічную смерць на чужыне, бацька імкнуўся нейкім чынам далучыцца да яго паэзіі, вярнуць яе таму народу, у якога яна, магчыма, воляй лёсу ці гісторыі была калісьці адабрана, прынамсі, аддаць даніну павагі геніяльнаму паэту, падзвіжніку ў паэзіі і жыцці.

Бацька замахваўся на большае, чым яму наканавана было здзейсніць. Ён марыў перакласці на беларускую мову «Пана Тадэвуша». Ад гэтай працы яго адрывалі розныя справы, у тым ліку і звычайныя жыццёвыя акалічнасці. Так, у пачатку пяцідзесятых гадоў, каб мець нейкі сталы заробак, бацька быў вымушаны пайсці працаваць галоўным рэдактарам на кінастудыю «Беларусьфільм». Такая, больш адміністрацыйная, чым творчая, праца адбірала ў яго шмат часу і пазбаўляла той душэўнай раскаванасці, пры якой толькі і магчыма творчасць, тым больш што Куляшоў быў вялікім працаўніком. Гэтую бацькаву рысу добра ведаюць яго перакладчыкі Я. Хелемскі і Н. Кіслік, а таксама тыя, з чыімі сцэнарыямі яму даводзілася мець справу на кінастудыі.

Аднак захапленне паэзіяй Адама Міцкевіча і ягонай асобаю не прайшло марна для творчасці беларускага наэта.

Там, дзе сінее Свіцязь,
сто зім назад, сто лет,
Ці, можа, больш,—
дзяўчыну
кахаў юпак-паэт.

Кахаў, але дзяўчына
заручана з другім
І будзе павянчана
з багатым,
а не з ім.
. . . . . . . . . . . . . . . .
На звон касцёльны бегчы
ёй не хапала сіл,
А ён упаў, няшчасны,
з яе вянком у пыл.
. . . . . . . . . . . . . . . .
З тых дзён любві на свеце
ён не шукаў сабе,
Аддаў ён сваё сэрца
і песні барацьбе.

Памёр ён на чужыне...
А перад смерцю ён
Згадаў сваю Марылю —
любоў юнацкіх дзён:

— Марыля! З дзён разлукі
цябе не бачыў я,
Ты ад мяне далёка,
каханая мая.

Але ў жыцці са мною
заўсёды ты была.
Я плыў бурлівым морам,
і ты са мной плыла.
І вось я паміраю
на старане чужой,

З табой я размаўляю,—
ты і цяпер са мной.

Дзе б ні быў я, заўсёды
я помніў свой зарок:
Калісьці абяцаны
я сплёў табе вянок.

Вянок мой — гэта радасць
і боль душы маёй,
Вянок — мой спеў,
што кліча з нядоляю на бой.

Першае каханне... Няспраўджанае, непадзеленае, безнадзейнае ці шчаслівае... Каго яно абмінула?! І ці для многіх засталося адзіным? І для Міцкевіча каханне да Марылі не стала апошнім. Ужо ў перыяд жыцця ў Коўна, калі спасылацца на вядомага рускага літаратуразнаўцу М. Пагодзіна, Міцкевіч захапляўся чароўнай жанчынай, пані Кавальскай, жонкай мясцовага аптэкара, здаецца, чалавека адукаванага. Пані Кавальскай Міцкевіч прысвяціў цыкл вершаў, якія часта памылкова адрасуюць Марылі, і гэтыя вершы — адны з лепшых у яго лірыцы, тым больш што ў іх знайшло адбітак пачуццё раздзеленага кахання.

А жонка Міцкевіча, Цэліна Шыманоўская, маці ягоных дзяцей? Хіба ўсё гэта жыццёва не больш сур'ёзна, чым юначае пачуццё паэта да Марылі Верашчакі?

Але такая ўжо, пэўна, уласцівасць першага кахання — перараджацца ў ідэю кахання, рабіцца чымсьці накшталт яго эталона, высока дзейснага ў сферы паэзіі, бо менавіта ў гэтым на ўсё жыццё нязменным пачуцці шукае паэт душэўнага апірышча ў цяжкія хвіліны жыцця.

У пачатку 1971 года, надрукаваўшы ў часопісным варыянце толькі што скончаную ім аўтабіяграфічную паэму «Далёка да акіяна», бацька напісаў пра гэта Аляксандры Васільеўне Б., у дзявоцтве Карыткінай.

У паэме ёй прысвячаецца раздзел «Восем і адна», у якім апісваецца быт колішняй школьнай камуны, дзе гаспадарыла старшакласніца. Ёй прысвечаны там наступныя радкі:

Не за радаслоўную,
Не за бацькаў род
Называў Князёўнаю

За красу народ
Кватарантку нашую,
Аляксандрай, Сашаю
Клікалі яо
Школьнікі свае,
Птушкаю — Тадораўна,
Я — Алесяй зваў.

«Алеся» адказала лістом (ад шостага ліпеня семдзесят першага года), у якім ёсць наступныя радкі: «Я заўсёды ведала, што твой ідэал мае да мяне малое дачыненне, гэта толькі твая мара...»

Гэтай мары бацька прысвяціў многія радкі сваёй паэзіі, але я згадаю толькі адзін верш, напісаны пад знакам ростані з каханай і цяпер шырока вядомы, дзякуючы песні І. Лучанка. Прывяду яго ў першапачатковым, не адрэдагаваным пасля бацькам, варыянце:

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая,
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець.

Ці помніш першае нясмелае прызнанне?..
Над намі жаўранкам звінеў і плакаў май.
Назаўтра золкае, туманнае світанне,
Суровы позірк твой і мой нямы адчай.

Пайшла ты, любая, пад гоман жоўтых сосен,
Пайшла, маўклівая, пад хваль жытнёвых шум,
Туды, дзе гойдала зялёнае калоссе
На сцежках ростані мой адзінокі сум...

Такім было першае пачуццё пачынаючага паэта, амаль хлапчука, да дзяўчыны па імені Алеся.

Аляксандра Васільеўна мае рацыю: у жыццёвым сэнсе каханне чатырнаццацігадовага хлапчука да шаснаццацігадовай дзяўчыны было, вядома ж, толькі марай, летуценнем. І мара гэтая аказалася роднаснай таму моцнаму душэўнаму ўздыму, які выклікала ў васьмігадовым Куляшове і высокая паэзія Лермантава. Пачуццё такой сілы тлумачыцца, відаць, здольнасцю будучага паэта абвострана ўспрымаць прыгожае ў жыцці і мастацтве.

Высокае пачуццё кахання, якое абудзіла ў Куляшове Алеся, з часам стала для яго прычынай многіх расчараванняў у іншых жанчынах, калі ён звяртаў да іх позірк у пошуках сховішча ад жыццёвых нягод, якіх і на яго долю выпала дастаткова.

Тады нараджаліся радкі, падобныя да наступных:

Агонь начлежны смаліць вецце,
Скубе мурог падбіты конь,
А я апошняга трохлецця
Дзень кожны кідаю ў агонь.

Я быў шуканнем ашуканы,
Дарогай у палон узят.
Не я — мой конь непаслухмяны,
Непадкаваны вінават.

Лясы б маіх блуканняў высеч,
Распяцца б на крыжы хваін
За сотні дзён за сотні тысяч
На вецер пушчаных хвілін.

Адзін здабытак мой — пакуты,
Што сівізной ляглі на скронь.
Не лёд душы, а боль пякучы
Я ў прагны кідаю агонь.

Палю я рэшту дзён мізэрных,
Але не за цяжкія іх
Шуканні вернасці ў няверных,
Святой любові ў несвятых.

І не за тое іх палю я,
Што абпаліўся жорстка сам.
Што больш за марай не палюю,
Гадоў на марнасць не аддам —

Палю з рашучасцю суровай,
Каб сталь з іх выплавіць да дня,
Загартаванаю падковай
Надзейна падкаваць каня.

Палае горан мой у соснах,
Куецца ў ім дарожны дух
Для горных круч, для хваль высозных,

Для самых грозных завірух.
("Перад падарожжам", 1961)

Што ж да першага кахання, дык ростань з Алесяй узрушыла будучага паэта так глыбока, што ён прысвяціў гэтай падзеі цэлую паэму, якую прачытаў толькі сястры і на яе ж вачах спаліў. Боль трэба было выказаць, але само пачуццё здавалася падлетку такім асабістым, што ён не адважыўся даць яму самастойнае існаванне ў літаратуры.

Дзесяцігадовая дзяўчынка, адзіная слухачка паэмы, са здзіўленнем і захапленнем глядзела на старэйшага брата, які чытаў ёй вершы пра каханне. Нават назвы не збераглося ў памяці Надзеі Аляксандраўны (бо гэта была яна), аднак ураджанне якойсьці незвычайнай таямніцы, да якой яе тады далучылі, жыве і дагэтуль.

Пазней, спазнаўшы іншае, зямное, каханне, знайшоўшы ў ім шчасце і раўнавагу, паэт адчуў сябе больш раскавана і змог ужо гаварыць і пра першае каханне. Праз паўстагоддзя, калі ў герояў гэтага дзіцячага «рамана» ўжо падрасталі ўнукі, паэт, азіраючыся на сваё жыццё ў яго тэарэтычных магчымых варыянтах — на гэты раз у сувязі з усё той жа аўтабіяграфічнай паэмай,— звярнуўся да Аляксандры Васільеўны з пытаннем, пра змест якога мы можам меркаваць па яе адказу: «Дарагі Аркадзь! — пісала Алеся ў лісце ад 12 жніўня 1971 года з Роўна, дзе жыве ўжо даўно.— Даруй, калі ласка, за маўчанне: зноў нада мною цёмная хмара гора, і я не магу ні пра што іншае ні думаць, ні пісаць... Але ... цябе цікавіць мінулае, што было б, калі б ... і г. д. Магу табе сказаць толькі, што ты мяне ў свой час не разумеў зусім, ды і цяпер таксама, напэўна. У той далёкі год усе мае мары і жаданні былі скіраваныя да адной мэты: вучыцца, спазнаць іншае жыццё. І не аднаму табе я адмовіла, многія могуць на мяне крыўдаваць. А я рвалася, лящела ў марах і наяве, і проста ненавідзела ўсіх, хто мяне затрымліваў. Бо ў мяне не было іншага выбару: ці замуж, ці ехаць вучыцца. А там новыя інтарэсы, новыя людзі, а ты недзе ў мінулым і не паспрабаваў наблізіцца, пазнаёміцца. Адна справа — дзеці, і зусім іншае — сталыя, дарослыя, даводзіцца пазнаваць сяброў дзяцінства нанава. А мы так і не сустрэліся зноў, і што ты за чалавек, я так і не даведалася і не ведаю дагэтуль. І ты таксама. Вось і ўся праўда».

Гэтая перапіска пачалася ў 1938 годзе, калі, страціўшы каханага мужа, які стаў ахвярай рэпрэсій, Аляксандра Васільеўна шукала апірышча ў сябрах юнацтва. Але Куляшоў быў ужо жанаты, меў каханую жонку, дзяцей і... сам знаходзіўся пад пагрозай арышту.

Эмацыянальна ж гэта была ўжо вестка з мінулага. Яна ўскалыхнула памяць пра пачуццё надзвычайнай сілы, і паэт адгукнуўся: у вершах 1938-1939 гг. зноў загучаў матыў першага кахання.

Аб тым, што гаворка ішла пра памяць кахання, пачуццё, якое не мела ўжо першапачатковага напалу, красамоўна сведчыць адзін з лепшых вершаў гэтага перыяду — «Млын».

З дзеўчынай развітваўся юнак,
Аддаваў яе шляхам, далінам.
— Лепш бы млынам стаць...—
Падумаў так
І зрабіўся на тым месцы млынам.

Людзі жыта носяць дзень у дзень,
А драўляны млын слухмяна меле.
Замест сэрца — б'юцца жорны ў целе,
А замест крыві —
Вады струмень...

Кажа нам паданне пра яго,
Што не можа ён з тых чараў выйсці,
Як не перамеле ўсяго,
Што яму належала калісьці.

Як належала яму не шмат,
Дык спадзе з яго палон драўляны,
Прыйдзе зноў ён вольны да дзяўчат,
Ні ў адну яшчэ не закаханы.

А як шмат?.. але гадаць не след,
Бо адзін ён ведае пра тое,
Што яму належаў цэлы свет,
Як хадзіў з дзяўчынай у жытное.

«Як хадзіў з дзяўчынай у жытное...» — вось ён, фінальны кадр дакументальпага фільма «Край крынічны», падказаны пастаноўшчыкам самім героем.

Сапраўднае прызнанне ў каханні — тры апошнія радкі верша. Але і ў іх пра гэтае вялікае каханне гаворыцца ўжо як пра мінулае. Ну а сама форма народнага падання, што надае такую паэтычнасць

вершу? Хіба не з'яўляецца яна ўскосным сведчаннем таго, што гэтае юначае каханне стала ўжо ў лёсе паэта легендай памяці?

Нашыя героі зноў надоўга згубілі адзін аднаго, пакуль творчы тупік канца саракавых, які ў бацькі супаў з працяглай хваробай, не прывёў яго ў пяцідзесятым да новага звароту да юнацтва: спачатку ў выглядзе няскончанай аповесці «Зорка Канікула», што вылілася пасля ў паэму «Толькі ўперад». І няма нічога дзіўнага ў тым, што ўлетку пяцьдзесят першага Алеся і песняр яе юнацтва дамовіліся, нарэшце, спаткацца. Тым годам Аляксандра Васільеўна з дачкой гасцявала ў родных мясцінах, і таму месцам спаткання быў абраны горад, што ляжыць на паўдарозе адтуль да Мінска.

Сустрэча павінна была адбыцца на пошце. Падышоўшы да будынка, бацька ўбачыў у акне жанчыну, якая па ўсіх адзнаках павінна была быць ёю, каханнем бацькавага юнацтва. Але ўбачыўшы замест тоненькай смуглянкі «з вялікімі выразнымі вачыма» незнаёмую жанчыну сярэдняга ўзросту, бацька збянтэжыўся і кінуўся прэч. Потым ён нібыта вярнуўся, але «гаворкі не атрымалася», як прызнаваўся ён потым жонцы.

— Усю дарогу дадому Аркадзь Аляксандравіч быў сумны і нават ці не плакаў,— расказваў потым яго шафёр Арцемік.

У далейшым бацька толькі гаварыў аб жаданні пабачыцца з Алесяй, але новых захадаў не рабіў, хоць і ганарыўся яе розумам, жыццёвай загартаванасцю, дасведчанасцю ў літаратуры. Новаму спатканню з Алесяй перашкаджалі бацькавы хваробы, але галоўным было, мне здаецца, тое, што ён аберагаў ідэал свайго юначага кахання ад разбурэння яго прозай жыцця.

Што датычыцца перапіскі з Аляксандрай Васільеўнаў, у якой яны, дарэчы, больш за ўсё гаварылі пра літаратуру, дык з пэўнага часу бацька пачаў адчуваць у ёй вострую неабходнасць, асабліва пасля таго, як жонка адмовілася гаварыць з ім пра паэзію, зрабіўшы пасля нейкага крыўднага для яе жаночай годнасці эпізоду іх жыцця горкае для мужа прызнанне: «Ведаеш, Аркадзь, я больш не люблю вершаў...»

Маці расказвала мне, што рэдка бачыла бацьку такім уражаным. Ён моўчкі зачыніўся ў сваім кабінеце і не выходзіў адтуль цэлы дзень.

З гэтым сумным эпізодам у адносінах паміж маімі бацькамі звязаны цыкл вершаў, прысвечаных каханню, якое набывае тут самае нечаканае ўвасабленне.

Парушыўшы законы прыцягнення,
Планетамі сярод другіх планет

Існуем мы з табой, як выключэнне,
Мая любоў,— як свет і антысвет.

Ніколі мы адной не ходзім сцежкай,
Не дзелім хлеб і дзелім толькі соль,
Ты сустракаеш смутак мой усмешкай
І смуцішся, калі міне мой боль.

Адказваеш на мой сардэчны захад
Нязгодай самай крыўднаю з нязгод.
Здаецца, павярніся я на захад,
Як тут жа ты павернешся на ўсход.

Аднак зямля б мая асірацела
І ўвесь сусвет ахутала б імгла,
Каб, выбухнуўшы раптам, адляцела
Ты ў невядомасць з хуткасцю святла.
(«Парушыўшы законы, прыцягнення...», 1962)

Вось чаму так імкнуўся бацька знайсці ў Аляксандры Васільеўне новага прыязнага слухача. На жаль, і тут не знаходзіў ён поўнага разумення, бо, як і раней, імкнуўся гаварыць пра паэзію, а яго субяседніца, як заўсёды, зводзіла размову да жыццёвых клопатаў.

Памятаю, як засмуціў майго бацьку погляд Аляксандры Васільеўны на паэму «Далёка да акіяна», дзе ёсць радкі, прысвечаныя і ёй.

Наколькі я разумею, яна расчаравала бацьку тым, што ў выпадку, які датычыў канкрэтна і яе біяграфіі, добрая настаўніца літаратуры чытала паэму як дзённік, зусім забыўшыся пра тое, як суадносіцца ў літаратуры праўда жыцця з праўдай мастацтва.

А цяпер давайце зазірнем у нарыс Алеся Пісьмянкова і пацікавімся, пра што і як гаварыў ён з маці і сястрой Аркадзя Куляшова. Так і ёсць, Алесі яны не абышлі.

«Алеся... Гэты вобраз праходзіць праз усю творчасць Куляшова. З гэтым імем мы сустракаемся ў многіх творах паэта, пачынаючы ад верша «Бывай» і канчаючы паэмамі «Толькі ўперад» і «Далёка да акіяна». Сястра паэта Надзея Аляксандраўна расказвала, што яна вельмі добра ведала Алесю Карыткіну, гэта была вельмі прыгожая і абаяльная дзяўчына — першае і шчырае каханне юнага паэта. Памяць аб ёй ён пранёс праз усё жыццё. Скончыўшы Саматэвіцкую школу, Алеся Карыткіна паехала ў Ленінград на вучобу, пасля заканчэння педінстытута ўсё жыццё настаўнічала. Аркадзь

Аляксандравіч вельмі цаніў яе думку, яе тонкі літаратурны густ і заўсёды дасылаў у Роўна, дзе яна жыве і зараз, свае новыя творы».

Як бачыце, Алесь Пісьмянкоў, Кацярына Фамінічна і Надзея Аляксандраўна робяць традыцыйную памылку — перабольшваюць, вырываючы факт з кантэксту жыцця, і паддаюцца ілюзіям.

Але ці варта папракаць іх у гэтым?

Чалавеку заўсёды цяжка развітвацца з марай пра вечнае каханне, хай нават і не сваё...

І ці след рабіць гэта, асабліва ў тым выпадку, калі яно дорыць нам лепшыя з песень?

Пайшла за ціхія, далёкія прасторы
Світальнай зоркай ты, што гасне ў сіняве.
Душы пакрыўджанай гарачыя дакоры
Слязой халоднаю застылі на траве.

Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманны,
Палынны жаль смугой ахутаных дарог,
Каб я хвілінны боль і горыч гэтай раны
Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог...

## «Я МАЦІ АБАВЯЗАН КОЖНАЙ РЫСКАЮ...»

-----

Калі я згадваю гэтыя радкі, у памяці заўсёды паўстае вобраз Кацярыны Фамінічны.

Жыццё нашай сям'і складвалася так, што мы не надта часта гасцілі ў татавых бацькоў, але бабулін дом прыцягваў мяне заўсёды, і толькі з часам я зразумела, чаму.

Цяпер мне здаецца, што, адказваючы на гэтае пытанне, я павінна перш за ўсё падкрэсліць трывалыя традыцыі беларускай сям'і, носьбітам якіх была мая бабуля, Кацярына Фаміпічна, хоць іх сям'ю нельга лічыць патрыярхальнай. Для свайго часу мае дзяды былі людзьмі перадавымі. Аляксандр Мікалаевіч нават удзельнічаў у Першым з'ездзе настаўнікаў, які праводзіўся ў Маскве ў 1918 годзе Надзеяй Канстанцінаўнай Крупскай.

Вытокі сямейных традыцый варта, відаць, шукаць у аскетычным і размераным сялянскім побыце бацькоўскай сям'і Кацярыны Фамінічны, дзе мая бабуля набыла добрыя працоўныя навыкі, якія падтрымлівалі доўгія гады яе актыўнае жыццё.

Каця Ратабыльская нарадзілася 6 снежня 1892 года ў вёсцы Галынка Магілёўскай губерні. У сям'і Фамы Ратабыльскага яна была апошнім, сёмым, дзіцем (анрача яе, у сям'і былі два сыны, Сяргей і Аляксандр, і чатыры дачкі — Вольга, Алена, Соф'я і Ганна) і рана, у сямігадовым узросце, асірацела. Маці маёй бабулі, Вольга Міхневіч, памерла маладой, пакінуўшы па сабе добрыя ўспаміны.

Аўдавеўшы, Фама Ратабыльскі не рабіў спробы абзавесціся новай жонкай, а прысвяціў жыццё дзецям, спаўняючы апошнюю волю нябожчыцы: «Беражы дзяцей, Фомушка!»

Жылі ж яны, як кажуць, натуральнай гаспадаркай: уласнымі рукамі абраблялі зямлю, збіралі ўраджай, даглядалі жывёлу. Адтуль, відаць, бабуліна замілаванасць да ўсяго жывога, наследаваная ад яе і маім бацькам.

Толькі на дзевяностым годзе жыцця згадзілася бабуля не трымаць больш каровы, але вельмі перажывала гэта.

Кацярына Фамінічна мела рэдкую здольнасць гаварыць з жывёлінай. Пры гэтым ніхто не памятаў, каб яна калі-небудзь сварылася, наадварот, яна заўсёды гаварыла з «братамі нашымі меншымі» ласкава, а за непаслухмянасць толькі ўшчувала.

Трэба думаць, што не менш ласкава, хоць і строга, размаўляла яна і з вучнямі, якіх вучыла сорак шэсць гадоў, выкладаючы апошнім часам фізіку і матэматыку.

Выпрацаваныя сямейным выхаваннем і жыццём вытрымка і спагада да сябе падобных урэшце «акупіліся», вярнуўшы аднойчы бабулі «блуднага мужа» разам з маленькімі дзяўчынкай і хлопчыкам ад другой (пасля бабулі) дзедавай жонкі. Дзяцей — Антаніну і Уладзіміра — бабуля прыняла і выгадавала як родных. Старэйшы з іх, Уладзімір Аляксандравіч Куляшоў, юнаком пайшоў з дому «ў людзі», пасварыўшыся з бацькам з-за таго, што той, паводле яго разумення, незаслужана пакрыўдзіў мачыху.

Бацькі Аркадзя Аляксандравіча любілі яго жонку, маю маці, за яе шчодрасць, дабрату і розум, але бабулі заўсёды было цяжка глядзець, як яна за абедам ушчувае майго бацьку за нейкую яго правіннасць. Кацярына Фамінічна наўрад ці разумела, як цяжка жонкам гаварыць з паэтамі з-за іх поўнага нечаканасцей характару.

Але яна лічыла, і была ў гэтым непахісная, што чалавек павінен ужываць страву паволі і ў спакойнай абстаноўцы (дзеда яна, дарэчы, карміла дакладна па гадзінніку).

На мужаву здраду ў бабулі таксама быў свой, зусім не сучасны, але такі натуральны ў сваёй прастаце погляд: яна лічыла, што калі ён хоча вярнуцца да жонкі, дык тая павінна толькі радавацца. Мы ўжо ведаем, што гэтыя тэорыі Кацярына Фамінічна падмацавала практыкай сваіх жыццёвых паводзін, і не таму, што ў той час, калі Аляксандр Мікалаевіч кінуў яе, яна не мела іншых і, як кажуць, добрых кандыдатаў на мужа. Усё было куды прасцей: бабуля кахала нашага зухаватага дзеда.

Не так даўно я трымала ў руках фотаздымак, з якога на мяне глядзелі дзве чароўныя дзяўчыны ў беларускіх нацыянальных касцюмах. Дзяўчыны — мая бабуля з сястрой Аленай. Цудоўныя строі яны шылі і вышывалі самі. Дзяўчаты былі і вялікімі аматаркамі народнай песні. Якую б працу па гаспадарцы ці ў полі ні выконвалі разам сёстры Ратабыльскія (не забывайцеся, што іх было пяцёра!), яна заўсёды рабілася пад песні — з песняй сеялі, з песняй і жалі.

Надзея Аляксандраўна, успамінаючы свой апошні сумесны з маці візіт да дзеда Фамы Кузьміча Ратабыльскага ў 1927 годзе, за паўгода да яго смерці, расказвала мне, што яе дзед — мой прадзед — быў чалавекам строгіх правіл. Ён жыў вельмі сціпла і хадзіў выключна ў талстоўцы, а памёр ва ўзросце 86 гадоў.

Мне неаднойчы даводзілася сутыкацца з тым, што людзі не ведаюць, як правільна па-руску пісаць прозвішча маёй бабулі па бацьку.

Прызнаюся, яно і мяне здзіўляла, асабліва ў дзяцінстве. Тады прозвішча «Ратабыльская» здавалася мне нейкім «нязграбным», ці што...

Аднойчы летам 1984 года я села ў таксі, якім кіраваў, як сведчыла таблічка з надпісам, Леанід Мікалаевіч Ратабыльскі.

Акалічнасці майго з'яўлення ў яго машыне былі не самыя прыемныя, і я спачатку ўсцешылася тым, што еду, як быццам, з крэўным.

На таблічцы прозвішча Леаніда Мікалаевіча было напісана па-руску і правільна — «Ратобыльский», але я ўсё ж не ўтрымалася і спыталася ў шафёра, чаму ён піша яго якраз так, а не, скажам, «Ротобыльский». У адказ Леанід Мікалаевіч растлумачыў, што і бацька яго і дзед пісаліся Ратабыльскімі, як у яго ў дакуменатах, а вось чаму, ён не ведае.

— Прозвішча сапраўды дзіўнае,— згадзіўся Леанід Мікалаевіч і дадаў: — І сустракаецца рэдка. Я ведаю яшчэ толькі двух Ратабыльскіх.

Памятаю, што ў пасляваенных кінахроніках маю ўвагу асабліва прыцягвалі сюжэты, прысвечаныя Балгарыі. Цікавасць была падсвядомай. Таму я і ўспомніла пра яе толькі пасля таго, калі нейкая асацыяцыя выклікала ў душы пачуццё, падобнае таму, якое ўзнікала ў мяне, калі я ў кіназале ўздрыгвала, пачуўшы слова «Балгарыя» (так рэагуюць на гук дарагога імя).

Я спрабавала разглядзець на экране твары людзей за тыя кароткія хвіліны, пакуль яны ўтрымліваліся на экране. Сюжэтамі пра Балгарыю пасляваенная хроніка нас не песціла, але цікавасць да далёкай краіны, якая насіла такое імя, была ў мяне нязменнаю.

У жніўні 1956 года, калі на Нарачы спраўлялі наша з Хрыстам Берберавым вяселле, Аляксандр Мікалаевіч адзначыў, што на маім выбары адбілася, відаць, наша родавая цікавасць да Балгарыі.

Тлумачачы сваю думку, дзядунька (ён у нас лічыўся спецыялістам па радаслоўных, бо іншыя, лічачы сябе людзьмі практычнымі, такім «глупствам» не цікавіліся) расказваў, што бацька маёй бабулі Фама Ратабыльскі быў удзельнікам руска-турэцкай кампаніі 1877-1878 гг. і змагаўся за вызваленне Балгарыі. У гэтай вайне ён быў кантужаны, адзначаны ўзнагародай, атрымаў надзел зямлі і з гэтага моманту згодна «высочайшего указа» стаў насіць прозвішча «Ратобыльский», што трэба расшыфроўваць як «бывший в рати». Думаецца, што калі б ведаць сапраўднае, першапачатковае прозвішча майго прадзеда, яго можна было б адшукаць у спісах добраахвотнікаў па Магілёўскай губерні, якія друкаваліся ў газетах тых гадоў.

У тым, што гаварылася дзедам Аляксандрам Мікалаевічам, як я цяпер разумею, ёсць недакладнасці, якія трэба было б праверыць. Першыя з іх я ўжо бачу. Напрыклад, у тым, што за вызваленне Балгарыі ў 1877-1878 гг. змагаўся мой прадзед Фама Кузьміч Ратабыльскі, і ўсё, што расказаў дзед,— пра яго. Але не выключана, што яго бацька таксама прымаў удзел у адной з папярэдніх (1855-1856, а можа, нават, 1819) руска-турэцкіх кампаній. Чаму я так думаю, вы хутка зразумееце.

Цяпер я толькі хачу дадаць, што ўсе гэтыя звесткі выклікаюць у мяне, магчыма, трохі рамантычную цікавасць, асабліва калі я разважаю над пытаннем: «А ці не ў памяці генаў закладзены контуры нашага лёсу?» Думаючы ў гэтым кірунку, я заўсёды ўспамінаю адну нашу амаль камічную размову з бацькам, калі ён, азадачаны матэрыяльным бокам майго жыцця, адважыўся неяк спытацца ў мяне, пра што я думала, выходзячы замуж.

— Пра генафонд, бацька, пра генафонд,— пажартавала я, пасля чаго ў яго размовах з Давідам Кугульцінавым узнікла новая тэма — пытанні генетыкі.

Вось пра што я разважала, едучы ў таксі з шафёрам Л.М. Ратабыльскім.

— Скажыце, Леанід Мікалаевіч,— парушыла я маўчанне ў другі раз,— адкуль родам вашы продкі па бацькоўскай лініі?

Леаніда Мікалаевіча перасмыкнула: ён прарэагаваў так, як рэагуе кожны выхаваны чалавек, калі лезуць да яго ў душу. Яго рэакцыя мяне ўсцешыла. Праз пэўны час Леанід Мікалаевіч прыняўшы, відаць, пад увагу той факт, што я ў пэўнай ступені яго госця, вырашыў паблажліва паставіцца да маёй цікаўнасці і без асаблівай ахвоты адказаў:

— З Сакольнічаў!

Сваё ўражанне апісваць не буду, бо Леанід Мікалаевіч назваў вёску, дзе, калі верыць Кацярыне Фамінічне, нарадзіўся яе бацька, Фама Ратабыльскі, і якая знаходзіцца побач з Галынкай, адкуль родам яна сама.

Вось калі я, нарэшце, прыгледзелася і да самога Леаніда Мікалаевіча, шукаючы ў ім нашы радавыя рысы, якія няцяжка было заўважыць.

Больш за ўсё нагадаў ён мне Кацярыну Фамінічну: тыя ж, што ў яе (і, дарэчы, майго бацькі), пухлыя губы характэрнага абрысу, тыя ж, што ў бабулі, карыя вочы, прамы нос...

— А ведаеце, Леанід Мікалаевіч, што мы з вамі, здаецца, радня...

— ?!

— Якраз так, давайце толькі падлічым, у якім калене!

І я расказала яму ўсё, што ведаю пра Ратабыльскіх.

Ён у сваю чаргу сказаў, што добра памятае свайго дзеда, у якога ў Сакольнічах жыў кожнае лета.

Мы пагаварылі пра іншых мінскіх Ратабыльскіх, з якімі, на жаль, незнаёмыя, і нават прыйшлі да думкі, што нядрэнна было б сабраць іх на сямейиую ўрачыстасць, бо падлічылі, што мы сваякі ўсяго толькі ў чацвёртым калене — «чацвераюрадныя браты», як сказалі б браты-балгары, зусім блізкія, па паняццях гэтага народа, крэўныя. Калі толькі прозвішча «Ратабыльскі» не давалася кожнаму з тых воінаў, хто быў варты ўзнагароды. Я, аднак, лічу, што яно, відаць, было дадзена не прадзеду майму Фаме Ратабыльскаму, а яго бацьку Кузьме з Сакольнічаў, пра што сведчыць і паходжанне продкаў Леаніда Мікалаевіча, калі ўсё гэта добра ўзважыць. Але вырашаць такое пытанне пакінем нашчадкам, калі гэта іх зацікавіць.

След Леаніда Мікалаевіча, я, як і трэба было чакаць, згубіла, але ў таксі з таго часу саджуся з такім пачуццём, быццам заходжу да сваякоў, спадзеючыся застаць там аднойчы і гаспадароў.

Я хаце абавязаны прапіскаю —
Калыскаю, падвешанай пад столь.
Я маці абавязан кожнай рыскаю,
Драўлянай лыжкаю, глінянай міскаю —
Усім, чым працы абавязан стол.

Я — матчын спеў, я — матчыны трывогі,
Я — матчын гнеў, які ўставаў на ногі,
Гнаў смерць на Захад — у нару з нары —
Трацілаваю пугай перамогі.
Дыміліся сямі франтоў дарогі
За мной, як дынамітныя шнуры.

Пазбавіўшы ад грознага відовішча
Свет, не дазволю я, каб дым і пыл
Зямлю ператварыў у бамбасховішча,
Мільярд прапісак — у маўклівы прысак,
Мільярд калысак — у мільярд магіл.

(«*** Я хаце абавязаны прапіскаю...», 1963)

Гэтыя радкі — ці не адказ майго бацькі на пытанне: «Якая інфармацыя захоўваецца ў памяці яго генаў, генаў герояў руска-турэцкай, удзельнікаў першай імперыялістычнай і яго ўласнай — салдата Вялікай Айчыннай?»

## БАГАЦЦЕ ПАЭТА

-----

У штодзённым жыцці мой бацька быў няпростым чалавекам. Кажучы так, я маю на ўвазе сямейнае быццё. Ён не лічыў магчымым узвальваць на сябе цяжар бытавых праблем. Яго «апатыя» да сямейных спраў тлумачылася не гультайствам ці адсутнасцю пачуцця адказнасці перад блізкімі. Гэта ішло ад ранняга ўсведамлення Куляшовым яго прызначэння ў паэзіі, і ў пару сватання, калі можна акрэсліць бацькава заляцанне да маёй маці такім старамодным, асабліва для часоў іх рэвалюцыйнай маладосці, словам, ён папярэдзіў яе пра гэта, дадаўшы, што ніколі і нішто — ні каханне, ні сям'я, ні дзеці — не будуць для яго больш важным, чым яго праца, і што ні дзеля чаго жыццёвага ён не пойдзе на кампраміс з паэзіяй, бо «адчувае ў сабе талент, які лічыць неабходным рэалізаваць».

Мая маці, Ксенія Фёдараўна Вечар, не адразу ацаніла ўсю сур'ёзнасць гэтага зароку. Хоць яна і паходзіла са шляхты (бацька Ксеніі Вечар Фёдар Сымонавіч Шчарбовіч-Вячор быў ці то павятовым пісарам, ці то каморнікам, а маці — Дар'я Сымонаўна Радван-Валатковіч — дробнамаёнткавай шляхцянкай), аднак прайшла суровую школу сялянскага жыцця, бо з двухгадовага ўзросту, застаўшыся сіратою, выхоўвалася ў сялянскай сям'і, дзе дзевяцярых дзяцей ставіла на ногі ўдава, жанчына рэдкіх душэўных якасцей, валявая і суровая Вольга Сымонаўна Вячор, якая выхавала ў маёй маці, пляменніцы па мужу, стойкі характар і ледзь не гіпертрафіраванае пачуццё абавязку.

Аднаго разу васьмігадовую Ксаню цётка Вольга працягнула за валасы праз усю вёску з-за таго, што пляменніца, загледзеўшыся на народнае гулянне, недалічвала гусей, якіх пасвіла. Калі ж ледзь апрытомненае дзіця папрасіла растлумачыць, за што яго караюць, бо ўся вёска гуляе, ёй адказалі:

— Гуляць могуць тыя, у каго ёсць бацькі, а ты — сірата і павінна прывыкаць да працы.

Таму, магчыма, не напалохала маю маці суровая шчырасць жаніха.

Звязваючы свой лёс з сапраўдным паэтам, сялянская дзяўчына, безумоўна, не магла ведаць, які цяжар узвальвае на свае плечы. Да таго ж яна была надзвычай прыгожай — падстава для небяспечнай саманадзейнасці. Ды, на шчасце, мела багата іншых якасцей: была надзвычай энергічнай, працавітай і цярплівай, што неаднойчы выратоўвала і яе, і майго бацьку, і нашу сям'ю, і нават тых, хто выпадкова апынуўся побач.

А вынрабаванняў доўга чакаць не прыйшлося. І першыя прыйшлі з таго боку, адкуль іх ніхто не чакаў.

Неўзабаве пасля арышту Платона Галавача Куляшова выклікалі ў Саюз пісьменнікаў і прапанавалі разысціся з жонкай — сваячкаю «ворага народа». У выпадку нязгоды яму пагражае выключэнне з камсамола, а таксама і з Саюза пісьменнікаў.

Расказаўшы пра гэта жонцы, бацька паглыбіўся ў тужлівы роздум.

— Што ж ты збіраешся рабіць? — спыталася яна пасля працяглага маўчання.

— Усё застанецца як было,— адказаў ён.

— Але ж ты казаў, што паэзія для цябе важнейшая за ўсё...

— Безумоўна, але грош цана таму паэту, які здольны на здраду...

На пасадзе цяжкой
я працую, рабоце адданы,
Не для славы сваёй,
не для срэбра і не для пашаны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Срэбра ззяе раскошай
і сыта яно і адзета.
Толькі бедна натхненнем —
адзіным багаццем паэта...

(«На пасадзе цяжкой», 1956)

Цяжкасць сітуацыі чалавека, які глядзіць на свой занятак як на прызнанне, а не сродак існавання, не магла не адбіцца на жыцці блізкіх, як і на характары самога паэта, які з часам рабіўся ўсё больш гарачлівым, узбудлівым. Пад канец жыцця бацька, праўда, навучыўся стрымліваць сябе і ў тыя хвіліны, калі што-небудзь выбівала яго з раўнавагі, бацька не спрачаўся, а моўчкі ішоў да сябе і зачыняўся ў кабінеце. Да размовы, калі было пра што казаць, ён вяртаўся праз пэўны час, супакоіўшыся і абдумаўшы ўсё.

Не выключана, што ў выпрацоўцы гэтай карыснай прывычкі не апошнюю ролю адыграў вопыт яго бацькоўскай сям'і.

Аляксандр Мікалаевіч Куляшоў, мой дзед, ад каго, відаць, аддзядзічыў бацька свой гарачы тэмперамент, часта расказваў пры мне, што вытрымцы яго вучыў дзед па маці, Фелікс Мільта.

Прадзед майго бацькі Фелікс Мільта быў, паводле сямейнага падання, сынам таго арганіста-італьянца, якога разам з ксяндзом Галынскім нібыта прыслалі з Польшчы на працу ва уніяцкую царкву ў Стараселлі, што на Магілёўшчыне.

Мой бацька не ўхваляў размоў пра гэтых сваіх продкаў і не таму, думаю, што цураўся іх ці не цікавіўся гэтым пытаннем.

Людзі куляшоўскага светаадчування ў імкненні асэнсаваць жыццё не могуць думаць пра сябе як пра з'яву, якая існуе асобна ад іншых,— тых, хто быў да яго і будзе пасля. Я бяруся сцвярджаць гэта яшчэ і таму, што была сведкай размовы, якая, як мне цяпер здаецца, мела да гэтага дачыненне.

Неяк увечары, у пару нашага жыцця на вуліцы Горкага ў доме № 23 (а гэта значыць паміж 49-м і 53-м гадамі), бацька, забегшы дамоў, кінуў мне на хаду:

— Апрапайся, ідзём у оперны!

— ?! (Культпаходамі бацька нас не песціў.)

— Не пытайся, познімся!

Я хутка анранулася, і мы пабеглі. Добра, што тэатр быў недалёка, у сквярыку насупраць.

Ужо ў тэатры я даведалася, што бацьку запрасілі на спектакль з Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі разам з іх італьянскім госцем, карэспандэнтам органа камуністаў газеты «Упіта» Паоло Спрыяна.

Давалі «Травіяту» Вердзі. Гэта было маё першае знаёмства з операй. І хоць я потым бывала і на спектаклях міланскага тэатра «Ла Скала», гэты запомніўся на ўсё жыццё. Таму, магчыма, і захавалася ў памяці размова, якой я ў свой час не надала ніякага значэння.

Размова адбылася паміж Куляшовым і Спрыяна ў антракце, у тэатральным буфеце паміж келіхам шампанскага і бутэрбродам.

— Паоло, скажыце, хіба прозвішча Мільта сапраўды італьянскае?

— Так, безумоўна! Мільта ў Ламбардзіі, што Івановых у Расіі!

Бацька не стаў весці размову далей. Ён толькі злёгку ўсміхнуўся сваёй загадкавай усмешкай. Гэтую лёгкую ўсмешку — адбітак маўклівай ухвалы, я часам лавіла на бацькавым твары. То было ўнутранае святло, што струменіла з вачэй, змякчала рысы твару, кранала куточкі губ.

Цяпер я разумею, што ў той вечар ён пачуў у сабе голас продкаў — далёкіх, невядомых, але блізкіх па крыві, і многае, відаць, зразумеў у самім сабе. Зразумеў, але нічога мне не сказаў.

Бацька асцерагаўся, відаць, маёй будучай неабачлівасці. Шчыры беларус, ён самаадданa служыў сваім майстэрствам роднай зямлі і не хацеў, каб чалавек невялікага розуму абіраў яго народ духоўна, прыпісваючы яго талент іншай нацыі нават тады, калі б шукаў вытокі яго дару ў несмяротнага Дантэ.

Я пішу пра гэта таксама не ад любві да экзотыкі. Разумеючы, што ў маналіце, якім з'яўляецца нацыя, ёсць многа крапін, якія не адмяняюць галоўнага, калі лучацца ў цэлым, я гавару пра гэта таму, што пры мізэрнасці нашых ведаў пра мінулае нават незвычайнае прозвішча можа зрабіцца арыенцірам, які выведзе на шлях пошуку.

Пра Фелікса Мільта я ўпершыню пачула з вуснаў яго ўнука, бацькавага бацькі Аляксандра Мікалаевіча Куляшова.

Мой прапрадзед, калі верыць яго ўнуку, быў вельмі тэмпераментным і запальчывым чалавекам і, ведаючы гэта, ніколі не дзейнічаў пад уплывам хвіліны. Гэтаму ён вучыў і блізкіх, раячы ім адкласці разгляд і тым больш рашэнні ўсякага пытання, асабліва канфліктнага, хоць бы на суткі.

Аляксапдр Мікалаевіч быў сынам Аляксандры Феліксаўны Мільта і Мікалая Кузьміча Куляшова, чый бацька Кузьма Восіпавіч Куліш быў выхадцам з Украіны, з Паўлыша, што пад Краменчугом, адкуль ён падлеткам быццам бы прыехаў у Беларусь з абозам чумакоў і прыбіўся да бяздзетнага памешчыка Цітова. У яго ў маёнтку Боркі ён і праслужыў нямала гадоў, як расказвала мне сястра майго дзеда Соф'я Мікалаеўна Куляшова, у замустве Філіпава-Паспелава.

Версія Аляксандра Мікалаевіча, яе роднага брата, іншая. Яна больш адпавядае складу яго рамантычнай натуры. Мой дзед сцвярджаў, што Кузьма Восіпавіч Куліш быў казачком у Каменцы, маёнтку свайго ўкраінскага гаспадара-памешчыка, друга Цітова, якому і быў падараваны ці прададзены гаспадаром.

Аляксандр Мікалаевіч Куляшоў, які нарадзіўся 28 сакавіка 1888 года ў Кувечына, быў унукам Кузьмы Куліша ад яго сына (аднаго з чатырох) Мікалая. Дзед Аляксандр быў чалавекам невысокага росту, але надзвычай прыгожы. Прамы нос, вельмі сінія, нейкія дзявочыя, апушаныя густымі доўгімі вейкамі вочы і хвалістыя цёмна-каштанавыя валасы. Дзед быў абаяльным і тэмпераментным чалавекам, надзвычай артыстычным і безумоўна адораным прыродай. Ён, відавочна, мог бы дасягнуць у жыцці большага. Але бацькі жылі цяжка і мелі, апрача яго, яшчэ пяцёра дзяцей, і дзед быў вымушаны пайсці «ў людзі».

На шчасце, акрамя артыстычнасці, дзеда вылучала і любоў да навукі, педантычнасць і ўпартасць. Ён вывучыўся самастойна і ўсё жыццё вывучаў што-небудзь новае.

Так, у той час, калі ў Аляксандра Мікалаевіча з'явілася я, першая ўнучка ад сына Аркадзя, маладому дзеду спаўнялася 48 гадоў. Ён жыў у Хоцімску, працаваў настаўнікам (выкладаў біялогію і нямецкую

мову), быў вядомы на ўсю акругу садоўнік і пчаляр, цудоўна спяваў і валачыўся за жанчынамі, не робячы з гэтага вялікіх трагедый.

Я добра ведала і любіла «дзядуньку», як мы, дзеці, яго называлі, і ён застаўся ў маёй памяці чалавекам шырокай натуры, які ахвотна прыходзіў на дапамогу людзям, але ўсё жыццё грашыў неразуменнем іх.

І наўрад ад нястачы псіхалагічнага чуцця. Прычына была, відаць, у іншым: Александр Мікалаевіч жыў быццам у тумане свайго багатага ўяўлення. Увесь час нешта прыдумляючы і эксперыментуючы, ён, заняты сабой і працаю, не заўважаў, ні чым, ні як жывуць іншыя, а калі жыццё ставіла перад ім гэтае пытанне, дзед з лёгкасцю творчага чалавека ствараў сваю версію, у якую сам потым цвёрда верыў.

Гэтых версій хапіла нават на маё жыццё. На шчасце, па пытаннях сямейнай гісторыі ў мяне быў і другі кансультант, Соф'я Мікалаеўна, родная сястра дзеда, адзіная дзяўчынка ў вялікай сям'і Аляксандры Феліксаўны і вельмі блізкі ёй чалавек.

Аляксандра Феліксаўна Мільта, бабуля Аркадзя Куляшова па бацьку, памерла на руках дачкі ў 1924 годзе ва ўзросце 73-х гадоў.

У маі 80-га ў нашай апошняй размове, якая адбылася ў Фаставе, Соф'я Мікалаеўна пацвердзіла версію майго дзеда, сказаўшы, што чула ад маці, быццам яе дзед, бацька Фелікса Мільта — яго імя, на жаль, ніхто ўжо не памятаў,— быў у Стараселлі арганістам.

Калі з'явіўся ў старасельскім касцёле арганіст Мільта, можна было б і падлічыць, калі адштурхоўвацца ад таго, што яго ўнучка Аляксандра нарадзілася ў 1851 годзе. Праўда, калі ўлічыць, што паводле сямейнага падання арганіст Мільта прыехаў у Стараселле разам з ксяндзом па прозвішчы Галынскі (цікава, што такое ж прозвішча мелі памешчыкі, якія жылі перад рэвалюцыяй у Саматэвічах, і такое ж імя насіла вёска, дзе нарадзілася Кацярына Ратабыльская), дык трэба, відаць, думаць, што гэта павінна было адбыцца не пазней апошняга падзелу Польшчы. А хутчэй за ўсё да 1836 года, калі была скасавана Брэсцкая унія.

Напэўна ж вядома, што арганіст Мільта вывучыў сына Фелікса іграць на аргане, шасціструннай гітары і «вялікай скрыпцы» (віяланчэлі?), як назвала інструмент Соф'я Мікалаеўна, які нават яна, малодшая ўнучка, бачыла ў доме дзеда.

Пасля смерці бацькі-арганіста прадзед майго бацькі Фелікс Мільта стаў «па сумяшчальніцтву» і арганістам у касцёле. «Па сумяшчальніцтву» таму, што згодна з прафесіяй, якую ён атрымаў у Горы-Горацкім каморніцка-агранамічным вучылішчы, Фелікс Мільта быў ветэрынарам.

Аляксандра Феліксаўна прафесіі, натуральна, не мела: дачок тады не вучылі — выдавалі замуж, але з дзіцячых гадоў яна дапамагала бацьку збіраць зёлкі, якімі ён лячыў жывёлу. Соф'я Мікалаеўна расказвала мне, што бачыла ў дзеда старажытную кнігу з каляровымі малюнкамі раслін. Кніга была на польскай мове, якой Аляксандра Феліксаўна валодала, і нават часта гаварыла з бацькам-католікам. Праваслаўнай у сям'і была яе маці, па прозвішчы Сніслававіч. Імя бабулі Соф'я Мікалаеўна не памятала, але сказала мне, што і дзед яе, Фелікс Мільта і баба пахаваныя па могілках у Стараселлі па розных баках мяжы, што аддзяляе каталіцкую частку могілак ад праваслаўнай.

Соф'я Мікалаеўна многа і з замілаваннем гаварыла пра маці, Аляксандру Мільта, падкрэсліваючы яе незвычайную красу і такую ж працавітасць.

Якраз гэтая прыгажосць, кажуць, і зрабіла з маёй прабабкі атэістку, пасля таго як у Кіева-Пячорскай лаўры, куды Аляксандра Феліксаўна штогод хадзіла пешшу на багамолле, да яе аднойчы пачаў заляцацца «слуга божы».

Мне хочацца верыць словам Соф'і Мікалаеўны пра маці. З партрэта Аляксандры Феліксаўны, што вісеў у хаце яе дачкі, на мяне глядзела жанчына строгай узвышанай красы. Аляксандра Феліксаўна з часам замяніла свайго бацьку ў яго ветэрынарнай практыцы.

Пра тое, як гэта здарылася, мне тады ж, у Фаставе, расказала Соф'я Мікалаеўна.

Неяк да Аляксандры Феліксаўны неўзабаве пасля смерці яе бацькі прыбег усхваляваны селянін і пачаў прасіць вылечыць каня, якога ўкусіла гадзюка.

Аляксандра Феліксаўна аднеквалася, тлумачыла, што яна не лекар, але селянін не адступаўся, пераконваючы яе, што трэба адважыцца.

— Панячка,— прасіў ён,— не бойцеся, мы ж бачылі, як вы дапамагалі бацьку!

Урэшце Аляксандра Феліксаўна адважылася. Яна падрыхтавала адвар з зёлак, працадзіла яго і, абкруціўшы бутэльку ручніком, уліла змесціва ў рот пакутніка. Конь быў ужо такі слабы, што нават не падымаў галавы, лежачы на баку і цяжка дыхаючы.

— А навошта быў ручнік? — перапытала я ў гэтым месцы Соф'ю Мікалаеўну.

— Каб конь не раздушыў зубамі бутэльку,— растлумачыла яна, і гаворка пацякла далей...

— Маці,— расказвала Соф'я Мікалаеўна,— паўтарала гэтую працэдуру па некалькі разоў штодня, і праз некалькі дзён конь устаў

на нозі. Ён быў прыгожы — шэры, у яблыкі...— скончыла апавядаць мая бабуля.

Мы сядзелі з ёй у прыцемку маленькага пакоя, абапіраючыся локцямі на авальны столік, накрыты плюшавым абрусам. Чай даўно астыў, я спазнілася на апошнюю электрычку, а мы ўсё перагортвалі старонкі сямейнага фотаальбома Соф'і Мікалаеўны, і нам цяжка было адарваць погляд ад дарагіх твараў... Як я шкадую цяпер, што не папрасіла яе тады завяшчаць гэты альбом мне — у бабулі ж не заставалася іншых больш блізкіх сваякоў!.. Але як гаварыць пра завяшчанне з чалавекам, якому 84 гады?

Пасля выпадку з канём Аляксандра Феліксаўна паверыла ў сябе.

Пазней гэта вельмі спатрэбілася ёй у жыцці, бо Мікалай Кузьміч Куляшоў, за якога яна выйшла замуж і жыла спачатку ў яго маёнтку ў Кувечына, на зямлі яго бацькі (якому, як спадчынніку, падараваў надзел бяздзетны Цітоў), незадоўга перад рэвалюцыяй страціў права на бацькоўскі маёнтак. Справа ў тым, што яго бацька, Кузьма Восіпавіч, пасля смерці першай жонкі — маці Мікалая і трох братоў — ажаніўся паўторна і меў дзяцей і ад другой жонкі. Калі ж ён памёр, брат яго другой жонкі, натарыус, падрабіў духоўную і пазбавіў спадчыны дзяцей ад першай жонкі.

Сям'я Мікалая Куляшова вымушана была пакіпуць Кувечына, дзе, дарэчы, і нарадзіўся бацькаў бацька, і пераехаць у Стараселле, на радзіму Аляксандры Феліксаўны. Так яны зноў апынуліся ўжо ў флігелі роднага дома і жылі галоўным чынам з ветэрынарнай практыкі гаспадыні.

Што ж да майго дзеда, яго сына Аляксандра Мікалаевіча, дык для таго, каб вы зразумелі склад яго натуры, яго энергію, энтузіязм і схільнасць да ўсяго новага, яго перапоўненасць ідэямі, прывяду пару выпадкаў з жыцця, сведкамі якіх мы былі.

У вялікім садзе майго дзеда заўсёды стаяла з дзесятак вулляў.

Памятаю, як мы, дзеці, беглі ў дом хавацца, калі дзед пачынаў выкурваць пчол, каб дабрацца да мёду.

Я ўжо казала, што, апрача ўсяго, дзед быў і добрым садоўнікам. З яго школкі бралі саджанцы жыхары многіх навакольных вёсак.

Садавіну, пераважна яблыкі, дзед трымаў у мураваным склепе. Склеп быў бы ўсім добры, калі б не сырасць. Не ведаю, дзе Аляксандр Мікалаевіч прачытаў такую параду — а ён усё рабіў «па навуцы»,— але аднаго разу абвясціў, што ведае сродак супраць сырасці.

Праз пэўны час — усё гэта адбывалася ўвесну,— якраз той парой, калі дзед дасылаў нам апошнія ў сезоне яблыкі, мы атрымалі ліст, у

якім паведамлялася, што на гэты раз яблыкаў не будзе, бо... Далей дзядунька не без гумару апісваў свой чарговы «эксперымент».

Для таго каб вывесці сырасць, дзед запаліў у цэнтры склепа серу. Што з сырасцю — невядома, а яблыкі спякліся.

Акрамя таго, Аляксандр Мікалаевіч быў і мясцовым краязнаўцам. Ён расказваў мне, што ў іх краях, у вёсцы Альшоў, стаяў маёнтак Сяргея Рахманінава (у гэтым будынку потым размяшчалася праўленне калгаса ці саўгаса «Прагрэс»). Дзед чуў гэта ад старога слугі-дзядзькі, які вельмі любіў выхаванца, а чуючы па радыё імя вялікага кампазітара, змахваў слязу і казаў: «Гэта майго Рахманіна граюць». Я запомніла гэтае дзедава апавяданне таму, што мяне, як і яго, заўсёды здзіўляла, чаму слуга называў свайго выхаванца Рахманіным замест Рахманінава. Гэтай версіі я ніколі не правярала, але пішу, каб дабавіць яшчэ адзін штрых да партрэта свайго дзеда, а што да Рахманінава, дык, можа, і гэта каму-небудзь спатрэбіцца...

Вяртаючыся да таго, што было сказана раней, паўтару, што Аляксандр Мікалаевіч быў гарачлівым чалавекам. Таму дзед Фелікс і вучыў унука не даваць сабе волі і адкладваць на суткі рашэнне любога пытання.

Жыццё з часам пацвердзіла слушнасць дзедавай навукі і на вопыце сям'і Аляксандра Мікалаевіча, калі аднаго разу ён ледзь не забіў свайго сына Аркадзя, майго бацьку.

А было гэта так. Збіраючыся на кірмаш, дзед запрагаў каня. Бацька, у той час хлапчук гадоў васьмі-дзесяці, які вельмі любіў кірмашы, дурэў і жартаваў, прадчуваючы свята. Хлопчык трымаў у руцэ гнуткі дубчык, якім, не ведаючы, куды падзець сваю энергію, злёгку пасцёбваў па нагах раз сястру, раз каня.

Сястра была малая. Яна не зразумела жарту і ўсчала роў. Дзед не стаў ні ў чым разбірацца, вырваў з рук сына дубец і сцебануў ім. Удар, як на бяду, прыйшоўся па соннай артэрыі, і хлопчык упаў на зямлю як падкошаны.

— Яго ледзь вярнулі да жыцця,— скончыла свой расказ Надзея Аляксандраўна.

З таго часу Аляксандр Мікалаевіч памятаў навуку дзеда Фелікса. Раззлаваўшыся, зачыняўся ў сваім пакоі.

Праз многа гадоў нешта падобнае паўтарылася і ў сям'і майго бацькі. Я, пяцігадовая, накарала за нешта свайго трохгадовага брата, якога, дарэчы, вельмі любіла і з ахвотай даглядала. Але маці, пачуўшы лямант агульнага пестуна, не стала разбірацца, хто вінаваты, а проста паскардзілася на мяне бацьку. Ён таксама не разабраўся што да чаго, бо яго адарвалі ад працы, і проста адшлёпаў мяне.

Я плакала не столькі ад болю, колькі ад крыўды, а бацька, смяртэльна спалоханы, цёр маю паясніцу, прыгаворваючы ў спалоху, што адбіў дачцы ныркі. Гэтыя «ныркі» заселі ў памяці таму, што так тады ўзрушылі яго. Цяпер, супастаўляючы факты бацькавага жыцця, я разумею, што сябра яго дзяцінства, сямігадовы хлопчык, памёр, відаць, ад таго, што ўласны бацька адбіў яму ныркі.

Што ж да мяне, дык нічога ён мне не адбіваў, бо і біў больш для парадку, будучы ўпэўнены, што аднаўляе сямейны мір і справядлівасць. Аднак з таго часу ён ні на кога не падымаў рукі.

У бытавых адносінах бацька быў выключна непатрабавальным чалавекам. Па хаце ён заўсёды хадзіў у спартыўным касцюме і змяняў сваю «уніформу» толькі тады, калі хто-небудзь, заўважыўшы, што ў яго ў яго свецяцца калені, купляў новую. Так было і з кашулямі, касцюмамі, абуткам, капелюшамі. Бацька прыдзірліва аглядаў сябе ў люстры толькі ў тых выпадках, калі яму трэба было куды-небудзь ісці. Тады ён прыходзіў да мяне і гаварыў прыкладна наступнае:

— Валя, пастрыжы мяне, я іду ў ЦК!

У гэты час (здаралася такое паміж 1969 і 1978 гг.) ён меў невялікую патрэбу ў стрыжцы, бо ад яго светла-каштанавай чупрыны застаўся толькі венчык валасоў на патыліцы, але такім быў рытуал: паход у ЦК быў для яго падзеяй, і яму хацелася выглядаць там як найлепей.

А складаным у супольным жыцці бацька быў для тых, хто яго разумеў. Што ж да тых, хто яго не разумеў альбо не лічыўся з ім, усё было простым, бо з-за сціпласці сваёй бацька ніколі не рабіў людзям нават заўваг.

Памятаю той кашмарны перыяд, калі ў нашай чатырохпакаёвай кватэры па Ленінскім праспекце, дзе ўжо жылі дзесяць чалавек, з'явілася першая з тых жонак маіх братоў, якія, выходзячы за іх замуж, абвяшчалі ўжо на вяселлях, што гэтым самым робяць кар'еру. Праўда, настаўленыя на лёгкае жыццё, яны не затрымліваліся ў нашай вялікай, складанай сям'і, якая заўсёды жыла даволі сціпла.

З'яўленне гэтай нявесткі балюча ўдарыла па бацькавых нервах, бо з яе прыходам у хаце назойліва загучала «Люблю я ма-ка-ро-ны!» (пошлы шлягер шасцідзесятых гадоў).

Мой бацька вельмі любіў добрую музыку, якая, безумоўна, натхняла яго на творчасць (як я гэта цяпер разумею), аднак ніколі не купляў ні радыёл, ні прайгравальнікаў, ні чаго-небудзь падобнага. Зрэшты, ён увогуле нічога ніколі не купляў, за выключэннем кніг, адэкалону «Шыпр» і шчоткі для зубоў у кіёсках санаторыяў.

Так, напрыклад, нават радыё з'явілася ў нас на Нарачы толькі пад націскам прыхільнікаў навін.

Я, якая не разумела тады, што бацька аберагае сябе ад інфармацыйных перагрузак, пасля таго як усе спробы дамашніх правесці радыё разбіваліся аб глухі мур бацькоўскага маўчання, прыдумала спосаб паўплываць на яго. На мелодыю моднай тады песенькі Лаліты Торэс склала жартоўную прыпеўку наступнага зместу:

Наша жизнь течет печально
Не известны нам событья,
Жить без радио должны мы,
Словно мыши в темноте...

Я ніколі не вылучалася здольнасцямі ў паэзіі, і хутчэй за ўсё таму нудная прыпеўка, якая спявалася хорам, падзейнічала. Яшчэ больш няўмольным бацька быў у адносінах да тэлевізара. Таму гэты «цуд тэхнікі» з'явіўся ў нашым доме толькі ў 1964 годзе, падараваны яму да юбілею.

Пазней і бацьку не ўдалося ўстаяць супраць гэтага «хатняга кіно», але да тэлеперадач бацька заўсёды ставіўся вельмі выбарна, за выключэннем праграмы «Час», якую глядзеў заўсёды.

Я разумею, адкуль ішло яго непрыманне ўсяго, што гучыць, апрача добрай музыкі. Бацька жыў напружаным духоўным жыццём. Увесь час ён штосьці-небудзь абдумваў — стан, для захавання якога больш за ўсё неабходны цішыня і спакой.

Лічачы галоўнай справай жыцця паэзію, бацька ўхіляўся ад усяго, што не было з ёю звязана. Таму ў нашай сям'і гаспадарыла жанчына, мая маці. Абцяжараная хатнімі турботамі, яна магла займацца выключна справамі бягучага моманту, таму стратэгіяй сямейнага жыцця ў нас не займаўся ніхто, і яно ішло само сабой: з усімі вынікамі — цяжкасцямі і нават трагедыямі. Гэта, зрэшты, зразумела: у жыццё такіх сем'яў лёгка ўмешвацца, лёгка нават разбурыць яго. І яно было б разбурана, каб не матчына сялянская ўпартасць, сэнс якой мой бацька ў канцы жыцця зразумеў і ўхваліў.

Калі ж, улічваючы ўсё толькі што сказанае, гаварыць пра Куляшова-сем'яніна, дык трэба адзначыць, што ён быў добрым геніем сям'і, бо меў здольнасць ствараць вакол сябе атмасферу замілавання.

Бацька, які звычайна ні ў што не ўмешваўся, умеў назіраць за падзеямі як бы збоку, але ў вырашальны момант знаходзіў спосаб умяшацца ў іх так, каб даць ім неабходны паварот.

Памятаю, як у маі 1967 года, у вельмі складаны для нас з Хрыстам перыяд жыцця ў Балгарыі, бацька не пісаў мне, у адрозненне ад маці, якая не толькі пісала, але адважвалася нават даваць парады.

Бацька лячыўся ў гэты час у Барвісе. Там яго наведаў Кайсын Кулієў і, між іншым, сказаў бацьку, што збіраецца ў складзе пісьменніцкай дэлегацыі ў Балгарыю.

Бацька даў Кайсыну Шуваевічу мае каардынаты ў Сафіі, папрасіў яго звязацца са мной і дапамагчы, калі спатрэбіцца. Кайсын Шуваевіч так і зрабіў, і якраз цёплая і далікатная спагада сапраўднага чалавека, бацькавага сябра, дапамагла мне там, на чужыне, не згубіць сябе і знайсці правільнае выйсце з няпростай жыццёвай сітуацыі. Гэтую рысу бацькавага характару я тлумачу жорсткім жыццёвым вопытам і мудрасцю. Каб да канца зразумець майго бацьку як чалавека, трэба ведаць, як ставіўся ён да ўсяго жывога, бо толькі ў адносінах да «братоў нашых меншых» ён праяўляў сябе адкрыта, чалавекам надзвычайнай непасрэднасці.

Так, напрыклад, вавёрка, якая з'явілася ў нашым доме ў 1949 годзе (мы жылі тады на вуліцы Горкага, 23 у кватэры 16) і кусала ўсіх, хто спрабаваў дакрануцца да яе, прызнала ўрэшце толькі бацьку.

Вавёрка жыла ў яго кабінеце ў вялікай клетцы, што стаяла на падлозе каля адной з бацькавых кніжных шафаў. У ёй вавёрка толькі спала, увесь астатні час праводзіла на свабодзе (клетку ніколі не зачынялі) у абсягу бацькавага кабінета.

Гаспадар любіў назіраць за вавёркай, але ніколі не паспрабаваў дакрануцца да яе.

Можа, якраз таму яна мела давер толькі да яго, ускокваючы са сваім арэхам на бацькава плячо, калі ён садзіўся за стол, каб пісаць, ці ўладкоўвалася ў яго на грудзях, калі бацька працаваў лежачы.

Улетку 1971 года, едучы з груднай дачкой на Нарач, я прывезла туды 30 куранят, каб было з чаго варыць ей суп, калі надыдзе час.

Гэтых куранят вельмі хутка вызваўся карміць бацька і рабіў гэта з такой ахвотай, што неўзабаве яны бегалі за ім, як за сваей маці-кураводкаю. Калі ж надышла пара варыць булёны, бацька так перажываў знікненне кожнага куранящі, што мне прыйшлося адмовіцца ад сваёй ідэі і ў канцы лета аддаць курак жанчыне, што насіла нам малако.

Увосень 1969 года мне падаравалі бройлера — кураня, якое я і прывезла дадому. Яно аказалася такім шустрым і моцным, што ўзлятала на плячо маці, калі яна стаяла пры пліце, без усялякага разгону, проста з падлогі. Але панібрацтва Піфа (так мы называлі пеўніка) не падабалася маці, і яна яго зганяла. Тады Піф «перадыслацыраваўся». Пад час абеду ён пачаў узлятаць на плячо да бацькі і ўладкоўваўся альбо там, альбо па галаве гаспадара. У такіх выпадках бацька пераставаў нават варушыцца, каб выпадкова не

скінуць пеўніка. Бацька рабіў так, відаць, таму, што яму вельмі хацелася даведацца, што ж Піф будзе рабіць далей. Гэта быў адзіны спосаб зразумець жывое — веданне, якім бацька вельмі даражыў.

Падкормліваючы суровай зімой 1985 года кацянят у Доме творчасці «Каралішчавічы», я ўспомніла, што першыя з'явіліся там з маёй лёгкай рукі. Я прывязла іх туды ўлетку 1949-га, у той год, калі Дом творчасці, што даваў прытулак пісьменнікам да 1986 года, упершыню адчыніў для іх свае дзверы.

Кацяня тыгравай масці ў мяне выпрасіла дачка Кандрата Крапівы, Люда, мая равесніца, а кошачку-рыску, белую, у рэдкія чорна-рыжыя плямы, мы пакінулі сабе.

Люда толькі што скончыла восьмы клас і, знаходзячыся яшчэ пад уражаннем нядаўніх экзаменаў, а таксама, відаць, з літаратурных асацыяцый, назвала кацяпят Каралінай і Францішкам.

Лета было ў разгары: дарослыя і дзеці хадзілі на Свіслач купацца і лавіць рыбу, збіралі грыбы, гулялі ў валейбол і гарадкі, ездзілі на веласіпедах, ладзілі спаборніцтвы па стральбе.

Па вечарах дом гудзеў ад песень і жартаў, а час ад часу ўсе збіраліся ў холе, каб паслухаць чый-небудзь новы твор.

Памятаю, як аднаго разу, праслухаўшы п'есу маладога драматурга, Піліп Пестрак раскрытыкаваў яе такім чынам. Яго словы зрабіліся ў нас нават прыскажкаю:

— Пс-с-с... (Гэтае «пс-с-с...» — польскі выклічнік, які выражае прыкрасць, агіду, нешта накшталт нашага «фэ».) П'еса без камісара!

Не прыпамінаю ўжо, якім быў плён «творчых конкурсаў» жыхароў Каралішчавіч з нагоды з'яўлення «братоў нашых меншых», але бацька неяк прадэкламаваў, уваходзячы ў сталоўку:

Каралiна i Францiшак
Пад ялінай ловяць мышак!

Падросшыя кацяняты ператварыліся раптам у сапраўдных драпежнікаў: удзень яны пераважна спалі, а па начах выходзілі на паляванне.

Тады мы, нарэшце, зразумелі, каго з нас Караліна выбрала сабе ў гаспадары. Прыносячы ў дом здабычу, яна, перш чым з'есці яе, лічыла сваім абавязкам пахваліцца ёю бацьку, і таму ён неаднойчы знаходзіў прыдушаных птушак і мышэй у сябе пад ложкам, а аднойчы быў нават асабліва ўгапарованы — мышка ляжала на яго падушцы. У маці ўсё гэта выклікала абурэнне, а бацька вельмі ганарыўся такім даверам.

Неўзабаве Караліна пачала «дапамагаць» бацьку ў працы. З вялікай цікавасцю кратала яна лапкай клавішы пішучай машынкі, калі бацька садзіўся друкаваць, а варта было яму пакласці перад сабой ліст паперы, як котка выдавала кароткае «му-ур», што азначала, відаць, ухвалу, скручвалася на паперы абаранкам, і бацьку шкада было турбаваць яе.

З таго часу ў нашым доме з'явіліся белыя кошкі-рыскі з традыцыйным імем Караліна. Іх было ўсяго дзве, але яны былі для бацькі чымсьці накшталт талісмана, у цудоўную сілу якіх ён непахісна верыў.

Першая з іх пражыла ў нас пяць гадоў. У 1954-м яе напалохаў Анчар, выжал Міколы Садковіча, і кошка не змагла акаціцца.

Бацька ўсур'ёз перажываў яе пагібель, сказаўшы нам, што ў яго жыцці, відаць, пачынаецца нешчаслівая паласа. Здзіўляе тое, што так яно і было.

Другая Караліна з'явілася ў нас у 1970 годзе. Мне нават думаецца, што яна — далёкі патомак сваёй першай цёзкі, такое было паміж імі падабенства. Гэта магчыма, бо старая Караліна пакінула ў 1953-м на Нарачы сваё патомства.

У ліпені на Нарачы я прынесла ў хату маленькае кацяня, бо, убачыўшы яго, не змагла ўстрымацца ад таго, каб не падзяліць з бацькам сваё захапленне красою гэтага мяккага, белага, блакітнавокага камячка.

Да восені кацяня вырасла ў кошачку, як дзве кроплі вады падобную да першай Караліны.

Бацька бачыў у гэтым добры знак. Таму, калі пры пераездзе ў Мінск маці не дазволіла яму ўзяць кошачку з сабой, ён назаўтра зноў пагнаў машыну на Нарач, сказаўшы, што пакінуў там рукапіс. Караліна пражыла ў бацькавым доме апошнія восем гадоў яго жыцця, самых спакойных у жыццёвым сэнсе і плённых у творчых адносінах.

Увесну 1981 года, знаходзячыся ў камандзіроўцы ў Маскве, я праведала ў Крамлёўскай бальніцы Кайсына Куліева, з якім бацька дружыў. Кайсына Шуваевіча я знайшла ў садзе. Ён сядзеў на белым вітым металічным крэсле каля мініяцюрнага століка таго ж колеру. Белая мэбля па ярка-зялёным дыване травы ў цяні расквітнелых яблынь выглядала так святочна, што гэтая краса гучала дысанансам са станам здароўя Кайсына Куліева.

Да нашага століка падсеў Расул Гамзатаў, які таксама лячыўся ў гэты час у Крамлёўцы. З Расулам Гамзатавічам мы пазнаёміліся даўно, летам 1953 года, калі ён наведваў бацьку ў гасцініцы «Масква» ў дні святкавання 60-годдзя Уладзіміра Маякоўскага.

— Ведаеш, Валя, учора, калі чакалі цябе тут, мы шмат гаварылі пра твайго бацьку,— уключыўся ў размову Расул Гамзатавіч,— і прыйшлі да вываду, што ён быў самым лепшым сярод нас чалавекам, самым шляхетным!

— Дон Кіхотам у лепшым сэнсе гэтага слова! — дадаў Кайсын Шуваевіч.

Сапраўдным людзям так і належыць казаць пра сябра, які адышоў, асабліва ў размове з яго дачкой, але мне верыцца, што яны не крывілі душой, гаворачы так пра майго бацьку.

## О, ДОН КІХОТЫ!

-----

У чэрвені 1985 года з жыцця пайшоў балкарскі паэт Кайсын Куліеў, адзін з тых, хто ўпрыгожваў жыццё Куляшова сваёй прысутнасцю, хто быў для яго рыцарам дабра, Дон Кіхотам. Так сам ён некалі назваў майго бацьку...

Калі і як пазнаёміліся Кайсын Куліеў і Аркадзь Куляшоў, гаварыць не бяруся, хоць, пэўна, неаднойчы чула пра гэта і ад бацькі, і ад Кайсына Шуваевіча. З пэўнасцю магу сказаць толькі, што знаёмства гэтае адбылося даўно, яшчэ ў ваенныя гады, і што звязана яно з асобай вялікага рускага паэта Аляксандра Твардоўскага.

З пачатку ж сямідзесятых у кожны бацькаў прыезд у Маскву яго сустракаў там, а пасля праводзіў Кайсын, як з пяшчотай у голасе называў тата невысокага, каранастага, жвавага і тэмпераментнага чалавека з нязменным шчаціннем вусоў пад каўказскім з гарбінкай носам. Кайсын Шуваевіч быў маладзейшым за бацьку гадоў на пяць-шэсць, як мне здавалася.

Пра адзін эпізод такіх праводзін я чула некалі ад Пімена Панчанкі і зараз перакажу вам.

Не памятаю ўжо, што, паводле Панчанкі, сабрала тады ў Маскве літаратараў, але ад'язджаў у той вечар толькі мой бацька, і Панчанка з Куліевым пайшлі праводзіць яго на Беларускі вакзал.

Падаў ліпкі снег і дзьмуў такі пранізлівы вецер, што прыходзілася прытрымліваць шапкі.

Бацька, відаць, пакутаваў з-за таго, што сябрам холадна і няўтульна на пероне, у той час калі сам ён карыстаецца камфортам, які ў гэты прамозглы вечар забяспечвае яму спальны вагон.

Аб гэтым сведчыў выраз бацькавага твару і тое, як ён знакамі даваў сябрам зразумець, што яны ўжо павінны ісці.

Панчанка памкнуўся быў пайсці, але Куліеў мацней прыціснуў да сябе руку Пімена Емяльянавіча, даўшы таму зразумець, што адыходзіць нельга.

Калі ж цягнік рушыў, а яны пайшлі да выхаду, Кайсын Шуваевіч сказаў Панчанку, што ён заўсёды праводзіць Куляшова дадому і стаіць на пероне, пакуль цягнік не знікне з вачэй, бо разумее, як важна для сябра ўсведамленне, што ў Маскве ў яго застаецца блізкі чалавек. Так павялося ў іх з таго дня, калі Куліеў пасадзіў Куляшова ў вагон пасля пахавання А.Т. Твардоўскага...

І пры жыцці майго бацькі і потым я неаднойчы бачылася ў Маскве з яго сябрамі — паэтамі Кайсынам Куліевым, Давідам Кугульцінавым, часам — Міхаілам Дудзіным, радчэй — Расулам Гамзатавым.

І заўсёды адчувала, што блізкасць Куляшова з Куліевым арганічная. Іх радніла многае, але галоўным было пачуццё глыбіннай сувязі чалавека з зямлёй як вытокам жыцця, якое знаходзіла яскравае адбіццё ў паэзіі.

Каб пацвердзіць гэтую думку, прывяду верш Кайсына Куліева «Зямля бацькоў» з яго кнігі на рускай мове «Чалавек, птушка, дрэва», якая ўбачыла свет у 1985 годзе ўжо пасля смерці аўтара.

Земля моя, чтоб ты всегда рожала,
Я был готов привыкнуть к кандалам.
Я так хотел, чтоб ты принадлежала
Лишь пахарям своим да мастерам.
Целую твою глину и твой камень,
Чегемский камень, дорогой до слёз,
И вижу, как поющими руками
Касается его каменотес.
И плачу я, в твои просторы глядя,
Лишь потому, что целый век в цепях
Я был готов ходить, чтоб на закате
Увидеть горы в розовых снегах.
Когда они алеют постепенно,
Оленьей кровью залиты густой.
Земля отцов, пленен твоей нетленной,
Приснившейся как будто красотой!

(Перевод Н. Кондаковой)

Мне здаецца, што дзякуючы адчуванню сваёй блізкасці з Куляшовым Куліеў першым адгукнуўся на маю прапанову запісаць на кінастужку для тэлебачання ўспаміны сяброў-паэтаў пра іх беларускага сабрата па пяры.

Кайсын Шуваевіч не проста падтрымаў гэтую прапанову, але і вырваўся па дзень з бальніцы, калі надышоў момант ажыццявіць задуманае.

Гэта было, як вы ўжо ведаеце, 12 красавіка 1980 года. У гасцініцы «Масква» ў нумары Юрыя Рытхэу сабраліся сябры паэтычнай музы Аркадзя Куляшова: Давід Кугульцінаў, Міхаіл Дудзін, Расул Гамзатаў і Кайсын Куліеў.

Стан здароўя Кайсына Куліева ў гэты момант быў увогуле цяжкі, а да таго ж ускладняўся прастудай. Ён амаль страціў голас, што рабіла для яго пакутлівай усякую размову.

Аднак калі надышоў момант выступаць, ён сказаў свае слова пра сябра з такім захапленнем і энергіяй, што, пачутае сёння з экрана, яно выклікае адну-адзіную думку — пра вялікую жыццяздольнасць гэтага чалавека.

Астатак таго дня мы правялі разам, бо атрымалі запрашэнне на творчы вечар Расула Гамзатава ў ЦДЛ. Дзень завяршыўся сяброўскай вячэрай.

Памятаю, як здзівіў мяне Кайсын Шуваевіч, калі прыняў прапанову быць тамадой. Хворы, без голаса... Але яшчэ больш здзівіла тая ўвага, тыя словы прыязні і павагі, якія Кайсын Шуваевіч знайшоў для кожнага з прысутных за сталом, сказаўшы ў яго гонар адпаведны тост.

Калі пазней, у машыне, што развозіла ўсіх па хатах, нехта з нас пачаў дакараць Кайсына Шуваевіча за тое, што ён не беражэ свайго здароўя, Куліеў адмахнуўся і сказаў:

— А інакш свята пераўтварылася б у звычайную п'янку!

Гэтая фраза адкрыла мне вочы па многае ў рыцарскай натуры бацькавага сябра. Я зразумела, напрыклад, чаму ў наш імклівы час, калі ў штодзённай нашай спешцы мы апускаем у адносінах адзін да другога шмат якія з тых нюансаў ветлівасці, што выпрацаваны многімі стагоддзямі зносін паміж людзьмі, Кайсын Шуваевіч часам бываў нават наўмысна старамодны. Усякі кантакт з чалавекам пачынаўся ў яго звычайна з, магчыма, пават залішне зацягнутай дэманстрацыі пашаны да субяседніка. Пры гэтым Куліеў быццам бы знарок затрымліваў увагу чалавека на рытуале свайго вітання.

Гэта таксама яднала Куліева з Куляшовым з той толькі розніцай, што бацька быў вельмі сарамлівым чалавекам і пазбягаў усяго знешняга. Але шляхетнасць кожнага з іх мела агульныя вытокі — ішла ад складу душы, уражлівай і ранімай.

У сувязі з гэтым мне хочацца прыгадаць размову, якая мела месца ў часе адной з апошніх сустрэч сяброў майго бацькі ў Маскве.

У той дзень мы сабраліся, як павялося паміж намі, за «куляшоўскім» столікам рэстарана гасцініцы «Масква». Столік гэты займае ў ім такое нязручнае месца, што аднаго позірку на яго хапае, каб зразумець, што той, хто выбірае для сябе гэтае месца, думае толькі, як бы хутчэй сесці і не маячыць перад вачыма людзей. На гэты раз мы сабраліся за столікам утраіх: Куліеў, Кугульцінаў і я. Загаварылі пра бацьку, але Кайсын Шуваевіч маўчаў. Стваралася

ўражанне, што нешта перашкаджае яму засяродзіць увагу на прадмеце нашай размовы.

Калі ж нехта з прысутных звярнуў на гэта яго ўвагу, Кайсын Шуваевіч расказаў наступнае:

— Не так даўно ў мой дом у Чэгеме пастукалі. Было гэта раніцой, гадзін у шэсць. Я выйшаў з дому і ўбачыў старэнькую жанчыну. Гады сагнулі яе і высушылі. Яна выглядала такой знясіленай, што я міжволі рвануўся да яе, каб падтрымаць. Убачыўшы мяне, жанчына заплакала і кінулася ў ногі. Я ледзь паспеў падхапіць яе і, абняўшы за плечы, павёў у хату. Супакоіўшыся нарэшце, жанчына сказала, што я — апошняя надзея, бо гаворка ідзе пра жыццё яе адзінага сына.

Высветлілася, што дваццацігадовы сын гэтай жанчыны, звязаўшыся са сваім саракагадовым дзядзькам, пайшоў на злачынства і што іх чакае цяжкая кара.

Я запісаўся на прыём у Пракуратуру СССР,— расказваў далей усхваляваны Кайсын Шуваевіч,— і ў азначаны дзень стаў чакаць у прыёмнай. Нарэшце дзверы адчыніліся і... сэрца маё абарвалася: у прыёмную з папкай у руцэ ўвайшла «маладая кабыліца»...

За сталом запанавала цішыня.

— Што мне сказаць цяпер старэнькай? Такая навіна заб'е яе...

Зноў запанавала ціша. Праз пэўны час мы пачалі даводзіць Кулієву, што «маладая кабыліца» (так ён акрэсліў тып той жанчыны-пракурора, з якой яму давялося сутыкнуцца) не такая ўжо і вінаватая, што на яе баку — закон, які для ўсіх аднолькавы, і што вінаватыя павінны быць пакараныя...

Кайсына Шуваевіча мы, аднак, не суцешылі: сэрца яго было са «старэнькай», той самотнай, слабенькай, няўцешнай маці.

У гэтым сваім душэўным руху ён быў увесь — прыгадайце, колькі вершаў прысвяціў ён маці. Мне здаецца, што гэта самы часты, самы нязменны і дарагі яго адрасат, самая вялікая святыня яго пяшчотнай сыноўскай душы...

Хочацца сказаць некалькі слоў яшчэ аб адной жанчыне, Елізат, спадарожніцы апошніх некалькіх гадоў жыцця Кайсына Куліева.

Маладыя жонкі пажылых пісьменнікаў — тэма рызыкоўная. Але гэтая чароўная жанчына не спалохалася, звязваючы свой лёс са смяротна хворым чалавекам у той момант яго жыцця, калі ён страціў надзею не толькі на шчасце, але губляў, мне здаецца, і веру ў дабро.

Падобнае можа зрабіць толькі бясконца закаханая жанчына. Гэтае вялікае пачуццё вярнула Кулієву сілы і прагу да жыцця.

Сведчаннем таму могуць служыць многія вершы апошняй кнігі К. Куліева, прысвечаныя гэтай цудоўнай жанчыне:

Как в молодости, я на склоне лет
Вдруг на твоем лице увидел свет,
И вновь мне на мгновенье показалось:
Бед никаких со мною не случалось,
Что нету старости и смерти нет.
Я понял, что отныне и навеки
Не будут замерзать зимою реки,
Ни с кем нежданных не случится бед.
На мир воззревши просветленным взглядом,
Я понял, что любовь со сказкой рядом —
Превыше всякой суеты сует.
(«Любовь со сказкой рядом»
пер. с балкарского Н. Гребнева)

Аднойчы, калі я пачала гутарку пра тое, што сябры Куляшова павінны напісаць успаміны пра яго і, улічваючы іх занятасць, прапанавала выкарыстаць для гэтага магнітафон, Кайсын Шуваевіч пакрыўдзіўся і сказаў:

— Пра Куляшова трэба пісаць уласнай рукой, як пішуць уласныя вершы!

Ён не паспеў зрабіць гэтага, бо час яго быў ужо адмераны... Але я ўдзячная Куліеву за гэтыя словы — сведчанне таго, як высока цаніў ён сябра, а галоўнае — як ён сам ставіўся да жыцця і паэзіі.

О Дон Кихоты прошлых дней,
Поэты всех краев и наций!
Вы падали с худых коней,
Чтоб вновь вставать и вновь сражаться.
И настоящий великан,
И мнимый, что совсем не страшен,
Вам наносили столько ран,
Что алым цветом крови вашей
И обозначен и украшен
Путь всех времен, племен и стран.
Вас люди втравливали в бой,
Кто мстя, кто просто для потехи,
Но, принимая бой любой,
Латая старые доспехи,
Все ж оставались вы собой.
Порой не слышал вас никто,
Пред вами закрывали двери.
А вы все веровали в то,

Во что никто давно не верил.
И пусть вы видели подчас
Так много зла на белом свете,
Пусть жизнь обманывала вас,
Вы сказки слушали, как дети.
За эти многие года,
Не преуспевшим в бранном деле,
Неправда мстила вам всегда,
А вы о правде песни пели.
Пусть ваши чаянья не раз
В нечаянном огне пылали,
Пусть ваш бывал не слышен глас
И вы не часто побеждали,
Но как бы жили мы без вас?
(Кайсын Кулиев. «Дон Кихоты»,
пер. Н. Гребнева)

Успамінаў пра Аркадзя Куляшова Кайсын Куліеў не пакінуў. Але ж хіба гэты верш — не пра агульны лёс сапраўдных паэтаў?

## «НА МІЛАЙ УКРАІНЕ»

-----

Ці памятаеце, як пачынаўся верш Куляшова «Каменка», напісаны ў 1946 годзе? Не турбуйцеся, я прыгадаю:

Жыў дзед мой, ходзяць чуткі,
Каля дняпроўскай плыні,
У Каменцы бялюткай,
На мілай Украіне...

Скажыце, ці многа знойдзецца ў беларускай літаратуры радкоў, дзе б гаварылася пра суседа з такой непадробнай пяшчотай і гучала б так, як гучаць радкі, прысвечаныя малой радзіме — краіне дзяцінства і юнацкіх мар?

Сярод вершаў, якія да вайны часта чытаў альбо дэкламаваў бацька, сустракаліся і нейкія незвычайныя. У іх не ўсё было зразумелым, як у маім любімым «Дубовом листке», што нязменна даводзіў мяне да слёз у тым самым месцы, дзе «и странник прижался у корня чинары высокой; приюта на время он молит с тоскою глубокой...».

«Думи мої, думи мої,
Ви мої єдині,
Не кидайте хоч ви мене
При лихій годині...» —

Дэкламаваў бацька, ходзячы па пакоі, а я слухала, седзячы на канапе, і, нібы летняя хмарка — сонейка, нешта зацяняла сэнс слоў, але ў іх адчувалася такая песенная моц, што хацелася слухаць і слухаць бясконца...

Як умру, то поховайте
Мене на могилі,
Серед степу широкого,
На Вкраїні милій,
Щоб лани широкополі,
І Дніпро, і кручі
Було видно, було чути,
Як реве ревучий.
. . . . . . . . . . . . . . .
Поховайте та вставайте,
Кайдани порвіте
І вражою злою кров'ю

Волю окропіте.
І мене в сім'ї великій,
В сім'ї вольній, новій.
Не забудьте пом'янути
Незлим тихим словом...

Пра дзіўную музыку тых вершаў і само чытанне я ўспомйіла праз многа гадоў, калі ў школе мы пачалі вывучаць творчасць Тараса Шаўчэнкі. Настаўніца пачала ўрок з «Заповіту», і я была ўражана не столькі тым, што разумею верш па чужой мове, колькі тым, што ведаю яго літаральна на памяць. У мяне ўжо было гэтак з Пушкіным, Лермантавым, Някрасавым, але я нават не ўяўляла сабе, што так можа быць і з Шаўчэнкам, ды яшчэ па-ўкраінску...

— Тата, ты калі-небудзь чытаў мне Шаўчэнку? — спыталася я, каб спраўдзіць свой успамін.

Мы жылі тады па Горкага, 23. Размова адбывалася ў бацькавым кабінеце, дзе стаяў пісьмовы стол і шафа пад арэхавае дрэва, ужо пагрызеныя яго любімай вавёркай, і скураная канапа, на якой ён і ляжаў, як заўсёды, калі працаваў. Бацька, відаць, сапраўды нешта абдумваў, бо не адразу адказаў на маё пытанне, а моўчкі ўстаў, падышоў да шафы з кнігамі і выцягнуў адтуль тры аднолькавыя тамы ў скураной карычнева-шэрай вокладцы. Гэты трохтомнік Тараса Шаўчэнкі, выдадзены ў 1949-м у Кіеве, захоўваецца зараз у мяне, а тады, паказаўшы мне яго, бацька кінуў свой занятак і пачаў перачытваць мне ўслых творы, якія да вайны чытаў па зборніку «Кабзар», што, як і ўся бацькава даваенная бібліятэка, згарэў у полымі ліхалецця...

Сямейнае паданне пра ўкраінскае паходжанне нашага прозвішча, відаць, праўдзівае. Невыпадкова ў Саматэвічах бацьку і па сёння клічуць «Куляшом». Але тое, пра што пойдзе гаворка ніжэй, я менш за ўсё звязваю з гэтым.

Бацька нарадзіўся на Магілёўшчыне, там, дзе адвеку сыходзіліся землі трох народаў з вялікай сям'і славян: беларускага, рускага і ўкраінскага.

Гэта адзін з тых куткоў зямлі, дзе яны жылі ў цесным суседстве, што не магло не накладваць сваіх асаблівасцей на характар, побыт і звычаі жыхароў гэтых мясцін.

Мой бацька нарадзіўся 6 лютага 1914 года, калі ўжо ішла першая імперыялістычная вайна. Прывычны, мірны ўклад жыцця, той, якога мой бацька, безумоўна, памятаць не мог, быў парушаны.

Ці не таму тэма вайны рана з'явілася ў творчасці Куляшова і прайшла праз яе ў самых розных сюжэтах? Адзін з іх, сюжэт верша «Маё пасведчанне», безумоўна навеяны фактам нараджэння ў год вайны.

Дадзена яно сабе самому
У тым, што нарадзіўся ў год вайны.
Нянек не было ў мяне, вядома,
Пессць не спявалі мне яны.

Думала вайна, як кананадай
Лепей ёй мяне закалыхаць;
Клапацілася як лепш блакадай
Рукі мне і ногі спелянаць.

Шмат вайной людзей закалыхана,
Многа спіць іх у зямлі сырой.
Выйшаў я на бой смяротны рана
З нянькаю няпрошанай людской...

(«Маё пасведчанне», 1951)

Але войны адгрымелі. Мір прынёс на зямлю Магілёўшчыны новы лад жыцця, і бацькі будучага паэта, настаўнікі, былі ў ліку тых, хто актыўна садзейнічаў яго ўсталяванню. К.Ф. Ратабыльская была першай з саматэвіцкіх жанчын, хто з сярпом у руках выйшаў жаць памешчыцкае жыта, якое ўжо абсыпалася, і сваім прыкладам зламала нясмеласць аднавяскоўак.

Новае ўваходзіла ў жыццё паступова, рознымі сваімі гранямі, укараняючыся ў тым сялянскім побыце, які складваўся тут вякамі і ў якім было многа разумнага і добрага. З усяго таго, што дасталося ў спадчыну ад традыцый мінулага, бацька больш за ўсё любіў кірмашы.

Ёсць на свеце роднае мястэчка,
Там штогод бываюць кірмашы;
Міма школы маленькая рэчка —
Без мяне адна плыве ў цішы.
Мне дакор яе далёкі, звонкі
У забытым чуецца трысці,
Заўтра кірмашовы дзень.
У жонкі
На дзень аднрасіўся:
— Адпусці.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бальшаком, на край зямлі і неба,
Я ўсю ночку цёмную ішоў,
Даганяў і абганяў, дзе трэба,
З лубкамі і сітамі дзядзькоў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Добры дзень, знаёмыя мясціны,
Карусель,
Крылатая душа!..
Гай шумлівы, гоман кірмаша,
Печанага хлеба водар кмінны.
(«Карусель», люты, 1930)

Тое, з чым вы зараз пазнаёміліся,— фрагменты верша «Карусель», размешчаныя мною ў адвольным парадку. Адвольным — таму, што кірмаш у ім — толькі фон асноўнага дзеяння. Аднак дух кірмаша, а галоўнае, стаўленне да яго паэта, перадаюць, мне здаецца, і гэтыя радкі.

У сваіх расказах пра саматэвіцкія кірмашы, якія, між іншым, мелі зафіксаваную дату — яны заўсёды адбываліся на Іллю, 2 жніўня — бацька апісваў іх падрабязна. З гэтых расказаў у нас, дамашніх, склалася ўражанне, што кірмашы былі пышнымі, але, што больш важна, гэта былі першыя ў жыцці майго бацькі і самыя яркія святы.

Таму, відаць, у апошнія гады жыцця ён з такім захапленнем глядзеў і слухаў па тэлебачанні песню «Цыганскія кібіткі» ў выкананні польскай спявачкі Марылі Радовіч.

Гэтыя кірмашы з цягам часу вырадзіліся, на жаль, у звычайныя базары, на адным з якіх, толькі ў суседняй з Магілёўскай Гомельскай вобласці, мне пашанцавала пабываць вясцой 1980 года. Некалі тут сыходзіліся і з'язджаліся на вясновыя кірмашы. Было гэтак жа людна, як і ў Саматэвічах на летніх. Тут, у Добрушы, можна было пачуць беларускую, рускую, украінскую гаворкі.

У наш час, пазначаны інтэнсіўнасцю зносін, цяжка адразу зразумець, якой падзеяй у сялянскім жыцці быў шумны кірмаш. Таму перш чым зноў загаварыць пра яго, давайце прыгадаем: сялянскае жыццё заўсёды пазначалася аседласцю, залежнасцю ўкладу жыцця ад зямлікар-міцелькі. Адчуць сэрцам, што гэта значыць, мне дапамог выпадак — знаёмства з запісам дыялекту, зробленым у 60-х у беларускай глыбінцы. Паслухайце, што гаворыць у ім пажылы селянін: «Мне трэба ўкладацца картофлі абганяць. Дзень у дзень ні прыпыняюса, і так цалюсянкі дзень раблю, чаго табе трэба больш?

Чатыры баразьне засталосо свае картошкі абагнаць. Ты вазьмі лапатку, ідзі за мною. Скрозь растрасаяцца салома. А мы пасядзімо.

Гэта даўно ужэ было, як я жаніўсо. Доўго я ні жаніўсо, то пасьвіў, то ў войску служыў. Восім лет гасударству атслужыў. Вураднік ехаў і кнішкі адбіраў. Казаў толькі па-руску вучыцца. Вайна як пачаласа, паны недзя як пашлі — і па сёняшні дзень ні відаць. Я адзін жыву.

Раней навучыцялі некаторых білі, каторыя ні панімалі, а каторыя панімалі. Я тожа сярэдня панімаў. А ты будзяш за старшую? У нас гэто ўсё на Рось езьдзяць, але на Волпу бліжай. Як паедзяш, падвязеш міне.

Ужо вайна ізвесна кожнаму. Яна нікому харошаго ні зьдзелаяць. У нас таксама была вайна, але як скончылаcа наразя, то й ціхо. Да гэтых войнаў усё мало было людзям, а січас усім давольна стала. Усе людзі толькі ап сваём думалі, а січас ужо зусім ні так — січас кожны за ўсіх».

У гэтым дзіўным для жыхара горада маналогу больш за ўсё ўражвае тая ўласцівасць душы чалавека, якую я акрэсліла б «духоўнай аседласцю» і расшыфравала як непрыманне нікчэмнай мітусні, як сапраўдную, глыбінную любоў да зямлі, якая так нечакана, але натуральна выводзіць яго, такога, здаецца, дрымучага ў святле праблем сёняшняга дня, на востра сучасны роздум пра лёс свету...

Так, відаць, глядзелі на свет і яго продкі.

А зараз уявіце сабе такога чалавека на кірмашы. Скончылася праца ў полі, надыходзіць час вяселляў, і чалавек, пасадзіўшы, нарэшце, на воз сваю бабу, едзе з ёю па гаспадарчых справах у багатае мястэчка, дзе ў гэты, асветлены даўняй традыцыяй дзень з'язджаюцца сяляне многіх і нават далёкіх месц.

Якраз там, думаецца мне, і меў вясковы чалавек магчымасць «сябе паказаць і на людзей паглядзець», бо кірмаш замяняў яму і наш тэатр, і парк культуры з яго атракцыёнамі, і нават рэстаран, дзе можна было пасядзець разам з сябрамі. А што яму было рабіць у карчме пасля ўдалых таргоў, акрамя як есці і піць? Спяваць і, магчыма, скакаць.

Ой рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты няпоўная?
Чаму ж ты няпоўная,
З беражком ня роўная...

Заводзіў беларус, і яму ўторылі, падцягваючы, як могуць, рускі і ўкраінец, за сэрца кранутыя красой старажытнай мелодыі.

Потым, магчыма, спявалі «Розпрягайте, хлопцы, коні», якую ў гэтых мясцінах ведалі, напэўна, усе і якую падхоплівалі асабліва дружна,

магчыма, з-за прастаты мелодыі. Спявалі, безумоўна, шырока распаўсюджаную тут у пару бацькавага юнацтва ўкраінскую песню на словы Тараса Шаўчэнкі «Рэвэ, та й стогнэ, Дніпр шырокі» і беларускую народную «А ў полі вярба», вельмі любімую і на Смаленшчыне, заканчваючы, магчыма, баладай Сыракомлі, напісанай як быццам на беларускі сюжэт і перакладзенай потым з польскага на рускі, і зноў прыйшоўшай на беларускую зямлю песняй пад назван «Ямщик». Сёння яе цудоўна выконвае вялікі літоўскі спявак Вяргіліус Нарэйка. Не выключана, што гэтыя святочныя застоллі завяршаліся заклікам адной украінскай песні, таксама вядомай па Магілёўшчыне: «Щоб наша доля нас не цуралась, щоб краще в світы жылося!»

Невыпадкова ўраджэнцы гэтых мясцін не ўяўляюць сабе застолля і нават проста сяброўскага спаткання без песні. Нават мне пашанцавала быць выпадковым удзельнікам такіх спатканняў у канцы саракавых, пяцідзесятых і пачатку шасцідзесятых. Так, у канцы мая 1953 года ў 730-м, тады бацькавым, нумары гасцініцы «Масква» я прысутнічала пры тым, як бацька з Аляксандрам Трыфанавічам Твардоўскім выконвалі беларускія народныя песні, і, між іншым, «А ў полі вярба», «Ой рэчанька, рэчанька» і іншыя. Іх слухачамі на гэты раз былі Максім Рыльскі, Сяргей Вашанцаў ды я.

Бацька неяк, смеючыся, расказваў, што А.Т. Твардоўскі, пазнаёміўшыся ў свой час з адным з пачынаючых, але ўсяляўшым надзеі беларускім празаікам, схіляў яго, як беларуса, да спеваў, і быў страшэнна расчараваны, не дабіўшыся ўзаемнага энтузіязму.

А з бацькам яны спявалі заўсёды, пры кожнай сустрэчы, нават тады, у канцы 1942-га, калі бацька прывёз у Маскву паэму «Сцяг брыгады». Сябры кожны вечар збіраліся на кватэры Аляксандра Трыфанавіча альбо ў нумары Куляшова і ад вершаў нязменна пераходзілі да песень.

П.Е. Панчанка таксама прысутнічаў на адным з такіх вечароў, дзе, апрача яго, быў яшчэ А. Фадзееў і А. Малышка.

Ён расказаў мне, што ў цудоўны дуэт сяброў (Твардоўскі спяваў высокім голасам, а бацька меў прыемны барытон) з прысутных змог упісацца як мае быць толькі Малышка, чым вельмі ўзрадаваў сяброў-спевакоў.

— Можна было падумаць, праходзячы па калідоры гасцініцы «Масква», што ў нумары Аркадзя Куляшова сабраліся не пісьменнікі, а народныя артысты,— скончыў свой расказ Пімен Емяльянавіч.

Зрэшты, калі гаворка зайшла пра гэты вечар, у нас ёсць магчымасць паслухаць і бацьку.

«Андрэя Малышку,— гаворыць Куляшоў у артыкуле «Крыніцы дружбы»,— я знаю вельмі даўно, яшчэ з трыццатых гадоў. Растлумачу: знаю як паэта. За творчасцю маладога ўкраінскага паэта я сачыў тады дужа ўважліва. Вершы Андрэя Малышкі падабаліся мне, у іх чуўся свежы, самабытны голас чалавека, вельмі блізкага да народнай песні і народнага жыцця. Голас паэта вабіў сваёй рамантычнай узнёсласцю, што спалучалася з (непасрэднасцю юнацкага пачуцця, патрыятызмам маладога савецкага пакалення, да якога належаў і я. Мне здавалася тады, што Андрэй Малышка не толькі любіць народныя песні, але і добра спявае іх.

І я ў тым пераканаўся, калі ў часы Айчыннай вайны пазнаёміўся з Андрэем у Маскве.

З тых дзён і пачалася наша дружба. У Маскве я сустракаўся з Андрэем часта. Ён тады чытаў мне і Аляксандру Трыфанавічу Твардоўскаму свае новыя вершы. А.Т. Твардоўскі звычайна чытаў нам новыя раздзелы з «Васіля Цёркіна». Я не памылюся, калі скажу, што ў той час мы з Андрэем былі бадай першымі слухачамі яго кнігі пра байца. Гэта сапраўды былі незабыўныя сяброўскія і творчыя сустрэчы. Сустракаліся мы і ў Андрэя, і ў мяне, і на кватэры Аляксандра Твардоўскага, дзе нярэдкім госцем быў Аляксандр Фадзееў. Таварыскія вечары звычайна заканчваліся песняю. Спяваліся рускія, украінскія ды беларускія песні. А як даўно вядома, песня яднае і зблізкае людзей. Пад уражаннем песні, якую спяваў тады Андрэй (а спяваў ён на самай справе цудоўна, так, як спяваюць у сёлах і вёсках, падкрэсліваючы голасам істотныя словы і вобразы), я напісаў пазней баладу «Маці». Песня гэтая пачыналася, калі не здраджвае памяць, такімі словамі:

Ой, вазьмі, маці, жыта жменю,
Ды й пасей яго на каменю...

Вось у што вырасла судакрананне гэтае песні з уяўленнем паэта:

На бітву крывавую
сына праводзіўшы з хаты,
На шчасце і ўдачу
пасеяла маці зярняты.
Калі дачакаецца маці
з тых зерняў усходу,
Сын прыйдзе з паходу,
Са славаю прыйдзе з паходу.
Дарэмна ўздыхала,

Чакала
І шчасця, і долі,—
Упалі зярняты
На камень шчарбаты
У полі.
Дарэмна здалёку
Паўнюткія вёдры цягала,
Той камень у спёку
Вадой і слязьмі палівала.
Да кроплі іх выпіў задымлены
Камень пякельны:
Два леты кіпелі на ім яны,
Як на патэльні.
Ля каменя ўпала
Цярплівая маці ў знямозе,
У роспачы скардзіцца стала
Знаёмай дарозе:
«Пачуй мае словы,
Улашчы свой камень суровы,
За гэта вярбою
Гатова я стаць над табою.
Твайго пешахода
Я ў засень ад спёкі б хавала,
У час непагоды
Ад бур і дажджоў засланяла;
Старымі рукамі
Твой дол падмятала б штодня я.
Улашчы свой камень,
Дарога мая палявая».
Сказала дарога ёй:
«Скардзішся, маці,
Дарма ты,
Не ўзыдуць зярняты,
Бо ўпалі на камень шчарбаты.
Не першая ты каля камня
заходзішся з жалю,
Не раз на ім сеялі, але ні разу
не жалі.
На нашыя нівы
Яго закацілі чужынцы;
Чужы і маўклівы,

Даўно ён ляжыць пры гасцінцы.
З-за Буга яго
Закацілі і кінулі ў полі,
Каб сына свайго
Не даждалася маці ніколі.
Не ўзыдуць зярняты ні ўвосень
на ім, ні вясною,
Пакуль ён не стане зямлёю,
Закляты табою».
З дарогі ўставала
І каменю маці казала:
«Вады табе мала
І матчыных слёз табе мала,
Цяпер я крывёю
Сваёю
Цябе праклінаю:
Ты станеш зямлёю,
А каменем стану сама я».
І тройчы такою
Кляцьбою
Той камень пракляла.
Стаў камень зямлёю,
Сама ж яна каменем стала.
На камні былым пры дарозе
ўзыходзяць зярняты.
Вяртаецца сын па дарозе з паходу
дахаты.
(«Маці», 1943)

Пасля вайны бацька сустракаўся з Малышкам не так, магчыма, часта, як ім бы гэтага хацелася, але ўзаемнае прыцяжэнне іх душ было моцным. Памятаю, як улетку 48-га Малышка ў кампаніі Варанько нечакана з'явіўся ў нас на дачы ў Юхнаўцы, куды не так проста было праехаць, асабліва, калі не ведаць дарогі.

Малышка быў адным з тых паэтаў, «сатворчасць» з якім прыносіла бацьку радасць, таму што думкі ўкраінскага сябра былі яму сугучнымі, а па мастацкім рашэнні — вартымі таго, каб зрабіць іх набыткам беларускай паэзіі.

Я не зайздрошчу ні душой убогім
Ні іх жыццю, што ў сытым сне міне,
Няхай яны зайздросцяць тым дарогам,

Трывогам тым, што дасталіся мне.
Я не зайздрошчу дробным іх размовам,
Ліслівы тон душы не закране,
Няхай яны маім зайздросцяць словам,
Якія боль і радасць для мяне.
Яны, як жар, яны, як вугаль чорны,
Ад маці дар належыць мне такі,
Мне — сталь каваць з тых слоў
у сэрца горне,
А не разменьваць іх на пятакі.

«Наша дружба з Андрэем Малышкам не парывалася да апошніх дзён яго жыцця»,— пісаў бацька. Мне расказвалі ўкраінскія таварышы, што на тым самым ложку, з якога прыняла яго зямля, ён да астатняй хвіліны не пакідаў перакладаць творы беларускіх паэтаў для анталогіі беларускай паэзіі. У гэтым выявілася цудоўная рыса Малышкі: яго самаахвярнае служэнне паэтычнаму слову, глыбокае разуменне той высокай ролі, якую адыгрывае яно ў справе братэрства паміж народамі.

З 1935 года, з часоў першага семінара маладых пісьменнікаў у Малееўцы, Куляшова звязвала цесная дружба з яшчэ адным украінскім паэтам — Міколам Нагнібедам, чые вершы належаць да ліку тых, якія бацька лічыў вартымі перакладу:

Снапы, нібы асілкі,
Паснулі на палях.
Далёкіх сёл сузор'і
Нанізаны на шлях...

Бацька высока цаніў талент Міколы Нагнібеды, а верш «Зерне», перакладзены ім па беларускую мову, лічыў адной з тых паэтычных знаходак, якія ставіў у адзін шэраг з такімі, як «Грэнада» М. Святлова, «Лён», «Алеся», «Як у госці сын прыехаў» Купалы, «Бывайце здаровы» Адама Русака, і які адносіў да ліку тых паэтычных твораў, што ў свой час праклалі новыя сцежкі ў рэчаіснасць.

Я не ведаю, якімі былі асабістыя кантакты майго бацькі з Максімам Рыльскім, Міколам Бажанам, Алесем Ганчаром, але іх імёны часта і ў добрым кантэксце згадваліся ім, гучалі ў нашым доме.

Неаднойчы наязджалі да нас званыя і нечаканыя госці з Украіны.

І заўсёды гэтыя сустрэчы прыносілі бацьку радасць.

Памятаю, як у жніўні 1965 года праездам у Літву ў нас на Нарачы гасціла сям'я Багдана Чалага, якога бацька шанаваў за яго

іскрамётны тэмперамепт і любоў да песні. Колькі іх было перапета тады ў нашым доме!

Мне неаднойчы даводзілася чуць выказванні нашых пісьменнікаў, калі бацька ўзяўся за пераклад «Энеіды» Катлярэўскага.

— Куляшоў і гумар? — пацінскалі яны плячыма.

А разам з тым нічога дзіўнага ў гэтым не было. Калі прыродны бацькаў гумар і не прабіваўся ў яго творчасці, дык толькі таму, што яго цікавілі карэнныя праблемы жыцця, хоць сам ён быў вясёлым чалавекам, які любіў вострае, трапнае слова, ахвярай якога часам бываў сам, не ўмеючы змаўчаць там, дзе варта было б. Многа бед наклікаў ён на сябе, кажуць, тым, што неяк, будучы навесяле, паўтарыў у кампаніі трапны жарт А.Т. Твардоўскага, сказаўшы аднаму з прысутных пладавітых беларускіх празаікаў:

— Ну які ты, брат, літаратар? Твардоўскі лічыць, што ты пісьменнік бабруйскага маштабу!

Любіў бацька і пабалагурыць, калі настрой адпавядаў гэтаму, і пагуляць у эпіграмы. Такі стан яго душы добра апісаў А.С. Русецкі ў сваіх успамінах пра Куляшова, надрукаваных з нагоды сямідзесяцігоддзя бацькі ў газеце «ЛіМ» за 3 лютага 1984 года.

За дасканалы пераклад «Энеіды» Катлярэўскага на беларускую мову Куляшоў атрымаў званне заслужанага дзеяча культуры Украінскай ССР, чым надта ганарыўся.

Вядомы крытык Рыгор Бярозкін, які пісаў пра творчасць Куляшова на працягу трыццаці гадоў, у сваім апошнім артыкуле, прысвечаным творчасці майстра, пісаў: «...у Куляшова ёсць неацэнная заслуга перад беларускай паэзіяй: ён з самых маладых гадоў... рабіў стаўку на майстэрства і культуру, супраць правінцыялізму і коснасці, надзвычай пашырыў магчымасці роднага верша, яго мастацкія падыходы і ракурсы і за кошт грамадскіх і псіхалагічных абставін інтэрнацыянальнага характару, і за кошт элементаў, якія збліжаюць і родняць народы».[4]

«Было старажытнае паданне: кожны чалавек нараджаецца пад сваёй зоркай. Нібыта яна і вызначае яго лёс. Аднак людзі, што жывуць на зямлі, даўно ўжо шчаслівую альбо нешчаслівую долю сваю звязваюць з іншым. Яны жывуць сярод бурных падзей часу, і не містычныя зоркі, а само жыццё з маленства і да сталага веку падпарадкоўвае законам свайго развіцця іх інтарэсы, іх дарогі, іх мары»,— так пісаў Куляшоў пра Лесю Украінку, але сказанае пра яе можа быць адрасавана кожнаму.

[4] Бярозкін Р. «...І знойдзен ключ». «Вобраз». Мн., 1985. С. 207.

Дзякуючы абвостранаму пачуццю жыцця ў яго штохвіліннай зменлівасці Куляшоў змог стаць у беларускай паэзіі выказнікам свайго часу.

Душэўнай вышынёй і тонкасцю ўспрыняцця свету, якія паднялі паэзію Куляшова на ўзровень вышынь народнай культуры, бацька абавязаны сваёй малой радзіме, магілёўскаму краю, дзе само жыццё з маленства давала людзям урокі інтэрнацыяналізму».

## ПІРАМІДА КУЛЬТУРЫ

-----

Працуючы над сваёй кнігай «Шлях да акіяна», Варлен Бечык часта заходзіў да нас за living рознымі даведкамі. Тады ў адной з нашых размоў і нарадзілася думка: роздум майго бацькі, паэта новай генерацыі, аб гістарычным лёсе беларускага народа, магчыма, і дараваў быццё паэме «Крыўда». Яе сюжэт і ідэю навеяў верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?»:

Спрачаюцца імператары і каралі
За ўладу на добрай чужой зямлі,
За нафту ў Персіі, за вольныя воды,
За нечапаныя ў зямлі пароды.
За ўсё, на што вочы буржуя сквапны,—
За нафту, за вугаль, за вапну...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А тым часам высыхаюць на травах росы,
Сохнуць нівы і дождж капае дробны...
І чакае зямля дужага чалавека.
А дужыя, дзе яны?
Пастраляны...
І прыходзіць зямлю ўрабляць калека
З сляпымі вачыма, абсечаным станам,
І на целе яго маладым відны
Свежыя раны вайны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У галоднага сабакі — зубоў скрогат,
У галоднага чалавека — сабачы лямант,
У бязногага чалавека — ваўчыныя вочы,
У бязвокага чалавека — жабрачыя вонкі;
У такіх людзей думкі ў вузел завязаны,
Такі чалавек свой вузел не развяжа,
Бо ў шчырасць пакрыўджанага не заверыш,
І будзе ён лекаў сабе пытацца...
Пакрыўдзіш яго,— ён затоіць горыч
І крыўду сваю будзе доўга помніць.
Як выйсця не знойдзе, тады разважыць,
Хадзіць будзе зверам, глядзець будзе
зверам,
Калоціць яго доўгай хворасці трасца,

А будзе ён мкнуцца і мкнуцца за гора,
За раны свае і за крыўду помсціць...

«За раны свае і за крыўду помсціць...». Пра якую крыўду гаворыць паэт у гэтых урыўках са сваёй ранняй паэмы? Пра сацыяльную, грамадскую, тую самую, якая хвалюе і Купалу, аб чым сведчаць нават пачатковыя радкі яго славутага верша:

А хто там ідзе, а хто там ідзе,
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Думаючы пра Куляшова, яго светаўспрыманне і паэзію, я, відаць, інтуітыўна адчула, што ў Купалы Куляшоў узяў галоўнае — яго боль за лёс народа, яго палымянае жаданне бачыць беларуса шчаслівым, роўным у сям'і народаў свету. Значыць, падумалася мне, і роднасць іх трэба шукаць на гэтым узроўні — ідэйным.

Бечык тады згадзіўся са мной, адаслаўшы мяне да артыкула Куляшова «Цудоўныя песні», які быў папісаны ў 1940 годзе і прысвечаны творчасці Янкі Купалы:

«Багацце і разнастайнасць паэтычных тэм характарызуюць творчасць народнага паэта Янкі Купалы. Цяжка было б хоць больш-менш схематычна пераказаць узнікненне гэтых тэм, іх уплывы адна на адну. Гэта варта вялікай крытычнай работы. Тут жа мы можам толькі адзначыць адну з іх, якая бярэ свой пачатак у самых ранніх вершах Купалы і з выключнай сілай прагучала ў вершы «А хто там ідзе?».

Чытаем далей:

«Тэма гэта — жаданне беларусаў, сацыяльна і нацыянальна занядбаных, «глухіх і сляпых», людзьмі звацца. І вось, на нашу думку, тэма чалавечай годнасці і з'яўляецца цэнтральнай у творчасці Янкі Купалы, а глыбокае, па-мастацку праўдзівае, арыгінальнае вырашэнне яе вызначыла песняру пачэснае месца ў шматнацыянальнай сям'і паэтаў Савецкага Саюза».

У гэтым невялікім па аб'ёме артыкуле — погляд Куляшова на творчасць геніяльнага папярэдніка. Погляд глыбокі, які ўжо тады заўважыў галоўнае, што ўласціва творчасці Купалы і тых, хто далей працаваў у рэчышчы купалаўскай традыцыі.

Куляшоў уваходзіў у беларускую літаратуру тады, калі Купала яшчэ плённа працаваў у ёй. А калі ведаць, што пачынаючы паэт прыехаў у Мінск у 1930 годзе, то можна падлічыць, што ў Куляшова была магчымасць сустракацца з Купалам добры дзесятак гадоў.

Аднак цеснага чалавечага кантакту ў Куляшова з Купалам не было. Ён не змог бы, калі б нават і хацеў, падобна Петрусю Броўку альбо Андрэю Александровічу, якія ўваходзілі ў літаратуру амаль адначасова з ім, пахваліцца здымкамі з Купалам, хоць на агульных фота, якія дакументальна замацавалі той ці іншы момант жыцця рэспублікі, іх часам можна бачыць побач.

Але ў гэты час Аркадзь Куляшоў знаходзіўся ў вельмі блізкіх, сяброўскіх адносінах з Платонам Галавачом. Платон Галавач паважна ставіўся да таленту вялікага паэта, разумеў, як ніхто іншы, яго значэнне ў роднай літаратуры, а ў драматычныя 30-я быў адным з першых ініцыятараў творчых паездак народнага паэта па рэспубліцы, каб гэтым самым засяродзіць яго талент на павевах і патрэбах новага часу, а магчыма і ўратаваць, аберагчы ад вульгарызатарскіх нападак тых літаратурных крытыкаў, якія выказвалі ў друку свой палітычны недавер Купалу.

У артыкуле «Цудоўныя песні», напісаным амаль праз дзесяцігоддзе пасля выступлення Галавача, Куляшоў ідзе яго шляхам у аналізе творчасці Купалы.

А не «сябраваў» Куляшоў з Купалам з-за ўласнай, здаецца мне, сціпласці і той глыбокай пашаны, з якой ён ставіўся да «жывога класіка»,— сітуацыя, у якой сам ён апынуўся ў сталым узросце, калі да яго саромеліся прыходзіць акурат тыя з маладых літаратараў, хто меў на гэта найбольшае права.

Што ж бачыў і што цаніў у творчасці Янкі Купалы Аркадзь Куляшоў?

«Век занядбаныя, век глухія і сляпыя, несучы крыўду сваю напаказ усяму свету, мы хочам звацца людзьмі» — як бы гаварыў паэт. І хіба гэта не пераклікаецца з вядомым выразам геніяльнага пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага «Чалавек — гэта гучыць горда»? І хіба на пытанне: «А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?» — нельга было адказаць не «беларусы», а, скажам, украінцы, грузіны, армяне і г. д., і г. д.? Так, лёс прыгнечанага царызмам працоўнага беларускага народа быў агульным з лёсам іншых прыгнечаных нацыянальнасцей, і таму яшчэ ў тыя далёкія часы, вырашаючы тэму чалавечай годнасці, Янка Купала перарос ужо нацыянальныя рамкі, ён стаў ужо ўсерасійскім паэтам».

«Успамінаюцца гады 1933-1934, калі ў нашай паэзіі панавалі агульныя заклікі, апісанне машын. У тыя гады Купала першым пачаў пісаць пра людзей нашага часу, паказваць новыя чалавечыя ўзаемаадносіны, паказваць тых, якія пачалі ўжо людзьмі звацца. Па сутнасці, такія вершы, як «Сыны», «Лён», «Алеся», упісалі новую старонку ў развіццё савецкай паэзіі, наблізілі ўсіх паэтаў Савецкага Саюза да паэтычнага асэнсавання сацыялістычнага жыцця. А здарылася гэта так таму, што ўсімі сваімі папярэднімі думамі і паэтычнымі марамі паэт горача імкнуўся ўбачыць новыя ўзаемаадносіны людзей, аснованыя на прызнанні чалавечага дастоінства, на радасці і шчасці. Новы сацыялістычны лад паставіў у цэнтры ўвагі працу чалавека, яго карысныя здабыткі. А гэта якраз тое, аб чым марыў Купала, і ўсе прачутыя ім радасці вольнага чалавека ўліліся ў шырокае і шчырае рэчышча Купалавай паэзіі».

Артыкул «Цудоўныя песні» быў напісаны Куляшовым у перыяд, калі сам ён ужо зразумеў, чаго патрабуе ад паэта новы час, і ў пэўнай ступені ажыццявіў у цыкле вершаў «Юнацкі свет» і вершах, што былі напісаны пасля, у 1939-1940 гг. Вось адзін з тых вершаў, не самы вядомы, але тыповы для куляшоўскага светаўспрымання таго часу. Завецца ён «Станцыя Камунары»:

Ёсць станцыя такая — Камунары,
Не верыш мне, на карту глянь,
таварыш:
Уніз ад Оршы, кожнаму вядомай,
Стаіць яна ля роўных рэек сёмай.

Мне сёння пошта ліст адтуль прыслала,
У ім знаёмай шчырасці нямала
І дзіўнай крыўды
Землякоў маіх,—
Чаму прыехаць не хачу да іх.

Хто вам сказаў, хлапцы, няпраўды тыя:
Усё жыццё, ўсе леты маладыя
Па даўна дарагому мне білету
Я з нецярплівым хваляваннем еду.

Не могуць вершы ўгнацца за экспрэсам.
А любы край
Шуміць знаёмым лесам.

У кожным дрэве чую родны рух,
Прыемна ехаць,
Аж займае дух...

Я сёння ў шлеме, ў вопратцы вайсковай,
За колькі вёрст ад бітвы канчатковай.
І сведчыць водгулле глухіх удараў,
Што блізка ўжо зусім...
Да Камунараў.

Праз два гады, у суровым сорак другім, Купалы не стала.

Гэта здарылася ў тым трагічным для армій Калінінскага фронту чэрвені, калі, выводзячы з акружэння частку арміі, загінуў камісар Зуеў, калі ў такім становішчы мог апынуцца і сам Куляшоў.

Такім быў ланцуг трагічных акалічнасцей, што падштурхнуў маладога беларускага паэта, малодшага палітрука Аркадзя Куляшова распачаць нарэшце працу над паэмай «Сцяг брыгады».

Сюжэт выспеў. Жыццё ўвяло ў яго апошнюю дзеючую асобу — камісара, а боль, які паэт насіў пад сэрцам з моманту свайго выхаду з ахопленага полымем Мінска і які час ад часу прарываўся вершам лакальнага гучання, раптам прарваў плаціну і разліўся шырокай ракой народнага гора, зліваючыся ў адзіным русле паэмы.

Каб пацвердзіць сваю думку, прывяду толькі адзін з вершаў ваеннай пары, да таго ж з тых, што сталі агульнавядомымі толькі цяпер, бо пісаліся Куляшовым на рускай мове для франтавой газеты «Знамя Советов»:

Идти устали маленькие ноги,
Но он послушно продолжает путь,
Ещё вчера хотелось близ дороги
Ему в ромашках полевых уснуть.

И мать несла его, теряя силы,
В пути минуты длились, словно дни,
Всё время сыну непонятно было,
Зачем свой дом покинули они.

Что значают взрывы, плач, дороги эти?
И чем он хуже остальных ребят,
Что на траве зеленой у кювета,
Раскинув руки, рядом с мамой спят?

Как тяжело выслушивать вопросы...

Могла ли малышу ответить мать,
Что этим детям, спящим у березы,
Что этим мамам никогда не встать?

Но сын вопросы задавал упрямо,
И кто-то объяснил ему в пути,
Что это спали неживые мамы,
От бомбы не успевшие уйти.

И он задумался под лязг машин железных,
Как будто горе взрослых понял вдруг,—
В его глазах, недавно безмятежных,
Уже блуждал осознанный испуг.

Так детство кончилось. Он прежним
больше не был.
Он шел и шел. И, чтобы мать спасти,
Следил ревниво за июньским небом
Малыш, седой от пыли, лет шести.
(«На Минском шоссе», 1941)

Многіх здзіўляў феномен стварэння паэмы «Сцяг брыгады» ў той час, у тых умовах і такім маладым аўтарам. Мы ўжо знайшлі гэтаму сваё тлумачэнне, а зараз давайце паслухаем, што сказаў Куляшоў пра паэта рангу Купалы ва ўжо вядомым нам артыкуле:

«Як вытлумачыць складаны і шматгранны працэс развіцця і росту арыгінальнага таленту? Што такое галоўная тэма творчасці і што гэта за пабочныя тэмы? Розных нараджала зямля паэтаў. Аднаго яшчэ з першых дзён юнацтва ўразіла каханне, пакінула ў душы яго, у пачуццях глыбокі след. Як бы далей не ўплывала на яго жыццё, як бы не ўздзейнічала людское асяроддзе, але кожную жывую з'яву, кожны цікавы факт ён абагульняе ў сувязі з новым або перажытым пачуццём кахання. Магчыма, гэта ад аднабаковасці, інтэлектуальнай і сацыяльнай абмежаванасці паэта, але ўсё цікавае для яго ў праявах кахання. Каханне — галоўная тэма яго творчасці. Узняцца вышэй ён не можа.

А Янка Купала?

Ён сын народа. З першых жа дзён жыццё ўсклала на яго плечы гора і нястачу, крыўду і эксплуатацыю. Вельмі балела ў яго сэрца, калі ён бачыў гора адных і багацце другіх. Ён бачыў разлад між людзьмі:

Адзін накраў — багацце ўмножыў,

Другі згалеў, галей сабакі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Аслу з напоўненай машною
Леў акаваны лапы ліжа...
Рака затоўчана крывёю,
Ўдава заводзіць каля крыжа.
( «Разлад», 1907)

Гора, лёс працоўнага чалавека, парабка, «льва акаванага» не давалі паэту спакою. Горам чалавечым была да краёў перапоўнена істота паэта. І ўсведамленне таго, што прыгнечаным час ужо «людзьмі звацца», не пакідала паэта ніколі, вызначыла на ўсе гады яго інтэлектуальнае развіццё, зрабіла яго народным паэтам. Таму ўсё іншае, што хвалявала ў жыцці паэта, абагульнялася ў сувязі з гэтай асноўнай паэтычнай думкай, як бы ў дадатак да яе. Узяць хоць бы выдатны цыкл аб каханні «Яна і я». У заключным вершы «Краса свету» паэт вітае прыход вясны:

Гэй, ажыло зямлі старое папялішча!
Зайгралі рэкі, плечы выраўнаваў бор,
Спраўляе птушак жвавы рой ігрышча
І падлятае з радасцю аж да зор.

Але паэт заклікае думку ляцець «вышэй, далей», каб яна схапіла песню «з перуновай сталі» і прынесла «волю сільную, як сталь».

Я песняй мілую сваю праслаўлю
Паміж народамі сваіх, чужых зямель,
Каб не загінула, як кветка, у бяспраўю,—
Жыла й тады, як ляжа ў вечную пасцель.
А воля мне жалезная патрэбна
За крыўды маёй мілай помстай заплаціць,
Што гаравала так яна бясхлебна,
Што ланцугамі мусіла шмат лет званіць.
(«Яна і я», 1913)

Такім чынам,— гаворыць далей Куляшоў,— шчасце простага сялянскага хлапца і дзяўчыны, злучаных горам, поўнае хвілін ідылічнага замілавання, непаўнацэнна. Паэту патрэбна яшчэ жалезная воля, каб плаціць помстай за бясхлеб'е, за ланцугі бяспраўя, якія скоўвалі жыццё беднага хлапца і дзяўчыны».

У сувязі з тым, што было сказана пра Купалу, хочацца звярнуць увагу на адзін факт творчай біяграфіі Куляшова — паэму «Цунамі»,

ідылію пад атамным грыбам. І тут не толькі і не столькі тэма родніць Купалу і Куляшова, сколькі падыход да яе з боку сацыяльных, а ў Куляшова нават сацыяльна-касмічных праблем. Гэта найбольш адпавядае тым зменам, якія адбыліся ў жыцці на вачах Куляшова.

А зараз вернемся крыху назад. Хіба ж не высокая логіка купалаўскай паэзіі вяла паэта і ў яго працы над «Сцягам брыгады», напрыклад? Хіба ад трагедыі аднаго не ішоў ён да трагедыі ўсіх, падпарадкоўваючы ва ўсёй лірыцы ваеннага часу інтарэсы асобы інтарэсам усяго народа? Паслухайце, як гучыць урывак з верша «Ліст з палону», напісанага ў 1942 годзе:

Дарагі!
Не хаваю тугі:
Невясёлы мой лёс, невясёлы...
Па рэйках вязуць мяне колы
У Нямеччыну,
Нібы ў Турэччыну...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Любы мой!
Развіталася сонца з зямлёй.
Пацямнелі дубровы.
З-за дубоў узыходзіць мой страшны,
мой месяц мядовы,
Васількі за акном у расе,— плачуць
сінія вочы,
І няхай сабе плачуць, не бачаць
мой сорам дзявочы.
Давядзецца мне спаць, ды не так,
як яны мне хацелі,
У чужынца на правай руцэ
ды ў магільнай пасцелі.
Я рабыня, рабыня...
Я чорная, чорная, чорная,
Любы мой, не з табой,
А з праклятай бядой
Заручоная...
Я пішу, я прашу: ты прыдзі,
ты адпомсці, мой міла,
Не прашу за сябе,— за зямлю,
што нас лёгка насіла.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Не прашу за сябе, за зямлю» — вось па якой высокай логіцы купалаўска-куляшоўскай паэзіі звычайны ва ўмовах мірнага жыцця эгаіст Мікіта Ворчык ператвараецца ў часы выпрабавання ў здрадніка. Вось чаму герой «Балады аб чатырох заложніках», партызанскі камандзір Бацька Мінай, «не мае бацькоўскага права» коштам уласнага жыцця, жыцця актыўнага змагара з ворагам, барацьбіта за Радзіму, ратаваць сваіх дзяцей.

Высокая логіка Купалавага мыслення ўсё жыццё падштурхоўвала да руху думку Куляшова.

Таму ніколі не перапяваў ён нават уласных матываў. А кожны новы твор паэта з'яўляўся нібыта ў супярэчнасці з папярэднімі, адкрываючы новую старонку беларускай паэзіі. Вось чаму логіка паэтычнага шляху Куляшова лепш за ўсё бачыцца з адлегласці часу, якая дае магчымасць глянуць на здабыткі паэта як на цэлае.

Імкненне «ляцець вышэй, далей» павяло Куляшова спачатку ад зямлі да зор, а на зваротным шляху накіравала яго позірк на карэнныя пытанні існавання чалавека і чалавецтва. У гэтым логіка з'яўлення зборнікаў «Росквіт зямлі», «Па песню, па сонца», «Новая кніга», аўтабіяграфічнай паэмы «Далёка да акіяна», паэмы «Хамуціус», праца над якой была разарвана «каметай» «Варшаўскага шляху».

«Варшаўскі шлях»... Напісаўшы яго, я адчуў, што абудзіў да жыцця ў сабе самім нейкія новыя творчыя сілы. Сам «Варшаўскі шлях» таксама незвычайная для мяне рэч у сэнсе таго эмацыянальнага напалу, які я у яе ўклаў»,— сказаў неяк у размове з карэспандэнтам «Литературной газеты» Т.Ф. Залатухінай Аркадзь Куляшоў.

Больш падрабязна мы засяродзімся на гэтай цікавай размове паэта і карэспандэнта ніжэй, калі гаворка пойдзе пра паэму «Хамуціус». А зараз хочацца вярнуцца зноў да «Варшаўскага шляху».

Гаворка ўжо ішла пра тое, што паэма «Варшаўскі шлях» — гэта слова аб месцы паэта ў яго часе. Але гэта, мабыць, толькі паверхневы пласт ідэйнага аналізу зместу гэтага твора.

— Што такое «Варшаўскі шлях»? — спытаўся ў мяне неяк на літаратурнай сустрэчы адзін паэт.

Я, зразумела, разгубілася, замарудзіўшы з адказам.

— Гэта вялікі твор! — адазваўся празаік, які таксама быў удзельнікам размовы. І ён пачаў чытаць ...Купалу!

Па беларускім бітым шляху
Б'ючы ў кайданавы званы,
Брыдзе чужынец, а з ім побач
Хто?

— Беларускія сыны!
(«Беларускія сыны», 1915)

Варшаўскі шлях — старая назва дарогі, якая перасякае Беларусь з усходу на захад. Па гэтай дарозе ішлі на Маскву полчышчы Напалеона і па ёй жа каціліся назад. Тое ж было і з ордамі Гітлера. А колькі «малых» войнаў і міжусобіц руйнавала нашу зямлю? Варшаўскі шлях, Маскоўская шаша — дарога нашага лёсу і трагічнага, і шчаслівага.

Пакуль у целе чуецца душа
Не веру я ў таемны сэнс другога
Яе жыцця. Таму дазволь, дарога,
Варшаўскі шлях, Варшаўская шаша,
Звяртацца да цябе, а не да бога
Радком, што просіцца з каранадаша.

Ляціш на захад ты, з другімі ў згодзе
Шляхамі, шлях мой! Ты не знаеш меж,
Ляціш, не падуладны перашкодзе.
Што суша? Акіян — не твой рубеяж!
Ты адшукаеш трап, на параходзе
Нязвыклы грунт вінтом пераграбеш.
Пасля таго, мой шлях, як абагнеш
Ты ўсю зямлю, зноў з'явішся на ўсходзе,
Ляці адтуль, сяброўства сувязным,
Насустрач мне, зрабі прывал пад Доўскам,
Агонь начлежны раскладзі.
Пры ім
Пагутарым аб часе, аб Твардоўскім,
Што земляком тваім быў і маім.

Звяртаючыся да Варшаўскага шляху — гістарычнага лёсу беларуса, Куляшоў прапануе пагаварыць аб Твардоўскім не проста таму, што той — наш зямляк. Твардоўскі для Куляшова — той з нашых вялікіх землякоў, чый лёс, падобна лёсу Міцкевіча ці Купалы, нёс на сабе адбітак гістарычнага лёсу беларускага народа, як пячатку генетычнай сувязі з ім.

Мой шлях! Вайна яшчэ не згрэбла трэсак.
Тут, дзе з табой сядзім мы пры агні.
У полымя ўглядаецца падлесак.

Як помнікі, нас абступілі пні.
Шумелі тут вяршыні баравыя,
Ствол да ствала — гудзеў лясны арган,
Цяпер ён змоўк, як песні, што ў курган
З сабой забралі песняры былыя.

Варшаўскаму шляху, народу свайму ў яго гістарычным руху, руху часамі трагічным, але заўсёды нужным, спавядаецца яго чарговы паэт Аркадзь Куляшоў і лічыць сваім абавязкам у споведзі аддаць належнае тым, чыё сапраўднае месца ў гэтым руху яшчэ не вызначана. Яно павінна быць акрэслена, каб не загінуў для народа духоўны здабытак яго паэтаў, нават тых, хто воляй лёсу працаваў у рэчышчы іншай культуры.

«Песняры былыя» — гэта для Куляшова тыя, чые сэрцы адгукаліся на боль народа так, як сэрца Купалы, Твардоўскага і ўсіх тых беларусаў, хто здольны, узняўшыся над уласным лёсам, зліцца з доляй народа. Доляй асабліва няпростай і адказнай таму, што жыве гэты народ на «стратэгічным шляху» ў той час, калі

Смерць здольны вынаходзіць век.
А лек
Ад смерці не знаходзіць чалавек.
Хварэем мы, хварэюць нашы рэкі,
Хварэе час, што чыніць гвалт і здзекі,
Планета, што пазбавілася сну
Ад вечных дум: чым адхіліць вайну —
Спыніць хваробу ў моманце крытычным?
Няпроста свет ад бед яго лячыць,
Пакуль цябе, дарога, стратэгічным
Аб'ектам не накінулі лічыць.

Вось ён, адвечны праклён недаверу, якога планета не пазбавілася і сёння! Хіба жыццё, якое ідзе далей, не даказвае, што паэт Аркадзь Куляшоў, у руху свайго паэтычнага развіцця не абганяючы час, не здолеў «параўняцца з нашчадкамі»? І хіба напрамак гэтага руху — не купалаўскі?

Вядомы савецкі біёлаг А.А. Любішчаў пісаў: «На вяршынях культуры ніколі не было і няма суцэльнага ўзаемаразумення. Але вельмі важна, каб піраміда культуры складалася з паслядоўнага раду такіх пластоў, дзе існуе разуменне паміж суседнімі пластамі».[5]

[5] «Знание — сила». 1986, № 3. С. 22.

## «ЗОРКА КАНІКУЛА»

-----

Слушнасць думкі, што «лета к суровой прозе клонят», бацька адчуў на ўласным прыкладзе даволі рана.

Першай яго «здрадай» паэзіі была ... п'еса. Мама, якая расказвала мне пра гэта, сцвярджае, што п'еса была цікавай і вострай.

Бацька прачытаў свой твор маці, пасля чаго яны, пераглянуўшыся, пачалі распальваць ім печ.

Для мяне гэтыя дэталі служаць указаннем на месца і час, калі гэта адбывалася.

Грубка была ў нас толькі на кватэры на Беларускай, як, зрэшты, і на даваеннай. Грубка, як і першая пасляваенная кватэра, помніцца мне тым, што ў дзень засялення, я, знаёмячыся з памяшканнем, знайшла ў печы супрацьтанкавую гранату, якую бацька выхапіў з маіх рук у той момант, калі я спрабавала паставіць яе на баявы ўзвод.

З гэтай кватэры мы з'ехалі восенню сорак восьмага. Так што дата гаворыць сама за сябе, тлумачачы, чаму лёс п'есы аказаўся такім, а не больш шчаслівым.

Прыкладна ў гэты ж час мой траюрадны брат Юры Вільчык (сын рэпрэсіраванага ў 1937-м Сцяпана Вільчыка), прынёс бацьку на суд свой першы раман.

Юры Сцяпанавіч быў тады зусім малады, бо ў сорак чацвёртым, калі ён збег на фронт, далучыўшыся да нашай арміі, што імкліва рухалася па захад да граніц Польшчы, яму было толькі шаснаццаць.

Такім, надзвычай прыгожым, з пустым левым рукавом гімнасцёркі, я і заномніла яго пасля таго, як у сорак пятым убачыла ўпершыню, і кантраст яго юначай прыгажосці і калецтва балюча крануў маю дзіцячую душу.

Раман Ю. Вільчыка бацька знайшоў вельмі цікавым, але папярэдзіў аўтара, што ён наўрад ці будзе надрукаваны: для думкі, што пераможца ў вайне — народ, а не правадыр, яшчэ не прыйшоў час.

Усё адбылося, на жаль, якраз так, як і прадказваў бацька. Аўтару ў публікацыі адмовілі. Тады ён спаліў раман і больш да літаратурнай працы не вяртаўся.

Думаецца, што ўласную п'есу бацька паліў па тых самых, што і Вільчык, ці падобных меркаваннях.

Бацькава п'еса была, відаць, спробай асэнсавання рэчаіснасці першых пасляваенных гадоў з усімі іх цяжкасцямі і няўвязкамі. А бяда аўтара, як можна здагадацца, была ў тым, што ён, як асоба творчая, развіваўся, абганяючы сацыяльныя працэсы свайго часу.

Гэтая звычайная логіка развіцця вялікага таленту часам робіцца прычынай многіх творчых і асабістых драм. Такімі былі вядомыя мне акалічнасці, што скажалі натуральны працэс творчага развіцця бацькі і сталі, магчыма, прычынай таго, што пара элегічнага настрою надышла для яго даволі рана, але паэт пачаў спрабаваць сябе ў больш бяскрыўдным празаічным жанры — пачаў пісаць аповесць пра юнацтва і каханне.

Пра гэта ў адной з маіх тэлеперадач расказваў Мікола Аўрамчык.

Мікалай Якаўлевіч гаварыў пра тое, як у адну з першых пасляваенных зім ён прыйшоў да свайго былога літкансультанта з новымі вершамі. Быў вечар, палілася грубка, а на тапчане перабіраў ножкамі грудны Саша. Бацька слухаў Аўрамчыка, прыпёршыся спіной да печы.

Вершы яму спадабаліся, і ў размове пра паэзію старэйшы сябра параіў малодшаму напісаць верш пра беларускую сасну ў данецкай шахце. Якія асацыяцыі прывялі субяседнікаў да такога фіналу размовы, я ўжо не памятаю, але ведаю, што параду Аўрамчык скарыстаў. Так нарадзіўся яго верш «Беларуская сасна». Думаецца, што і наведванне Куляшова запомнілася Аўрамчыку таму, што дало плён у яго ўласнай творчасці.

Аўрамчык сцвярджае, што менавіта тады бачыў на пісьмовым стале ў Куляшова рукапіс аповесці, якая мела назву «Зорка Канікула».

Аповесці бацька не скончыў, але сюжэт яе выкарыстаў у паэме «Новае рэчышча».

Цягай да «суровай прозы» тлумачыцца, магчыма, і дзейнасць Куляшова ў кіно. Я маю на ўвазе яго сцэнарную працу. Фільм «Чырвонае лісце» з поспехам ішоў у нашай і сацыялістычных краінах, а пра працу з бацькам над сцэнарыем фільма «Запомнім гэты дзень» цікава расказваў беларускі пісьменнік Максім Лужанін, выступаючы, здаецца, на вечары памяці Куляшова ў 1979 годзе.

Аляксандр Амвросьевіч, якога звязвалі з бацькам гады творчай дружбы, расказваў слухачам, як працаваў Куляшоў-сцэнарыст, якую колькасць паперы пераводзіў, шукаючы аптымальнага варыянту сцэнарнага эпізоду. З такой самаадданасцю бацька працаваў заўсёды. Нехта з ягоных рэдактараў, не, прабачце, Якаў Аляксандравіч Хелемскі, перакладчык твораў Куляшова на рускую мову і даўні сябра, расказваў неяк нам, а цяпер ужо і чытачам у сваёй публікацыі ў «Полымі», пра тое, як часта мой бацька міжволі ўскладняў яго жыццё сваёй патрабавальнасцю да ўласных твораў. Бацька правіў свае вершы ўвесь час, пакуль была хоць якая-небудзь магчымасць уносіць праўкі ў нават ужо набраны друкарняй тэкст.

Гэтаксама ставіўся ён і да аўтарызацыі перакладаў. Так што амаль начныя ці, наадварот, вельмі раннія званкі з Мінска не былі для Хелемскага нечаканасцю. Нават у кнігах бацькі з яго ўласнай бібліятэкі я ўсё яшчэ знаходжу праўкі ўжо хрэстаматыйных тэкстаў яго твораў.

Але, вяртаючыся да размовы пра шляхі прозы ў паэзіі Куляшова, хочацца адзначыць, што, прабіўшыся на паверхню ў часы «Зоркі Канікулы» і кіно, яна потым жыла ў яго паэзіі падспудна.

Аднойчы, калі я выпадкова сустрэла ў Саюзе пісьменнікаў А.С. Русецкага, ён, прывітаўшыся, спытаўся:

— «...Возраст тот, что службу главную несет» — тэта адкуль?

— Па-мойму, з Твардоўскага.

— Так, але з якога твора?

— Дакладна не скажу, але мне здаецца, што з пасляваенных вершаў... А чаму вы ў мяне пытаецеся пра гэта?

— Вялюгін мне сказаў, што твой бацька хацеў пісаць празаічны твор пад гэтай назвай. Ты пра гэта чула?

— Пра твор — не памятаю, але гэты радок даволі доўгі час гучаў у нашай хаце...

«Голас прозы» прабіўся даволі адчувальна ў інтанацыі паэтычнага апавядання паэмы «Далёка да акіяна», за працу над якой бацька ўзяўся кіруючыся парадай А.Т. Твардоўскага, якому ў пэўны перыяд прагудзеў вушы гісторыямі свайго дзяцінства.

Мне гэта зразумела: бацька вяртаўся да вытокаў уласнага жыцця таму, што спрабаваў асэнсаваць яго, намацаць нейкія яго ўзаемасувязі і заканамернасці. Паэма, дарэчы, спачатку мела назву «Вытокі».

Магчыма, у гэты час у бацькі зноў мільгала думка пра прозу, бо акурат тады ён асабліва часта паўтараў фразу, якую мы заўсёды чулі ад яго, калі гаворка заходзіла пра гэты жанр. Нязменна ўздыхаючы — трэба думаць, ад зайздрасці — бацька казаў:

— Прозы б я пісаць не мог. Вось Твардоўскі — іншая справа: ён бачыць дэталь...— І ў доказ слушнасці сваёй думкі, ён прыводзіў радкі Твардоўскага, трохі, мне здаецца, скажаючы арыгінал:

И звенит, звенит комар
Тоненько, знакомо,
Как остывший самовар
После бани, дома.

І ўсё ж, мне здаецца, у паэтычнай тканіне аўтабіяграфічнай паэмы Куляшова «падбіўка» празаічная. Яна праглядвае ўсюды: месцамі ў

рытміцы паэмы, логіцы яе пабудовы, характары асэнсавання рэчаіснасці:

У пары дзщячае
Ёсць кругі свае.
Першы круг — пад вокнамі
Зранку вымяраць
Двор і прызбу крокамі
Шырынёю ў пядзь.
Далягляды новыя
Адкрываць штогод —
Межы палыновыя,
Лазню, агарод.
Круг другі —
абжытыя
Поле, лес і луг,
Рэчкаю абвітыя...
Школа — трэці круг.
У пары дзіцячае,
Светлае пары,
На кругах адзначаных
Ёсць свае сябры.
Мне дагэтуль помніцца
Наш буланы конь,
Легендарнай конніцы
Ветэран,—
Агонь.

Гэтыя радкі, калі памятаеце,— пачатак цудоўнай паэтычнай «навелы» пра каня, усяго толькі прэамбула, і я не цытую яе далей таму, што не пра вершы зараз гаворка, а пра «навелу», гэта значыць празаічнае бачанне сюжэта.

Першапачатковае бацькава бачанне аўтабіяграфічнага сюжэта празаічным тлумачыцца не толькі яго даўняй схільнасцю да прозы, але і пэўнымі жыццёвымі акалічнасцямі.

Куляшову А.А.

Пахра, 28 декабря 1967

Дорогой Аркадь!

Поздравляю, обнимаю тебя, желаю поменьше общаться в Новом году с эскулапами и соответствующими заведениями.

Вот что пришло на мысль как-то: ты должен засесть за автобиографическую повесть,— ты мне кое-что рассказывал о своем детстве, помнится, там есть великолепные эпизоды, например, как ты жил мальчонкой один в хате и тому подобное. Уверен, что получится. Для затравки почитай «Детство» Толстого, Горького, Короленко, Герцена, даже Рыленкова.

Поклон и добрые пожелания твоим близким.

А.Т.

9 января 1968 г.

Твардовскому А.Т.

Дорогой Александр Трифонович!

Твое предложение засесть за автобиографическую повесть не явилось для меня неожиданностью. Эту идею ты заронил мне еще в Барвихе, когда я рассказывал о своем детстве (первый разговор о детстве и юности состоялся между Твардовским и Кулешовым в 1964 году в Барвихе). Помнится, ты тогда советовал вести «записки». С тех пор «записки» и эпизоды детства живут рядом в сознании.

Возможно, форма «записок» о сегодняшнем дне и подскажет необычное отношение к детству и юности. Впрочем, наперед не надо заглядывать. Непринужденность рассказа, форма вещи не придумываются, не приходят заранее, а вырабатываются ежедневным кропотливым общением пера с бумагой...

Обнимаю тебя, Ар. Кулешов.

Ідучы ад ідэі аўтабіяграфіі, якая лепш за ўсё — так мне здаецца — укладваецца ў празаічны жанр, бацька хутка, відаць, адчуў, што адлюстраванне ўласнага лёсу для яго не самамэта, што ён цікавіць яго толькі ў плане тыпізацыі лёсу цэлага пакалення — першага пакалення будаўнікоў новага жыцця.

Погляд на ўласную біяграфію, як на біяграфію пакалення, не мог не адбіцца на жанры твора, змяняючы яго звычайныя прастору і час і ўводзячы ў твор даволі адчувальны элемент умоўнасці і адцягненасці.

Ці не парадокс гэта — умоўнасць і адцягненасць у размове пра канкрэтнае? Аказваецца, не. У тым выпадку, калі захоўваецца прапорцыя ва ўзаемадзеянні ўзаемавыключальных кампанентаў. «Прыгажосць — гэта прыхаваная супярэчнасць»,— сцвярджаў Гётэ.

Усё сказанае асабліва добра відаць на прыкладзе пасляслоўя паэмы, якое рассоўвае рамкі апавядання яшчэ шырэй: ад лёсу асобнага чалавека і цэлага пакалення да лёсу ўсяго чалавецтва.

Які празаічны жанр вытрымае такія скокі ў часе?

Ці не ў гэтым тлумачэнне таго, чаму ў расказе пра сябе Куляшоў у рэшце рэшт аддае перавагу паэзіі?

На даляглядзе —
абрысы вусця,
А за спіною —
смуга вытоку.
Гады, якіх я
не дазавуся,
Вярнула памяць
у поле зроку.
І сёння дбае
жывая памяць
Аб летах даўніх.
што на экране:
Куды плыты іх
цяпер прычаляць?
Што іх чакае
у акіяне?
Прымаць прывык ён
на грэбень пенны
Лёс, сярод лёсаў
людскіх, адменны,
Плыты, якія ў гурт пазбіраны
Жыццём героя,
што ў свеце знаны.
Плыты лясныя!
Хай пагражае
Вас занябыцціць
моц штармавая
Хваль акіянскіх
у кругаверці.
А вы плывіце!
А вы не верце! —
Адным стагоддзе
агнём хрысціла
Жыццё адменнае,

як і ваша,
Яго не ўсмерціць
нябыту ціна,
Наш век суровы
на дно не ляжа.
Плыты плывіце!
Яшчэ не раз ён,
Наш век трывожны,
сваім наказам
Наступным зімам,
наступным летам
У дзверы грукне,
як запаветам.

Век наш рукой намагання свайго
Месяца кратары кратае,
Але, на жаль, на аблічча яго
Воля — з іржавымі кратамі,
Мір і вайна — на зямлі, а ўгары —
Воблака з атамным воблакам...
Дзесяцігоддзі, як павадыры
Вобмацкам, вобмацкам, вобмацкам
Выйсця шукаюць няпэўным кійком,
Век свой вядуць двухаблічны
У масцы старой, дзе мяжуе з жыццём
Гібелі выраз трагічны.
Побач з надзеяй суседзіць адчай,
Рупнасць — з ліхвярства канторамі.
Век наш, дзікунства забрала скідай,
Грукай у дзверы гісторыі!

У радках гэтага пасляслоўя — я цытую яго скарочаны варыянт — вялікая, часам ускладненая паэтычным іншасказаннем, інфармацыя.

Але разабрацца ў ёй не складана нават таму, хто не чытаў паэмы, але не пабаіцца ўнікнуць у напісанае. Тады ён зразумее, што пасляслоўе паэмы «Далёка да акіяна» — гэта спроба па-філасофску асэнсаваць тыя глабальныя праблемы нашага часу, якія паставіў перад чалавецтвам канец XX стагоддзя.

Адначасова аўтар ставіць перад намі і больш канкрэтныя, асобныя пытанні, даючы ім уласнае тлумачэнне.

Сапраўды, акрамя асноўнага пытання нашага часу — быць ці не быць чалавецтву,— Куляшоў ставіць і пытанне пра ролю асобы ў гісторыі і вырашае яго недвухсэнсава: герой, сцвярджае аўтар,— гэта носьбіт ідэалаў свайго часу, гэта выразнік волі народа, што і робіць яго лёс адметным, ці не ад кораня «мет» — «адмечаны», што значыць «выбраннік», выбраннік лёсу? Вось мы і намацалі, здаецца, тую ніць, якая працягнулася ад паэмы «Далёка да акіяна» да вяршыні творчасці Аркадзя Куляшова — паэмы «Хамуціус», твора, прысвечанага выбранніку лёсу, нацыянальнаму герою нашага народа Кастусю Каліноўскаму.

І сапраўды, як абысці такую тэму, калі разумець, што лёс героя аб'ядноўвае ў сабе намаганні ўсяго народа? І ў сваю чаргу залежыць ад таго, ці ўдаецца яму здзейсніць запатрабаванне часу?

Вось ліст-маналог аднаго з паплечнікаў Каліноўскага, які загінуў у гэтай барацьбе, як і ён:

«Мой родны брат! Я пакідаю свет.
Пішу табе не ліст, а запавет...
Узняўшы бунт, народу-жабраку
Мы камень падалі, а не руку.
Мы гінем ад таго, што абяцалі
Зямлю яму, а не далі ні цалі.
Калі затрубіць новай бітвы рог,
Паўстанец пакладзе на твой парог
Мой запавет, а ў ім — зямлю магната!
Тваю, маю... Раздай жа долю брата
Тым, хто арэ. На гэта права
Не я табе даю, а наша справа».

Пра паэму «Хамуціус» у плане жанру наўрад ці варта гаварыць асобна: яе сувязь з прозай, драматызаванай прозай,— яўная.

У заканчэнні размовы пра месцы сутыкнення паэзіі Куляшова з прозай мне хочацца вярнуцца да «Зоркі Канікулы».

Я працытую тут яе пачатак, бо гэта адзіная магчымасць пачуць голас Куляшова-празаіка, хай сабе і неакрэплы:

«Поезд вырваўся за гарадскую лінію і акунуўся ў прыемны халадок лясоў. Пасажыры парасчынялі вокны, і лясное паветра хлынула ў вагоны свежымі струменямі. Паравоз вясёла прасвістаў, і голас яго разлёгся паабапал чыгункі далёкім, бясконцым гушчарным рэхам, абяцаючы людзям працяглую лясную засень і густую непралазь зялёных лісцяў і хвойных галін, што хавае іх ад гарачага высокага сонца.

Сонца бегла следам за паравозам па густых верхавінах дубоў, клёнаў, ясеняў, ёлак і сосен, ні на крок не адставала ад імклівых вагонаў, час ад часу кідаючы ў расчыненыя вокны свае вострыя яркія прамені.

Маладога пасажыра звалі Андрэем Пагода. Ён сапраўды — студэнт, перайшоў на другі курс сельскагаспадарчай акадэміі і цяпер ехаў на летні адпачынак у родныя мясціны. Ён стаяў пры расчыненым акне вагона і глядзеў на дрэвы і лясныя сцежкі, што мільгалі перад вачыма. Зрэдку ён высоўваў галаву з акна, падстаўляючы твар ударам паветра, якое імкліва рассякаў хуткі поезд.

Ён ехаў туды, дзе не быў цэлыя два гады. Яны здаваліся яму вечнасцю. Ён глядзеў на лес, што стаяў паабапал чыгуначнага палатна, а вачыма сваімі бачыў далёкія лясы і палі, сярод якіх прайшло яго маленства.

Як там цяпер? Ці намнога падрос сасоннік у Цыкунах, які садзілі яны калісьці ўсёю школаю? Ці па-ранейшаму багата ягад і грыбоў у Дуброве, а рыбы ў Бесядзі? Як там пажывае былы пастух, таварыш яго маленства Сашка Вус, з якім яны ведалі ўсе грыбныя мясціны ў лясах і на прыкмеце мелі кожны арэхавы куст? Што ён робіць цяпер? Вось прыедзе Андрэй дадому і пойдуць яны з Сашкам, па старой памяці, зноў на рыбу... Раскладуць у лузе агонь, паставяць перамоты і слухаць будуць, як крычаць у высокай траве драчы.

А родны дом? Як ён стрэне яго?»

Рукапіс «Зоркі Канікулы» быў, відаць, вельмі дарагі бацьку, бо трапіў да мяне з яго архівам праз Нясвіж, куды ён захапіў яго, адпраўляючыся ў сваё апошняе падарожжа.

Чаму менавіта гэтую, даўйо закінутую працу?

Гэтай загадкі нам, відаць, ніколі ўжо не разгадаць.

А можа, яе і не было, загадкі? Можа, бацька проста выконваў зарок сваёй маладосці «не сыходзіць з яе дарог ніколі»? А рукапіс, як талісман, на шчасце?

Я пакідаў маленства край,
Дзе жыў жыццём вясёлым,
Прыйшла і мне чарга бывай
Сказаць лясам і долам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Глядзелі з вокнаў aганькі
Мне ўслед з трывогай шчырай,
Нібы ў далёкі і цяжкі
Я падымаўся вырай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адчуў я прагу вышыні,
Зямля дала мне сілы,
Мяне ўзнялі юнацтва дні —
Майго адлёту крылы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(«Крылы», 1915)

Паэзія крылатая. Вось у чым справа.

## «ЛЯЦІЦЬ МОЙ СУМ, ЛЯЦІЦЬ МАЯ ДУША...»

-----

Пімен Емяльянавіч Панчанка расказваў мне, як увосень сорак дзевятага вядучых беларускіх паэтаў сабралі ў Доме творчасці «Каралішчавічы» з даручэннем напісаць паэму на зададзеную тэму.

Штодня пасля снядання ўсе спраўна займалі месца за пісьмовым сталом і працавалі над «сацыяльным заказам».

Нетыпова паводзіў сябе толькі мой бацька: ён альбо бадзяўся па лесе ў пошуках грыбоў, альбо гуляў у шахматы з кім-небудзь з тых, хто не меў дачынення да задання, альбо драмаў на канапе ў сваім пакоі, непакоячы сваімі паводзінамі «трапетуна» (так празвалі Петруся Усцінавіча старэйшыя пісьменнікі за яго неспакойны характар). Броўку, тагачаснага старшыню праўлення Саюза пісьменнікаў, які лічыў сваім абавязкам сачыць, каб людзі не марнавалі дзяржаўных сродкаў, а займаліся тым, дзеля чаго іх сабралі.

Калі надышоў час справаздачы, высветлілася, што пераможцам стаў Куляшоў, які выканаў заданне за апошнія некалькі дзён тэрміну. Плён яго працы быў надрукаваны ў снежаньскім нумары «Нового мира» за 1949 год.

Гэтыя асаблівасці працоўнай манеры Куляшова былі прычынай многіх непаразуменняў, калі бацьку даводзілася працаваць на вачах у калег. Многія з іх шчыра не разумелі, як і калі працуе гэты «лайдак» і адкуль такія вынікі. Таму з часам бацька выпрацаваў навык «не дразнить гусей».

Памятаю, як, скончыўшы працу над перакладам паэмы Сяргея Ясеніна «Анна Снегіна», бацька патэлефанаваў галоўнаму рэдактару часопіса «Полымя», каб дамовіцца пра публікацыю.

— Гэта плён маёй трохмесячнай працы! — сказаў між іншым бацька.

— Тата,— шчыра здзівілася я,— ты ж працаваў усяго дзён дзесяць!

— Дзесяць! — згадзіўся ён.— Але я не магу сказаць гэтага — не зразумеюць: альбо палічаць, што пераклад дрэнны, альбо стануць зайздросціць. Так ужо неаднойчы бывала...— дадаў ён з горыччу.

Бацькаў метад быў асабліва незразумелым для тых, хто працаваў згодна рэкамендацый аб ахове здароўя.

Куляшоў жа працаваў няспынна. Гэта значыць, што стала працавала яго думка, незалежна ад таго, што ён у гэты час рабіў. Бацька валодаў майстэрствам не гвалціць сваёй думкі. Ён даваў ёй выспець, і толькі вынашаную выкарыстоўваў у творчасці. Для гэтага трэба было мець характар, а галоўнае — жыць надзеяй.

Сапраўднаму паэту яшчэ і таму трэба ўмець жыць надзеяй, што штуршок думцы могуць даць толькі жыццёвыя акалічнасці, сама рэчаіснасць, я маю на ўвазе плённы штуршок, і дарэмна шукаць яго за пісьмовым сталом, за які бацька і садзіўся толькі для рэалізацыі задумы, што ўжо выспела і чакала свайго ўвасаблення.

Штуршком да працы над паэмай пра Кастуся Каліноўскага і яго справу стала для бацькі наша сямейная трагедыя — смерць зяця, майго мужа балгарынта Хрыста Берберава.

Мы сустрэліся з Хрыстам у канцы 1954 года. Ён таксама быў студэнтам філалагічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М.В. Ламаносава.

Мае бацькі пазнаёміліся з Хрыстам у снежні, калі прыехалі ў Маскву на Дэкаду беларускай літаратуры і мастацтва, а ў студзені 1956-га ён праводзіў зімовыя канікулы ў Мінску, бо напярэдадні атрымаў з дому вестку пра смерць бацькі, архітэктара Хрыста Іліева Берберава, і я не адважылася кінуць яго аднаго ў пустым інтэрнаце.

Чаго каштавала бацькам маё захапленне — можна сабе ўявіць.

Хрыста спадабаўся абоім. Але...

Ён быў грамадзянінам іншай краіны, а ў тыя часы шлюб з іншаземцам быў забаронены, пра што, праўда, ніхто з нас не ведаў, а калі да гэтага дайшло, забарону ўжо, на шчасце, адмянілі.

Аднак бацька ведаў — хоць і не адважваўся тады сказаць мне гэта, бо тэма была «табу» нават для сямейнага асяроддзя,— што повадам для першага арышту Юлія Таўбіна стаў ліст з-за мяжы ад цёткі, якая нібыта пераехала з Польшчы ў Амерыку, аб чым палічыла неабходным паведаміць крэўным.

Што ж да маёй маці, то ёй усім сваім чалавечым воблікам Хрыста нагадаў Платона Галавача, і тата спалохалася думкі пра магчымае падабенства іх лёсаў.

Варта адзначыць, што Хрыста паходзіў з прагрэсіўнай сям'і балгарскай інтэлігенцыі.

Протестъ

Дружеството на Новитѣ художници въ България ПРОТЕСТИРА НАЙ-ЕНЕРГИЧНО срещу варварска и безчовечна система На политически убийства, чиято найнова жертва е нашиятъ колега Иванъ Христовъ Тодоров и СРЕЩУ БЕЗДЕЙСТВИЕ НА ВЛАСТТА, което бездействие поощрява и търпи тая система...

Протест

Саюз Новых Мастакоў Балгарыі САМЫМ ЭНЕРГІЧНЫМ ЧЫНАМ пратэстуе супраць варварскай і бесчалавечнай сістэмы палітычных

забойстваў, чыёй апошняй ахвярай зрабіўся наш калега Іван Хрыстаў Тодараў, а таксама СУПРАЦЬ БЯЗДЗЕЙНАСЦІ ЎЛАД, чыя бяздзейнасць заахвочвае і церпіць гэтую сістэму...

Гэты дакумент, дакладней, яго чарнавік, я знайшла сярод той часткі сямейнага архіва архітэктара Берберава, якую я, вяртаючыся пасля смерці мужа на радзіму, выпадкова захапіла замест нашага з Хрыстам.

У 1949 годзе архітэктар Хрыста Іліеў Берберaў атрымаў інсульт хутчэй за ўсё як вынік цяжкай работы над стварэннем Маўзалея Георгія Дзімітрова, пабудаванага ў выключна кароткі тэрмін.

Смерць, якая наступіла ў 1955 годзе, была вынікам таго інсульту.

Вобраз легендарнага камуніста Георгія Дзімітрова кінуў свой водбліск і на наш з Хрыстам лёс: прагляд фільма «Урок гісторыі», прысвечаны Георгію Дзімітрову, які мы выпадкова глядзелі разам у клубе страмынскага інтэрната, стаў пачаткам нашага сяброўства.

Сярод студэнцкай моладзі Хрыста вылучаўся не толькі знешнім выглядам, выхаванасцю і адукацыяй, але і несумненнай таленавітасцю. Ён добра маляваў, а на філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта прыйшоў з другога курса Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва ў Сафіі. Хрыста любіў і добра ведаў сусветную паэзію, асабліва балгарскую і рускую (я ўжо не гавару пра тое, што рускай мовай ён валодаў дасканала). Ужо з першых дзён нашага сяброўства Хрыста, сярод іншых, чытаў мне і ўласныя вершы. І цяпер я разумею, што яны былі добрыя, але я тады не была ў стане даць ім належную ацэнку і не заахвоціла яго да працы ў гэтым кірунку.

Затое заахвоціла да перакладу. Сярод яго першых спроб былі вершы Лермантава, Леаніда Мартынава, Мусы Джаліля і Максіма Багдановіча, якога ён перакладаў ужо з беларускай мовы. Хрыста ставіўся да працы сур'ёзна, рабіў пераклады выключна з арыгінала, і вынікі хутка спраўдзіліся. Пераклады ўбачылі свет у балгарскім друку і адкрылі Хрысту шлях да далейшай дзейнасці. Потым ён перакладаў вершы і прозу з рускай і беларускай моў, а наша з ім «Анталогія беларускага апавядання», дзе я — складальнік, а ён — перакладчык, лічыцца адной з лепшых.

Мы ажаніліся летам 1956 года. Вяселле гулялі на Нарачы, дзе сярод гасцей было многа пісьменнікаў.

Бацька мне не пярэчыў. Магчыма, ён, як ніхто другі ў нашай сям'і, разумеў, што доказы розуму ў дадзеным выпадку сілы не маюць, і глядзеў на ўсё, што адбывалася, са стойкасцю фаталіста, тым больш што Хрыста яму імпанаваў.

Хрыста Бербераў скончыў рускае аддзяленне філалагічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ордэна Леніна універсітэта імя М.В. Ламаносава ў 1959 годзе. Ён быў літаратуразнаўцам, вучнем вядомага савецкага літаратуразнаўцы старэйшага пакалення Капорскага, які з'яўляўся кіраўніком іх семінара па Чэхаву.

Калі да вельмі ўжо старэнькага настаўніка дайшла вестка пра смерць вучня, ён сказаў, што ў асобе Хрысты Берберава страціў самага таленавітага са сваіх выхаванцаў. А з аспірантуры Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў адрас балгарскага Саюза кінематаграфістаў прыйшоў ліст ад дэкана кафедры тэорыі кіно, дзе Хрыста ў той час завочна вучыўся, у якім гаварылася, што ў яго асобе ўвесь сацыялістычны лагер страціў чалавека, які быў надзеяй нашай тэорыі кінамастацтва.

Аднак у прафесійных адносінах жыццё Хрысты складвалася не гладка.

Пасля заканчэння універсітэта ён, у гэты момант ужо круглы сірата, абцяжараны сям'ёй, згадзіўся працаваць у «Альянсе» — на курсах замежных моў, дзе выкладаў дзецям рускую.

На пачатку 1960-га Хрысту прапанавалі перайсці на пасаду рэдактара ў студыю Балгарскага тэлебачання, якое тады толькі пачынала работу. Там ён працаваў да 1965 года, калі, вядомы ўжо журналіст, сцэнарыст, мастацтвазнаўца, кінакрытык і літаратурны перакладчык, ён перайшоў працаваць у часопіс «Киноизкуство» («Мастацтва кіно» па балгарскай мове), дзе працаваў усяго два гады, але зрабіў многа ў галіне тэорыі кіно і кінакрытыкі, стаўшы членам міжнароднай арганізацыі крытыкаў кіно.

Так, яму першаму ў балгарскай кінакрытыцы, якая знаходзілася ў той час у стане фарміравання, належыць простая і натуральная, як на наш час, думка, што грамадства, вызначаючы сваю палітыку ў адносінах да тых ці іншых груп насельніцтва, павінна перш за ўсё ўлічваць долю іх удзелу ў агульнай працы. Ці не гэта стала нам зразумелым сягоння? Гэтая думка выклікала тады абурэнне ў асяроддзі некаторых Хрыставых калег.

Дзякуючы настойлівасці Хрысты, я таксама пачала займацца кінакрытыкай, і першай спробай быў артыкул пра фільм С. Юткевіча «Ленін у Польшчы», апублікаваны ў штотыднёвіку «Поглед» у студзені 1967 г. за яго і маім подпісам. Сталася так, што артыкул, як звычайна, заказалі Хрысту, а ён перадаў мне, бо ў часе размовы пра фільм высветлілася, што я лепш разумею, у чым наватарства гэтага незвычайнага па сюжэту фільма. Потым былі рэцэнзіі на «Крылы» Л. Шапіцька, на другую серыю «Вайны і міру» і многае іншае, што

часцей за ўсё друкавалася ў часопісе «Кіноизкуство» за нодпісам В.К. Але справа не ў гэтым, а ў тым, што Хрысту падабалася тое, што я раблю, і ён даваў гэтаму вельмі своеасаблівую, але тыповую для строю яго мыслення ацэнку. Калі я, адзіная ў хаце, дзе, апрача Хрысты і нашага двухгадовага сына, жылі яшчэ тры яго браты, жанчына, адкладвала, занятая працай па гаспадарцы, пераклад альбо артыкул — апрача гэтага я выкладала рускую мову ў Вышэйшым медыцынскім інстытуце — Хрыста абураўся і гаварыў:

— Табе займацца хатняй гаспадаркай — тое самае, што ў раялі трымаць кансервы!

Яго вельмі абуралі гэтыя мае «кансервы» (хатняя гаспадарка), і Хрыста, як большасць мужчын, звольненых ад яе жонкамі ці маткамі, не разумеў, што і «кансервы» трымаюць у той скрыні, якая ёсць у наяўнасці, калі нельга набыць адпаведную.

Тое, чаго чакаў ад мяне Хрыста, было, па сутнасці, патрабаваннем узняцца над абставінамі жыцця, бо мы з ім, маладыя спецыялісты з малым сынам на руках, не мелі ў Балгарыі ніякай падтрымкі і пачыналі ўсё з нуля, як калісьці мае бацькі.

Таму нам прыходзілася «распыляцца»: займацца працай і «на кавалак хлеба» — мне — выкладчыцкай, яму — рэдактарскай — і «па сэрцы»: перакладчыцкай, кіна- і літаратурнай крытыкай. Мне — менш, Хрысту — больш, бо я адразу ж вызваліла яго ад хатніх абавязкаў.

Дзякуючы гэтаму Хрыста здолеў хутчэй знайсці сябе ў творчасці і працаваў самааддана. Пасля поўнага, часам вельмі напружанага працоўнага дня ён садзіўся ўвечары за артыкул ці пераклад і рабіў да той пары, пакуль я не перапыняла яго.

Памятаю, як, працуючы над перакладам паэмы Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады» (гэта, лепшы з перакладаў «Сцяга брыгады» на славянскія мовы, Хрыста зрабіў за пяцьдзесят дзён, пасля чаго, праўда, зваліўся з мікраінфарктам, бо працаваў адначасова і на тэлебачанні), ён будзіў мяне і ў гадзіну і ў дзве ночы, каб удакладніць сэнс таго ці іншага беларускага слова.

У снежні 1967-га, праз 3 дні пасля прыезду з СССР, куды ён прыязджаў на сесію ў Інстытут кінематаграфіі, потым у Мінск на дзень нараджэння сына, Хрыста раптоўна памёр у Сафіі ў салоне кінатэатра «Благоев».

Калі Хрысты не стала, мой брат Валодзя з трапнасцю матэматыка акрэсліў прычыну смерці, якая так ашаламіла ўсіх яго блізкіх і сяброў, словам «згаранне».

Бацька быў у гэты час у Нясвіжы, дзе лячыўся пасля інфаркту, які зваліў яго ў кастрычніку шэсцьдзесят шостага. Маці не адважылася сказаць бацьку пра тое, што здарылася, і ён даведаўся аб няшчасці тады, калі вярнуўся ў Мінск і не знайшоў мяне там.

Пачуўшы пра смерць Хрысты, бацька схапіўся за сэрца.

— Бедаеш, Ксаня, я ніколі не думаў, што так люблю Хрысту! — прызнаўся ён маці.

Праз дзесяцігоддзе, ужо ў 1977-м, бацька сказаў мне, што ледзь стрымаў сябе тады, каб не напісаць вершы на яго смерць.

— Затое,— сказаў ён пасля паўзы,— думкі пра Хрысту і горыч страты вярнулі мяне да новага роздуму пра Каліноўскага, вынікам чаго стала паэма «Хамуціус».

Гэтая размова нават праз дзесяць гадоў давалася нам цяжка, і, можа, таму я не адважылася працягваць яе далей.

А зараз вельмі шкадую аб тым, што не перасіліла сябе і не спыталася ў бацькі, якія асацыяцыі з Хрыстам падштурхнулі яго да працы над паэмай. Але ці так гэта істотна? Мы ж ведаем хаця б з гісторыі напісання «Анны Карениной», якія часам дзіўныя асацыяцыі выклікаюць у пісьменніка плённую задуму.

А пра тое, што гэта можа спатрэбіцца мне для кнігі пра бацьку, я не магла нават і здагадацца. Затое ён, напэўна, ведаў. Таму, відаць, і пачаў адкрывацца мне ў апошнія месяцы жыцця, сказаўшы між іншым:

— Як шкада, што ты пачнеш пісаць толькі пасля маёй смерці!

Што да Хрысты, дык ён падабаўся бацьку, відаць, тым, што быў чалавекам неардынарным.

Бацька бачыў, як цяжка ідзе наша прафесійнае станаўленне, і разумеў, што нехта з нас павінен пайсці на ўступкі, каб даць другому магчымасць хутчэй стаць на ногі.

Аднак Хрыста, які па маладосці альбо дзякуючы асаблівасцям свайго характару ці выхавання развaжаць пра жыццё — «развaжаць пра жыццё»? Ха-ха-ха! Гэта — прывілея рускіх! Мы ж, балгары, лічым за лепшае дзейнічаць! — не любіў і не згаджаўся з тым натуральным становішчам, што на ахвяры ў імя сям'і павінна ісці жанчына.

Таму ў той год, калі мы пакінулі сына ў Мінску, Хрыста настаяў, каб я паступала ў аспірантуру. Памятаю, як цяжка ішла ў мяне французская мова і як Хрыста падбадзёрваў мяне, гаворачы:

— Не панікуй! Садзіся за работу! Толькі тое не будзе зроблена, чаго не распачынаў!

Свае экзамены, у тым ліку і французскую, я здала няблага, але справа не ў гэтым.

Думаю, што ў сваім чалавечым станаўленні, калі лічыць, што яно адбылося, я многім абавязана таму чалавеку, якога на пачатку жыцця лёс паслаў мне ў спадарожнікі.

Майму ж бацьку Хрыста больш за ўсё падабаўся тым, што быў чалавекам ідэі, грамадскім чалавекам.

Памятаю, як усё жыццё зацята спрачаліся мае бацькі пра сэнс вобраза Бацькі Міная, героя куляшоўскай «Балады аб чатырох заложніках».

Маці сцвярджала, што гэта — антыгерой, які здрадзіў сваім дзецям, а бацька даводзіў, што яна вымярае яго ўчынак меркамі другога жыцця, мірнага, а не ваеннага, у якім усё мяняецца. Сапраўдны воін не можа зрабіць інакш, не здраджваючы пры гэтым агульнай справе, справе перамогі над ворагам, Радзіме.

Маці ён не пераканаў, але пад яе ўплывам выкрэсліў апошнія радкі балады, якія паэтызуюць подзвіг Бацькі Міная:

Не з'явіўся ён па загаду,
Не прасіў для дзяцей сваіх волі,
Не выпрошваў ім сонца за здраду
І выпрошваць не будзе ніколі!

Балада ад гэтага нічога не страціла, а ў спрэчцы сутыкнуліся дзве супрацьлеглыя жыццёвыя пазіцыі: чалавека «хатняга» і грамадскага.

Зрэшты, і псіхолагі сцвярджаюць, што людзей грамадскага мыслення, «пасіянарыяў», згодна іх тэрміналогіі, у грамадстве звычайна не так шмат, як прынята лічыць. Таму я хачу прывесці тут некалькі вытрымак з лістоў Хрысты, адрасаваных у свой час мне.

Гэтыя лісты пісаліся на рускай мове, і я цытую іх, не перакладаючы і не рэдагуючы:

«Перевел «Родину» Лермонтова. На болгарском языке существует еще перевод Людмила Стоянова (он считается лучшим стихопереводчиком с русского языка). Общее мнение — что мой перевод намного лучше как по точности, так и по художественности. Я чуть-чуть загордился.

16. 8.1956 г., София.»

«Что ты скажешь, если мы назовем сына именем моего и маминого папы — Христо? Не то чтобы это имя было особенно звучным или красивым, но хочется, чтобы имя папы осталось. Ты знаешь, что он скончался, не получив того, что ему полагалось по его делам, по его бескомпромиссной честности и прочим качествам. Я потерял уже 23 года (Хрыста называе тут свой узрост. — В.К.) и едва ли смогу

добиться того, чтобы это имя заняло должное место. Что же касается сына — кем он будет, зависит прежде всего от нас с тобой.

18. 12.57 г., Москва.»

«Вчера — ссора с Н. Тема: «Перспективы развития нашего искусства и литературы». Увлеклись. Он сказал, что я — овца, идущая за директивами партии не размышляя. Со своей стороны я ему сказал, что он — не коммунист. Он обиделся. Потребовал, чтобы я извинился. Я спросил:

— Неужели тебя это затронуло?

— Да.

— А меня бы не затронуло.

— Неправда.

— А я ведь не обиделся, когда ты меня овцой назвал.

— Почему?

— А потому, что я знаю, что я не овца. Если бы ты сам был убежден, что ты коммунист,— никто никакими словами не мог бы затронуть это у тебя. Затрагивают то, что лежит па поверхности...

Я тебе привел эту беседу потому, что она весьма характерна. Это ведь один из руководителей творческого союза. Мало все-таки у нас идейных людей на фронте культуры. Тем труднее моя задача, но и тем нужнее.

19. 7. 1955 г., София.»

Перапісваючы гэты ліст, я ўспомпіла такі выпадак. Гэта было ўжо ў перыяд нашага жыцця ў Сафіі, а значыцца, паміж шасцідзесятым і шэсцьдзесят сёмым гадамі.

Неўзабаве пасля таго, як у друку з'явіўся артыкул Хрысты Берберава, у якім ён пахваліў новы раман вядомага балгарскага празаіка старой генерацыі, той, сустрэўшы Хрысту на вуліцы, павітаўся з ім і раптам спытаўся:

— Я так і не разумею, хто ты — вораг ці сябра?

— А чаму ўвогуле ў вас з'явілася такая думка?

— Таму што я яшчэ памятаю, як ты зганіў мой папярэдні раман. Менавіта з таго часу я з табой і не вітаюся, калі ты гэта, канешне, заўважыў.

— Заўважыў, як заўважыў і тое, што вы падмяняеце паняцці. Я не сябра і не вораг. Я звычайны літаратурны крытык і таму павінен быць аб'ектыўным.

Я ўжо гаварыла пра бацьку Хрысты, але абысці маўчаннем яго маці, гаворачы пра яе сына, было б несправядліва і ў адносінах да яе, і да яго, і да балгарскай культуры ўвогуле.

У юбілейным, дзевятым нумары «Септември» за 1984 год у інтэрв'ю, дадзеным часопісу балгарскім антыфашыстам, пісьменнікам Колю Геаргіевым, ёсць такая думка:

«Рэвалюцыя — гэта намаганне, скіраванае на тое, каб прывесці жыццё ў адпаведнасць з вялікай ідэяй. Рэвалюцыю робяць мыслячыя людзі».

Маці Хрысты, Кацярына Навумава, паходзіла з вядомага македонскага роду.

Калі ў сакавіку 1968 года, праз два месяцы пасля смерці Хрысты, я наведала сяброўку юнацтва яго маці, балгарскую пісьменніцу Фані Папову-Мутафаву, якая працавала ў жанры гістарычнага рамана, яна сустрэла мяне словамі:

— Здравейте, княгиньо царевоселска!

Думаю, наўрад ці варта тлумачыць, як збянтэжылі мяне яе словы, і перш за ўсё сваім анахранізмам.

Тлумачачы потым сэнс свайго звароту да мяне, «гаспажа Фані», як па-старынцы мы яе называлі, расказала мне гісторыю роду князёў Навумавых, сорак другім каленам якіх была Кацярына. Яе бацька, Хрыста Навумаў, апошні па мужчынскай лініі князь гэтага роду, памёр трыццацічатырохгадовым, паўтарыўшы подзвіг нашай зямлячкі, баранесы Юліі Урэўскай, сястры міласэрнасці, гераіні руска-турэцкай вайны: у адну з балканскіх войнаў, якіх на пачатку стагоддзя было аж тры, дзе ён прымаў удзел як ваенурач, Хрыста Навумаў заразіўся тыфам ад салдат, якіх лячыў.

Яго маладая ўдава Аляксандра прысвяціла жыццё дочкам, Кацярыне і Слаўцы. Кацярына скончыла ў Еўропе два факультэты: філасофскі і кансерваторыю па класе вакалу. Яна мела, гавораць, цудоўнае мецца-сапрана, але бліскуча распачатая кар'ера спявачкі цягнулася нядоўга. Яна кінула сцэну, падпарадкоўваючыся жаданню мужа, селяніна па паходжанні, балгарскага мастака Івана Мілева, чыім непараўнальным мастацтвам акварэлі ганарыцца сёння балгарскі народ і чые карціны мы можам бачыць у экспазіцыі Нацыянальнай галерэі НРБ. Мілеў памёр рана, ва ўзросце 29 гадоў, у час першай у Еўропе пандэміі грыпу, так званай «гішпанкі», памёр літаральна ў тры дні, асіраціўшы і жонку і немаўля дачку.

Кацярына Навумава-Мілева выйшла замуж другі раз праз тры гады за таленавітага маладога архітэктара Хрыста Берберава і «разлічылася» са смерцю нараджэннем у другім шлюбе семярых дзяцей.

З бацькам Хрысты яны пражылі не вельмі лёгкае, але духоўна багатае жыццё, калі ўлічыць гістарычныя ўмовы Балгарыі іх часоў і

тую грамадскую пазіцыю, якую яны занялі. Тыя нягоды, якія выпалі на долю гэтых барацьбітоў за пераўтварэнне грамадства, не маглі не адбівацца на матэрыяльным становішчы сям'і і здароўі дзяцей, чым і тлумачыцца ранняя смерць чатырох з іх.

Пра тое, што, як выхавацелька, магла даць дзецям Кацярына Берберава, маці Хрысты, я магу меркаваць не толькі па ўласных уражаннях, па нячастых, на жаль, сустрэчах, кантактах з гэтай незвычайнай жанчынай. Засталіся яе лісты. Яна памерла ў 1957 годзе.

Вось яе голас і думка:

«Мне прыемна было даведацца, што ты здаровы і маеш магчымасць бачыць столькі цікавага! Па сутнасці, і ў нас гастраліруюць вядомыя майстры, але, праўду кажучы, я была толькі на канцэрце Льва Аборына. Тут бываюць выставы нашых і замежных жывапісцаў і графікаў, некаторыя з іх я бачыла, але яшчэ больш прайшло міма маёй увагі. Ды гэта не бяда! Зараз вам, маладым, трэба ўсюды бываць, усяму вучыцца...

24. X. 1955 г. Сафія.»

«Вось ужо тры тыдні, як я збіраюся сесці і напісаць табе пра тое, што ў нас здарылася, а сэрца не дае дазволу засмучаць цябе, імкнецца зберагчы ад удару, асабліва напярэдадні сесіі, якая цябе чакае. Але ты і без таго даведаешся пра непапраўнае — смерць бацькі!

Я прашу цябе прыняць сумную вестку мужна, не дазволіць, каб гора перашкаджала тваёй працы, прашу быць вартым яго імя. А імя твайго бацькі — гэта імя рознабакова адоранага і надзвычай сумленнага чалавека. Памылкі яго сямейнага выхавання, ад якога пакутавалі ўсе мы, яго блізкія, павінны стаць для нас — вас, усіх яго дзяцей,— урокам. Таму што адна з гэтых памылак прывяла да таго, што ён злоўжываў сваім здароўем і сіламі, тады, калі ў яго ўзросце — 53 гады — ён мог бы знаходзіцца ў росквіце творчых сіл.

10.I. 1956 г. Сафія.»

«Хочацца верыць, што шлюб не пашкодзіць табе ў навуцы, не адхіліць ад заняткаў — мэты тваёй паездкі ў Маскву. Апрача таго, ты не павінен забываць, што пасля заканчэння універсітэта ты мусіш вярнуцца ў Балгарыю. Я чула і хачу верыць, што Валя, а зараз і яе бацькі, уплываюць на цябе дабратворна — гэта радуе мяне і заспакойвае... Пасылаю табе разам са згодай і сваё блаславенне. Будзьце шчаслівымі, любіце і паважайце адзін аднаго.

19. 7. 1956 г. Сафія.»

Першыя публікацыі пра Кастуся Каліноўскага ў друку зацікавілі майго бацьку. Ён пачаў збіраць і вывучаць усё, што было напісана раней пра яго героя. Бацька гаварыў пра Каліноўскага з Г. Кісялёвым і акадэмікам Іванам Лушчыцкім, аўтарам манаграфіі пра падзеі 1863-1864 гг. на Беларусі і ў Польшчы, але толькі ў 1968 годзе, калі сямейная драма дала бацьку эмацыянальны штуршок, а думкам — кірунак, у яго напісаўся апошні маналог героя, які потым так і ўвайшоў у паэму і заняў у ёй тое месца, якое бацька прызначыў яму першапачаткова.

Вясной 1972 года, прыехаўшы ў падмаскоўны санаторый «Барвіха» для работы над «Варшаўскім шляхам», бацька, са слоў Давіда Кугульцінава, гаварыў яму і пра Каліноўскага. Працуючы над паэмай, прысвечанай памяці Твардоўскага, Куляшоў думаў і пра «Хамуціуса», хоць і не быў упэўнены ў тым, што жыццё адпусціць яму час для яго напісання. У «Варшаўскім шляху» бачны гэты настрой:

Ляціць ракетай дзён маіх астача,
Яшчэ мне не чужых і дарагіх,
Ляціць мая сляза, і па сваіх
Рамэо і Джульеце сэрца плача.
Прыкметны на канцы карандаша,
Ляціць мой сум, ляціць мая душа.
А разам з імі верш ляціць той самы,
Адзіны мой, ляціць, як эпілог
Яшчэ дагэтуль не пачатай драмы,
Што, можа б, напісаў, каб час памог.
І час ляціць! — для ўсіх абмежаваны
Хваробаю, нястачаю, вайной.

Жыццём прадыктаваная задума паэмы «Варшаўскі шлях» прымусіла бацьку адкласці працу над «Хамуціусам». Боль, выкліканы смерцю Твардоўскага, быў такі пякучы, што не мог не спарадзіць эмацыянальнай буры ў душы Куляшова. Вось як ён сам тлумачыць свой стан у размове з Т.Ф. Залатухінай:

*Залатухіна.* Як нарадзілася паэма «Варшаўскі шлях»?

*Куляшоў.* У яе нараджэнні павінны не я, а само жыццё, што заўчасна адабрала ў нас паэта, якога я так любіў, з якім на працягу, можа быць, сарака гадоў мы падтрымлівалі творчую сувязь. Нічога дзіўнага, што гэтая страта стала для мяне асабістай драмай, ва ўсякім разе прадметам вялікіх перажыванняў. Не адгукнуцца на яе я не мог.

Калі б не па гарачых слядах, дык калі-небудзь пазней гэта ўсё роўна павінна было б прабіцца. І я не ведаю, ці змог бы пісаць далей, калі б не даў выйсця пачуццям і думкам, што так непакоілі мяне. Я нават не ведаю, ці быў бы магчымы мой далейшы творчы рух, бо ніякія іншыя творчыя задумы не маглі б заняць мяне настолькі, каб я меў унутраную свабоду распачаць працу над імі. Я лічыў сваім абавязкам адгукнуцца спачатку на гэту хвалюючую мяне падзею, гэтую трагедыю.

І вось паэтычная рэалізацыя сказанага:

Ратуй людзей з бяды ліхой,
Іх душы
На гвалт і на адчай не пакідай,
Ты радасць ім нясі, сабе — адчай,
Ім — волю, гвалт — сабе, ты духам дужы.
Ідзі, вяшчун, па моры, як па сушы,
Калі пакліча да сябе сляза
Пякучая.
Над прорвай па канаце
Ідзі туды, як па лязе нажа.
Крычы: «Ўставайце!» Не кажы: «Канайце!»
Аб мёртвых дбай, шануй дамоўкі іх,
З сям'ёю продкаў не жыві ў разладзе,
Іх больш, чым нас, іх большасць на парадзе.
На пераклічцы мёртвых і жывых.
Яны — мінулы час у новым часе.
І гарады ў вялікіх гарадах,
Што будаваліся на іх касцях.
Ты, як нашчадак іх, за ўсё ў адказе:
За сёлы ў сёлах і за час у часе.
Хай зрок не спіць, трывожны рог гучыць —
Ты сам гарыш, калі Зямля гарыць!..

Асобе Твардоўскага як чалавека Куляшоў прысвячае наступныя радкі сваей паэмы:

Ён пры жыцці быў крытыкам суровым
Сваім.
Тым песням падаваў руку,
Дзе пачуццё было невыпадковым,
З непазычанай думкай у радку.
Яго дзялянка ўсім відна цяпер:

На ёй прыкметных дат і вех нямала,
Якія, апрача дзяржаўных мер,
Ягонай музы моц замацавала.

«Варшаўскі шлях» быў скончаны да мая 1972 года і павінен быў друкавацца ў часопісе «Дружба народов», калі здарылася нешта зусім нечаканае.

Памятаю гэты вячэрні міжгародні званок, які абвясціў, што паэма здымаецца з нумара. Я стаяла ў тую хвіліну побач з бацькам і памятаю, як змяніўся яго твар. Дзякуй богу, бацька быў сапраўдным салдатам, валявым і рашучым.

Неяк раней ён расказваў мне, як на Калінінскім фронце, у мітусні перадыслакацыі, ён здолеў павярнуць рэдакцыйную машыну назад, калі зразумеў, што, падпарадкоўваючыся загаду, яны едуць у тыл да немцаў.

Па цвярозым роздуме аказалася, што памылка адбылася з-за таго, што на карце раёна значыліся дзве вёскі з аднолькавай назвай.

Гэтыя вось вытрымка і рашучасць і выратавалі тады бацьку ад, магчыма, большых бед. Ва ўсякім разе ён, мяркуючы па казусе, які меў месца з паэмай Твардоўскага «Цёркін на тым свеце», лічыў, што галоўнае — гэта каб паэма не трапіла ў чужыя рукі.

Таму праз паўгадзіны бацька ўжо збіраў па Маскве тыя шэсць экземпляраў, якія там знаходзіліся.

Рэакцыя ж наступіла назаўтра, калі ён даведаўся, што ўсе экземпляры паэмы высланы ў Мінск. Некалькі дзён бацька знаходзіўся ў цяжкім душэўным стане. У яго свядомасці ніяк не ўкладвалася, каму і нашто было патрэбна, а галоўнае, як можна было замахнуцца на яго творчасць. Добра, што побач знаходзіўся ўрач, які ў гэты перыяд літаральна не выходзіў з бацькавага кабінета.

Праўда, сябры Куляшова не кінулі яго ў гэты цяжкі перыяд і іх падтрымка, безумоўна, таксама дапамагла яму перажыць крызіс, але ўсё гэта было пазней. Вось што пісаў бацьку ў лісце ад 28.10.72 года Міхаіл Дудзін:

«Дорогой Аркадий!

Тебе, наверное, в этом году, если верить поверью, должно было часто икаться, потому что на разных перекрестках ты был вспоминаем много-много раз с людьми, достойными уважения человека.

Читал твой «Шлях» и вместе с тобой огорчаюсь. Но понимаю, что без огорчений нам не прожить. Я тоже написал о А.Т., но не так могуче и развернуто, как ты, я на это не имею права...

Он был на первом рубеже
Той полковой разведки боем,
Где нет возможности уже
Для отступления героям.

Поэзия особняком
Его прозрением дарила.
Его свободным языком
Стихия правды говорила.
Сочувствием обременен
И в песне верный своеволью
Он принял сердцем боль времен
И сделал собственною болью.

Пусть память, словно сон во сне,
Хранит для чести и укора
Всю глубину в голубизне
Его младенческого взора».

Крызіс пераажыты, і бацька з падвоенай энергіяй вярнуўся да працы над паэмай «Хамуціус». А «Варшаўскі шлях» праз пэўны час быў надрукаваны без усялякіх намаганняў з боку аўтара па ініцыятыве Анатоля Сафронава, галоўнага рэдактара «Огонька», у яго часопісе, а пасля і ў беларускім друку.

І апошні штрых, які мне хочацца дадаць да гісторыі публікацыі паэмы «Варшаўскі шлях». 1974 год, год першай публікацыі паэмы на рускай мове, быў для бацькі юбілейным. З гэтай нагоды ён атрымаў многа віншавальных лістоў і паштовак, сярод якіх быў і ліст ад галоўнага рэдактара часопіса «Дружба народов».

«19 февраля 1974 г.
Москва

Милый Аркадий Александрович!

Давно, очень давно собирался написать Вам, но, но, но...

И вот сейчас, кажется, могу. В дни Вашего юбилея, который прошел так славно и хорошо, мы сказали всё доброе, что нам хотелось сказать — и в поздравлениях, которые Вы получили, и во втором номере «Д.Н.».

К этому мне остается добавить, что я давно, с военной книжки «Знамени», попавшейся мне в армии, нежно и навсегда полюбил Вашу

поэзию. Стихи, следовавшие за «Знаменем бригады», лишь утверждали эту любовь.

И я очень рад, что сейчас, в четвертом номере «Д.Н.», у нас идет отличный (жаль, небольшой) цикл Ваших стихов «Скорость» («Скорость», «Мой Новый год» — пять стихотворений) .

Как Вы заметили, тираж у нас в этом году выше, чем у «Нового мира», «Знамени» и других «толстых»...

А за «казусы прошлого», в которые мы попали помимо своей воли, ради бога не сердитесь!

Всех, всех благ Вам! Искренне Ваш
С. Баруздин».

Вяртаючыся да гісторыі стварэння апошніх паэм Куляшова, хачу прывесці фрагмент яго размовы з Т. Залатухінай:

«Перад тым як распачаць працу над паэмай «Варшаўскі шлях», я доўга думаў пра новую рэч, «Хамуціуса». Была ўжо перачытана ўся гістарычная, мемуарная літаратура пра Каліноўскага, у мяне нараджаліся вобразы, неяк будаваўся сюжэт, афармляліся ў думках асобныя раздзелы, выстройвалася скразная лінія. Я ведаў ужо пачатак твора, яго канец. У мяне нават быў запісаны фінал паэмы і, між іншым, у тым самым выглядзе, у якім ён потым увайшоў у паэму:

*Каліноўскі*

Там, за акном — абрыс пятлі мае...
Жыцця, што праўдзе я аддаў дазвання,
Не шкода... Шкода толькі ў час расстання
Мне волі ў полі, як народ пяе,
На небе сонца, на зямлі кахання.
(Бярэ са стала ліст да Марысі. Чытае ўслых.)
«Марыська чарнабровая мая,
Дзе шчасце, доля ясная твая?
Усё прайшло і не збылося ў часе.
Адна страшэнна горыч засталася
І каменем на сэрцы смутак лёг.
Калі ўжо нас за нашу праўду бог
Пачаў караць і, з віселькяй у згодзе,
Нам прападаць прызначыў пры ўваходзе
У вечны сад, то мы хутчэй загінем,
Чым скардзіцца пачнём на марны лёс,
Хутчэй ад шчасця і саміх нябёс
Адмовімся, а праўды не пакінем...»

Каліноўскі зноў сеў за стол. Абапёрся на яго рукой... У камеру, пакінуўшы незачыненымі дзверы, увайшоў малады чалавек... Але гэта ўжо не ява, а сненне.

*Каліноўскі*

Тут адзіночка, а не прахадны
Двор... Госць дзвярэй, з падвойнымі
замкамі,
Не зачыніў.

*Мала ды чалавек*

Так. Кастуся яны
Цяпер з астрога выпускаюць самі.
Пайшлі са мной.

*Каліноўскі*

Куды? Я не ўяўляю
Хто ты такі. Мяне ты знаеш?

*Малады чалавек*

Знаю
І помню Кастуся даўно, з часоў
Свайго маленства. Я магу паймённа
Пералічыць усіх яго сяброў,
Арцёма, і Мальвіну, і Лявона,
І іншых... Я па сцежках тых блукаў
Над Нёманам, дзе ён гуляў з Марысяй,
Вянкі і пальцы, як вянкі, сплятаў.
Здзіўляешся? Дарэмна. Не дзівіся.

*Каліноўскі*

Адкуль ты можаш ведаць гэта?

*Малады чалавек*

З кніг.

*Каліноўскі*

А!..

*Малады чалавек*

І яшчэ са следчых пратаколаў.

Чаму ты пазмрачнеў ад слоў маіх?
Хадзем ад мёртвых продкаў да жывых
Патомкаў! Не схіляй на грудзі голаў.

*Каліноўскі*
Чакай... Жыццё, на жаль, у нас адно...

*Малады чалавек*
Бяры пяро, паперу, верш прачуты,
Што ты Марысі склаў, а заадно
Вазьмі з сабою і яе пакуты,
Вынось адгэтуль і цяжкі свой крыж,
Нічога тут не пакідай... Ты спіш?
Паспі перад дарогай... Заўтра рана,
Пад гук трубы і пошчак барабана,
Цябе канвой на плошчу павядзе.
Натоўп расступіцца і прагудзе
Трыццацітысячнымі галасамі.
Пасля, калі яго бязладны хор
Пачне сціхаць, бядзе наперакор,
Вясёла страсянуўшы валасамі,
Ты смела ўзыдзеш на круты памост
І станеш перад смерцю ў поўны рост...
Праз мутнае акно сваёй пятлі
Зірнеш у вочы людзям, а калі
Зямлю асвеціць сонца, што ў засадзе
Таілася да гэтае пары,
Ты ўчуеш песню жаўранка ўгары,
Убачыш мужыка на даляглядзе
З канём і сошкай і шапнеш:
«Ары!..»

Менавіта гэты ўрывак паэмы пра Каліноўскага называе Куляшоў у паэме «Варшаўскі шлях» «эпілогам непачатай драмы», а пра нараджэнне яго расказвае паступнае:

«Гэтыя радкі был і ў мяне напісаныя яшчэ да з'яўлення першых сцэн паэмы. Гэта, калі можна так сказаць, само прыйшло. Я запісаў яго ў хваляванні, і так яно і ўвайшло ў паэму. Я тады яшчэ не ведаў, ці прыйдзе сам твор і ці гэтым ён скончыцца, калі прыйдзе. Потым я, аднак, унэўніўся ў тым, што першае, эмацыянальнае, бачанне было слушным, і радкі, якія я запісаў, потым арганічна ўвайшлі ў паэму.

Праўда, для гэтага спатрэбілася ўвесці ў паэму ўмоўны прыём, калі раптам на змену рэальнаму прыходзяць сны Каліноўскага, у якіх вырашаюцца вельмі істотныя пытанні, што ўзнімаюць бытавы матэрыял на новы, эмацыянальны ўзровень.

Гэты прыём, безумоўна, не стаў бы абавязковым, калі б у жыцці Каліноўскага не было факта, які таксама хваляваў мяне. Справа ў тым, што пасля моцнага нервовага ўзрушэння Каліноўскі ўпадаў у спячку і бачыў сны, якія ў такой ступені ўражвалі яго, што Каліноўскі імкнуўся вылечыцца ад гэтага.

Пераводзіць гэты факт яго біяграфіі ў план натуралістычны, безумоўна, не трэба, але даць у паэме яго сны здалося мне неабходным, асабліва калі імкнуцца перадаць незразумелую і трывожную душу гэтага чалавека. Мне здаецца, што нават у паэме гэтыя сны выклікаюць у чытача трывогу і такім чынам дапаўняюць характарыстыку ўнутранага стану героя без тых натуралістычных апісанняў, якія ў дадзеным выпадку пайшлі б не на карысць твору.

Такім чыпам акалічнасць жыцця героя стала ў паэме прыёмам. Успомніце, калі да Каліноўскага прыходзіць чалавек нашага часу і ад аўтара, ад людзей, якія жывуць сёння, дагаворвае гісторыю яго жыцця і, убачаную ўласнымі вачыма, эмацыянальна падае яе чытачу, абагульняючы сэнс жыцця Каліноўскага з пункту гледжання нашага сучасніка. Таму што сёння памяць аб Каліноўскім таксама трывожыць людзей.

Потым з'явілася задума «Варшаўскага шляху». Яна паглынула мяне. Напісаўшы паэму, я адчуў, што абудзіў да жыцця ў сабе самім нейкія новыя творчыя сілы,— з'ява для мяне нязвыклая.

Сам «Варшаўскі шлях» — таксама незвычайная для мяне рэч у сэнсе таго эмацыянальнага напалу, які я ў яе ўклаў. Новыя сілы, якія я ў сабе такім чынам адкрыў, відаць, і абнадзеілі мяне. Таму, скончыўшы працу над «Варшаўскім шляхам», я ў сваей папярэдняй задуме не расчараваўся, і, наадварот, мне яшчэ больш захацелася вярнуцца да таго, што увесь гэты час не давала спакою — да паэмы «Хамуціус». У гэтым сэнсе «Варшаўскі шлях» паслужыў для яе стартам»,— расказваў бацька Залатухінай.

Памятаю, як, атрымаўшы па пошце новую кнігу малдаўскай паэтэсы Марыі Бануш, бацька пачаў праглядваць яе. Неўзабаве ён, надзвычай усхваляваны, звярнуўся да мяне са словамі:

— Глядзі, што я тут знайшоў!

І паказаў радкі, якія ў яго перакладзе на беларускую мову сталі потым эпіграфам да паэмы «Хамуціус». Вось як гучаць яны на рускай мове, на якой бацька ўпершыню пазнаёміўся з імі:

Ведь мира высекая новый лик,
И тем, кто пал, мы новый лик творим.

А вось як гучаць яны па-беларуску ў эпіграфе да яго паэмы:

Ствараючы аблічча свету новага,
Ствараем мы і новае аблічча
Тым, хто загінуў.

Куляшоў не быў з тых, хто імкнуўся перавярнуць горы літаратуры. Аднак сярод кніг у яго былі свае ўлюбёнцы. Бацька добра ведаў класічную і сучасную рускую, беларускую і ўкраінскую літаратуры, асабліва паэзію. У савецкай паэзіі вышэй за ўсіх ставіў Аляксандра Твардоўскага, а ў прозе — Міхаіла Шолахава. У вогуле ж ён арыентаваўся на класіку. Гэтая арыентацыя тлумачылася, відаць, яго стаўленнем да жыцця, у якім Куляшоў таксама аддаваў перавагу перад усім змястоўнай размове з цікавым субяседнікам, аднадумцам, сябрам. Невыпадкова ў паэме «Варшаўскі шлях» ён прысвячае Твардоўскаму наступныя радкі:

Мне горка ад таго, што не хапае
Не нас яму сягоння, нам — яго.
Было з кім гаварыць, было ў каго
Сумленню прыклад браць, радкам —
вучыцца

Пытаю я ў цябе, мой шлях, чаму
Магло так прычыніцца, што яму
Мы ўжо не снімся больш, а нам ён сніцца?
Такіх, як ён,
за ценявой мяжой,
Адна зара перадае другой.

На шчасце, багатае ўяўленне бацькі дазваляла яму весці і іншыя «размовы» — у часе, з асобай гістарычнай. Неабходна было толькі, каб асоба гэтая была яму зразумелай, блізкай па пафасу быцця, а жыццёвыя асацыяцыі абудзілі эмоцыю, полымя якой высвечвала для Куляшова страчанае чалавечае аблічча яго героя.

На наступным этапе творчасці ішоў працэс «паўторнага нараджэння» героя ўжо ў літаратурным вобразе, у мастацтве. Так адбывалася «вяртанне» яго нашчадкам.

— Летам я перачытваў Блока, так, для сябе, таму што ў юнацтве я захапляўся ім. Я ў той час, праўда, палову не разумеў, але любіў яго

паэзію і чытаў яе. І вось гэтым летам я вырашыў перачытаць Блока. Перачытаў. І знайшоў цікавае для сябе месца, якое міжволі вярнула мяне да думак пра маю паэму. Я зараз паспрабую прыгадаць гэтае месца. Тры радкі, апошні з якіх мяне ўсхваляваў, і я неяк асабліва глыбока яго прачуў:

Длятся часы, мировое несущие,
Ширятся звуки, движенья и свет.
Прошлое страстно глядится в грядущее...

Апошні радок, мне здаецца, тлумачыць, чаму мы звяртаемся да мінулага. Мінулае «глядзіцца ў нас» і да таго ж — палка. І калі мы пішам творы пра герояў, скажам, стогадовай даўнасці, пра прадстаўнікоў вялікай чалавечай душы, думкі і імкненняў, мы адкрываем іх не толькі для нашага часу, хоць мы для іх ужо час — іх будучыня,— мы адначасова адкрываем іх, такая задача павінна ставіцца, для будучыні нашай,— расказваў неяк бацька ў размове з Залатухінай.

Пераканаўшыся ў тым, што паэма пра Каліноўскага, выдатнага грамадскага дзеяча свайго часу, справу якога праз дзесяцігоддзе падтрымалі на барыкадах Парыжскай Камуны яго паплечнікі Урублеўскі і Дамброўскі, неабходная рэч, Куляшоў пачау «набіраць вышыню» — перачытваць раман Шолахава «Ціхі Дон», лічачы, што з усяго, напісанага пра рэвалюцыю і грамадзянскую вайну, гэты твор самы моцны, з тых, што дае найбольш яркае ўяўленне пра падзеі тых часоў.

Ён марыў, відаць, пра падобны лёс для сваёй паэмы, бачачы галоўны яе сэнс у мастацкім увасабленні ідэі інтэрнацыяналізму, носьбітам якой быў для Куляшова Кастусь Каліноўскі, герой яго паэмы «Хамуціус».

— З асаблівым пачуццём,— расказваў Куляшоў Залатухінай,— ставіўся я да гэтых рысаў яго светаадчування, таму што яны пераклікаюцца з сённяшнім днём. Тое, што мы сёння гаворым у прэсе пра братэрства народаў, пра мір,— усе гэта можна аб'яднаць адным словам — інтэрнацыяналізм, пралетарскі інтэрнацыяналізм.

Мастацкае раскрыццё сэнсу гэтага слова — пільная патрэба нашага часу, таксама як і наступных часоў, таму што інтэрнацыяналізм — антыпод другога паняцця — фашызм. Фашызм — вораг усяго гуманнага, вораг людзей, прыхільнік войнаў, знішчэння і гвалту. І мне здаецца, што ў якія-небудзь бліжэйшыя пяцьдзесят гадоў, а можа, і больш, гэтая барацьба будзе працягвацца. Не выклікае сумнення тое, што пераможа дабро, гэта значыць гуманізм і яго вышэйшае

ўвасабленне — інтэрнацыянальнае братэрства народаў. І мне здаецца, што гэта зробіцца тэмай наступных твораў, і што гэтае панящце будзе некалі называцца імем нейкіх твораў.

Для тых, хто не знаёмы глыбінна з творчасцю майго бацькі, перапыню на хвіліну свой расказ, каб растлумачыць сэнс назвы паэмы. Першапачатковая рабочая назва паэмы была «Кастусь Каліноўскі». Сабраўшы матэрыял, паглыбіўшы тэму, бацька вырашыў даць ёй другую назву, выкарыстоўваючы ў ёй не прозвішча героя, а адну з яго падпольных мянушак. «Хамуціус» — гэта «хам», але на манер адукаваных, бо знаёмых з латынню людзей. Чаму «хам»? Таму, што так ганебна называлі ў той час беларускага мужыка, несвядомага, непісьменнага, абяздоленага, тыя, хто жыў яго працай і каму проціпаставіў сябе Кастусь Каліноўскі, свядомы чалавек, каб бараніць пакрыўджанага сабрата.

Пафас паэмы «Хамуціус» — вяршыні творчага развіцця Куляшова — не быў, відаць, належным чынам успрыняты сучаснікамі «А што, калі гэта «заўчасная» паэма?» — думалася, магчыма, бацьку, бо пры жыцці яго ў крытыцы з'явіўся толькі адзін прысвечаны ёй артыкул.

Майго бацьку гэта засмучала — надта многа сіл было кінута сюды, і апошніх.

Аднак ён верыў у тое, што час яго твора прыйдзе. Таму што «чалавек у рэшце рэшт піша не для сябе, а для людзей. Ён спадзяецца, што думкі, якія хвалююць яго,— расказваў бацька Залатухінай,— і без якіх, як яму здаецца, ён увогуле не можа існаваць, знойдуць водгук у сэрцах чытачоў хай нават праз сто гадоў, бо ў аснове сваёй творчасць — з'ява грамадская, закліканая абуджаць у людзях лепшае, тлумачыць ім час, іх месца ў часе, як і месца мастака ў ім.

Генетыкі, напрыклад, сцвярджаюць,— расказваў далей бацька,— што гены чалавека не змяняліся на працягу апошніх дваццаці тысяч гадоў. Такім чынам, бяда наша ў тым, што навукова-тэхнічны прагрэс сягнуў вельмі далёка, а свядомасць чалавека, яго інстынкты засталіся на ўзроўні каменнага веку. Адсюль і эгаізм. Мастацтва, здаецца мне, заусёды адчувала першым. Невыпадкова мастацтва ўсіх часоў — мастакі, скульптары, пісьменнікі, музыканты — заўсёды выхоўвалі ў чалавеку добрыя, гуманныя пачуцці. Гэта — інстынктыўнае, інтуітыўнае прызначэнне мастацтва: культываваць у чалавеку добрыя пачуцці і заглушаць злыя, эгаістычныя. Прызначэнне нашага грамадства — у гэтым, у адрозненні ад капіталістычнага».

Праца пад паэмай «Хамуціус» давалася бацьку цяжка, але, адкрыўшы для сябе асобу вялікага змагара, пра якога народ амаль

стагоддзе мала што ведаў, бацька захапіўся яго веліччу і не змог абысці ў творчасці.

Дамініканскі будынак. Камера 3.
Каліноўскі і Масолаў.

*Масолаў*

Вы знаеце прысуд свой, бозумоўна?

*Каліноўскі*

Але.

*Масолаў*

Я разумею, не тактоўна,
Ды і не час пытанні задаваць.
Я скромны нарысіст. Хачу пісаць
Пра час наш успаміны.

*Каліноўскі*

Мне ўсё роўна.
Прывык да следства. Можаце пытаць.

*Масолаў*

Наш час — арэна боек... Як пасмелі
Вы, раб яго, не бог, а чалавек,
Аддаць жыццё юнацкае на здзек
Уладару вядзьмарскай каруселі?
Дужэйшыя скарыць яго хацелі,
Ды не змаглі. Не выйгралі вайну.

*Каліноўскі*

Я ім не стаўлю гэтага ў віну.
Яны ляглі ў зямлю, мы следам ляжам.
Ды нехта ж прыйдзе, стаўшы мсціўцам
нашым,
І скруціць д'яблу рог, як барану.
Не раджу адпяваць нас канчаткова.
Чакае зерне наша на ўзыход
З раллі.

*Масолаў*

На ўвазе маеце народ?..

*Каліноўскі*

Яшчэ свайго не вымавіў ён слова.

*Масолаў*

Але чаму?.. Пакуль з Варшавай вы
Спрачаліся за ўладу, за правы
Сярмяжнай Беларусі і Літвы,
Па вёсках, пад паглядам Мураўёва,
Цар касаваў прыгонныя правы.

*Каліноўскі*

Страх касаваў. Тут не цара заслуга:
Збаялася сякер мужыцкіх пуга
Прыгонніцтва. Праз мутны Рубікон,
Не цар, паўстанні страшны след праклалі.
Яны крывёю фарбавалі хвалі
Ракі, пад назвай д'ябальскай — Прыгон.
Ён многіх паглынуў. Мы можам згінуць,
Кат можа нам заткнуць зямлёю рот,
Але сякеры, пушчаныя ў ход,
Ужо з крутога берага не скінуць,
Не сцерці наш, на ім прыкметны, знак.

*Масолаў*

Яшчэ хачу спытаць. Хто вы? Паляк
Альбо літвін? Ці беларус, якога
Не ведае ніхто, апроч лясоў ды курнага
парога?..
Хто будзеце?

*Каліноўскі*

Мне дваццаць шэсць гадоў.
Край беларускі, з матчынай калыскі
Да гэтых дзён, мне дарагі і блізкі.
Я сын яго і ганаруся тым,
Што з ім паветрам дыхаю адным.
Я знаю, маюць права ўсе народы
На ўвагу праўды, шчасця і свабоды.
Я зычу ўсім дабра.

*Масолаў*
А рускім, нам?

*Каліноўскі*
Я прыяцель Расіі, той, якая
Дабра жадае нам, а не панам
Сваім і польскім, той, што не жадае
Свайму народу згубнага жыцця,
Бурлацкіх стогнаў, катаргі кандальнай.
Яшчэ пытанні ёсць?

*Масолаў*
Не!.. Спавядальнай
Размовай, бачу, злоўжываю я.
Хто вы — я зразумеў.
Вы — сацыяльнай
Сусветнай рэвалюцыі дзіця.

«У наш час,— пісаў Куляшоў у артыкуле «Жыццё і творчасць»,— якім бы ні быў таленавітым пісьменнік, паэт, якім бы ні быў багатым свет яго душы, ён не будзе поўным, пакуль інтарэсы грамадства і чалавецтва не стануць яго зместам».

## «БЕРАЖЫЦЕ СЭРЦА ПАЭТА!»

-----

Мне ўсё жыццё здавалася, што мой бацька ніколі нікога не крыўдзіў. І раптам…

У снежні 1983 года, шукаючы відэаматэрыялаў для перадачы «Кастусь Каліноўскі», мы, яе стваральнікі, звярнуліся да беларускага празаіка У. Караткевіча, аўтара рамана «Каласы пад сярпом тваім» і п'есы «Кастусь Каліноўскі».

Уладзімір Сямёнавіч знайшоў для нас патрэбныя кнігі, фотаздымкі, рэпрадукцыі карцін, але даваў іх з вялікай неахвотай і доўга бурчэў, калі мы з рэдактарам забіралі іх. Ён гаварыў, што лепш згадзіўся б аддаць нам апошнюю кашулю, чым кнігу, што жанчынам увогуле нельга нічога такога давяраць, бо яны ўсё кідаюць і ляцяць у буфет, як толькі пачуюць, што там прадаюць нешта смачнае і г.д.

6 студзеня 1984 года я зноў завітала да Караткевіча, каб вярнуць кнігі, якія мы ў яго бралі. Зайшла з дачкой і, дзякуючы яе дзіцячай цікаўнасці, упершыню звярнула ўвагу на тое, як ён жыве.

Самы вялікі пакой кватэры, куды запрасіў нас гаспадар, служыў яму, відаць, гасцінай і кабінетам адначасова. Акрамя паліц з кнігамі, якія займалі амаль усю плошчу ўздоўж сцен, тут стаяла яшчэ тахта і пісьмовы стол. На відным месцы паміж акном і сцяной вісеў партрэт на ўвесь рост — па-майстэрску выкананая копія аднаго з трох дайшоўшых да нас фотаздымкаў Кастуся Каліноўскага.

Уладзімір Сямёнавіч гасцінна запрасіў нас у пакой, паказаў на крэслы, запрапанаваў уладкоўвацца і выйшаў. Пакуль ён хадзіў, я трохі пагаспадарыла: перанесла з бліжэйшага крэсла на тое, што стаяла ў кутку, яго гарнітур, і ўжо садзілася на вольнае месца, калі раптам пачула ўскрык. Ён належаў гаспадару, які заўважыў, што я праз хвіліну сяду на нешта, што засталося ляжаць на крэсле, ля самай спінкі.

Я не адразу зразумела, чаму гаспадар, які сустрэў нас так ветліва, раптам залямантаваў і забегаў па пакоі, літаральна выхапіўшы з-пад мяне нешта, што ляжала на крэсле.

— Што ты нарабіла! — крычаў ён.— А калі б тут ляжала брудная бялізна?! Прасілі цябе чапаць? — працягваў ён у тым жа духу, але я не ўступала ў «перагаворы», разумеючы, што ўся гэтая ахінея, якую ён зараз нясе, тлумачыцца тым, што ён пакутліва перажывае смешнае становішча, у якім мы ўсе нечакана апынуліся.

Такую выбуховую рэакцыю звышэмацыянальнага, а таму і звышранімага чалавека я так добра ведала па бацькоўскім доме, што

да мяне раптам вярнулася пачуццё гумару. Не зважаючы больш на лямант гаспадара, я пачала разглядаць паліцы з кнігамі і спынілася на паштоўках. Іх было тры. Яны стаялі адна за адной у куточку за шклом. Паштоўкі былі польскія, а на іх — адна і тая ж асоба: папа Іаан-Павел другі.

— Што ён тут у цябе робіць? — звярнулася я з пытаннем да Уладзіміра Сямёнавіча галоўным чынам, каб выйсці з далікатнага становішча.

— Ды так, адзін дзівак панадзіўся прысылаць! — растлумачыў ён, пацiснуўшы плячыма.

— Папа, калі верыць прэсе, вельмі адукаваны чалавек, тронную прамову на многіх мовах гаварыў!

— Глупства, я слухаў яго па-руску, напапугаіўся ён, ды і толькі.

Мы пагаварылі яшчэ пра нешта. Оля, вялікая прыхільніца таленту Караткевіча, папрасіла аўтограф, паведаміўшы гаспадару, што яны з братам толькі што з цікавасцю прачыталі яго повы раман «Нельга забыць».

— Гэтая кніга дваццаць гадоў твайго брата чакала! — з горыччу адказаў ёй Караткевіч, намякаючы на выдавецкую цяганіну з ёю.

З'явілася сястра гаспадара, Наталля Сямёнаўна, і запрасіла нас да стала. Уладзімір Сямёнавіч сядзеў насупраць, піў каву, дыхаў цяжка і ўвесь час прасіў прабачэння за тое, што па стану здароўя не можа арганізаваць гасцям пышнага пачастунку, што так любіць рабіць.

Я глядзела на яго змучаны твар, і сэрца сціскалася ад болю. Караткевіч мне помніўся іншым: маладым, прыгожым, рухавым, такім, якім я ўбачыла яго ўпершыню сонечным летнім днём на Нарачы гадоў пятнаццаць таму пазад.

Тым летам кінастудыя «Беларусьфільм» здымала фільм па сцэнарыю Караткевіча. Уладзімір Сямёнавіч з'явіўся ў нас на дачы ў складзе здымачнай групы «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Пасля абеду ўсе разбрыліся хто куды, а Уладзімір Сямёнавіч выйшаў на бераг, дзе я ўжо зранку загарала на сонейку. Мы плавалі, ныралі і дурэлі, як дзеці, выявіўшы, што абодва добра трымаемся на вадзе. Потым, абсыхаючы на беразе, разгаварыліся пра літаратуру, і Уладзімір Сямёнавіч сказаў, што ў яго ёсць цікавы гістарычны сюжэт, але што на такія кнігі няма зараз попыту.

Я ў сваю чаргу расказала, што прачытала гістарычную аповесць польскага празаіка, напісаную ў жанры дэтэктыва, і прыйшла ў захапленне ад таго, як умела выкарыстоўвае Збігнеў Нянацкі цікавасць чытача да літаратуры гэтага жанру.

— Не разумею, як яшчэ не дадумаліся да гэтага нашы пісьменнікі, тыя, хто працуе ў жанры гістарычнай прозы?

— Дзякуй за ідэю, Валя, я і сам кручуся каля нечага такога. Вось вазьму і напішу!

Час ішоў пепрыкметна, і Уладзімір Сямёнавіч пачаў збірацца ў дарогу, а я засталася на беразе.

Развітваючыся, ён выразна паглядзеў на мяне і сказаў:

— Я абавязкова прыеду праз месяц.

Больш ён не з'явіўся.

Калі ж месяцы праз два мы выпадкова ўбачыліся ў Саюзе пісьменнікаў БССР, Уладзімір Сямёнавіч ірвануўся да мяне так, як быццам хацеў паразумецца. Я павіталася, але ў размовы ўступаць не стала. Мы зноў доўга не бачыліся, а час ішоў і ўносіў змены ў жыццё.

Цяпер, седзячы за сталом насупраць Уладзіміра Сямёнавіча, я думала пра яго сямейную трагедыю — смерць жонкі, ад якой ён, як мне здалося, яшчэ не адышоў, і мне было цяжка ўсведамляць, што я нічым не магу яму дапамагчы.

Уладзіміру Сямёнавічу быццам бы перадаліся мае думкі, таму што ён раптам загаварыў пра той дзень на Нарачы так, як быццам усё, што адбывалася тады, здарылася ўчора:

— Калі я тады вярнуўся да вас у двор, група ўжо сабралася, гатовая ад'язджаць. Твой бацька, які тады толькі што перанёс інфаркт, адбываў свой абавязковы мацыён, абыходзячы з кійком пісьменніцкія дачы.

Чакаючы, пакуль ён зробіць апошні віток, мы пачалі гаворку пра фільм. Я сказаў, што, мабыць, зноў атрымаю «ўтык» ад Куляшова за тое, што не зважаю на парады рэдактуры. Трэба адзначыць, што яны ўвесь час штурхалі мяне да зусім іншай, прыгодніцка-рамантычнай трактоўкі сюжэта і ў выніку зусім сапсавалі фільм. Гэта так мяне засмуціла, што я вымушаны быў, каб аднавіць сваё бачанне, напісаць аднайменны раман. Гэта адзіны выпадак у маёй практыцы, калі я ішоў ад кінасцэнарыя да рамана.

Калі я вымавіў слова «ўтык», у групе захіхікалі, а нехта сказаў, што наганяю мне не пазбегнуць, але, відаць, з зусім іншай нагоды. Апошнія словы былі сказаны ў той момант, калі твой бацька ўжо трымаўся за клямку весніц. Рэпліку ён, няма сумнення, чуў і, увайшоўшы ў двор, «стрэліў» у мяне вокам.

Гэты бацькаў позірк я ведала. Караткевіч акрэсліў яго надзвычай трапна. Такі погляд бацька кідаў неяк скоса, адным, здавалася б, вокам. Я параўнала б гэты позірк з лазерным промнем. У мяне захоўваецца фотаздымак, на якім Валерыю, майму будучаму мужу,

удалося утрываліць гэты позірк, якім бацька надзяліў у адпаведны момант і яго, але Валерый альбо не зразумеў ягонага сэнсу, альбо проста не заўважыў, гледзячы ў акенца фотаапарата. Што ж да Уладзіміра Сямёнавіча, дык ён больш не адважваўся з'яўляцца на Нарачы, тым больш што сцэна, аналагічная нарачанскай, неўзабаве адбылася паміж ім і маёй маці ў Саюзе пісьменнікаў БССР, дзе яна тады працавала загадчыцай клуба.

— Не то питание — не то воспитание! — з горыччу завяршыў свой расказ Уладзімір Сямёнавіч па-руску.

Падаплёка ж гэтай гісторыі была іншая. Незадоўга да нашай сустрэчы на Нарачы Караткевіч расстаўся з жанчынай, з якой яго звязвалі некалькі гадоў жыцця. Жанчына вельмі любіла Уладзіміра Сямёнавіча, але сама пайшла на разрыў, разумеючы, што не зможа мець з ім добрай сям'і. Гэтаму перашкаджаў, на яе думку, няўрымслівы характар свабодалюбівага Караткевіча, які мог раптам, забыўшыся нават папярэдзіць блізкіх, знікнуць на месяц-другі, прываблены новай творчай задумай.

Гэтай жанчыне мама спачувала і, магчыма, па-жаночаму растлумачыла бацьку прычыны іх разрыву, вінавацячы ў гэтым Караткевіча. З мяшчанскіх пазіцый усё зразумела. Зыходзячы з іх, людзі заўсёды шукаюць вінаватых. Нават там, дзе іх можа і не быць: існуе ж і паняцце несумяшчальнасці характараў.

Што ж да літаратараў старэйшага пакалення — у большасці сваёй носьбітаў цэльнага светаўспрымання — дык у іх маглі быць і іншыя прычыны не прымаць Караткевіча як пісьменніка.

Караткевіч цяжка жыў, яго творчае развіццё нярэдка стрымлівалася штучна, магчыма, таму, што творы пісьменніка, якія неслі на сабе адбітак дысгарманічнасці часу і асобы творцы, людзьмі папярэдніх пакаленняў адносіліся часам у разрад «ущэрбных». Не выключана, што гэтым ярлыком прыкрывалі і другія меркаванні.

Як часта мы не хочам задумацца над тым, што з'яўленне нечага новага — звычайны вынік таго, што грамадства ўступіла ў новую фазу развіцця, якая адбіваецца ў свядомасці новага пакалення пісьменнікаў па-новаму.

Караткевіч адлюстраваў у сваёй творчасці наступны этап працэсу развіцця нацыянальнай самасвядомасці беларуса, штуршок якому, як мне здаецца, быў дадзены Вялікай Айчыннай, небачанымі пакутамі і гераізмам нашага народа.

Калі б у нашай літаратуры было больш уважлівае стаўленне да пачынаючых, калі б апошнія не кідалі столькі сіл на «прарыў», то лёс бы многіх з іх склаўся інакш, і жыццё Караткевіча, магчыма, не

абарвалася б так рана, а ён, з яго руплівасцю ў працы, змог бы яшчэ многае расказаць нам і нашым дзецям пра мінулае роднай зямлі, думкамі пра якое быў апантаны.

Мы пайшлі ад Караткевіча ўзрушаныя ўсім, што бачылі і пачулі, і ў чым прагучаў дакор і людзям і лёсу. Я зразумела, што памяць пра той даўні эпізод не давала яму, відаць, спакою, калі ён, такі далікатны, адважыўся спавядацца ў прысутнасці Вольгі.

Я рэдка чытаю навінкі літаратуры тады, калі яны выходзяць з друку і калі пра іх многа гавораць, страхуючы сябе ад магчымага ўздзеяння чужых думак.

«Чорны замак Альшанскі» трапіў мне ў рукі ўжо пасля смерці Караткевіча, і горкая здагадка варухнулася ў душы, калі я прачытала прысвячэнне: «В.К., якой я абяцаў гэты раман дзесяць гадоў таму назад, з падзякай».

Не бяруся сцвярджаць, што прысвячэнне адрасавана абавязкова мне — усялякія бываюць супадзенні, але я ўспрыняла яго як дакор, звернуты да мяне з той далечыні, адкуль няма вяртання. У адносінах да гэтага незвычайпага чалавека і я была не больш уважлівай, чым многія з яго сучаснікаў.

— Беражыце сэрца паэта! — успомнілася мне першая фраза заключнага выступлення бацькі на аўтарскім вечары Пімена Панчанкі 13 студзеня 1976 года.

Прыкладна тое ж сказаў пра сябе і пісьменнікаў увогуле Іван Мележ у заключным слове на ўласным аўтарскім вечары 26 красавіка таго ж года.

Беражыце...

18 жніўня 1957 г.

«Дарагі Аркадзь Аляксандравіч!

Не ведаю, чаму я пішу ў гэтым выпадку менавіта Вам. Можа, таму, што Вы добра да мяне паставіліся, мо таму, што першы зборнік Вы выдалі ў той год, калі я нарадзіўся і, вядома, больш разбіраецеся ў вершах, ніж дзесяць Высоцкіх, можаце сказаць сваё слова наконт таго, ці сапраўды я «магільны песіміст» і «дрэнны мастак».

Гісторыя мая за апошнія часы невясёлая, хоць я на яе і плюю. Тут адбылася немаведама з якой прычыны сапраўдная вайна. Купка таварышаў засела ў нашай газеце «Ленінскі прызыў» і вядзе беглы агонь па тых пазіцыях, дзе, па іхніх меркаваннях, павінен знаходзіцца я. Як пісаў калісьці Кіплінг:

По вереску мчись за лисицей,

За ланями в дебрях лесных,
А мне предоставь насладиться
Охотой на ближних моих.

Прычын я не ведаю. Я наогул не маю няпэўнага задавальнення быць знаёмым з гэтымі людзьмі нават проста ў вочы. Узначальвае гэту «баталію» (як сказаў бы лынькоўскі дзед Астап) нейкі Л. Высоцкі — загадчык сельска-гаспадарчага аддзела нашай газеты. Па роду сваіх заняткаў ён, вядома, павінен разбірацца не толькі ў тым, на якім дрэве расце бручка, але і ў паэзіі. І вось ён выступіў з артыкулам, у якім меча громкія словы, б'е кулакамі ў грудзі і прадракае маю грамадзянскую смерць (я пасылаю Вам газету з яго артыкулам, а Вы пабачыце самі, як пахне «амбрэ» такога гатунку). Невядома толькі, чаму гэтая пахучая страва падаецца пад такой гучнай назвай, як «крытыка і бібліяграфія», бо гэта хутчэй выхад на сцежку вайны з тамагаўкам і друком, ніж аб'ектыўная крытыка.

Вылаяў мяне, зачапіў «Орган СП «Полымя», якое змясціла мае «нізкапробныя практыкаванні», больш за ўсё апалчыўся па «Вадарод», які спадабаўся Вам, пра што Вы сказалі Вялюгіну і той вырашыў надрукаваць гэты верш.

Такое брыдкае падтасоўванне карт, Вы самі пабачыце. Перакруцілі маю ідэю, мае словы і г. д.

Я смяяўся. Гэта, уласна кажучы, для мяне як рэклама, бо зараз мяпе чытаюць у Оршы як ніколі, у бібліятэцы нумар «Полымя» нельга дастаць. Людзі, якія разумеюць паэзію, смяюцца над Высоцкім, але калі той-сёй паспрабаваў быў прапанаваць яму процілеглы артыкул — ён не з'явіўся (яны мне самі казалі). Высоцкаму гэтаму ў 50 г. трэба было быць больш разумным чалавекам.

І вось ён, відаць, спудзіўся нежаданага рэзанансу і вырашыў перакруціць думкі свайго «артыкула» на «думкі грамадскасці». Як кажуць, «глас народа — глас божы!». І гэты «глас божы» выяўляўся наступным чынам.

Па загаду яго карэспандэнтка Крацэр хадзіла па ўсім горадзе і вымольвала адмоўныя водзывы. Большая частка людзей адмовілася і потым папярэдзіла мяне аб гэтым, а частка згадзілася.

Дакаціліся да таго, што праз працоўных гарадской бібліятэкі патрабавалі «толькі адмоўных водгукаў». Працоўныя бібліятэкі адмовіліся рабіць гэта, збіраць аднабаковыя водгукі ад чытачоў. Тады Крацэр звярнулася да чытачоў чытальні (у прыватнасці, да студэнткі Алёны Якаўлевай, адрас: вул. Перакопская, д. 2). Якаўлева

адмовілася. Ну што ж, адшукалі іншых. Я дзівіўся толькі, чаму столькі ўвагі маёй малой асобе.

І з'явілася падборка «Па слядах нашых выступленняў», з'явілася з нечаканай хуткасцю, проста падазронай нават. (Я яе таксама Вам дасылаю.) Новы артыкул трохі больш памяркоўны з гэткім крывадушным, трохі звысоку паляпваннем па плячы (нават людзі, якія мелі на гэта права, людзі з Саюза, і тыя ніколі не дазвалялі такога):

«Здольнасці ў пачатковай стадыі творчага фармавання».

«Трэба чула прыслухацца і ўспрыняць парады».

Не, калі ўжо мне давядзецца «ўспрыняць парады», дык я буду іх «успрымаць» не ад шакалаў аўтаручкі, якія мімаходам робяць подласці, арганізуюць «грамадскую думку» націскам і жывуць на плату ў залатоўку за кожную подласць, якіх у прыстойны дом і на парог не пушчаюць і якія куражацца над сумленнымі людзьмі. Я буду браць парады ад сумленных людзей, ад людзей сапраўдных, а не ад такіх маральных прастытутак, як вышэйпамянёны двуногі мярзотнік.

Вядома, мог бы і я адказаць, але ж я не пабягу збіраць па горадзе добрыя водзывы (у гэтым перавага людзей, якія не грэбуюць ніякай зброяй і менавіта таму сумленныя людзі не могуць цягацца з імі, не вярста ім). Я, наогул, не пісаў бы нават Вам, каб не паставілі пад сумненне маю годнасць грамадзяніна, што мяжуе з абразаю, за якую даюць поўху, і каб яны не зачапілі адначасова са мною Саюз, «Полымя».

Цікава, чаму ўсе водзывы дрэнныя, чаму не спыталі аршанскую моладзь, якой мае вершы шмат у чым падабаюцца, чаму не спыталі людзей, якія разбіраюцца?

А Высоцкі нагадвае ў сваім імкненні лічыць сябе лепшым крытыкам, ніж таварышы з «Полымя», шаўку, якая падняла нагу на Эйфелеву вежу, на людзей, у якіх вялікі палец нагі больш разбіраецца ў паэзіі, ніж дзесяць Высоцкіх.

Усё мне паставілі ў рад. Нават рэцэнзію на Дудзінцава, напісаную адразу па выхадзе ў свет яго рамана, калі маскоўскі пленум сабраўся і хваліў яго. (Дарэчы, я і зараз лічу гэтую рэч таленавітай і не збіраюся адмаўляцца.)

І не таму «Прызыў» не надрукаваў маю рэцэнзію, што мая пазіцыя іх «насцярожыла», а таму, што я пісаў гэту рэцэнзію не для іх, а для бібліятэкі. Бібліятэкар мне сказала:

«Вось раман новы, некалькі чытачоў вельмі хваляць. Напішыце, калі ласка, рэцэнзію. Ад нас патрабуюць працы з чытачамі. А гэты раман і «Литературная газета» хваліла».

Гэта рэцэнзія была не для іхняй газеты корм, а зараз яны надзьмуліся як індыкі: «Мы не ўзялі! Нас насцярожыла!»

Гэта ўсё адно як бы я не пазваў кагосьці на абед і той казаў потым: «Я не пайшоў на гэты абед, не жадаў, дрэнны быў абед».

Словам, гэта было б смешна, каб не было так агідна.

Мне і смеішна. Я не прымаю гэтага да сэрца. Смешна і гідка, калі салідныя людзі пнуцца са скуры, каб зрабіць подласць.

І, вядома, Ваша думка пра «Вадарод» пераважвае для мяне ўсе гэтыя глыбакадумныя артыкулы і ўсе гэтыя арганізаваныя загадзя «крытычныя выбухі», асабліва калі я ведаю большасць людзей, што пісалі, ведаю, што Васкрасенская — гэта «куды вецер дуе», а Окаракаў — пратэжэ Высоцкага, друкуецца ў «Прызыве» і не можа ні ў чым адмовіць шэфу.

Словам, досыць пра гэта. Дрэнна толькі глядзець на людзей, калі яны так уніжаюцца. Дрэнна і нават шкода.

Дарэчы, я ўчора бачыў на беразе Дняпра Веру Ратабыльскую. Усё такая ж, як і ў той час, калі іграла на нашай школьнай сцэне Таццяну ў «Яўгеніі Анегіне». Абмяняліся прывітаннямі, але я не затрымліваўся, яна была ў кампаніі. Калі сказаў пра гэта маці — яна сказала: «Гэта ўсё Чэрыкаўскія». Маці ж сама з гэтых мясцін, дзед мой даволі доўгі час працаваў у Чэрыкаве, толькі гэта было вельмі даўно.

Ну вось, здаецца, і ўсё. Аблягчыў душу.

Бывайце, дарагі Аркадзь Аляксандравіч.

Ваш Караткевіч.

P. S. Верш «У ноч на Івана Купалу» пад назваю «У тую ноч» збіраецца друкаваць «Чырвоная змена» ў бягучым месяцы. Яна не знайшла ў ім «разрэза з гістарычнай праўдай», а верш «На паўстанках» вы ведаеце, ён быў сярод тых, што вы чыталі тады.

Дасылаю Вам «На паўстанках», які «ўтрымлівае грубыя, зняважлівыя выразы» (якая «цудоўная» беларуская мова!!!) і «У ноч». Не ведаю, дзе яны тут пабачылі «адступленне ад гістарычнай праўды»? Калі ў адлюстраванні галечы народнай — дык гэта глупства, так і было. Калі ў «маўчанні народа» — дык яны, відаць, забылі вядомыя словы Леніна, што нават у рэвалюцыю 1905 г. большая частка сялянства малілася, плакала і пасылала «хадакоў» («Леў Талстой як люстра рускай рэвалюцыі»). А пра 1882 г.— і казаць няма чаго, словам, глупства».

Гэты ліст Вольга прынесла мне ўлетку 1985 года, знайшоўшы яго разам з двума бацькавымі лістамі ваеннай пары на Нарачы, і сказала ўсхвалявана:

— Паглядзі, мама, мне здаецца, што гэта той самы Караткевіч!

Безумоўна, «той самы». Усё тут яго: і подпіс, і беларуская мова, якую ён, вярнуўшыся з эвакуацыі шаснаццацігадовым, вывучаў як бы нанава, і ранімасць, якую маскіруе бравада, і яго жывасць успрымання свету, і нават юнацкае захапленне прыгажуняй Верай Ратабыльскай, стрыечнай сястрой майго бацькі, і, нарэшце, яго надзвычайныя, не па гадах, аналітычныя здольнасці.

Ліст зарадаваў мяне і засмуціў. Зарадаваў таму, што даў магчымасць убачыць у новым святле адносіны Куляшова з Караткевічам, якія наўрад ці змяніў той нарачанскі эпізод.

А засмуціла і нават уразіла тым, што перада мною, пакуль я чытала гэты ліст, прайшло ўсё свядомае жыццё вялікага пісьменніка, які напісаў гэты ліст на самым пачатку свайго шляху ў нашай літаратуры, калі яму было ўсяго 27 гадоў.

Здарылася так, што я чытала гэты ліст у гадавіну смерці Караткевіча і думала пра тое, як многа ўжо тады прадбачыў ён ва ўласным лёсе, як, адчуваючы і ўласную абранасць, заклікаў людзей шанаваць чалавека, каб не перашкаджаць яго станаўленню як асобы.

А вось і ён, верш «На паўстанках», пра які Караткевіч згадвае ў лісце. Уладзімір Сямёпавіч упісаў яго сюды, відаць, невыпадкова.

***

*А.І. Бялецкаму*

На паўстанках, засыпаных лісцем бярозавым,
Дзе з пагардай цягнік двойчы ўдзень
праляціць,
У простай хаце, пускаючы горкія слёзы,
У калысцы будучы Колас ляжыць.

Там, дзе basso contante дэманструюць каровы,
Там, дзе фугі, пакуль што, дурніцай завуць,
Дваццаць першага веку галапузы Бетховен
Бацькаў кубак шпурляе, каб звон пачуць.

А ў вёсцы глухой, на траўцы зялёнай,
На задворках сядзібы, ля самай ракі,
Збузаваны Шаляпін басам шалёным
Лямантуе з-пад матчынай жорсткай рукі.

О, як трэба шукаць на шляхах чалавека,
Як любіць, берагчы, не крыўдзіць яго,
Каб пабачыць славу градучага века

У сэрцы сціплага сына суседа свайго!

Сапраўдны мастак, чым бы ён ні займаўся,— гэта катаржнік, «ціхі вар'ят», як сказаў пра пісьменнікаў герой аднаго апавядання беларускай пісьменніцы Алены Васілевіч данецкі шахцёр, які ўцякае з Дома творчасці пісьменнікаў таму, што там яму забараняюць іграць на баяне.

Таму, акрэсліваючы свае адносіны да творчага чалавека, пра гэта трэба думаць, мне здаецца, у першую чаргу.

— Беражыце ж сэрца паэта!

## «ПАМЯЦЬ ТВАЯ НЕ САТРЭЦЦА...»

-----

Ці многім з нас пашчасціла ведаць сваіх продкаў калене ў трэцім, чацвёртым?

А ці ведаем мы імёны тых, хто быў у пятым, шостым?

У пераважнай большасці выпадкаў, безумоўна,— не. Хоць варта нам прагледзець у сваёй памяці 25, 30 альбо нават 50 гадоў свайго жыцця, як мы зразумеем, што тыя сто — сто пяцьдзесят, якія аддзяляюць нас ад іх,— дробязь, бадай учарашні дзень.

А разам з тым наўрад ці знойдзецца сярод нас чалавек, які б хоць аднойчы не звярнуўся да сябе з пытаннем: а хто яны, мае продкі?

А калі ўявіць сабе, што мы можам даць адказ на гэтае пытанне? Уладарамі якога багацця адчулі б мы сябе тады! Наш народ спакон вякоў жыве ў такім месцы Еўропы, якога не абышла ні адна вялікая вайна з тых, што вяліся на гэтым кантыненце. Ці не ў гэтым вытокі выключнай чалавечнасці беларуса?

Я ведаю, як ганарыўся сваім крэўным па бацьку, удзельнікам паўстання 1863 года, паплечнікам Каліноўскага, беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч.

Пра гэта ён гаварыў нам, тым, хто, працуючы над тэлевізійнай перадачай «Кастусь Каліноўскі», браў у яго інтэрв'ю.

Не так даўно, перачытваючы яго «Каласы пад сярпом тваім», я знайшла сярод паплечнікаў Каліноўскага, пра якіх гаворыць Караткевіч, і сваіх продкаў па маці, Радванаў, шляхту XVI стагоддзя, чые мужчыны, калі верыць аўтару, злажылі свае галовы ў бітвах таго паўстання... Зразумела, чаму мой прадзед Сымон стаў ужо Радван-Валатковічам.

Мой бацька, пішучы паэму пра Каліноўскага, нічога не ведаў ні пра жончыных продкаў, ні пра продкаў Караткевіча. Яго вяла больш істотная сувязь — гістарычная памяць народа. Але хто ведае, ці яна адна? Патрыятычны рух таго часу не абышоў ні Магілёўшчыны, дзе сярод іншых дзейнічалі атрады аднаго з будучых паплечнікаў Карла Маркса, заснавальніка рускай філіі І Інтэрнацыянала Антона Трусава, ні Горы-Горацкага каморніцкага вучылішча, выпускніком якога быў продак Куляшова па бацьку, яго прадзед Фелікс Мільта.

Што ж да нашых карэнняў, дык мне прыгадваецца артыкул, надрукаваны гадоў 10-15 таму назад у часопісе «Наука и жизнь», дзе гаворка ішла пра паходжанне французскай нацыі.

Абапіраючыся на аналіз актаў нараджэння, якія на працягу вякоў захоўваліся ў царкоўных кнігах, аўтар вызначыў, што ўсё сённяшняе

насельніцтва Францыі паходзіць ад 200 родаў, калі вярнуцца да становішча тысячагадовай даўнасці.

Нам цяжэй было б даказаць гэта, бо дзе тыя, не тое што кнігі, цэрквы? Войны і міжусобіцы паглыналі не толькі людзей, але і помнікі матэрыяльнай культуры. А тое, што выпадкова захавалася, вандравала і асядала ў месцах большай стабільнасці, там, дзе яно магло ўцалець. Так вось і здарылася, што ў Беларусі няма аніводнага з напісаных тут калісьці летапісаў. Гэта ж нашымі продкамі пісаны адзіны ў свеце глагалічны летапіс, а значыць, і самы стары са славянскіх летапісаў — «Супрасльскае евангеліе»!

Але не ў фактах, вядома, справа. Народ існуе — значыцца, мае і паходжанне. І логіка яго не многім, відаць, адрозніваецца ад логікі паходжання і развіцця ўсякай іншай нацыі. Калі б мы, кожны асобна і ўсе разам, зразумелі аднойчы гэтую нашу крэўную еднасць, многае, магчыма, змянілася б да лепшага, як у адносінах паміж асобнымі людзьмі, так і ў грамадскіх і нават міжнародных адносінах. Але гэта ўжо пытанне культуры.

Між іншым, непісьменныя цыганы ведаюць сваіх продкаў да сёмага калена, як найменш!

Знойдуцца сярод нас, беларусаў, і такія, каму падобная пастаноўка пытання здасца калі не дзіўнай, дык ва ўсякім разе пустой.

Для людзей пэўнага тыпу гэта, на жаль, так. Але мы ўжо пачынаем разумець, куды вядзе планету спажывецка-пазагістарычная арыентацыя.

«Мані, мані!» — спявае Амерыка, а за ёй — пэўныя колы Еўропы, гэтага гістарычна культурнага фарпосту свету.

А мы? Што мы сабе думаем? Хіба не разумеем, што гэта не для нас? Хіба не пра гэта ўся наша класічная літаратура, багацейшая гуманістычная літаратура свету?

Але дзеці яе не чытаюць, яны абменьваюцца магнітафоннымі, дзе-нідзе ўжо і відэамагнітафоннымі касетамі, хоць іх у школе вучаць гэтаму яшчэ менш, чым літаратуры.

Не, я не за тое, каб мы жылі бедна і нецікава. Я за дабрабыт, але не самамэтны, за той, што стварае ўмовы для культурнага развіцця чалавека, бо толькі такі чалавек можа найбольш поўна выкарыстаць усё тое багацце ведаў, якое накоплена чалавекам за вякі яго гістарычнага быцця, не гаворачы ўжо пра тое, што якім цяжкім ні было б само жыццё,— для культурнага чалавека яно лягчэйшае, бо ён у ім не згубіцца і не будзе самотны.

У краіне светлай, дзе я ўміраю,

У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

«Што яму, паміраючаму, гэтая кніга?» — усміхнецца які-небудзь цынік. Ён жа, гэты цынік, разлічвае, відаць, жыць вечна...

А гэтага цудоўнага недарайду, які пакінуў свет так рана, хто з нас горача не любіў праз гэтую яго празрыстую паэзію? Ён ужо частка нашай душы, частка свядомасці беларуса. Максім, відаць, прадчуваў гэта, адыходзячы...

Мой бацька таксама глядзеў на Максіма Багдановіча як беларус, зачараванымі вачыма.

«Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Колькі ў хмарках залётных агня...» —

любіў паўтараць ён, калі гаворка заходзіла пра Багдановіча. Гістарычны аптымізм Куляшова мае нешта агульнае з Багдановічавым, мне здаецца. «Маладосць, я ўсё табе аддам, не сыду з дарог тваіх ніколі!» — а што, калі гэта клятва ў вернасці паэзіі давалася яму, вечнаму юнаку беларускай літаратуры?

Што ж да продкаў, дык вось ужо гадоў з дзесяць, як мне хочацца павялічыць здымкі тых, каго я ведаю, і ўладкаваць іх у нейкім зручным месцы кватэры, каб у мітусні нашай штодзённай сустракаць час ад часу погляд каго-небудзь з іх, а ў цяжкую хвіліну, можа, нават і знайсці ў ім падтрымку...

Хочацца ў які-небудзь шчаслівы вечар застацца адной у пакоі, пагасіць святло, уключыць настольную лямпу і ў авале светлавой плямы ўгледзецца ў іх твары, каб, пераносячыся думкамі ў мінулае, такое недалёкае, зрэшты, паспрабаваць намацаць тонкую ніць нашай супольнасці...

Хвалявалі гэтыя пытанні і майго бацьку, калі верыць хаця б яго вершу «Каменка», напісанаму ў 1946 годзе.

Жыў дзед мой, ходзяць чуткі,
Каля дняпроўскай плыні,
У Каменцы бялюткай,
На мілай Украіне...

Мае ж мары пра «галерэю продкаў» так і застануцца, відаць, адным з тых мастоў у паветры, пра якія ўсё жыццё марыў адзін з вядомых герояў Гогаля...

Аднак такога кантакту мне ўвесь час не стае, і, магчыма, таму, што памяць маю даволі паслядоўна аблягчаюць.

Я нарадзілася ў Мінску, але адчуваю сябе не надта добра ў горадзе, дзе на маіх вачах становіцца ўсё менш і менш будынкаў, сярод якіх прайшло маё дзяцінства і юнацтва, дзе я жыла ці проста хадзіла перад вайной, пасля яе і пазней.

Чалавеку, які здольны ўтаропіцца ў якую-небудзь ідэю, можа нават падацца, што тут планамерна працуе зламыснік, пускаючы пад знос у ліку старых будынкаў і номнікі архітэктуры: то знясуць сядзібу сябра А. Міцкевіча мастака В. Ваньковіча, імя якога можа ўпрыгожыць «біяграфію» кожнай культурнай нацыі, то быццам бы выпадкова «заваляць» будынак тэатра, дзе ў 1852 годзе была пастаўлена першая беларуская опера.

Не так даўно, на вакзале, стоячы ў доўгай чарзе па білет, я пачула такую гаворку:

— Чаго ты тут стаіш,— пайшла б пахадзіла па Мінску...

— А што па ім хадзіць? У Мінску глядзець няма чаго: новабудоўлі ўсюды аднолькавыя...

Што да помнікаў матэрыяльнай культуры, дык у гэтым сэнсе Беларусь асабліва абяздоленая. І што ў гэтым дзіўнага? Можа, войны таму віною, а магчыма, і што іншае, але... Прыгадаем, колькі войнаў вялося на яе тэрыторыі... Не паглыбляючыся далей у гісторыю, прыгадаем апошнія: руска-шведская, у якой генеральная бітва адбылася на самых паўднёвых ускраінах Княства Літоўскага, каля Палтавы, так што вораг прайшоў з поўначы на поўдзень усю тэрыторыю Беларусі і зруйнаваў яе настолькі, што загінуў кожны трэці яе жыхар.

Пасля таго — Напалеон. Гэты прайшоў Беларусь з захаду на ўсход.

Потым грамадзянская, белапольская, а галоўнае — Вялікая Айчынная, дзе загінуў кожны чацвёрты беларус.

Як пасля гэтага не захоўваць тое, што цудам зберaглося?

Памятаю, як хваляваліся дарослыя, калі ў верасні 1944-га мы, сем'і беларускіх пісьменнікаў, вярталіся з эвакуацыі ў Мінск. Яны ўжо ведалі, што Мінск вельмі разбураны, і баяліся не знайсці таго, чым так даражылі.

Можна сабе ўявіць, як усе ўзрадаваліся, калі здалёк убачылі, што горад стаіць.

Сумным заставаўся толькі мой бацька, які быў сярод тых, хто вызваляў Мінск, і ведаў тую горкую праўду, якую астатнія зразумелі толькі ступіўшы на Прывакзальную плошчу, калі ўбачылі, што здалёк прынялі за дамы іх каробкі. Радаснае пачуццё нас, аднак, не пакінула: мы адчулі сябе дома, бо аблічча горада заставалася ў асноўным ранейшым, хоць будынкі і глядзелі на нас пустымі вачніцамі акон.

З таго часу Мінск адбудаваўся, вырас, стаў адным з самых прыгожых гарадоў Савецкага Саюза.

Але ці ёсць неабходнасць у тым, каб ахвяраваць новабудоўлям горада апошнім з таго, што было дабротна, з любоўю і густам зроблена рукамі тых, хто жыў на нашай зямлі раней, хто часам зберагаў яе коштам уласнага жыцця? Ёсць. Калі хацець адрачыся ад іх. Але падобнае можа задаваліць толькі тых, хто не мае карэнняў у гэтай зямлі. Мне ж не хочацца адчуваць сябе на роднай зямлі яе першым жыхаром. Я адчуваю неабходнасць у тым, каб быць падключанай да гістарычнай памяці свайго народа, і ў гэтым жаданні не арыгінальная, мне здаецца. Ва ўсякім разе адзін саюзнік у мяне ёсць. Гэта А.С. Пушкін, які неаднойчы закранаў гэтае пытанне, але, між іншым, сказаў і такое: «Уважение к минувшему — вот черта, отличающая образованность от дикости».

Майго бацьку такія думкі не абмінулі. Ён добра разумеў, што народ перастае існаваць не толькі ў выніку заваявання, але і тады, калі гіне яго мова і культура.

Невыпадкова ў Вярхоўным Савеце БССР ён быў членам камісіі па ахове помнікаў культуры і архітэктуры, а ў паэме «Далёка да акіяна» звяртаўся да горада свайго юнацтва, Мсціслава, з наступнымі словамі:

Спіць пад ззяннем месяца,
Лёгшы ўздоўж ракі,
Месца, што не месціцца
Назвай у радкі.
Мсціславам, Амсціславам,
Як ні назавеш —
Словы ўсё не сціслыя,
Не даюцца ў верш.
Ну, якраз — каўказскія
Пчолы, што ў вуллі,
Наскія, парнаскія,
Лазу не знайшлі,

А дарма!.. Дасведчаны
Бард адчуў бы пах,
Водар старасветчыны
У іх на хабатках.
А каб сам са змрочнае
Выбраўся імглы,
Зноў з гары Дзявочае
Глянуў на валы,
На будынак з вежамі
Гулкі, як набат,—
Захлынуўся б вершамі,
Як паветрам, бард.
Услаўляў бы ратныя
Справы, меў калі
Горад не заштатнае
Месца на зямлі.

Гучаць гэтыя ноткі і ў паэме «Сцяг брыгады» ва ўсіх яе зваротах да вуліц роднага горада, да заняволенай ворагам роднай зямлі, як, зрэшты, і ва ўсёй ваеннай лірыцы Куляшова.

Ад імя жыхароў,
Наша вуліца Нова-Маскоўская,
Гавару, што з усімі пайшоў
У чырвонае войска я.
Хоць і сцёрта ты, бачу,
Ды памяць твая не сатрэцца,
Бо грукоча твой попел гарачы
Усім нам у сэрца.
Я табе абяцаю і попелам родным клянуся,
Што з дарогі ўначы не саб'юся,
Вярнуся, вярнуся!..

(«Сцяг брыгады», 1943)

У адным з вершаў зборніка «Сасна і бяроза», пазначаным 1969 годам, зварот да мінулага набывае новае гучанне:

Мне б хуткасць думкі,
бляск уяўлення,
Каб мог я словам
дагнаць праменне
І нечаканым
спыніць экранам

Гады былыя
на вокамгненне.
Я б галавою
прыпаў ссівелай
Тады б да ног іх,
ад шчасця плакаў
У чыстым полі
паперы белай,
У цёмным лесе
чарнільных знакаў.

Куляшоў звяртаецца ў гэтых радках ужо да ўласнага жыцця і тых грамадскіх абставін, у рэчышчы якіх яно працякала, лічачы, што жыццё кожнага з нас — гэта толькі звяно ў ланцугу пакаленняў і што вартасць асобнага жыцця залежыць ад таго, у якой меры чалавек аказваецца носьбітам агульнай ідэі, ідэі народа.

Менавіта такі погляд на жыццё і месца ў ім чалавека выклікаў у Куляшова, здаецца мне, жаданне гаварыць пра дзяцінства і юнацтва, пра малую радзіму Магілёўшчыну, прытулак яго душы, пра бацькоў, таварышаў і іх лёсы...

Пра гэта ён расказваў Аляксандру Трыфанавічу Твардоўскаму, а той, адчуўшы стан душы сябра, параіў яму ўзяцца за пяро.

Роздум выліўся ў рэшце рэшт у аўтабіяграфічную паэму, надрукаваную ў 1971 годзе.

Цікава, а магчыма, і знамянальна, што амаль усё (за выключэннем паэмы «Хамуціус», пра якую пісаў В. Каваленка), напісанае Куляшовым у сямідзесятыя гады, пару яго найбольшай актыўнасці, у тым ліку і паэма «Далёка да акіяна», не знайшло водгуку на старонках беларускай прэсы, калі не браць пад увагу адзінага артыкула і таго... зняважлівага.

Бацька і раней адзначаў слабасць нашай літаратурнай крытыкі, лічачы, што гэта не можа не адбівацца адмоўна на развіцці нашай літаратуры, а, прачытаўшы памянёны артыкул, зусім спахмурнеў і сказаў:

— Вось сустрэну аўтара і скажу яму: «Ты — гангстэр!»

«Гангстэрамі» Куляшоў называў тых, каго падазраваў у пазалітаратурных матывах дзейнасці ў літаратуры.

Я ж і па сённяшні дзень не магу зразумець прычын як замоўчвання, так і памылковага тлумачэння гэтага твора.

Паэма «Далёка да акіяна» не здаецца мне залішне складанай, хаця б па жанры, рэччу. Калі гаварыць толькі пра тое, што ляжыць на

паверхні, можна заўважыць, што паэма стаіць у адным шэрагу з «Новай зямлёй» Я. Коласа альбо «Панам Тадэвушам» Адама Міцкевіча, нашага геніяльнага земляка, класіка польскай літаратуры мінулага стагоддзя.

Іншая справа, як яна ў гэты рад упісваецца. На мой погляд — упісвасцца. І няблага, асвятляючы тэму памяці аб мінулым святлом бачання яе чалавекам новай эры, касмічнай. Таму, відаць, аўтабіяграфічная паэма Куляшова, пераліваючыся за рамкі жанру, вырастае ў паэму пра лёс чалавецтва, чым, мабыць, і збівае з панталыку тых з літаратуразнаўцаў, хто мысліць прывычнымі катэгорыямі, бо тут мы маем дачыненне яшчэ і да праблемы трансфармацыі жанру.

Да гэтых пытанняў мы яшчэ вернемся, а зараз мне хочацца звярнуць вашую ўвагу на іншае.

Адсутнасць належнай літаратурна-грамадскай ацэнкі творчасці Аркадзя Куляшова, асабліва ў Беларусі, разумела, відаць, карэспандэнт «Литературной газеты» Т.Ф. Залатухіна, калі ў 1976 годзе ў гутарцы з паэтам, аўтарам ужо некалькіх паэм, напісаных у гэтае шчаслівае для яго творчасці дзесяцігоддзе, звярнулася да бацькі з такім, амаль каверзным, пытаннем:

*Залатухіна.* Аркадзь Аляксандравіч, гады са два таму назад крытыка загаварыла пра тое, ці не страціла паэма як жанр свайго значэння, ці не высілілася яна?

*Куляшоў.* Пытанне гэтае, як мне здаецца, носіць тэарэтычны характар. Усё рашае практыка. З'яўленне таленавітай паэмы залежыць ад пісьменніка, паэта. А зыходзіць з меркавання, што, маўляў, паэма сёння не чытаецца,— памылка. Таму што, скажам, «Цёркін» і зараз чытаецца.

*Залатухіна.* Чытаецца.

*Куляшоў.* «За даллю — даль» — таксама. Усё залежыць ад якасці твора.

*Залатухіна.* Але ж такі вось крытык, паэт-крытык, як Мікола Арочка, сказаў пра паэму прыблізна наступнае: «Паэма сённяшняя ідзе больш у сцябло, чым у колас. Дык ці варта нам пераводзіць сілу зямлі ў салому?»

*Куляшоў.* Я так мяркую, што кожшы па-свойму траціць розум. Ён жа паэт, Арочка! Падумайце, які вобраз нарадзіўся цікавы: «пераводзіць сілу зямлі ў салому»! Як яго не захаваць? Гэта ж вобраз! І, акрамя таго, мне думаецца, тут бяда не Арочкі, а паэзіі, што не было такіх паэм, якія б сапраўды ўзрушвалі.

*Залатухіна.* Гэта якраз быў той перыяд, калі свет убачылі такія паэмы, пра якія будуць гаварыць заўтра. І іх будуць чытаць, іх не забудуць...
*Куляшоў.* На гэтае пытанне я вам скажу вось што: усе мы жывём нам дадзены, пэўны, абмежаваны адрэзак часу, і не ведаем, а можа, да тых паэм, якія сёння здаюцца нам нецікавымі, чытач вернецца гадоў праз сорак?
*Залатухіна.* У гісторыі шмат такіх прыкладаў.
*Куляшоў.* У гісторыі гэта ўвесь час паўтараецца! «Яўгенія Анегіна» вітаў Бялінскі, а Пісараў потым здзекваўся над ім. А потым Пісарава не стала, а мы з асалодаю чытаем «Яўгенія Анегіна», перакладаем яго на іншыя мовы. Паэма вялікая, яе не ўсе могуць чытаць і перачытваць цалкам, але справа не ў гэтым. «Яўгеній Анегін» — адзін з тых твораў, якія ўвайшлі ў залаты фонд, духоўны залаты фонд чалавецтва! Я, напрыклад, не магу зараз перачытваць усю паэму, але перачытваю радкі пра зіму, пра восень рускую. Прыпомню іх для сябе — яны мяне хвалююць. А прыгадаць любоў Таццяны і Анегіна? Яны ж таксама людзі! І гэта хвалюе... Так што ў рэшце рэшт усё залежыць ад таго, колькі вольнага часу мае чытач.
*Залатухіна.* Тэма Таццяны і Анегіна, Рамэо і Джульеты ёсць і ў вашай творчасці.
*Куляшоў.* Кожны час прыўносіць нешта сваё ў гэтую тэму... А нашага Міколу Арочку крыўдзіць не трэба!
*Залатухіна.* Ён таксама здольны да захаплення!
*Куляшоў.* Усе здольныя! Паэты захапляюцца, крытыкі захапляюцца. Потым надыходзіць час пераацэнкі каштоўнасцей і з'яўляюцца новыя творы...

Звяртаючыся да пачатку нашай размовы, ад якой мы адхіліліся, загаварыўшы пра паэму «Далёка да акіяна», хочацца адзначыць, што лёс беларускага народа, як і іншых народаў Савецкага Саюза, іх культурная спадчына, нарэшце, лёс нашай краіны і ўсяго чалавецтва,— тое, што хвалюе сёння кожнага з нас,— хвалявала і майго бацьку, нягледзячы на тое, што ў яго час — час рэвалюцыйнай ломкі старых асноў грамадства, пытанні гэтыя ставіліся часам інакш.

У паэзіі яны вылiваліся, бывала, у заклік — «скінуць Пушкіна з парахода сучаснасці».

У такой сітуацыі можна было страціць раўнавагу, але з Куляшовым гэтага, на шчасце, не здаралася.

Той, для каго эмацыянальнае напружанне лермантаўскай тугі па волі стала тым уражаннем, якое абудзіла паэта ў ім самім, не мог адхіліцца далёка ў бок ад традыцый класічнай паэзіі.

Гэта маглі дазволіць сабе тыя, хто альбо гуляў у паэзію, альбо пачынаў працу ў ёй з нуля.

Для Куляшова ж паэзія была жыццём, у якое ён уваходзіў вучнем Лермантава, Пушкіна, Шаўчэнкі і Купалы, што адразу акрэсліла яго творчы ўзровень.

У гэтым сэнс культурнай традыцыі. Яна не дазваляе таму, хто пачынае працу ў яе рэчышчы, апускацца ніжэй дасягнутага папярэднікамі, прымушаючы яго працаваць на поўную сілу. Такім чынам, пытанне культурнай традыцыі з'яўляецца адначасова і пытаннем крытэрыяў.

Культурная спадчына народаў, у тым ліку і нашага, беларускага, не абмяжоўваецца, вядома, літаратурнай, але я зараз вяду гаворку пра яе таму, што мой бацька працаваў у літаратуры.

Тут, у літаратуры, сітуацыя нармалізавалася хутчэй, чым дзе б там ні было. Ссння ўжо ніхто не бярэцца чарніць Пушкіна.

Там, аднак, дзе гутарка ідзе пра помнікі матэрыяльнай культуры, справы ідуць — я маю на ўвазе Беларусь — не падта добра.

Памятаю, як нязменна сумным рабіўся твар бацькі, калі ён глядзеў на царкву ў сваіх родных Саматэвічах.

Яе будавалі ў XVIII стагоддзі. Аб гэтым і сёння сведчыць надпіс на франтоне царквы.

Бацька казаў, што такіх пяцікупальных царкоўных будынкаў было ў Беларусі ўсяго чатыры ці пяць. Ён памятаў гэтую царкву дзеючай, і неаднойчы расказваў мне, колькі народу збіралася тут на свята.

Але ў яго, паэта, асаблівае ўражанне выклікала не служба, а мелодыя царкоўных званоў, якая будзіла яго, хлапчука, святочным ранкам, ды пералівы святла на яе залачоных крыжах.

Сёння ад царквы, што год ад году прыходзіла ў заняпад, засталіся толькі сцены.

Гэтае «паміранне» адбывалася ў нас з бацькам на вачах, таму што ў 1952 годзе, калі я ўпершыню ўбачыла Саматэвічы, царква яшчэ мела першапачатковы выгляд.

Таму, магчыма, назаўсёды запаў мне ў душу нейкі сумны і разам з тым нібыта вінаваты позірк бацькі, які мне здаралася часам злавіць, калі мы разам з ім — у каторы ўжо раз! — аглядалі царкву.

У ліпені 1972-га я стала сведкай таго, як бацька спрабаваў выратаваць царкву,— аднесці яе да ліку архітэктурных помнікаў. Але яму тады ж растлумачылі, што «сяброўка яго дзяцінства» яшчэ не такая старая, каб можна было лічыць яе архітэктурным помнікам. Калі б яна паходзіла веку гэтак з семнаццатага... Бацька так і не

зразумеў, а галоўнае, не прыняў сэрцам гэтай мудрагелістай арыфметыкі. І сапраўды, як такое можна зразумець?

Вы, мабыць, звярнулі ўвагу на трохі нечаканы сінонім да слова «царква», ужыты ў папярэднім абзацы? Справа ў тым, што бацька здольны быў з замілаваннем глядзець не толькі на людзей, але і на «братоў нашых меншых», і на прадметы наваколля, на якія ён, мабыць, пераносіў свае пачуцці як да жывога.

А ў 1977-м, у час апошняга спаткання з роднымі мясцінамі, бацька звярнуўся да дырэктара краязнаўчага музея ў Касцюковічах з просьбай не дазволіць знішчыць ліпавую алею, па якой ён у дзяцінстве і юнацтве хадзіў у школу. Гэтае пажаданне само па сабе нічым асаблівым не вызначаецца, і не сэнс яго ўзрушыў мяне да глыбіні душы, калі ў 1980 годзе дырэктар музея У.Р. Ламінскі пераказваў мне бацькаву просьбу, а тая форма, якую Аркадзь Аляксандравіч надаў ёй:

«Мне б хацелася, каб гэтыя ліпы засталіся,— гаварыў бацька хвалюючыся,— яны мяне памятаюць...»

Памятаюць ліпы, памятае старасвецкі парк, старажытная царква, бацькоўская хата, якую яму так хацелася адбудаваць, помняць родныя Саматэвічы, рака дзяцінства Бесядзь, вячыстыя дубы на высокім яе беразе.

Усё гэта, нятленнае, Куляшову хацелася зберагчы, а можа, нават перадаць нашчадкам як памяць пра яго час і тых, хто жыў побач, як і пра тых, хто жыў на гэтай зямлі спрадвеку.

Навакольны свет адбіваўся ў чуйнай душы паэта поліфанічна, і гэтаму строю яго душы мы абавязаны тым незвычайным па сваёй глыбіні светаадчуваннем, якое, як паэтычнае наватарства, узрушвала чытача паэмы «Сцяг брыгады» ў радках, падобных наступным:

Лялька гэтак сказала:
— І я не пайшла да вакзала...
Цягам доўгіх начэй,
Не закрыўшы вачэй,
Хіба мала
Я дачкі тваёй сон пільнавала,
Калі яна спала?..
Гаспадар, ты падай мне руку,
І не стой на парозе,
І вядзі, як дачку,
У натоўпе людскім па дарозе.
Дзецям ногі баляць, іх дарога цяжкая

стамляе,
Я ж слухмяна пайду за табою, бо я
нежывая.
Дзеці просяць то есці, то піць,
Пыл сухі ім раты забівае,
Я ж не буду прасіць,
Бо я лялька,
бо я нежывая.
Самалёты ляцяць адусюль,
Дзецям смерць пагражае,
Не баюся я куль,
Не баюся, бо я нежывая...

Успамінаецца лета 1972 года, калі рэспубліка святкавала 90-годдзе народнага паэта Беларусі Янкі Купалы і калі бацька прыняў удзел у навуковай канферэнцыі ў купалаўскім музеі.

Адказваючы на пытанне, адрасаванае яму як аўтару «Сцяга брыгады», паэт гаварыў пра фальклорныя матывы ў паэзіі.

Памятаю, як глыбока задумаўся бацька перад тым, як пачаць гаварыць, як урэшце загаварыў спачатку паволі, ціха, як, захапіўшыся думкай, разгаварыўся нарэшце і пачаў расказваць з натхненнем, бляскам у вачах і жэстыкуляцыяй.

У сваім адказе моладзі (аўдыторыя пераважна была маладзёжная) ён паўтарыў, па сутнасці, тое, што пісаў некалі ў артыкуле «Непарыўная сувязь з жыццём»: «Пачынаючы з калыскі, спадарожнічала прырода чалавеку, і ён даўно звяртаўся да яе, як да сведкі сваіх радасцей і бед:

Эй, разгуляйцеся, буйныя ветры, па полю,
Пяскі развейце, пусціце мамку на волю.

Асабліва моцна абвастрылася пачуццё блізкасці з роднай зямлёю ў часы грозных выпрабаванняў для народа і радзімы. Можа, у адзін з такіх момантаў і нарадзіліся словы прыведзенага вышэй старадаўняга галашэння. Хіба не сугучна яно гору сірот, родныя якіх сталі ахвярай карных куль, попелам і дымам Майданакаў і Асвенцімаў? У тыя часы, часы Айчыннай вайны, размовы з ветрам, ручаём, лесам уварваліся ў радкі паэтаў невыпадкова і не з прычыны асваення імі традыцый народна-песеннай лірыкі, як гэта гатовы тлумачыць літаратуразнаўцы, а таму, што неслі ў сабе спрадвечную патрэбу выплеснуць у песні новы плач аб запалоненай чужынцамі зямлі. Аднак паэзія не выказала б свой час, каб не напоўніла галашэнні,

размовы з заняволенай прыродай гневам і помстай народнай. Спалучэнне традыцыйных матываў з верай у вызваленне з'явілася ў самы цяжкі, крытычны момант вайны: яно служыла дзейснай мэце — перамозе. Яно на месцы ў паэзіі таго перыяду, але не можа паўтарыцца з такой жа эмацыянальнай сілай нават у творах аб тым жа перыядзе вайны, што пішуць сёння, таму што надзённасць пытання — быць ці не быць перамозе — ужо вырашана. Яшчэ ўчора паэтычныя прыёмы, адроджаныя неабходнасцю моманту, гучалі пераканаўча і свежа, а сёння, страціўшы сваю абавязковасць і непасрэднасць», з'яўляюцца відавочнай прыкметай таптання на месцы.

Інерцыя формы хавае ў сабе небяспеку як для маладых паэтаў, так і для паэтаў старэйшага пакалення. У нас вельмі ўжо неразборліва пачалі размаўляць у асобных вершах жывыя людзі з неадухоўленымі істотамі. Прыём размовы падпадае пад усялякага роду ўдасканаленні: гаворыць жывая істота з нежывой, дзве жывыя істоты з адной нежывой і наадварот. Адштурхоўваючыся ад такіх «пошукаў», некаторыя аўтары страчваюць пачуццё меры, каб нешта ўнесці сваё, новае. Робіцца гэта ні- быта ў парадку асэнсавання фальклорнай спадчыны, а ў выпадку — падробка пад яе, стылізатарства. Любыя пошукі не могуць выклікаць пярэчання, калі яны памагаюць раскрыць сэнс новага, а не апранаюць яго ў старамодныя ўборы і тым самым, па сутнасці, адыгрываюць ролю (...) фармалістычнага крывога люстра «(Аркадзь Куляшоў. Збор твораў у 5 т. Т. 5. С. 427—428).

— А ў выпадку з’яўлення фальклорных матываў у паэме «Сцяг брыгады»,— сказаў на заканчэнне бацька,— дакладней было б гаварыць пра зліццё душы паэта з душою народа...

Мы спыніліся ля ручая.
Ён праз поле бяжыць у лазе,
У кустах, у бярозах.
Што рабіць нам? Гляджу я ў тузе
На дарогі, абозы
І на войска, што едзе, ідзе
На дарогах, і выйсця няма нам.
Поле нас не схавае ў бядзе,
Бо яно ўзарана...

Што ж, прымай нас, ручай,
І вядзі па вадзе нас далёка,

І кустамі з бакоў засланяй
Ад нямецкага вока.

Камісара нясём мы, і ты
Так зрабі, каб ён выжыў,
Каб гусцейшымі сталі кусты,
Каб раслі яны вышай...

Аркадзь Куляшоў, які ўваходзіў у літаратуру ў 1926 годзе, разумеў, што ў краіне, якая толькі што перажыла катаклізмы рэвалюцыі, ствараецца культура новага грамадства, і быў не з тымі, хто лічыў, што яе можна пабудаваць на руінах культуры старога свету.

Куляшоў, які пачынаў пісаць вершы на рускай мове, і які ў вайну даволі няблага пісаў іх на гэтай мове для сваёй армейскай газеты, даволі хутка адчуў, што адзенне яго душы — родная мова і што толькі яна дазволіць яму максімальна раскрыць у паэзіі душу беларуса. «Калі я і далей не буду пісаць на роднай мове, я рызыкую перастаць быць тым, хто я ёсць»,— пісаў ён жонцы ў адным з лістоў ваеннай пары, адчуўшы, мабыць, на ўласным лёсе, што «калыскай сапраўднага паэта, як сказаў нехта з вялікіх, быў і застаецца нацыянальны энтузіязм». І што ў гэтым дзіўнага? Нацыя — гэта нешта жывое, арганізм, які працуе па пейкіх уласных законах, дзе мова — нешта вельмі істотнае, што ў агульначалавечым соцыуме нацыянальная прыналежнасць — прыкмета кроўнай і духоўнай сувязі.

19 лютага 1987 года на вечары, прысвечаным 130-годдзю з дня нараджэння класіка ўкраінскай літаратуры Івана Франко, выступаючыя, між іншым, ставілі знак роўнасці паміж паняццямі радзіма і мова народа.

Таму так самаадданa служыў Куляшоў ідэі далейшага росквіту самабытнай культуры свайго народа — развіццю яго душы, каб яшчэ больш вялікім быў уклад Беларусі ў агульную скарбніцу культуры чалавецтва.

Гэта быў погляд чалавека новай супольнасці, якая стваралася на абшарах былой царскай Расіі і яе калоній на прынцыпова іншых асновах — асновах роўнасці і братэрства народаў, якія стварылі новую дзяржаву,— Савецкі СаюЗ

Таму і на ўласных продкаў Куляшоў глядзеў вачыма беларуса, які мысліць інтэрнацыянальна, разумеючы, што шчасце кожнага — гэта шчасце ўсіх і наадварот.

## НАРАЧ

-----

Улетку 1954 года Танк, Лынькоў і Куляшоў пачалі будаваць лецішча на возеры Нарач. Гэтыя мясціны — малая радзіма Яўгена Іванавіча — прывабілі іх сваёй аддаленасцю ад цэнтраў цывілізацыі, красой некранутай прыроды і цішынёй.

Успамінаючы Нарач тых часоў, я бачу неабсяжнае, месцамі парослае чаротам, празрыстай чысціні возера, да якога па ўсёй яго працягласці прыступаюць хвоі.

На берагах там-сям раскіданы рыбацкія вёсачкі. Ад іх яшчэ да світання адчальваюць гужы цяжкіх, падобных да вялікіх калысак лодак. Чуецца скрып уключын, які час ад часу перакрываецца няяснымі, адрывістымі, як каманда, выгукамі. І хаця гэтыя гукі таксама растаюць у соннай цішыні ранку, яны тут — першыя вестуны новага дня.

Далёкае і блізкае мінулае гэтых мясцін нагадвае аб сабе нагрувашчваннем валуноў у вадзе над стромкім берагам вострава,— рэшткамі сярэдневяковага замка; руінамі былога яхт-клуба на самым высокім пагорку берага; нечакана, як міраж, узнікаючай для дарогі каменнай аркай, прыступкі якой не вядуць нікуды; магілкай «паўчыцелькі з Варшавы» на ўездзе ў вёсачку ды вузкакалейкай часоў першай імперыялістычнай, па якой два разы на дзень маленькі, сыкаючы паравозік выносіць з лесу два мініяцюрныя вагонікі.

Па гэтым лялечным цягніку можна было звяраць гадзіннік: свісток паравоза, які паведамляў аб яго прыбыцці з далёкіх Лынтупаў, гучаў заўсёды ў гадзіну дня. Для жыхароў Нарачы гэта была адзіная сталая сувязь з «вялікім светам».

Да Мінска ж можна было дабрацца толькі прасёлкамі ды брусчаткай на грузавым таксі-палутарцы, пасажыры якога размяшчаліся на драўляных лавах у кузаве.

Вось на такім месцы і спынілі свой выбар пісьменніка пасля таго, як, паслухаўшыся парады Максіма Танка, адважыліся правесці на яго радзіме адно лета.

Тады, у 1953 годзе, тры нашы сям'і, якія былі суседзямі ў горадзе, размясціліся ў крайняй хаце рыбгаса, у яе гаспадара Віктара Папка.

Як добра нам там жылося! Мужчыны пад кіраўніцтвам спецыялістаў асвойвалі майстэрства рыбнай лоўлі на вялікім возеры, і не без поспеху.

Там я ўпершыню пачула пра «дарожку» і «перамёт».

Мой бацька быў зацятым рыбаком з дзяцінства...

На штучных азёрах Нясвіжа летам 1946 года ён таксама прастойваў гадзінамі на мастку, цягаючы вудай акунькоў.

Але тут, на гэтым неабсяжным, як мора, возеры, і рыба была іншая, і лоўля. Гэтая навізна, магчыма, і стала прычынай таго, што тым летам з энтузіязмам навічкоў рыбачылі ўсе.

Ад гэтага захаплення і нарадзілася, відаць, думка, да рэалізацыі якой пісьменнікі прыступілі ў наступным, 1954 годзе.

Месца выбіралі доўга. Думалі і пра Гатавіцкія лясы, месца, дзе зараз стаіць санаторый «Сосны», але не адважыліся будаваць жыллё там з-за адсутнасці дарог і вёсак, і пра высокі пагорак на беразе (той, на якім потым быў пабудаваны санаторый «Нарач»), адкуль адкрываўся цудоўны від на возера, і куды падыходзіла і дарога і вузкакалейка, але месца было засмечана рэшткамі старых будынін, так што ў рэшце рэшт спыніліся на адзіным роўным пясчаным месцы паміж возерам і старым прасёлкам, за якім пачынаўся лес.

З таго часу наша сям'я праводзіла тут кожнае лета. Для бацькі гэта было знаёмства з новым, надзвычай маляўнічым кутком Беларусі. На працягу многіх гадоў ён з нястомнасцю сапраўднага грыбніка абшукваў тут кожную лясную палянку і заўсёды прыносіў самую вялікую «ношку». Ніякіх грыбоў, апрача баравікоў, бацька не прызнаваў, але калі прыносіў іх менш за сотню, лічыў, што яму сёння не пашанцавала. З не меншым азартам лавіў бацька ў Малінаўцы, рэчцы, што працякае ў сямі кіламетрах ад нашага пасёлка, ракаў. У гэтым яму дапамагалі і мы, дзеці. У такіх выпадках увечары на стол выстаўляўся вялікі таз з чырвонымі ракамі, прывозілася піва і за нашым авальным сталом збіралася шумная кампанія.

Было многа смеху, жартаў. Душой быў мой дзед Аляксандр Мікалаевіч, заснавальнік нашага «таварыства піва-ракі». Дзядунька тады часта жыў на Нарачы, бо толькі з яго вялікім садова-агародніцкім вопытам можна было асвоіць дваццаць пяць сотак прыбярэжнага пяску, адведзенага нам пад сад і агарод. Варта адзначыць, што ў той час гэта была для нас жыццёва важная справа: гэты агарод пераважна і карміў сям'ю ўсё лета.

Падабалася бацьку і старасвецкая зялёная вёсачка, адзіная вуліца якой змейкай збягала да возера. Купа, так яна называлася, рабіла на бацьку ўражанне не толькі сваёй маляўнічасцю, але і новым уяўленнем пра характар беларуса.

Бацька, відаць, многа і з захапленнем расказваў пра Нарач у сям'і А.Т. Твардоўскага, бо на працягу некалькіх гадоў (пачатак шасцідзесятых) яны кожнае лета збіраліся да нас у госці, але заўсёды з'яўлялася нейкая непераадольная перашкода, пра што бацьку

паведамлялі пісьмом ці тэлеграмай. Усё ізноў адкладвалася да лепшай пары, якая, на жаль, так і не надышла...

Як зараз бачу бацьку, які ў нязменным спартыўным касцюме выходзіць са свайго кабінета і паволі накіроўваецца да кухні. Наперадзе бяжыць яго нязменная спадарожніца кошка Караліна і, азіраючыся на гаспадара, прасіцельна мяўкае.

— Дзём-дзём, Караліна! — адказвае ён ёй, і жывое стварэнне супакойваецца, разумеючы, што яго зараз пакормяць.

Такія выхады азначалі, што бацька ўжо мае патрэбу ў адпачынку. Бывала, што ў такія хвіліны, перахапіўшы нешта на скорую руку, ён браў бінокль і падымаўся на балкончык мансарды, каб палюбавацца возерам.

Бінокль быў моцны, артылерыйскі, і бацьку ў яго быў відзён процілеглы бераг нашай затокі, так званая «каса» (там зараз знаходзіцца піянерскі лагер «Зубраня»), рыбацкія чаўны на возеры і нават абрысы дальніх берагоў.

Часам бацька выглядаў там нас, калі нам здаралася трапіць у шторм. Лакальныя штормы — з'ява на Нарачы нярэдкая. Самае горшае ў іх тое, што пачынаюцца яны нечакана, нават пры ясным небе, але, на шчасце, спыняюцца даволі хутка. Сіла іх вымяраецца ў балах, таму яны даволі небяспечныя, асабліва для навічкоў і тых, хто плавае на прагулачных лодках. Наш човен быў зроблены рукамі нарачанскіх рыбакоў і па форме больш за ўсё нагадваў драўлянае карыта, што забяспечвала яму ўстойлівасць на вадзе нават у шторм, калі ўдавалася трымаць лодку носам да набягаючай хвалі.

Калі повадам для бацькавага знаходжання на балконе аказваўся такі выпадак, на яго потым было балюча глядзець. Ён на нас не сварыўся, нават не рабіў заўваг, але ўсё, што яму давялося перажыць у час нашага «плавання», было так ясна напісана на бацькавым твары, што мы не адважваліся глядзець яму ў вочы. Тым больш што мы ведалі, што ўвесь час, пакуль мы змагаліся са стыхіяй, бацька стаяў з біноклем на балконе, як капітан па мосціку ў перыяд караблекрушэння. Я расказваю пра тыя часы, калі на Нарачы яшчэ не было выратавальнай службы.

Здаралася, што ён выходзіў на двор, каб пакарміць курэй, пагуляць з сабакам ці пасядзець на сонейку ў гамаку, гледзячы ў неба, расчэрчанае самалётамі. Гэта было ўжо ў тыя часы, калі для бацькі сталі недасягальнымі іншыя віды яго любімых забаў на прыродзе: прагулкі ў лес і выезды на рыбалку.

Збіраючыся будаваць нарачанскую хату і абмяркоўваючы яе праект, бацька раптам выказаў дзіўную, з пункту гледжання

звычайнай логікі, думку: ён прапанаваў паставіць хату бокам да возера так, каб сенцы глядзелі на суседскі плот.

Гаворачы пра бацькаву непрактычнасць, мама заўсёды прыводзіла як прыклад гэты выпадак, і мы смяяліся, уяўляючы, як гэта павінна было выглядаць.

Тры пісьменніцкія дачы стаяць на Нарачы так: вялікі, грунтоўна зроблены нейкай дзяржаўнай будаўнічай арганізацыяй дом Лынькова збіралі на месцы. Таму ён з'явіўся на пісьменніцкай дзялянцы ў першы ж год будаўніцтва і быў пастаўлены ў цэнтры яе.

Танка і нашу будавала адна і тая ж брыгада мясцовых шабашнікаў, і таму яны падобныя адна да другой як блізняты. Наколькі бацькава ідэя паставіць нашу хату фасадам у той бок, дзе сёння стаіць рэстаран, была адхілена, агульная сіметрыя засталася непарушанай. Зараз яны аздабляюць лынькоўскую хату, гледзячы фасадамі на возера.

Хата будавалася тры гады і была скончана толькі ў сярэдзіне ліпеня 1956 года.

І ўсё ж самым «вясёлым» у гэтай гісторыі з'яўляецца тое, што толькі зараз, схіліўшыся над гэтым лістом паперы, я зразумела, што бацька меў тады сваю логіку — ды яшчэ якую! Згодна прапанаванай ім арыентацыі на возера глядзелі б усе вокны яго кабінета і цэлы дзень у ім было б сонца!

Але ў справах сямейных бацькаў голас быў не галоўным, і ён нават не адважыўся абгрунтаваць сваю прапанову.

Прасторы, паветра, так неабходных бацьку для працы, ён не атрымаў, але атрымаў іншую, таксама важную ўмову творчасці — ізаляванасць і цішыню.

Гэтая незапланаваная спачатку якасць бацькавага месца працы зрабілася з часам яго галоўнай вартасцю, бо сям'я ўвесь час павялічвалася. Так у 1977 годзе, у апошняе нарачанскае лета бацькі, у яго апрача траіх дзяцей было ўжо і пяцёра ўнукаў.

На Нарачы бацька праводзіў многія месяцы апошніх 24 гадоў свайго жыцця. Я наўмысля не ўжываю слова адпачываў, бо лета ўвогуле не было для яго парой адпачынку. Ён, чыё з'яўленне на свет супала з парой самых лютых калядных маразоў, асабліва любіў летнія месяцы года і вясну, як прадвесніцу набліжэння цёплых дзён. Аднак працаваць у поўную сілу бацька пачынаў летам, калі праходзіла першае захапленне вясной, і ён вяртаўся да эмацыянальнай раўнавагі, а таксама набіраўся фізічных сіл, так неабходных для працы.

У 1974 годзе, робячы мысленна справаздачу з пражытага жыцця, бацька напісаў верш «Мой Новы год». Прывяду яго тут, бо мне

здаецца, што нават гэты больш чым «зімовы» верш можа пацвердзіць выказаныя вышэй думкі:

Як не зайздросціць тым, хто нараджаецца
Пад Новы год? Для іх пячэ пірог
Сама зямля. Чарговы свой парог,
Каб іх вітаць,— пераступіць спяшаецца.

Яна ім першым адчыняе весніцы,
І, каб магла, спыпіла б час для іх.
А толькі ён і кружыцца, і свеціцца,
І запрашае ў карагод другіх.

Няспынным рухам каляндарны век яго
Узгоднены з Зямлі календаром.
І кожны новы дзень яе
для некага
У дом прыходзіць навагоднім днём.

Хай гэты дзень не значыцца ў даведніку
Для тэлеграм, але ён дораг нам.
Ён дораг нам, як чорны хлеб галетніку,
Што не са свят вядзе адлік гадам.

І я не ў крыўдзе, што пачаўся з лютага
Мой новы год, якому шэсцьдзесят.
Хто ты, мой год? Завеі лютай брат
Ці ручая, сакавіком раскутага?

Працуючы з асаблівай інтэнсіўнасцю летам і восенню, г. зн. пераважна на Нарачы[6], бацька, аднак, не прысвяціў гэтым мясцінам аніводнага радка.

Гэта можа выклікаць здзіўленне, асабліва ў тых, хто ўяўляе сабе, што паэт — чалавек, які «апявае тое, што бачыць».

Такі ўтылітарны погляд на паэзію час ад часу прарываецца ў пажаданнях чытачоў, якія просяць напісаць пра іх вёску, завод, горад і г. д.

---

[6] Тут былі напісаны многія вершы, пачыналася праца над паэмай «Хамуціус», зроблены пераклад «Анны Снегінай» і вершаў С. Ясеніна, ішла праца над «Кнігай зямлі» Кайсына Куліева і многім іншым.

Для Куляшова працэс творчасці быў няпросты. Пра гэта ён гаворыць у вершы «Ёсць у паэта свой аблог цалінны»:

Ёсць у паэта свой аблог цалінны,
Некрануты прастор для баразён,
Дзе ён працуе з першае хвіліны
І да апошніх вечаровых дзён;

Есць думак прагавітае насене,
У жменю назбіранае з дарог,
Што спелага чакае ўвасаблення,
Заліўшы хваляй жытняю аблог;

Ёсць сэрца маладое, без якога —
Без палкага, жывога пачуцця —
Няма ў яго нічога: ні аблога,
Ні плённых дум, ні самога жыцця...

Жывое, непасрэднае ўспрыманне жыцця ён лічыць перадумовай творчасці, а творчую працу — складаным працэсам. Каб зразумець, што я маю на ўвазе, прывядзём верш, прысвечапы Хатыні:

Над сналенай вёскай,
адзетай жалобным гранітам,
Званы абзываюцца
рэхам вайны незабытым.
Хай Вечны агонь,
што запалены ў памяць Хатыні,
Як рунь і як неба,
палае — зялёны і сіні,
Няхай яго полымя
жытам спякотным і спелым
Схіляецца ў ногі
Хатыні дварам скамянелым.
Парогу халоднаму,
прызбе маўклівай пры хаце,
Хай гора, заснуўшае ў камні,
прачнецца ў набаце.

(«Над спаленай вёскай», 1970)

Бацька напісаў гэты верш увесну 1970 года. У Хатыні ён яшчэ не пабываў і глядзеў на яе здалёк мысленным позіркам, уяўляючы сабе гэты мемарыял па расказах сяброў.

Яго паэтычнае ўяўленне было, трэба думаць, моцным, калі хапіла, каб напісаць верш такога напалу пачуцця і ўзроўню паэтычнага абагульнення. Хоць абагульненнем мы, магчыма, абавязаны таму, што Хатыні бацька не бачыў і не мог спакусіцца на тое, каб пайсці па шляху апісання, што робіць большасць паэтаў у вершах, прысвечаных гэтай тэме.

Бяруся сцвярджаць, што была першай, каго бацька пазнаёміў з вершам «Над спаленай вёскай» яшчэ ў дзень яго напісання. Тады ж, адразу пасля таго, як бацька скончыў чытаць верш, я зусім нечакана для нас абаіх пачала дэкламаваць:

Ёсць пад Стараю Русаю
руская вёска Лажыны...

Не ведаю, чаму і як прыйшла мне на думку такая асацыяцыя, але бацька ад яе аж падскочыў:

— Як ты здагадалася, што Хатынь звязалася ў мяне менавіта з гэтым вершам?

Гаворка ішла пра верш «Над брацкай магілай», напісаны Куляшовым у 1942 годзе па слядах непасрэдных горкіх перажыванняў ваеннай пары:

Ёсць пад Стараю Русаю
руская вёска Лажыны...
Там, нібы ў Беларусі,
і вербы растуць, і рабіны.
Там жаўцеюць
Прыгожыя
Краскі
За вёскай у лузе,
Там ржавеюць
Варожыя
Каскі,
Нібы ў Беларусі.
Там магіла ёсць брацкая ў лузе
за вёскай Лажыны,
Там хлапцы беларускія
чэсна галовы злажылі.
Мы без слёз іх хаваем,
Памятаем пра свой абавязак,
Нашы слёзы саромяцца
мужных вінтовак і касак...

Як бачыце, непасрэдныя ўражанні жыцця былі, хоць і знаходзіліся вельмі далёка ад моманту іх паэтычнага ўвасаблення. Але ці пашкодзіла такая экспазіцыя ў часе самой паэзіі? Здаецца, не пашкодзіла.

Нешта такое было, відаць, і з Нараччу. Творчасць Куляшова, безумоўна, не абышла Нарач, але ўвабрала нарачанскія ўражанні пасвойму, па-куляшоўску, глыбінна, адбіўшы іх у паэзіі не непасрэдна, як люстра, а ўсім тым светам дадатных эмоцый, якімі яна была абавязана Нарачы.

## «ЛЯСНОМУ РЭХУ ПРАЎДУ РАСКАЖЫ...»

-----

У апошнія месяцы жыцця бацька неаднойчы скардзіўся маці на лёс, маючы на ўвазе блізкіх:

— Пра мяне, відаць, не будзе каму напісаць...

У памяці маёй з дзяцінства ўгняздзілася дзіўнае слова — «цыкуны». Упершыню я пачула яго, відаць, вельмі малой, таму што заўсёды суадносіла з казкай. «Цыкуны, цыкуны...» — паўтарала я дзяўчынкай, засынаючы, і ўсё мне здавалася, што ёсць у гэтым слове нейкая таямніца...

Слова было павязана з бацькам, але мне ніколі не прыходзіла думка спытацца ў яго, што яно значыць.

Так, мабыць, і засталося б гэтае загадкавае слова жыць у краіне сненняў, калі б аднойчы, у час нашай сумеснай вандроўкі па бацькавай радзіме, ён не сказаў мне раптам:

— Заўтра едзем у Цыкуны!

«Як?— падумалася мне.— Няўжо цыкуны — нешта рэальнае?»

— Тата, а што гэта — цыкуны? — спыталася я асцярожна.

— Як — што? Лес, сасновы бор, вельмі стары і вялікі,— і дадаў з тугой і замілаваннем у голасе: — Сябра майго юнацтва...

Цяпер, калі я думаю пра Цыкуны, на памяць прыходзяць радкі верша, які быў напісаны неўзабаве пасля тых адводзін:

Кожны мае свой бор,
родны бор на зямлі,
Бор, дзе мары,
як гордыя сосны, раслі.

Дзе шугалі яны
ўпершыню над зямлёй
Пры начлежным агні
на паляне лясной,

Дзе будзіла зязюля іх,
рана, ледзь свет,
Дзе ў далёкі, за рэхам,
плылі яны свет...

У той памятны дзень мы ўсталі на досвітку, бо выпраўляліся ў дарогу з Хоцімска, а да адных толькі Саматэвічаў шэсцьдзесят кіламетраў.

У Цыкуны мы трапілі гадзін у восем раніцы. Як сёння бачу той узлесак, на які варта было ступіць нам, каб адразу ж амаль з-пад ног выпырхнула невялічкая птушка, і мы ўбачылі гняздо з блакітнымі яйкамі. Далей мы ішлі ўжо асцярожней, але ўсё роўна ўвесь час кагосьці трывожылі, бо вакол нас усё гуло, стракатала, пырхала, толькі чамусьці, здаецца мне, не спявала.

Тады я ўпершыню зразумела, што значыць выраз «дрымучы бор», хоць гэты быў, нягледзячы на ўзрост сваіх гонкіх соснаў, нейкі святочны і празрысты, мабыць, ад промняў сонечнага святла, якое пранізвала яго ад вершалін да падлеска, дзе мы літаральна поўзалі на каленках, збіраючы пераспелыя суніцы...

Тады ж я зрабіла для сябе адкрыццё, якое, зрэшты, ніколі не спрабавала спраўдзіць. Я раптам зразумела, што дзіўная назва Цыкуны паходзіць, мабыць, ад слова «цвыркуны», а калі мая здагадка слушная, дык сведчыць і пра тое, што Цыкуны — надзвычай стары бор, калі нават назва яго ўжо сцерлася, як медны грош, ажно да страты этымалогіі.

Родным соснам, з якімі
тут некалі рос,
Я не скаргу прынёс
на агульны наш лёс.

Я — салдат свайго часу,
з ягоных дарог
Я без метак суровых
вярнуцца не мог.

Я вярнуўся затым,
каб засведчыць усім
Вернасць марам сваім,
Як жыццё, маладым.

Пры такіх абставінах я ўпершыню ўбачыла «бацькаў» бор і тады ж, мабыць, назаўжды развіталася з ім, бо зусім не памятаю, як мы тады дабіраліся да Цыкуноў і дзе іх шукаць, калі б мне зноў захацелася наведаць гэты казачны куток Беларусі.

Што да верша «Маё сэрца ў бары», дык якраз з ім звязана ў мяне першае ўяўленне пра вобраз «бору, лесу» ў творчасці бацькі, на роздум пра сэнс якога мяне падштурхнула нядаўна адна архіўная знаходка.

Сярод бацькавых рэчаў, што захоўваюцца ў мяне, ёсць запісная кніжка. Разглядаючы гэты чырвоны сярэдняга памеру нататнік з

юбілейнай лічбай 50 на вокладцы, я зразумела, што гэта апошняя бацькава запісная кніжка, тая самая, якая ў 1973 годзе дала назву нізцы вершаў, апошняй, як, мабыць, думаў пра яе ў хвіліны напісання бацька.

Ты, кніжка запісная,— дом, дзе свішча
Скразняк гадоў, віхор няспелых дум,
Кладоўка для зярнят і папялішча
Пачуццяў марных, пушчаных на глум.

Ты — клінапіс з неразгаданай вяззю,
На турмы не падобная турма,
Дзе вобразам маім, забытым вязням,
Прызначанага тэрміну няма.

Наглядчык строгі іх пазбавіў руху,
Фантазія ім хлеба не дае.
Як рэактыўны лайнер хуткасць гуку,
Час абганяе запісы мае.

Заслона хмар пад імі ходзіць нізка,
Спускаецца імгла, нібы на дол,
На іх страху...
Ах, запісная кніжка,
Навошта я кладу цябе на стол!

Мы ведаем розныя пісьменніцкія кніжкі. Некаторыя з іх можна параўнаць з дзённікам, другія — з нататнікам. Бацькава болей нагадвае нататнік, дзе ён адзначаў першыя ўсплёскі творчай думкі, запісваючы іх так-сяк накасяк, у спеху, відаць, і з хваляваннем, якое выключала педантызм. Таму часам на наступнай старонцы, ці нават праз некалькі, з'яўляецца раптам працяг, таму на кожнай з іх суіснуюць звычайна нічым не звязаныя радкі, занесеныя сюды ў розныя часы.

Гартаючы бацькаву запісную кніжку, адчуваеш пульсаванне неспакойнай творчай думкі, хваляванне, рух пошуку... Зазірнуўшы ў яго творчую майстэрню, нават у той яе куток, дзе захоўваюцца адны «нарыхтоўкі», пачынаеш разумець і характар гэтага чалавека і тое, што яго ўяўленне пра шчасце было, відаць, блізкім да талстоўскага: «Чтобы жить честно, надо рваться, путаться, биться, ошибаться, начинать и бросать, и опять начинать, и опять бросать, и вечно бороться и лишаться. А спокойствие — душевная подлость...

Только честная тревога, борьба и труд, основанные на любви, есть то, что называют счастьем».

Запісная кніжка бацькі — цікавы аб'ект даследавання для літаратуразнаўцы. Аб'ект пошукаў параўнання, роздуму...

Ёсць у ёй і такія запісы, якія нельга абысці і нам.

Гэты запіс — у кніжцы апошні. Да таго ж зроблены ў такім месцы, што нецярплівы чытач яго нават і не заўважыць. Бо нататнік спісаны ўсяго да паловы, пасля да канца ідуць зусім чыстыя старонкі і толькі на развароце перадапошняй знаходзіш раптам такое:

Лясному рэху праўду раскажы...

Радок, такі незразумелы на першы пагляд, чамусьці паласнуў па сэрцы... «Запавет!» — падумалася яшчэ, але разуменне гэтай раптоўнай і дзіўнай здагадкі прыйшло куды пазней. А пакуль што ўвагу прыцягнулі яшчэ два запісы, у якіх не было ні метафары, ні загадкі.

Першым з іх пачынаецца кніжка і, магчыма, першы роздум пра аўтабіяграфічную паэму «Далёка да акіяна»:

Вряд ли бы ты
во мне узнать
Спутницу былую
Смог... Так стоит ли пугать
Память дорогую?

А на наступнай старонцы — варыянт таго ж:

Я не сожалею.
Всё равно во мне узнать
Спутницу былую
Трудно... Стоит ли
пугать
Память дорогую?

Ведаючы кола адрасатаў бацькавай лірыкі, вы, безумоўна, здагадаліся, што гаворка ідзе пра Алесю. Паварот тэмы — сведчанне таго, што да кахання ён ставіўся перш за ўсё як паэт. І што яго высокае, па-сапраўднаму паэтычнае пачуццё да Алесі — адзіны варыянт кахання, які дазваляе захаваць некранутай памяць аб красе, што засталася ў мінулым.

А руская мова сведчыць хутчэй за ўсё пра тое, што запісы былі зроблены ў Маскве і, відаць, пасля першай ці адной з першых размоў пра юнацтва з А.Т. Твардоўскім. У жніўні 1975-га бацька пісаў пра

гэта жонцы Твардоўскага Марыі Іларыёнаўне, адказваючы на яе пытанне, ці ажыццявіў ён свой намер пісаць прозу, наступнае: «Вместо автобиографической повести в прозе я написал поэму «Далеко до океана». Первые десять глав ее уже в переводе Н. Кислика (или шесть, кажется) А.Т. читал, имел со мной долгую, по поводу их, очень хорошую и приятную для меня беседу. В результате прочтения первых глав он заключил с переводчиком договор по самой высокой ставке и тем самым журнал как бы обязал меня печатать эти первые главы в «Н.М.», и они были напечатаиы там после ухода А.Т. нз журнала.

Первый мой разговор с А.Т. о детстве и юностн (он мне рассказывал о своем детстве и юности, а я ему о своем) состоялся в Барвихе в 1964 г.».

Другі запіс — завершанае чатырохрадкоўе, запісанае бісерным каліграфічным почыркам.

Так бацька пісаў тады, калі знаходзіўся ў гуморы ці пісаў начыста радкі, што ўжо не патрабуюць рэдагавання. У дадзеным выпадку мы маем, відаць, справу і з тым і з другім.

Белай пенаю, хваляй сіняй
Закалыхвае сум і гора,
Быццам маці калыску сына,
Нарач — хатняе мора.

Я разумею, чаму гэтыя радкі не атрымалі бацькавага блаславення на жыццё ў літаратуры: у іх няма галоўнай рысы куляшоўскай паэзіі — яе драматызму. Гэта хутчэй замалёўка, запіс эмоцыі.

Мяне ж ён цікавіць таму, што адкрывае нам яшчэ адзін патаемны куточак бацькавай пяшчотнай і вернай душы. Справа ў тым, што, папершае, ён, відаць, не хацеў «абіраць» паэзію Максіма Танка, апяваючы яго бацькаўшчыну. А на старонках запісной кніжкі Нарач наводзіць бацьку яшчэ двойчы на роздум, і ў апошні раз гэта пошукі верша, які мог бы быць напісаны, калі б аўтар вярнуўся дапрацаваць яго.

Калі сяджу я над шумлівым морам
Як быццам бы я размаўляю з борам,
Што на радзіме
маёй.
Калі сяджу я ў лесе
То шум яго нагадвае мне мора
Зубцы — вяршыні гор.

У гэтай пакуль што празаічнай спробе верша бацька суадносіць вобраз «мора» — хатняга мора — Нарачы — з вобразам «бору», што на яго радзіме. Як жа доўга ішоў бацька да гэтай асацыяцыі! Хоць яна і ляжыць на паверхні... Гэта трэба разумець, мне здаецца, так, што эмацыянальна бацька звязаў Нарач з Цыкунамі толькі ў канцы жыцця. Як жа доўга засвойвала яго душа новае пачуццё! І як трымалася за першапачатковае! І яшчэ: даўняе не адмірала, яно заставалася тым падмуркам душы, на якім трымаліся ўсе наступныя «паверхі».

А вобраз «бору, лесу» — адзін з тых вобразаў бацькавай паэзіі, які існуе там у развіцці, пачынаючы з таго верша, якім ён быў прапісаны ў ёй і замацаваны як сімвал малой радзімы паэта.

Я вярнуўся ў свой бор,
што ад бур не палёг,
Каб набрацца ў ім сілы
для новых дарог.

Каб шугала далей
мая палкая кроў
Тым жа буйным агнём
маіх першых кастроў.

Каб па ўсіх акіянах
наперад плылі
Мар маіх караблі,
мар маіх караблі.

Думы, мары мае!..
Ганаруся я тым,
Што навек заўладалі
вы сэрцам маім,

Што мяне, як і ўсіх
неспакойных людзей,
Вы ўзялі ў падарожжа
вялікіх надзей,

Што ў дарозе няспыннай
з юнацкай пары
Мне ваш голас чуваць

як сягоння ў бары.

Палкая юнацкая любоў да малой радзімы вядзе паэта ў шырокі свет, да роздуму над лёсам чалавека і чалавецтва, да працы на карысць той справы, з якой звязвае чалавецтва свае лепшыя надзеі. Вось якая яна — няспынная дарога паэта.

Верш «Маё сэрца ў бары» напісаны ў пяцьдзесят чацвёртым, а амаль праз дваццаць год, у паэме «Варшаўскі шлях», яго вобразы дадуць новыя парасткі.

У гэтым творы вобраз «бору — малой радзімы» спалучаецца з новым вобразам — «шляху — Радзімы, Беларусі». І спалучэнне дае такую ёмістую вобразную і сэнсавую поліфанію, што, перш чым гаварыць аб ёй, давайце яшчэ раз вернемся да саміх вершаў:

Пад шум агню і пералётны дым,
Сярод аблюбаванае паляны,
Пачнём свой дыялог, патрэбны ўсім,
Каб ён надзейна запеленгаваны
Быў лесам і падлескам маладым.

Мой шлях! Вайна яшчэ не згрэбла трэсак
Тут, дзе з табой сядзім мы пры агні.
У полымя ўглядаецца падлесак,
Як помнікі, нас абступілі пні.
Шумелі тут вяршыні баравыя
Ствол да ствала — гудзеў лясны арган.
Цяпер ён змоўк, як песні, што ў курган
З сабой забралі песняры былыя.
З такім і наш зямляк сустрэўся горам.
Як бор, ён абжываў мясцовасць борам,
Арганным рэхам бед і перамог.

Перш за ўсё хочацца адзначыць, што ў гэтым урыўку з паэмы з'яўляецца сінонім вобразу «бор». Гэта ўжо не «бор, лес — малая радзіма», а «бор — сасна», да таго ж сасна карабельная, з самых адборных, гэта чалавек-волат, які «абжывае мясцовасць» не як мешчанін, а як паэт — голас народа, як «рэха яго бед і перамог».

Калі так разумець вобраз «бору» ў паэме «Варшаўскі шлях», дык застаецца толькі адзначыць, што «вяршыні баравыя» — гэта людзі, лепшыя з іх, а «помнікі — пні» — ці не згадка гэта пра тых, каго скасілі трагедыі нашага жыцця? Тым больш што побач з'яўляецца яшчэ адзін, новы для паэзіі Куляшова, але арганічны для ўсяго яе

вобразнага рада вобраз «падлеску», што ўглядаецца ў полымя, пры якім сведка тых падзей — паэт вядзе гутарку аб другім паэце — адзіным, які мог бы дагаварыць пра свой час тое, чаго іншыя не дагавораць і хорам. Мог бы, калі б «як бор той самы не палёг».

Паэт, сведка падзей свайго часу і жыцця Твардоўскага, якому прысвячаецца паэма, хоча, каб яго думка аб тых падзеях не загінула для нашчадкаў, каб яна была пачута і «лесам і падлескам маладым».

Такім чынам, «арганнае рэха» ў Куляшова — гэта голас паэта, які гаворыць не пра драбніцы быцця, а пра істотныя падзеі жыцця народа, яго этапныя беды і перамогі.

«Лясны арган» — гэта ён, народ, які ўслухоўваецца ў голас свайго песняра і якому паэт ў хвіліны душэўнага парыву спавядаецца ўсім сэнсам свайго жыцця.

Лясному рэху праўду раскажы... «Лясному рэху» — народу свайму ў яго няспынным аднаўленчым руху...

Гэтыя словы бацька хутчэй за ўсё адрасаваў сабе самому, выношваючы задуму паэмы «Варшаўскі шлях». Адрасаваў як запавет, нават загад, выканаць задуманае, расказаць народу праўду пра вялікага песняра Краіны Саветаў у той час, калі нават напамін пра Твардоўскага быў непажаданы. Таму, відаць, і была такой пакутлівай гісторыя публікацыі «Варшаўскага шляху», а захапленне чытачоў — такім шчырым.

*М.М. Марозаў,*
*Кочанева Новасібірскай вобласці,*
*12 красавіка 1974 г.*

Уважаемый Аркадий Александрович!

Примите от меня слова благодарности за поэму «Варшавский шлях». Она вышибла из меня слезу, она сдавила мне сердце: поэма о самом дорогом мне человеке. Когда не стало А. Твардовского, я записал, что декабрь меня дважды огорошил: в 1952 году отнял кровного отца, а в 1971 — духовного...

Вы абсолютно правы, написав: «нам было с кем беседовать, с кого брать совести пример...»

Строки всей поэмы Вам никогда не позабудутся! Честность и преданность проверяется не на словах, а в поступках. Своей поэмой Вы доказали, что были истинным другом А.Т.»

Усёй праўды пра лёс Твардоўскага бацька ў паэме «Варшаўскі шлях» не расказаў — такая праўда аказалася прывілеяй нашага часу

— але ён заявіў ёю аб сваім пакланенні перад памяццю вялікага грамадзяніна і паэта і ўнёс сваю лепту ў тое, каб не дазволіць пальну забыцця і няўвагі парасці на жыватворнай для народа паэтычнай дзялянцы.

## «ЗОРКА ЗОРЦЫ ГОЛАС ПАДАЕ...»

-----

Аркадзь Куляшоў вядомы не толькі як паэт, але і як перакладчык:

Я адзін выходжу на дарогу;
Ноч імглой ахутала яе;
Даль прыціхла, молячыся богу,
Зорка зорцы голас падае.

У нябёсах велічна і згодна!
У блакітным ззянні спіць зямля...
Што ж мне так і цяжка і маркотна?
Што са мной? Чаго шкадую я?

Не шкадую дзён, пражытых мною;
Лепшых мне не бачыць і не чуць;
Я шукаю волі і спакою!
Я б хацеў забыцца і заснуць!

Ды не так, як спяць пад крыжам людзі...
Я б жадаў такія ўбачыць сны,
Каб жыццё маё ўздымала грудзі,
Каб пацiху дыхалі яны.

Каб да слыху далятаў з пяшчотай
Спеў кахання і, пад гэты спеў,
Нада мной зялёнаю лістотай
Цёмны дуб схіляўся і шумеў.

Наўрад ці ёсць неабходнасць называць верш і яго аўтара. Шырока вядомы на мове арыгінала, ён і ў перакладзе на беларускую не страціў сваіх вартасцей і мог бы быць распазнаны нават тым, хто сёння ўпершыню пазнаёміўся з нашай мовай.

Куляшоў-перакладчык у розныя часы звяртаўся да вершаў Пушкіна, Лермантава, Тараса Шаўчэнкі, Катлярэўскага, Генры Лангфела, Сяргея Ясеніна, Міхаіла Ісакоўскага, Андрэя Малышкі, Леаніда Первамайскага, Кайсына Куліева і іншых.

Марыў бацька і аб працы над перакладам «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча. Ён доўга насіўся з гэтай думкай, чытаў і перачытваў паэму ў арыгінале, захапляючыся ёю, прымерваючыся...

Litwo! Ojczyzno moja! Ty jesteś jak zdrowie!

Ilę cię trzeba cenić, ten tylko się dowie,
Kto cię stracił...

Жыццёвыя акалічнасці пераікодзілі здзяйсненню гэтай мары. Але сама паэма ў скураной вокладцы юбілейнага выдання 1954 года заўсёды была сярод куіг, якія бацька ўсюды вазіў за сабой. Яна і зараз стаіць уа тым самым месцы этажэркі на Нарачы, куды ён паставіў яе ўласнай рукой.

Але вернемся да спіса. Пярэстасць імёнаў і моў міжволі — ці не праўда — выклікаюць пытанне: што падштурхоўвала перакладчыка да такога выбару?

Першая думка — што ён працаваў, відаць, па заказу.

Так сапраўды і было. Напачатку, калі Аркадзя Куляшова, тады яшчэ маладога паэта, папрасілі перакласці некалькі вершаў Лермантава для Беларускага дзяржаўнага выдавецтва.

Вось як сам ён расказвае пра гэта ў артыкуле «Тры сустрэчы з Лермантавым»:

«У пачатку 1940 года, да стагоддзя з дня смерці М.Ю. Лермантава, Беларускае дзяржаўнае выдавецтва распачало работу па выданні выбраных твораў паэта на беларускай мове. Прапапавалі і мне, тады яшчэ маладому паэту, прыняць удзел у цяжкай і пачэснай рабоце. І хаця да гэтага часу ў маім творчым актыве быў пераклад «Цыганаў» А.С. Пушкіна, прызнаюся, з пачуццём трапяткой нясмеласці сустрэў я гэтую прывабную і адказную прапанову. Калі ж я даведаўся, што паэмы Лермантава «Дэман» і «Мцыры», уключаныя ў аднатомнік, аддадзены для перакладу іншым паэтам, а мне прапануецца перакласці ўсе найбольш вядомыя вершы паэта, маё рашэнне завагалася, як шалі, на якія развага кідала то смелую рашучасць, то баязлівую няўпэўненасць.

Я думаў аб тым, што вершы Лермантава ўсе ведаюць на памяць з дзіцячых гадоў, што ўсе яны не падобныя адзін на другі, што кожны з іх — свой адметны эмацыянальны свет, у які кожны раз трэба будзе ўваходзіць спачатку. Затое колькі ў іх сапраўднага сур'ёзнага пачуцця, неспакою, вечна маладой прагі жыцця, якая гэта чыстая, магутная і творча ўзбагачаючая крыніца!.. Ад прапановы я не адмовіўся, але канчатковы адказ абяцаў даць праз месяц. А сам тут жа пачаў перакладаць, праўдзівей кажучы — спрабаваць сілы: ці атрымаецца? Гэта ж не жарты — мне трэба было, у пэўным сэнсе, прайсці ўвесь шлях паэта, хваляваацца яго хваляваннямі, жыць, думаць і перажываць так, як ён: гнеўна адгукацца на злачыннае забойства Пушкіна, пісаць гімн абаронцам Барадзіна, жыць

выгнаннікам на Каўказе, вяртацца адтуль і зноў ехаць з цяжкім прадчуваннем гібелі, напісаць прарочы верш аб ёй».

Бацька адважыўся на гэтую працу і зрабіў яе добра, але пераклады загінулі ў вайну. Загінулі для чытача, але не для перакладчыка. «І тут справа, вядома, не толькі ў рытме «Сцяга брыгады», справа ў тым, што творчая блізкасць з магутнай і чыстай крыніцай паэзіі Лермантава зрабіла плённы, працяглы ўплыў на мяне,— напіша потым бацька.— Гэтая творча-духоўная сувязь адкрыла мне вочы на многае, надала ўпэўненасці ва ўласных сілах і шмат у чым вызначыла далейшы кірунак маёй паэтычнай работы».

Муза Лермантава, якая на пачатку жыцця Куляшова абудзіла ў ім паэта, з гэтага часу быццам бы вяла яго пуцявінамі творчасці. Такі заканамерны для лёсу паэта выпадак даў яму вельмі многа. У паэзіі Лермантава бацька знайшоў неабходны для яго працы клімат, атмасферу творчага гарэння. Так на ўласным вопыце адкрыўся маладому паэту сэнс культурнай традыцыі. Куляшову пашчасціла ў тым, што гэтае разуменне прыйшло да яго на пачатку творчага шляху і змагло жывіць яго паэзію на працягу доўгіх гадоў.

У 1940 годзе Аркадзь Куляшоў стаў вядомы рускаму чытачу па зборніку «Дуброва», які быў адзначаны ўсесаюзнай крытыкай, але самога аўтара ўжо не задавальняў, бо напісанае здавалася яму «занадта святочным і заспакоеным». «Нібыта і знойдзены свой ключ,— тлумачыць бацька сваё адчуванне,— але не да ўсіх дзвярэй ён падыходзіць. Ці так ужо добра, раскавана і святочна цячэ наша жыццё? А гэтыя хмары на захадзе? Ці не нясуць яны блізкую буру? Пісаць так, як пісалася паўгода, год назад, ужо не хочацца, а новае яшчэ не выспела».

Часцей за ўсё ў такія хвіліны шукаў Куляшоў сустрэч з іншай паэтычнай музай і браўся за пераклад таго, што здавалася яму таленавітым і ляжала ў рэчышчы яго ўласных творчых пошукаў.

«Я быццам бы ўпершыню адкрываў для сябе паэта,— піша бацька ва ўжо цытаваным артыкуле пра Лермантава.— Вось дзе ўсё поўна бур, трывог. А якая прага жыцця ў кожным слове, як усё па-новаму хвалюе і як выразна, надзённа гучаць у шмат якіх радках трагічныя пытанні даўно мінулых дзён:

Ніхто з сяброў не крочыў за труной...
Мір сэрцу мужнаму, мой любы Саша!
Укрытае чужых палёў зямлёй,
Хай нема спіць яно, як дружба наша
У магільніку памяці маёй».

У гэты перыяд бацька ішоў ужо па жыцці адзін. Жорсткія часы вырвалі з паэтычнага трыумвірату, Астапенка — Таўбін — Куляшоў, дваіх. Ці не таму з такім разуменнем падыходзіў ён да вобраза «могільніка памяці», дзе «спіць дружба»? І ці не гэты лермантаўскі вобраз — тое зерне, якое праз два дзесяцігоддзі прарасце ў паэзіі Аркадзя Куляшова вобразамі цыкла «Маналог»?

Адзіным дрэвам дружбы мы раслі.
З трох два сукі сякера смерці ссекла.
Не трапілі яны ні ў рай, ні ў пекла,
Працяг іх існавання на зямлі.

Дагэтуль іх, нібы руку — бязрукі,
Нагу — бязногі, адчувае ствол,
Жывая верхавіна помніць мукі,
Рукой гвалтоўнай кінутых на дол.

Асуджаныя лёсам на знішчэнне,
Яны не падуладны сілам зла:
Карэнні ў дрэва ёсць апроч ствала,
Апроч карэнняў прагных ёсць насенне.

Праходзячы кругазваротны шлях,
Яно і іх вяртае ў схоў глыбокі,
Адкуль для новых дрэў карэнне сокі
Бярэ, зямлю трымаючы ў руках.

У артыкуле «Работа над перакладам «Яўгенія Анегіна» Куляшоў дазваляе нам зазірнуць у майстэрню паэта-перакладчыка. Ён расказвае, што рукапіс яго першага перакладу гэтай паэмы, праца над якой была скончана перад самай вайной, загінуў у яе полымі, а спробы аднавіць яго на падставе надрукаванага да вайны ў часопісе «Полымя» аказаліся марнымі.

Але, як сцвярджае Куляшоў, «мінулы вопыт не прапаў дарэмна, ён выпрацаваў патрэбны навык, падыход». «Перакладаючы нанова «Яўгенія Анегіна»,— піша ён далей,— я ўжо не баяўся ў такой меры, як раней, пушкінскага тэксту, не баяўся адступленняў ад літары, мяне радавала і натхняла, калі раптам радкі, якія даўно лічацца хрэстаматыйнымі, гэтак жа ці амаль гэтак жа проста і эмацыянальна пачыналі гучаць па-беларуску.

У новым перакладзе я смялей ішоў на ажыццяўленне пастаўленай перад сабой задачы — творчага, а не парадковага прачытання і

пераўвасаблення пушкінскіх строф, памятаючы словы аўтара «Яўгенія Анегіна» аб тым, што парадковы пераклад ніколі не можа быць правільным. Даводзілася пераадольваць і яшчэ адну, спецыфічную, цяжкасць: заманлівую блізкасць рускай і беларускай моў. Блізкасць гэта ў асобных выпадках, амаль дакладна перадаючы сэнс, часта пераходзіла ў сваю супрацьлегласць, гэта значыць рабіла такі даслоўны пераклад непаэтычным. У час работы над перакладам мне даваліся і вусна і ў друку парады па магчымасці прытрымлівацца дaслоўнасці, імкнуцца захаваць сэнс кожнага слова. Вось адна з такіх парад, выказаная ў той час у рэспубліканскай газеце: «Мы ў перакладах яго («Яўгенія Анегіна») на мовы народаў Савецкага Саюза павінны дакладна і з любоўю перадаць сэнс кожнага пушкінскага верша і кожнага яго слова». Гэтая думка аўтарам артыкула падкрэслівалася некалькі разоў, і на ёй варта спыніцца, бо ад правільнага вырашэння яе залежыць поспех альбо няўдача перакладу. Сапраўды, перакладчык павінен імкнуцца па магчымасці дакладна і з любоўю аднавіць на іншай мове сэнс кожнага верша і кожнага слова. Бываюць шчаслівыя выпадкі амаль дакладнага супадзення. Такая ўдача выклікае найбольшае задавальненне і паэта-перакладчыка, і, трэба думаць, чытача. Але пераклад — справа творчая. Паэт, які бярэцца за яе з намерам захаваць сэнс кожнага слова, хутка пераконваецца, што ён выправіўся ў дарогу, дзе нечаканасці і небяспекі падпільноўваюць на кожным кроку. Перад ім узнікне безліч пытанняў. Самае элементарнае з іх: што рабіць, калі дакладна перакладзенае слова пярэчыць сэнсу арыгінала, прыходзіць з ім у неадпаведнасць?

Яшчэ ў 1936 годзе, перакладаючы «Цыганаў», я сустрэўся з месцам, дзе Пушкін параўноўвае красуню з «луной». Як быць? Параўнаць красуню з месяцам немагчыма таму, што месяц можа пакрыўдзіцца: ён усё ж такі асоба мужчынскага роду. Давялося, насуперак самому Пушкіну, тэрмінова паклікаць на дапамогу «зорку» і адначасова змяніць усе словы і параўнанні, якія характарызуюць асаблівасці «луны», замяніўшы іх словамі і параўнаннямі, характэрнымі ў такім выпадку для зоркі.

Асаблівасці моў,— гаворыць далей Куляшоў,— рознае ў розных мовах гукавое адценне і эмацыянальная афарбоўка аднаго і таго ж слова маюць першаступеннае значэнне пры рашэнні той ці іншай канкрэтнай задачы. Як, скажам, перакласці з найменшымі стратамі такія агульнавядомыя крылатыя пушкінскія радкі?

Москва... как много в этом звуке

Для сердца русского слилось!
Как много в нем отозвалось!

Была спакуса як мага дакладней захаваць першы радок. Выпісаны магчымыя яго варыянты:

Масква... Як многа ў гэтым гуку...
Масква... Як многа ў гуку гэтым...
Масква... Як шмат у гэтым гуку...
Масква... Як шмат у гуку гэтым...

Хоць усё дакладна і правільна, але не цяжка зразумець, што ва ўсіх варыянтах траціцца паэтычнасць пушкінскага радка. Замаруджаны рытм нагадвае грукат колаў па глыбокіх каляінах нялёгкай дарогі. Перашкаджае цяжкае на слых спалучэнне слоў «у гэтым гуку», якое ў арыгінале ўспрымаецца як музыка — лёгка і раскавана. Чым замяніць няўдалае спалучэнне? Зрабіць у «назве гэтай» — гучыць казённа і не ўрачыста, «у гэтым клічы» — не зусім дарэчы. Чакайце, а хіба вымаўленае ўслых і пачутае сэрцам слова Масква, не выклікча ў чытача тых жа гукавых асацыяцый, якімі багаты падтэкст арыгінала? З далейшага пошуку і нарадзілася іншае, больш паэтычнае рашэнне:

Масква... як многа ў слове гэтым
Для сэрца рускага чутно!
Як многа будзіць дум яно!

Ці мае права перакладчык на такія, а часам і больш смелыя адхіленні? Бясспрэчна. І ў імя любові і павагі да арыгінала. «Блізкасць да арыгінала, чытаем мы ў Бялінскага, у тым, каб передаць не літару, а дух твора; Кожная мова мае свае, што належаць ёй адной, сродкі, асаблівасці і ўласцівасці да такой ступені, што, для таго каб перадаць правільна які-небудзь вобраз альбо фразу, у перакладзе часам іх неабходна зусім змяніць. Адпаведны вобраз гэтак жа, як адпаведная фраза, знаходзяцца не заўсёды ў відавочнай адпаведнасці слоў: трэба, каб унутранае жыццё перакладнага адлюстравання адпавядала ўнутранаму жыццю арыгінальнага...»

Справа мастацкага перакладу была для Куляшова, апрача ўсяго, і пытаннем ступені творчай блізкасці, а сябры-паэты — сябрамі яго музы, як сам ён некалі сказаў пра Малышку, прыводзячы ў якасці доказу наступныя радкі ўкраінскага паэта ва ўласным перакладзе:

Я іх думамі жыў,
і сябры маіх дум не міналі,

Я з крыніцы іх піў,
і яны да маёй прыпадалі.

Для Аркадзя Куляшова, для якога стан творчага пошуку быў звычайным станам яго свядомасці і толькі змяняў кірунак, праца над перакладам была не рамяством, а сатворчасцю, сэнс якой паэт выказаў у вершы «Пастух»:

Нехта крывіцца, быццам не рады,
Што я вершаў даўно не пішу.
Мне і твораў чужых пераклады
Саграваюць работай душу.

Калі думкі не ладзяць з радкамі,
Ці не лепш, чым гібець ад тугі,
Чым зайздросціць другім і лакцямі
Іх расштурхваць,—
пайсці ў пастухі?

Як належыць, у зрэбную кайстру
Хлеба чорны акраец кладу,
Лясну пугай, даверанай майстру,
І ганю на папас чараду.

Днём хаджу па лугах ды па стромах,
Што акрэслены плошчай стала,
Ноччу, пэўна, хадзіў бы, каб стома,
Разам з кайстрай, дазволіць магла.

І з надзеяй, яшчэ невыразнай,
Прыхаванай у сэрцы маім,
Дагаджаю я музай уласнай
Строгім музам, вядомым усім.

Рады я, калі думка чужая,
Стаўшы словам жывым пад пяром,
Раптам думку маю абуджае,
Што, забытая, спіць пад кустом.

Я тады падбіваю рахункі
Дням і тыдням, пачуўшы здалёк,
Як на голас абуджанай думкі

Адгукаецца першы радок.

І шчаслівы, не верачы цуду,
Строгім музам кажу я тады:
Большай платы не бару і не буду
Браць з дагледжанай мной чарады.

Дзякуй, лес мой, і луг мой зялёны,
І агонь, што на ім не пастух,
Дзякуй! Скончыўся тэрмін сезонны...
Спаганяй свае гарцы, пастух!

У той перыяд, калі асобныя раздзелы кнігі з'яўляліся ў перыядычным друку, некаторыя з маіх рэдактараў часам выказваліся супраць таго, каб вершы бацькі цытаваліся ў іх цалкам. Я, можа, і згаджуся з гэтым меркаваннем, калі вы, дарагі чытач, прызнаеце, што тое, з чым мы маем справу і ў выпадку з вершам «Пастух», можна лічыць простым цытаваннем.

Я ж гляджу на гэта інакш. Згаджаючыся з думкай, што біяграфія паэта ў яго вершах, я шукаю разам з вамі той жыццёвы, літаратурны і грамадскі кантэкст, які дазволіць як мага дакладней прачытаць у вершах Аркадзя Куляшова біяграфію яго душы, духоўную біяграфію першага пакалення будаўнікоў новага грамадства. А верш – гэта шчаслівая магчымасць даць слова таму, хто, на жаль, можа прымаць удзел у нашай размове аб ім і яго часе ўжо толькі так, апасродкавана.

Вяртаючыся да тэмы нашай гаворкі, хачу дадаць, што сустрэчы з сапраўднай паэзіяй, якія былі для бацькі неабходнасцю, бо стваралі патрэбныя для паспяховага працякання творчага працэсу ўмовы, выліваліся ў яго не толькі ў пераклады.

Так, напрыклад, Шэкспіра бацька не перакладаў, але захапляўся яго творамі, чытаў іх і перачытваў напярэдадні працы над зборнікам вершаў «Новая кніга», этапным у творчай біяграфіі беларускага паэта.

Сваю цягу да Шэкспіра Аркадзь Куляшоў тлумачыць у артыкуле «Трагедыя Адама Крэйзі», прысвечаным паэме Давіда Кугульцінава «Бунт розуму».

«У рускага паэта М. Ушакова,— гаворыць ён у гэтым артыкуле,— ёсць цудоўны верш пра ластаўку. Паэт быццам між іншым, мімаходам закранае ў ім цікавую і істотную з'яву — усё больш узрастаючую сувязь сучаснай паэзіі з творчасцю Шэкспіра.

Полетела ласточка к Шекспиру,

Жду, когда вернется от него.

У многіх вершах і паэмах, што напісаны за апошняе дзесяцігоддзе, выразна можна адчуць гэтую сувязь з той, паляцеўшай да Шэкспіра ластаўкай. Выклікана гэта, вядома ж, не адважным намерам паэтаў пацягацца ў адзінаборстве з непераўзыдзенымі творцамі, а патрабаваннем часу.

Надзелены, па выразу Бялінскага, «светаабдымным розумам», Шэкспір з'явіўся перад наглым векам у новай якасці. Мы раптам адкрылі ў ім сябе, убачылі ў яго трагедыях і санетах нешта такое, што было недасягальна для вякоў мінулых. Трагедыю Рамэо і Джульеты, караля Ліра, Гамлета, пераступіўшы сямейныя парогі, выявілі, як ніколі раней, свой сапраўдны, глабальны маштаб і сэнс. Злачынствы герояў Шэкспіра не памешыліся перад злачынствамі ў Асвенцымах і Бухенвальдах, у Хірасіме і Нагасакі, а толькі паказалі нам іх нечасовую злавесную сутнасць. Адкрыты Шэкспірам свет моцных чалавечых пачуццяў, здольных, у крайнім іх праяўленні, як на высакародныя ўчынкі, так і на ганебнае чорнае зло, зліўся ў нашым уяўленні з найвялікшымі дасягненнямі сучаснай навукі — адкрыццём атамнай энергіі. Свет непакоіць неадчэпная думка аб новым Яга, які кіруе палётам ракеты, начыненай тэрмаядзернай смерцю».

Эвалюцыя светаадчування, разбурэнне старога ўяўлення пра свет даюцца чалавеку цяжка, калі ён увогуле належыць да ліку тых, што могуць развівацца разам з часам. Калі ж ён усё-такі здольны да гэтага, яму, відаць, цяжка (а можа, нават і немагчыма?) заставацца ў гэтым руху самотным. І чалавек шукае спадарожнікаў. Побач і ў часе.

Пачатак шасцідзесятых гадоў знамянальны для творчасці Аркадзя Куляшова рыўком у светаадчуванні, падрыхтаваным новым часам і яго адбіццём у свядомасці і творчасці паэта, якія ўжо асвоілі космас як частку жыццёвай прасторы чалавека. Новае светаадчуванне падштурхоўвала Куляшова да пошукаў аналагаў у гісторыі чалавечай думкі.

Адсюль яго цяга да «светаабдымнага розуму» Шэкспіра. Цяпер ужо ён — павадыр Куляшова па шляхах засваення новых гарызонтаў думкі.

Не старадаўні бард, але ўсё роўна
Якогасць барда праўнук альбо ўнук,
Я доляю сваёю з ім не роўны:
Мне ў рукі лёс не шпагу даў, не лук,

А ўсю Зямлю, з арэнай — Млечным Шляхам.

Качу яе, падобную на мяч,
Ахопленую вадародным жахам,
Як хворую, загортваю ў кумач,
Сачу, каб не скрануў яе з арбіты
Заакіянскі ядавіты грыб.

Галактыкі, як сведкі і арбітры,
Дарма з трыбун высокіх і сядзіб
Глядзяць на паядынак мой вячысты,
Як на даўно для іх знаёмы жарт.
Мяч круглы, як гавораць футбалісты,—
Яшчэ пабачым мы, чаго ён варт!

(«Не старадаўні бард, але...», 1962)

Невыпадкова, што сярод усіх выказванняў пра паэзію Куляшоў аддаваў перавагу вызначэнню В. Бялінскага: «Паэзія — гэта біццё пульсу сусветнага жыцця, гэта яго кроў, яго полымя, яго святло і сонца».

## СВЯТА ПАЭЗІІ

-----

Неяк у маі 1977 года я зазірнула да бацькоў. Бацьку я застала ў кабінеце. Ён напаўляжаў на сваёй улюбёнай канапе і ў задуменні круціў у руках нейкую паперыну. Бацькаў твар выражаў смутак.

— Паглядзі, куды мяне запрашаюць — сказаў ён, працягваючы тэлеграму-запрашэнне прыехаць на пушкінскае свята паэзіі, якое павінна было адбыцца 4-5 чэрвеня ў Міхайлаўскім.

— Гэта ж цудоўна! — адказала я.

— Безумоўна, але ж мне такая вайдроўка не па сіле...

— Ты там калі-небудзь бываў?

— Ніколі, але мне заўсёды вельмі хацелася пабачыць Міхайлаўскае, наведаць Пушкіна...

— Чаму б нам тады не паехаць разам? Табе, мне і Валерыю?

Разам — значыла на машыне, якая ўжо некалькі гадоў была адзіным даступным бацьку (апрача прамога цягніка Мінск — Масква) сродкам транснарту.

— Пушкін? — умяшалася ў размову малая Вольга і, крыху падумаўшы, дадала:— Гэта вялікае імя...

Бацька паглядзеў на мяне і ўсміхнуўся.

У Міхайлаўскім ён сустрэўся з сябрамі — Міхаілам Дудзіным і Давідам Кугульцінавым.

XI Усесаюзнае пушкінскае свята паэзіі было знамянальнае тым, што ў 1977 годзе музей-запаведнік уключыў яшчэ адзін аб'ект — Пятроўскае, маёнтак дзеда Аляксандра Сяргеевіча.

Памятаю, як ішлі ў Пятроўскае на ўрачыстасць адкрыцця ўдзельнікі свята. Быў сонечны вясновы дзень. Бацьку даганяў Дудзін. Ён быў надзвычай элегантны: на каўнер шэрага пінжака лёг каўнерык кашулі нейкага неверагодна апельсінавага колеру, што, як гэта ні дзіўна, было яму вельмі да твару. Зграбны Міхаіл Аляксандравіч ішоў лёгка, намахваючы самаробным кійком. Нарэшце Дудзін параўняўся з бацькам, які рухаўся паволі. Яны павіталіся, і Дудзін шырокім жэстам, аздобленым дасцінным жартам, уручыў Куляшову кіёк уласнай работы.

— Я б аддаў перавагу такому прэзенту,— сказаў бацька, дакранаючыся да новага медаля Героя Сацыялістычнай Працы, які ззяў на лацкане дудзінскага пінжака.

Мне неаднойчы даводзілася чуць меркаванні, што Куляшоў, відаць, быў абыякавы да ўшанаванняў і ўзнагарод. Думка слушная толькі ў

тым сэнсе, што бацька не змагаўся за ўсё гэта і тым болей не імкнуўся атрымліваць тое, чаго не заслужыў.

Помніцца, як вельмі даўно, яшчэ ў пару нашага жыцця на Беларускай, а гэта значыць паміж сорак чацвёртым і сорак восьмым, яму прапанавалі аформіць дакументы, каб балаціравацца ў членкоры Акадэміі навук БССР. Куляшоў адмовіўся падаваць дакументы, сказаўшы, што ён не вучоны, а паэт.

Не імкнучыся да званняў і ўзнагарод, бацька, аднак, ведаў сабе цану як паэту і лічыў, што заслужыў і званне лаўрэата Ленінскай прэміі і Героя Сацыялістычнай Працы, чым і тлумачыцца бацькаў нязграбны, на першы погляд, жарт з зоркай на пінжаку М. Дудзіна. Справа ў тым, што і Дудзін і іншыя бацькавы сябры ад вялікай літаратуры падзялялі яго думку. Ускосна аб гэтым сведчыць і ліст Марыі Іларыёнаўны Твардоўскай ад 20 лістапада 1974 года, у якім яна піша: «Хотела тут собраться написать «внеочередное» письмо в связи с большим литературным праздником — созданием батальона Героев Соцтруда. И тоже не собралась. Знаю, помню, что видели Вы войну всерьёз, случалось, наверно, переживать и горшее и решила, что и этот, как выражались герои Чехова, «финик» Вы проглотите, не выражая мнения о его вкусе».

Гаворачы слова ля магілы Пушкіна ў Святагорскім манастыры, бацька вельмі хваляваўся, а на пасмяротную маску вялікага паэта глядзеў так, быццам абмацваў позіркам яго твар. Я заўважыла тады, што ён нечым глыбока ўражаны, і зразумела, што бацька ўпершыню думае пра смерць Пушкіна, як пра нешта, што мела месца і як факт чалавечага жыцця.

У першы ж дзень нашага знаходжання ў Міхайлаўскім мы, накіроўваючыся некуды, перасякалі Пушкінскую паляну, рухаючыся адзін за адным па вузкай сцяжынцы. Раптам чалавек, які ішоў наперадзе, азірнуўся і сказаў:

— Я ўспомніў! Нас знаёміў Іван Паўноўскі...

Я зразумела, што перада мной — балгарскі паэт Грыгор Ленкаў. Я яго таксама пазнала, успомніўшы, што ў 1967 годзе нас сапраўды пазнаёміў пісьменнік Іван Паўноўскі, лепшы сябра Хрысты.

Завязалася размова, якая адразу ж пацякла ў рэчышчы нефармальных адносін.

Мы гаварылі пра тое, што ў гэты момант найбольш хвалявала абаіх — цяжкасці сумяшчэння творчай працы са штатнай, пра тое, як руйнуе падобнае сумяшчэнне псіхіку чалавека.

Каб пацвердзіць нашыя тэарэтычныя высновы практыкай жыцця, я нават расказала Грыгору пра здарэнне, якое адбылося напярэдадні нашага ад'езду ў Міхайлаўскае.

Раскажу пра яго і зараз, таму што той выпадак можа пацвердзіць думку, якая цяжка паддаецца ілюстраванню фактамі.

Працуючы тады на тэлебачанні, я выпускала штомесячны тэлечасопіс «Літаратурная Беларусь».

Мая ж сям'я складалася апрача мужа з маленькай дачкі і падлетка-сына. Другіх жаночых рук у нашым доме не было.

У тую пятніцу — пярэдадзень выхадных — я прыйшла дадому занятай. Да панядзелка, калі трэба было запісваць чарговы выпуск «Літаратурнай Беларусі», неабходна было падрыхтаваць яшчэ два сюжэты — якраз палову перадачы.

Справа ў тым, што тэлечасопіс, які складаўся тады з чатырох сюжэтаў, па маёй міласці — ці неабдуманасці — стаў выходзіць у эфір рэгулярна раз на месяц. Перш чым трапіць у мае рукі, «Літаратурная Беларусь» з'яўлялася на экране з інтэрвалам да чатырох месяцаў, у чым, зрэшты, была вялікая доля аб'ектыўнасці, таму што літаратурнае жыццё таго часу не заўсёды давала матэрыял для штомесячнага тэлечасопіса з такой колькасцю сюжэтаў. Акрамя таго, штомесячны тэлечасопіс — перадача непазбежна аператыўная. З прыходам «газетнага» кіраўніцтва быў уведзены ў практыку тэлебачання пяці-сямітыднёвы задзел. На практыцы гэта азначала, што адначасова прыходзілася рыхтаваць чатыры сапраўдныя і чатыры ліпавыя сюжэты.

Невыпадкова са зменай рэдактара гэтая перадача эвалюцыя-ніравала ў напрамку рэальнасці — стала аднасюжэтнай і амаль выключна размоўнай (зніклі самастойныя кіна- і фотасюжэты).

Але вернемся да той пятніцы. У суботу і нядзелю я, як кожная нармальная жанчына, займалася працай па гаспадарцы: варыла, прыбірала, гуляла з дзіцем.

І вось, нарэшце, набліжаецца канец выхадных. Усе павячэралі, і я пачынаю купаць дачку перад тым, як пакласці яе спаць.

Раптам у дзверы ваннай стукаюць. Адчыніўшы іх, я бачу на парозе маці. Яна прыйшла з суседняй кватэры, бо, калі вы памятаеце пачатак гэтай кнігі, я жыла з бацькам на адной пляцоўцы.

— Ці ёсць у цябе шаршатка? — спыталася маці.

Мая рэакцыя збянтэжыла ўсіх. Узняўшы ўгару рукі, як персанаж грэчаскай трагедыі, я выгукнула чамусьці фальцэтам:

— Якая там яшчэ шаршатка?!

І, як на кінастужцы, знятай рапідам,— значыць, у замаруджаным тэмпе, даглядзела канец: маці, напалоханая маёй нечаканай рэакцыяй, кідаецца да дзвярэй, а за ёю бяжыць Валерый, і я чую, як, зачыняючы за сабой дзверы, ён скардзіцца маці:

— Бачыце, якой яна ў нас зрабілася?!

Апопшяя фраза вярнула мяне да рэчаіснасці. Купаючы далей дачку, я разважала над прычынамі свайго выбуху і зразумела, што ў той час, калі блізкія бачылі мяне за гаспадарчай працай, што павінна было сведчыць аб тым, што я — вольная ад службовых абавязкаў, я на самой справе паралельна выконвала сваё працоўнае заданне, увесь час раздвойваючыся ў думках. Так, за суботу, напрыклад, я прыдумала, чаму прысвяціць тыя два сюжэты, а ў нядзелю думала ўжо над тым, як іх пабудаваць.

Калі ж падышоў час апошняй хатняй аперацыі — купання дачкі,— мая псіхіка пачала, відаць «перастаўляцца на адну каляю», рыхтуючыся да моманту, калі я, паклаўшы дачку, змагу сесці за пісьмовы стол і рабіць толькі адну, галоўную, справу — пісаць ужо вынашаны сцэнарый.

Але якраз у гэты момант, момант «перабудовы», і з'явілася на парозе мая маці з новым жыццёвым пытаннем. І мая псіхіка дала натуральную ахоўную рэакцыю. Усвядоміўшы, у чым прычыны маёй выбуховасці, я зразумела, чаму нам усё жыццё здавалася, што бацька часам ускіпае без дай прычыны.

Ленкаў добра ведаў гэты стан (апрача працы над перакладам, ён выконваў абавязкі рэдактара ў адным з сафійскіх выдавецтваў і... будаваў уласны дом) і паабяцаў, вярнуўшыся дадому, пайсці са штатнай работы на творчую.

Я тады ж пазнаёміла яго з бацькам, мужам і Кугульцінавым, і ў нашай машыне з'явіўся яшчэ адзін пасажыр. Справа ў тым, што стан бацькавага здароўя не дазваляў яму доўга хадзіць, і ўсе адлегласці паміж Міхайлаўскім, Пятроўскім і Трыгорскім мы пераадольвалі на машыне.

Грыгор Ленкаў зрабіў на ўсіх нас вялікае ўражанне. Калі мы, развітаўшыся з ім, узялі курс на Нарач, бацька сказаў: — Дзякуй табе, Валя! Ты пазнаёміла мяне з яшчэ адным цудоўным чалавекам...

Ленкаў зрабіў бліскучы пераклад «Яўгенія Анегіна» на балгарскую мову. На канферэнцыі пушкіністаў у Міхайлаўскім перакладчык расказаў пра сваю працу. Па-першае, ён перакладаў пушкінскі шэдэўр восем гадоў, на працягу трох з іх асвойваў паэму інфармацыйна. Калі ж гэты этап быў пройдзены, Ленкаў пачаў перакладаць паэму па страфе, якую спачатку завучваў і насіў у

памяці да таго часу, пакуль яна не пачынала гучаць у яго свядомасці на балгарскай мове. Такі метад перакладу падказаў Ленкаву Паўноўскі, які ведаў, што так працаваў над перакладам «Сцяга брыгады» Куляшова Хрыста Бербераў.

І апошняе, што я зразумела, слухаючы выступленне Грыгора Ленкава. Мне тады стала ясна, што сваім перакладчыцкім поспехам ён абавязаны не толькі свайму паэтычнаму майстэрству, але і таму псіхалагічнаму феномену, прыкладам якога стаў для мяне ён сам.

Гаворачы з намі, сваімі слухачамі, Ленкаў, відаць, не ведаў, што ў падтэксце гучыць яшчэ адно апавяданне пра тое, як ён ламаў свой псіхалагічны стэрэатып, спрабуючы дацягнуцца да светаадчування Пушкіна. Задача цяжкая, асабліва для Ленкава, селяніна па паходжанні і да таго ж чалавека іншай нацыянальнай прыналежнасці і культуры. Надзвычай таленавіты чалавек, ён здолеў, аднак, узняцца на гэтую вышыню, заклаўшы такім чынам і фундамент будучай асабістай трагедыі.

З Міхайлаўскага мы паехалі, перапоўненыя ўражаннямі, натхнёнымі і... звышранімымі.

Калі мы развітваліся з Ленкавым, якога нам так і не ўдалося ўгаварыць адразу ж ехаць з намі на Нарач, бо ў Ленінградзе яго чакала сустрэча з сям'ёй, Грыгор паабяцаў зазірнуць да нас па дарозе ў Ерэван, куды яны збіраліся ехаць пасля Ленінграда. Ён навінен быў патэлефанаваць 9 чэрвеня, але не пазваніў. Не дачакаўшыся вестак пра прыезд Ленкава, мы пачалі ўжо забывацца пра дамоўленасць.

Тым часам бацька з Валерыем ужо з'ездзіў у Саматэвічы (10-17 чэрвеня), пасля чаго мы праводзілі яго ў Маскву на з'езд Саюза пісьменнікаў СССР. Пасля 20 чэрвеня, 22-га ці 23-га, мы сустракалі бацьку на вакзале, а праз гадзіну ўжо везлі на Нарач.

Ехалі, як заўсёды, моўчкі. Раптам бацька парушыў маўчанне. Спачатку ён расказаў, што адзін з нашых сяброў па Міхайлаўскім пасля святаў цяжка захварэў, але, дзякуй богу, ужо здаровы. Потым, крыху памаўчаўшы, павярнуўся да мяне і, хаваючы вочы, паведаміў:

— І сябра нашага больш няма...

— Якога сябра?

— Грыгора...

— Што ты, бацька, гаворыш?! Ён жа зусім малады...

— Аднак гэта праўда... — амаль прашаптаў бацька, адварочваючыся.

Праз некалькі дзён на Нарачы ён расказаў мне, спасылаючыся на Дудзіна, што па прыездзе ў Ленінград Грыгор кінуўся з разбегу ўніз

галавой з акна свайго нумара ў гасцініцы «Октябрьская» пасля таго, як жонка чамусьці выклікала да яго «хуткую дапамогу».

З гэтага я зразумела, што нешта павінна было вывесці Ленкава з раўнавагі, бо так не канчаюць жыццё самагубцы, так можа зрабіць у стане афекту выбіты з каляі чалавек...

Але што б мы ні думалі і ні гаварылі зараз, па вялікаму рахунку гэта была расплата за доўгую сувязь з Пушкіным — вяршыняй чалавечага духу.

Вайна ягоны век укараціла?..
Хвароба?.. Не!
Не падуладна ім
Любоў да працы прагнай, што спаліла
Звышчалавечым высілкам сваім
Яго жыццё, нібы маланка — лес...

Пра паездку ў Міхайлаўскае я расказала так падрабязна таму, што якраз там, мне здаецца, упершыню прыйшла да бацькі думка пра канчатковасць чалавечага існавання.

# АДГУКНІСЯ, ВЯСНА!..

-----

У жніўні 1980 года пасля чатырохгадовага перапынку я зноў наведала бацькаву радзіму — на гэты раз у складзе здымачнай групы як аўтар тэлеперадачы «Кожны мае свой бор», прысвечанай Куляшову. Здымачная група пабывала і ў Касцюковіцкім краязнаўчым музеі, дзе мы пазнаёміліся з яго дырэктарам Уладзімірам Раманавічам Ламінскім.

Паказаўшы нам дыяраму сядзібы і дома, у якім нарадзіўся мой бацька, Ламінскі расказаў, што ў чэрвені 1977 года, у свой апошні прыезд на радзіму, Аркадзь Аляксандравіч упершыню пабываў у гэтым музеі і намаляваў Уладзіміру Раманавічу дэталёвы план хаты свайго маленства.

Мне гэтае паведамленне не было ў навіну. Частка дома, у якім нарадзіўся бацька, зберагласся, бацька ведаў пра гэта, і ў апошнія гады жыцця неаднойчы загаворваў аб тым, што хацеў бы бачыць родную хату адбудаванай у першапачатковым выглядзе.

Ламінскі расказаў таксама, што тады, у 1977 годзе, Аркадзь Аляксандравіч запрасіў яго з'ездзіць разам у Саматэвічы. Там, паказаўшы яму старую ліпавую алею, бацька папрасіў зберагчы яе.

Выконваючы гэты наказ паэта, Уладзімір Раманавіч доўга змагаўся за алею, але яе ўсё-такі знішчылі, калі пашыралі дарогу.

Пачуўшы гэты расказ Ламінскага, я раптам зразумела, чаму бацька, які заўсёды ўпрошваў мяне ехаць з ім на радзіму, упрошваў нават тады, калі ведаў, што я не магу паехаць, тым жа разам, летам 1977-га, зрабіў усё, каб у гэтай паездцы мяне не было побач з ім. Няйначай, у час той паездкі ён развітваўся з роднымі мясцінамі і не хацеў, каб я здагадалася пра гэта.

І варта было прабегчы гэтай думцы, як я прыгадала і іншыя факты, якія бянтэжылі нас у свой час, а цяпер высвеціліся інакш і гаварылі зноў жа пра тое, што бацька нібы і праўда прадчуваў нядобрае.

Валерый, які вазіў тады бацьку ў Саматэвічы, пацвердзіў пасля гэтую маю здагадку. Ад яго, як ад урача, бацька не хаваў свайго прадчування. Гэта — па-першае. А па-другое, муж расказаў мне пра дзіўнае, трохі смешнае здарэнне, якое адбылося з імі ў час той паездкі.

Здарэнне гэтае выглядае асабліва дзіўным, калі ўспомніць, што бацька меў выключную памяць на дарогі, па якіх ездзіў. Досыць было яму праехаць дзесьці хоць аднойчы, каб запомніць не толькі назвы

ўсіх населеных пунктаў у іх паслядоўнасці, але і ўсе калдобіны і яміны. З калдобінамі, «гармонікамі» на шашы, як ён іх называў, у яго быў звязаны нават пэўны рытуал. Каб меней курыць, бацька, сядаючы ў машыну, даваў сабе «зарок», што будзе закурваць толькі на «гармоніках», колькасць і месцазнаходжанне якіх на дарозе ён ведаў і набліжэння якіх чакаў з нецярпеннем. Па дарозе на Нарач, напрыклад, каля (да ці пасля — не памятаю) вёскі Талуць, ён заўсёды казаў:

— Асцярожней, Валерый, скінь газ — пад'язджаем да «гармоніка», так што я магу і закурыць...

Тым не меней тады, вяртаючыся з Бесядзі дадому, едучы па дарозе на Касцюковічы, бацька з Валерыем нечакана заблудзіліся. Знаёмая дарога не вымагала асаблівай пільнасці, і яны ехалі, гамонячы між сабою, пакуль не спахапіліся, што заехалі кудысьці не туды.

Яшчэ не верачы ў магчымасць такой недарэчнасці, яны, пасміхаючыся адзін з аднаго, пачалі шукаць дарогу, час ад часу спыняючыся і азіраючыся. Як на бяду, неяк раптоўна сцямнела, а на дарозе — ні душы! Вырашылі ехаць уперад — павінна ж дарога кудынебудзь прывесці!

Нарэшце, недзе каля гадзіны ночы, наперадзе замігцелі рэдкія агеньчыкі нейкай вёскі. Спыніліся ля першай хаты і пастукалі ў акно. На іхні стук на ганак выйшаў чалавек. Яны з нецярплівасцю запыталіся, што гэта за вёска. І якое ж было здзіўленне, калі ў адказ яны пачулі:

— Саматэвічы!

Усю дарогу назад бацька з нейкай асаблівай асалодаю ўспамінаў, як выглядалі Саматэвічы пад месячным святлом, калі яны амаль «навобмацак» ехалі да вёскі, смяяўся і здзіўляўся, як такое магло здарыцца з ім, які аблазіў ваколіцы роднай вёскі на трыццаць вёрст кругом яшчэ ў маленстве, і ў заключэнне сказаў уздыхнуўшы:

— Пэўна, Саматэвічы не хацелі мяне адпускаць!

У кастрычніку 1977 года я рыхтавалася да паездкі ў Амерыку па лініі Саюза Савецкіх Таварыства Дружбы. Калі паведамілі, што з лістапада трэба быць у Маскве, я сказала пра гэта бацьку. Нечакана ён пачаў адгаворваць мяне ад паездкі, то спасылаючыся на маё здароў'е, то палохаючы магчымай авіякатастрофай, то прыводзячы статыстыку злачынстваў у ЗША. Пры гэтым ён выявіў вялікую вынаходлівасць. Нарэшце, відаць, таму, што я толькі адмахвалася, адказваючы на ўсе яго довады кароткім «неяк будзе!», ён вырашыў «прыперці мяне да сцяны», што не было яму ўласціва, і проста заявіў, што не хоча, каб я ехала. Калі ж я папрасіла растлумачыць, чаму ён

так баіцца гэтага, бацька збянтэжыўся і не сказаў нічога пэўнага. Сышліся мы на тым, што, саступіўшы мне, ён пагадзіўся:

— Ну, добра, пушчу цябе ў апошні раз!

Як сёння бачу яго сарамліва-тужлівую паўусмешку, якой ён адказаў на маё пытанне: «Чаму — апошні?»

У апошнія дні кастрычніка 1977 года, калі пасля работы я зазірнула да бацькі, ён паведаміў мне, што званіла яго сястра Надзея Аляксандраўна і сказала, што іхні бацька, а мой дзед Аляксандр Мікалаевіч, цяжка хворы.

— Яна, праўда, кажа,— дадаў ён,— што гэта натуральна ў ягоным узросце...

Сказаўшы гэта, бацька дапытліва паглядзеў на мяне, нібы вывяраючы на мне гэтыя цётчыны словы. І хто мяне падштурхнуў, не ведаю, але я сказала:

— Блізкія людзі не маюць узросту! Прасі, каб прыслалі з Магілёва санітарны самалёт.

Бацька так і зрабіў, а праз суткі мы даведаліся, што дзед адмовіўся легчы ў абласную бальніцу і ляжыць у бальніцы ў Хоцімску. 30 кастрычніка мы з Валерыем, Надзеяй Аляксайдраўнай і малой Вольгай паехалі ў Хоцімск.

Аляксандр Мікалаевіч выглядаў ніштавата — у параўнанні з тым, якім ён быў да бальніцы. Ён сядзеў на ложку, жартаваў і быў шчаслівы, што бачыць нас. Насцярожвала толькі задышка, яна сведчыла аб сардэчнай слабасці. Мы пачалі гаварыць яму, што трэба рабіць, каб падмацаваць яго сэрца. Дзед усміхнуўся і сказаў:

— Для майго сэрца, дзеці, лепшыя лекі — ваша любоў! Я пастараюся не засмучаць вас сваёй смерцю...

Гэта было трыццаць першага кастрычніка. А назаўтра нам пазванілі з Хоцімска і сказалі, што ноччу наш дзед, падняўшыся, пэўна, па патрэбе, упаў і памёр ад інфаркту.

Калі я паспрабавала сказаць бацьку, што ён — са сваім хворым сэрцам — не павінен ехаць на пахаванне, той толькі кінуў на мяне суровы погляд.

На пахаванні ён горка плакаў, не стараючыся хаваць слёз, а адразу ж пасля памінак загадаў ехаць дадому. У машыне з ім, акрамя Валерыя, які сядзеў за рулём, былі мама і Надзея Аляксандраўна.

Ішоў снег — густы і адліжны, ён забіваў лабавое шкло. Дарога была слізкая, небяспечпая, а вельмі асцярожны звычайна бацька падганяў Валерыя:

— Гані!

На пахаванне дзеда я не паехала, бо 3 лістапада павінна была быць у Маскве, і таму 2 лістапада вечарам выязджала з Мінска. Я не чакала іх, лічачы, што вярнуцца да майго ад'езду яны не змогуць, і была вельмі здзіўлена, калі сутыкнулася з прыехаўшымі каля ліфта. Бацька быў спакутаваны, ледзь трымаўся на нагах. Ступіўшы з ліфта на пляцоўку, дзе я стаяла, гатовая выправіцца на вакзал, ён, звычайна вельмі стрыманы ў праяўленні пачуццяў, абняў мяне, пацалаваў і сказаў:

— Добра, што я цябе заспеў!

Праз колькі гадоў Валерый расказаў мне і пра тое, як яны ехалі і чаму ён так гнаў машыну, не пярэчачы бацьку. Валерыю здавалася, што бацьку вельмі кепска і што ён баіцца не даехаць да Мінска. Хто ведае, так яно, магчыма, і было, хоць ужо пасля майго вяртання з Амерыкі бацька сказаў пра той выпадак Валерыю:

— Я тады думаў, што больш яе не ўбачу!

4 лістапада я была яшчэ ў Маскве (выляталі мы 6 лістапада), і калі вярнулася з Таварыства Дружбы, дзе нас збіралі перад паездкай, да брата, у якога спынілася, ён расказаў мне, што чуў трансляцыю па радыё ўрачыстага пасяджэння, прысвечанага 60-годдзю Кастрычніка. У перадачы з Мінска выступаў бацька, але голас, казаў мне Валодзя, быў нейкі дзіўны і пару разоў перарываўся.

У снежні, калі я вярнулася дахаты і перадала бацьку Валодзевы словы, ён сказаў, што яму было блага ў час выступлення. У той час у яго зноў з'явілася арытмія, якая палохала бацьку выпадзеннем пульсу на трэцім удары. Акрамя таго, ён скардзіўся на галаўныя болі, якія звязваў з гэтымі сімптомамі.

Такім быў стан бацькавага здароўя напярэдадні новага, 1978, года. Гэты год мы сустракалі разам, на кватэры маіх бацькоў. За навагодні стол сядалі тата, мама, мой брат Саша, Валерый, я і Оля.

Восень адыходзячага года зблізіла тату з Оляй. У верасні яны жылі тыдні са два на Нарачы. Помню, як здзіўляўся бацька, што мама ў свой час скардзілася на непаслухмянасць дзяцей. Вольга слухалася яго ва ўсім, і мы, прыязджаючы, бачылі, што яны шчаслівыя і задаволеныя адно адным. Памятаю, як аднойчы, прыехаўшы на Нарач увечары, мы знайшлі іх у татавым накоі. Яны глядзелі футбол: тата — лежачы на ложку, а Оля — седзячы ў вялікай кардоннай скрынцы — тары з-пад тэлевізара.

Калі гадзіннік Крамлёўскай вежы пачаў адстукваць дванаццаць і мы віншавалі адзін аднаго з Новым годам, Оля раптам расплакалася і сказала, што яна не хоча, каб надыходзіў новы год, а хоча, каб

вярнуўся стары, бо ён быў добры. Мама, суцешваючы яе, пачала тлумачыць, што новы будзе яшчэ лепшы, на што я заўважыла:

— Хай ён будзе хоць такім жа!

— Хоць такім,— згадзіўся бацька, кінуўшы ў мой бок шматзначны погляд.

Ішоў студзень. Гэты месяц заўсёды, асабліва ж пасля нараджэння Олі, асацыіраваўся ў мяне з хваробамі. Бацька таксама пераносіў яго не лепшым чынам. Да знаёмства з тэорыяй біярытмаў я тлумачыла гэта проста марозным надвор'ем і хранічнымі перагрузкамі, пакуль не зразумела, што студзень, акрамя ўсяго, і ёсць той самы дванаццаты месяц ад моманту нараджэння для бацькі, Олі і мяне (ён нарадзіўся 6 лютага, а мы з дачкою — 27 студзеня), які ў тэорыі біярытмаў атрымаў злавесную назву месяца «інфарктаў і смерцяў».

Бацька заўсёды адчуваў гэта інстынктыўна, і невыпадкова ў многіх яго вершах гучыць матыў вясны, як сімвал жыцця, насуперак зіме, якую трэба пераджыць. Яго ўспрыняцце вясны супадае, вядома, з агульным успрыняццем гэтай пары года, але ўсё-такі мае ў ягонай лірыцы і сваю адметнуто афарбоўку.

Замаўкаюць птушыныя звонкія
спевы,
Калі восень прыходзіць у край,
наш лясны,
І, як свечкі, вакол ярка
ўспыхваюць дрэвы
На праводзінах лета, на
памінках вясны.

Там, дзе восень ідзе, лес
шумлівы радзее,
Вецер гоніць хмарыны з-за
цёмных ялін.
Грозны чуючы сівер, лісты, як
надзеі,
Аблятаюць на дол з пачарнелых
галін.
Я, улюбёны ў жыццё, не
скаруся пагрозе
На праводзінах тых, на
памінках старых.
Выйду з лесу і стану ў зімы на парозе

Дрэвам я, што лістоў не губляе
сваіх.

Я трымаў іх з вясны, да вясны
датрымаю,
Не развею па свеце, не кіну ў
бяду.
Дружным пошумам іх новы май
прывітаю
І з адзінаю просьбай на дол
упаду:

— Адгукніся, вясна, мне
зязюляй з-за рэчкі,
Дай яшчэ раз прыпасці да
любай зямлі
І каштанаў сваіх незгасальныя
свечкі
Над маёй адшумеўшай вясной
запалі!

Надышоў студзень, і бацьку, улічваючы стан яго здароўя і тое, што па Мінску пайшоў лютаваць грып, прапанавалі паехаць падлячыцца ў Нясвіж. Трэба сказаць, што ў Нясвіж бацька ездзіў ахвотна з таго часу, як упершыню адкрыў яго для сябе ў 1946 годзе. У тым памятным годзе ездзілі мы туды ўсёй сям'ёй і правялі там два месяцы — чэрвень і ліпень.

Уявіце сабе, чым маглі быць для нас, што пабачылі за гады вайны столькі гора і галечы, а што датычыцца бацькі, дык і смерцяў, гэтыя два месяцы ў былым Радзівілавым палацы?!

А як павінны былі ўздзейнічаць на наша (пішу «наша», бо ўсё гэта мы перажывалі разам) уяўленне ўсе гэтыя «Чорныя дамы», помнікі заснавальнікам парку, касцёлы, падземныя хады і фамільныя склепы?

Тым летам мы шмат хадзілі па парку, і не толькі па парку, гуляючы з мамай, якая чакала трэцяга дзіцяці.

Я і дагэтуль успамінаю тое лета як нейкую ідылію. Што ж тады казаць пра бацьку, за плячамі ў якога была такая жахлівая вайна, вайна, на якой ён прайшоў, не шукаючы зацішнага месца і не хаваючыся за спіны другіх, які не так даўно атрымаў заслужаную вышэйшую літаратурную ўзнагароду, а цяпер чакаў жаданага дзіцяці? Мяркую, што для бацькі гэта быў момант найвышэйшай

гармоніі, якія назаўсёды вызначыў яго неабыякавыя адносіны да Нясвіжа.

І вось у перспектыве новая магчымасць сустрэчы з Нясвіжам. Бацька вагаецца. З аднаго боку, ён спадзяецца, што Нясвіж удыхне ў яго новыя сілы, і ён зможа, нарэшце, прыступіць да работы над новай паэмай, аб чым так марыць, а з другога боку, баіцца ад'язджаць з дому, бо не даюць спакою кепскія прадчуванні. Са мной ён дзеліцца толькі падзеямі, не кажучы нічога аб прадчуваннях.

12 студзеня мы з Валерыем былі запрошаны на юбілей да нашых сяброў. Седзячы там, я нечакана захвалявалася, выйшла з-за стала і патэлефанавала бацьку. Ён, таксама ўсхваляваны, сказаў, што ў мамы высокая тэмпература, ёй блага. Мы вярнуліся дадому. Валерый, агледзеўшы маму, вызначыў, што ў яе запаленне лёгкіх. Мы выклікалі «хуткую», перавялі маці ў асобны накой.

Стала зразумела, што выбару ў бацькі няма, трэба ехаць у Нясвіж. Ён змірыўся з гэтай перспектывай і пачаў збірацца ў дарогу. Дамовіліся, што Валерый адвязе яго ў санаторый 15 студзеня.

13-га ўвечары я зазірнула да іх праведаць маму, пасля на некалькі хвілін прысела ля тэлевізара, па якім бацька глядзеў фільм — камедыю Э. Разанава «З лёгкай парай!».

Тэлевізар стаяў ля адной сцяны, а тахта, на якой прылёг тата,— ля другой. Паміж тэлевізарам і тахтой стаялі крэслы, на адно з якіх я і прысела.

Тата паўляжаў на канапе, накурваючы цыгарэту, з асалодаю ўспрымаючы беззаганнае відовішча, якое прапаноўваў яму экран. Ён тонка адчуваў і адзначаў сам сабе і бездакорную рытміку фільма, і вытанчаную прастату яго сюжэта, і сапраўдную дасціпнасць дыялогаў у спалучэнні з бліскучай ігрой акцёраў і іх цудоўнымі спевамі.

Я не адзін раз глядзела ўжо гэты фільм, як, дарэчы, і бацька, але твор сапраўднага майстра моцны не сюжэтам, яго не глядзіш — ім жывеш, дыхаеш, яму радуешся, як самому жыццю, у яго самыя шчаслівыя імгненні.

Так вось і сядзелі мы з ім ля тэлевізара ў апошні, адпушчаны нам лёсам агульны вечар, радаваліся жыццю і відовішчу, якое яднала нас адзінствам успрыняцця. Час ад часу я азіралася і з радасцю адзначала, што куточкі татавых вуснаў кранае тая паўусмешка, якая асвятляла яго твар у хвіліны шчасця.

## ХУТКАСЦЬ

-----

«Дарагая мая Ксанечка! — пісаў тата маме з фронту 16 мая 1942 года.—...На досвітку ўсё наўкол прачнулася, заспявалі салаўі і іншыя крылатыя стварэнні. А пасля закукавала зязюля... І гэта так нагадала родныя мясціны, Беларусь, што я вось ужо цэлыя суткі хаджу пад гэтым уражаннем і, як бачыш, не стрымаўся, каб не папісаць табе. Так усё жыва і яскрава прайшло перад маімі вачыма, столькі роднага і добрага ўсплыло, што я фізічна адчуў неабходнасць вярнуць, адбіць у ворага красу, родныя дарагія нам палі і лясы. Добра, што гэтымі пачуццямі ў мяне ёсць з кім падзяліцца...»

Вось у якія радкі выліўся гэты настрой у вершы «Над брацкай магілай»:

Беларусь мая родная,
як жа я рвуся яшчэ раз
Пеша ўсю цябе змераць,
увесь і чабор твой і верас!..
Сэрца просіць шляхоў,
Што цяжкім маім ботам над сілу;
Наглытацца хачу туманоў,
Твайго ветру і пылу;
Наглытацца хачу за сябе і за тых,
Што не ўстануць з нябыту;
Вочы просяць нябёсаў тваіх,
Ім твайго не хапае блакіту...

Дачка Кузьмы Чорнага Рагнеда Мікалаеўна расказвала мне, што гэты верш, а таксама «Ліст з палону» зрабілі на беларускіх пісьменнікаў і ўсіх беларусаў, што працавалі пры Цэнтральным штабе партызанскага руху ў Маскве, велізарнае ўражанне, узрушылі да глыбіні душы.

Аднак вернемся да бацькавага ліста. Ён напісаны па-руску. Але слова «зязюля» пакінута без перакладу. Слова гэтае ў куляшоўскім паэтычным лексіконе не нейтральнае. Прыгадаем тут хоць бы вось гэтыя радкі:

Калі вясною закукуе
Зязюля ў лесе раніцой,
Ты прыгадай вясну другую,
Сустрэчы нашыя з табой.

Згадай усё, што сэрцу міла,
Што сэрцу дорага было,
Забудзь, што ўсё адгаманіла,
Адкукавала, адышло...

Зязюля ў яго — сімвал вясны і жыцця. Ведаючы гэта, можна падумаць, што бацька ў пісьме да мамы пакінуў беларусізм невыпадкова, тым больш што ў рускай мове амонім слова «зязюля» мае і адмоўнае значэнне.

Але ёсць і яшчэ адно, і, мне здаецца, больш верагоднае меркаванне. Здагадка ўзнікла пасля таго, як я прачытала ўспаміны бацькавага аднапалчаніна, журналіста Якава Сямёнавіча Бабкова. З іх я даведалася, што на Паўночна-Заходнім фронце існаваў яшчэ адзін, пароджаны вайной, амонім слова «кукушка». Якім было яго значэнне, мы зразумеем, пазнаёміўшыся бліжэй з успамінамі Якава Сцяпанавіча. Вось што ён піша: «Часовы камандны пункт арміі знаходзіўся на безыменнай вышыні ў адзіным ацалелым драўляным дамку з цокальным паверхам на мураваным падмурку ў непасрэднай блізкасці ад лініі фронту. Дамок часта падпадаў пад артабстрэл з боку праціўніка. У гэты час на прыём да члена ваеннага савета прыбыў рэдактар газеты «Знамя Советов» У.Б. Фарбераў. Ірвуцца вакол снарады, уздрыгвае зямля, ляцяць на дол аскалёпкі аконнага шкла. За невялікім столікам, збітым з дошак, над картай схілілі галовы І.В. Зуеў і начальнік разведаддзела палкоўнік Сашальскі. Даўшы ўказанне Сашальскаму аб узмацненні разведкі ў напрамку Кірылаўшчыны, Іван Васільевіч, звяртаючыся да Фарберава, сказаў:

— Ну, цяпер, Уладзімір Барысавіч, давайце зоймемся газетай.

Іван Васільевіч уважліва вывучаў планы чарговых нумароў армейскай газеты. Ён прасіў Фарберава як мага больш і цяплей расказваць пра байцоў Савецкай Арміі, пра гераічныя подзвігі, праяўленыя ў змаганні з гітлераўцамі. Ён казаў, што ў жорсткіх баях салдатам штохвілінна пагражае смяртэльная небяспека. Трэба, каб у хвіліны зацішша яны маглі прачытаць у газеце не толькі зводку Саўінфармбюро, цікавыя артыкулы, нарысы, але і матэрыялы, якія выклікалі б усмешку, стваралі б бадзёры, баявы настрой. Звяртаючыся да рэдактара газеты, Іван Васільевіч спытаўся:

— Уладзімір Барысавіч, што можа прапанаваць у гэтым сэнсе «Знамя Советов»?

Уладзімір Барысавіч сказаў, што ёсць прапанова Аркадзя Куляшова аб стварэнні літаратурнага героя Аляксея Пятрова.

Іван Васільевіч не тое што ўхваліў, а з захапленнем прыняў яе.

Першы расказ Аркадзя Куляшова пра Аляксея Пятрова быў апублікаваны ў армейскай газеце 9 верасня 1941 года пад назваю «Знаёмства з героем».

Познакомимся с Петровым,—
Где родился он, как звать?
Дом его в селе под Псковом.
Алексей — душевным словом —
С детства звала его мать.
Он — стрелок, обучен, годен,
Защищать страну готов,
Не в одном бывал походе
Снайпер Алексей Петров...
На Карельском перешейке
Был в крещенье боевом,
ДОТ взрывал,
Из трехлинейки
Добивал врага потом.
Не одну сразил «КУКУШКУ»
Алексей, а между дел
Изучал успешно пушку,
Как стреляет знать хотел...
И, как водится, немало
Изучил он разных дел,
Горю всякому, бывало,
Алексей помочь умел...

«Я маю магчымасць падаць рапарт аб выкарыстанні мяне ў беларускай прэсе,— пісаў бацька з фронту маме 11 красавіка 1942 года.— Але гэта звязана з магчымым працяглым і няпэўным знаходжаннем у рэзерве. І я пакуль ніяк не магу рашыцца. Ведаю, што калі я папрашу тваёй парады, ты мне адкажаш: «Рабі, Аркадзька, як ведаеш, табе відней...» Але ўсё ж, Ксанечка, я, магчыма, рашуся на гэты крок, таму што мяне вельмі цягне да беларускай мовы, і я ўжо адчуваю вострую неабходнасць у гэтым. Бо інакш можна наогул адвыкнуць ад роднай мовы і перастаць быць тым, чым быў раней. Падумай, родная, і не асуджай мяне, калі я так і зраблю...»

У Цэнтральны штаб партызанскага руху ён перайшоў толькі ў 44-м, а задума паэмы «Сцяг брыгады» ўжо выспела і прасілася на паперу. Цяжкія ўмовы армейская газеты не спынілі бацьку, і ён узяўся за пяро, пра што паведамляў паштоўкаю Пімена Панчанку, які

знаходзіўся ў той час паблізу, у рэдакцыі франтавой газеты «За свабодную Беларусь».

Падзяліўся ён сваім творчым сакрэтам з П. Панчанкам невыпадкова. Сябравалі яны даўно. Мне, прынамсі, імя Пімена Емяльянавіча запала ў памяць яшчэ з даваеннай пары.

Зімой 1939 года я, хворая на дыфтэрыт, ляжала дома, у адным з двух нашых пакояў у ізаляцыі. Са мной неадлучна была мама, з якой, як і са мной, не мелі кантактаў іншыя сямейнікі, баючыся заразы. Аднаго дня дзверы ў пакой адчыніліся, і я ўбачыла на парозе стройнага блакітнавокага вайскоўца з каробкай цукерак і лялькай. Далей, за парог, яго не пусцілі, але ляльку і цукеркі ён нам, мне і маме, перадаў.

Лялька была мараю дзяўчынкі: вялікая, прыгожая, яна нават і вочы заплюшчвала. На той час гэта было цудам лялечнай прамысловасці. Я цешылася ёю на працягу ўсёй сваей доўгай хваробы: расчэсвала валасы, карміла, мыла, укладвала спаць. Але ўжо тады ўбілася мне ў галаву чыста хлапечая думка — даведацца, чаму лялька заплюшчвае вочы. Ачуняўшы ад хваробы, я паплакала над ёй, а потым... так ахнула аб касяк дзвярэй, што фарфоравая галава разляцелася на кавалкі і адтуль вываліліся два вокі, звязаныя паміж сабой дроцікам. Механізм заплюшчвання і расплюшчвання вачэй, як аказалася, быў надзвычай прымітыўны і не заслугоўваў такой ахвяры...

А шчодры госць мяне заінтрыгаваў. Памятаю, як не давала мне спакою яго дзіўнае імя яшчэ і пасля вайны, бо я ўсё не магла зразумець, дзе тут імя, а дзе — прозвішча...

Асаблівага падабенства паміж Панчанкам і бацькам я не знаходжу, калі мець на ўвазе характар аднаго і другога. Але ёсць нешта такое, што стаіць над характарам. Гэтае «нешта» вызначае атмасферу, якую чалавек ставрае вакол сябе.

У 1974 годзе, гаворачы з Піменам Емяльянавічам пра яго новую кнігу, бацька спытаў:

— Скажы, як ты не заўважыў, што ў тваім зборніку ёсць слова, якое магло б даць назву ўсёй кнізе?

— Якое слова ты маеш на ўвазе?

— Хуткасць!

— Гэта не маё слова...

— Ты ведаеш, я яго ў цябе пазычу...

Ёсць хуткасць гуку, ёсць — звышгукавая,<br>Ёсць хуткасць зор, прыкметная для ўсіх,

Яшчэ ёсць хуткасць думкі, хуткасць тая,
Што, як святло, стагоддзе абганяе,
З тысячагоддзем размаўляе ўслых.
О, таямніца кніг, скажы, з якіх
Людскіх глыбінь ты цуды здабывала?
Твой пачынальнік слоў не знаў і мала
Свет разумеў, не меў матык і сох,
Маўчаў, як сом, пакуль бяда не ўзяла
За шчэлепы яго і на пясок
Не кінула, пакуль сярод начы,
Яго душой нямой, сканаць гатовай,
Не загадала: — Дыхай, плач, крычы,
Нябыт цяжкі пазбудзь не рыб'яй мовай.

Свет будзе пець, смяяцца, слёзы ліць,
Датуль, пакуль на свеце людзям жыць.
Сабрат мой па пяру, на суд іх смела
Вынось усё, што ў сэрцы набалела.
Слёз не стрымаеш — плач, але не тою.
Пад пачуццё падробленай, слязою,
А той, што смех вяртае з небыцця.
Смяяцца хочаш — смейся, як дзіця.
Перад сабой і светам будзь праўдзівы.
Прымай, як дар, жыццём пасланы дзень,
І, можа, кніга гэта век імклівы
Дагоніць і абгоніць,
як прамень.

Верш «Хуткасць» даў назву апошнім (на беларускай і рускай мовах) бацькавым кнігам, падрыхтаваным да выдання ім самім.

15 студзеня, ад'язджаючы ў санаторый «Нясвіж», ён, нібыта прадчуваючы благое, спяшаўся дарабіць недаробленае. Адной з такіх недаробак быў непадпісаны дагавор на кнігу «Хуткасць», здадзеную ў выдавецтва напярэдадні. У дзень ад'езду ў Нясвіж бацька яшчэ раз заехаў у выдавецтва, каб падпісаць дагавор, але рэдактара зноў не аказалася на месцы. Гэта быў не адзіны важны клопат, які не з яго віны павісаў у паветры, аднак жа і ён клаўся цяжарам на сэрца, займаючы бацькавы думкі і перашкаджаючы працы. Таму, пэўна, і пазбягаў бацька ўсё жыццё бытавых турбот, перакладаючы іх на матчыны плечы. Аднак, калі гаварыць аб адказнасці за сям'ю, бацька ніколі ад гэтай адказнасці не адмахваўся.

30 жніўня 1943 года ў пісьме з фронту ва Уральск ён пісаў: «Мяне вельмі непакоіць стан здароўя твайго і Вовінага, таму што Надзя ў сваім пісьме пісала пра гэта. Ты наогул мала пішаш пра сябе і пра сваё здароўе, а павінна была б пісаць. Праўда, ты лічыш, што памагчы я нічым табе не змагу, але ўсё ж гэта няпраўда, бо я ж сёе-тое магу зрабіць, каб палепшыць тваё становішча. Пра гэта я думаў заўсёды і думаю цяпер увесь час. Я напісаў досыць сярдзітае пісьмо Лынькову адносна ліміту (на 300 рублёў штомесячна) для цябе. Вядома, з лімітам цяпер позна ўжо, але з новага года я спадзяюся атрымаць. Размеркаванне ліміту залежыць ад Лынькова, бо Саюз пісьменнікаў СССР дае не персанальна, а на беларускі Саюз пэўную колькасць (5 лімітаў). Гэтыя ліміты размяркоўвае Лынькоў. [...] Сярдзітае пісьмо я яму напісаў, бо зацікаўлены ў збераржэнні сваёй сям'і. Калі гэта не дапаможа, напішу т. Панамарэнку і т. Фадзееву. Думаю, што ў гэтым разе я павінен адкінуць матывы сціпласці і лжывага сораму і патрабаваць не для сябе асабіста (мне ён не патрэбен), а для сваіх дзяцей...»

...Бацька ад'язджаў з Мінска 15 студзеня па абедзе. Ён зайшоў да мяне развітацца. Зайшоў на хвіліну-другую, бо ўнізе ўжо сядзелі ў машыне яе гаспадыня (згаданая ўжо тут мною дачка Кузьмы Чорнага Рагнеда Раманоўская) і Валерый, якія павінны былі адвезці тату ў Нясвіж. На гэты раз я не магла паехаць разам з ім — не пускала цяжкая хвароба маці. Мы развіталіся, ліфт за ім зачыніўся. Я пайшла ў кватэру, хацела штосьці рабіць, але не магла, усё валілася з рук. Нешта гняло мяне...

Познім вечарам, амаль уночы ўжо, вярнуўшыся з Нясвіжа, Рагнеда і Валерый расказалі, што бацька прасіў іх пасядзець з ім, папіць разам чаю, але яны адмовіліся, бо Валерыю трэба было паспець на дзяжурства. Ад іхніх слоў у мяне зноў зашчымела сэрца.

Апошні раз я чула бацькаў голас 27 студзеня 1978 года. Ён пазваніў, каб павіншаваць мяне і Волю з днём нараджэння.

Маме ж ён званіў яшчэ і 2 лютага: папрасіў, каб Валерый забраў яго з Нясвіжа раней, датэрмінова, 5 лютага (пуцёўка ў яго была да 11-га), каб адзначыць свой дзень нараджэння разам з намі дома...

## «ПАМІЖ НАСТУПНЫМ І БЫЛЫМ»

-----

Бацька, аднак, памыляўся, лічачы, што слова «хуткасць» ён упершыню сустрэў у лірыцы Пімена Панчанкі. Проста з цягам часу паняцце, акрэсленае словам «хуткасць», стала яму больш блізкім, сваім, зразумелым. Пра гэта сведчыць не толькі эвалюцыя яго светаўспрымання ўжо як чалавека касмічнай эры, але і магутнае і хуткае развіццё яго таленту, калі ўспомніць, што за чатыры гады — з 1971-га па 1975-ты — ён напісаў тры апошнія свае паэмы, не лічачы вершаў і перакладаў.

Таму, мне думаецца, у пэўны момант пачаў бацька вылучаць сярод іншых паняцце, замацаванае ў мове за словам «хуткасць», пачаў усюды заўважаць гэтае слова, забыўшыся, што сам ужывае яго ў вершах, прынамсі, з 1961 года:

Жыццё маё на хуткасць гуку
Памнож і множанне правер.
Вось ты і адкажы, навука,
Адкуль вяртаецца цяпер

Лясной вяшчунні кукаванне,
Што, абудзіўшы першы сон,
Калісь пазвала ў вандраванне
Мяне на многа тысяч дзён?

Зайшоўшы ў векавыя нетры,
Стаю, зачараваны ім,
На паўмільярдным кіламетры
Паміж паступным і былым.

Пакліч — былое адгукнецца
Жалейкаю за хваіной;
Скраніся — і важкой хадой
Наступнае ў паход кранецца.

Пяройдзе шлях у новы шлях,
Расстанне — ў новае спатканне,
Напеў жалейкі — ў труб гучанне,
Выток жыцця — ў жыцця працяг.

І чаму так часам здараецца: тое, што ўсё жыццё табе не давалася, пачынае раптам збывацца, быццам па загаду чароўнай палачкі? Быццам з таго рога, у якім усяго многа, пачынае звальвацца на тваю бедную галаву адно за адным. Да чаго б гэта?

Такім шчаслівым днём у жыцці майго бацькі аказалася пятніца, 3 лютага.

У гэты дзень ён ужо ведаў, што яго дачка, лёс якой турбаваў яго гэтулькі гадоў, будзе нарэшце-такі ўладкаваны ягонымі бацькоўскімі стараннямі хоць бы ў такім немалаважным жыццёвым пытанні, як жыллёвае.

З неафіцыйных крыніц у гэты дзень стала таксама вядома, што 6 лютага, у дзень яго нараджэння, будзе аб'яўлена ў прэсе аб прысваенні яму звання Героя Сацыялістычнай Працы.

(Забягаючы наперад, скажу, што 7 лютага 1978 года, стоячы каля бацькавай труны, П.М. Машэраў сказаў, маючы на ўвазе тую акалічнасць, што званне Героя Сацыялістычнай Працы пасмяротна не прысвойваецца:

— Мы зноў спазніліся!)

Падыходзіла да канца знаходжанне ў Нясвіжы, з якім у бацькі чамусьці звязваліся самыя змрочныя прадчуванні, ён хутка зноў будзе дома, у коле сям'і, з якой падзеліць радасць.

Ці не такі стан пазываюць эйфарыяй, і ці не ён спадарожнічаў бацьку ў хвіліны творчасці?

Ведаю некалькі чалавек, якія размаўлялі з ім 3 лютага.

А. Капусцін пісаў у сваіх успамінах, што ў гэты дзень бачыў бацьку ў час абеду. Звычайна ён абедаў хутка і спяшаўся пайсці, а тут заседзеўся за сталом, яўна не спяшаўся выходзіць, нават уключыўся ў гаворку. Гаварылі пра нашу моладзь. Хтосьці пачаў скардзіцца на кепскае выхаванне дзяцей, на іх няўдзячнасць і г. д. Бацька сядзеў збоку, пакручваў у руках апельсін і быццам не слухаў таго, хто гаварыў.

Знячэўку ён ускінуў на яго вочы і сказаў прыкладна вось што:

— Вы не маеце рацыі, моладзь у нас цудоўная! Разумная, адукаваная, таленавітая! А калі штосьці кульгае, дык у гэтым найперш вінаватыя мы, выхавальнікі...

Маці кінаактрысы Ірыны Бразгоўкі бачыла майго бацьку ўвечары, пасля прагляду нейкага (здаецца, індыйскага!) фільма. Здзівіўшыся, што бацька апрапуты зусім не па-зімоваму ў марозны лютаўскі вечар, яна паўшчувала яго за легкадумнасць, а ён у адказ засмяяўся і махнуў рукой. Бацька падаўся ёй надта ўжо бесклапотным...

Мы, блізкія, таксама ведалі яго такім. У яго гэта называлась «стан налёту», які спадарожнічаў паспяховай працы.

Гэтай жа ноччу таты не стала...

Пра яго апоншія хвіліны існуюць розныя версіі, але ўсе сыходзяцца ў адным. Калі, пачуўшы страшэнную вестку, я знайшла яго ў моргу мінскай бальніцы, мне кінуліся ў вочы дзве вузенькія чырвоныя палоскі на твары. Я папрасіла ў дзяжурнай сястры ваты, каб сцерці кроў (так мне падалося), але сястра збянтэжана растлумачыла:

— Гэта не кроў, гэта след ад удару…

Каб распытаць яе, у мяне не знайшлося сілы, але цяпер я ведаю, што з пакою, дзе жыў бацька ў апошнія дні свайго знаходжання ў Нясвіжы, вялі ўніз прыступкі з жалезнымі акоўкамі і такімі ж поручнямі...

Кажуць, што калі бацьку зрабілася блага, а дазваніцца да дзяжурнай сястры не змог, ён апрануўся і пайшоў у медпункт, ды не дайшоў...

Яго знайшлі на снезе.

Калі пачну я паміраць —
І, вер, не доўга ўжо чакаць,—
Няхай мяне перанясуць
У любы кут мой, дзе цвітуць
Акацый белых два кусты...
Там шоўк травы такі густы!

Калі б, паміраючы, мой бацька змог сказаць болей, чым адзін сказ, ён, мне думаецца, папрасіў бы пахаваць яго ў Саматэвічах, дзе не проста нарадзіўся, дзе заклікана была да жыцця яго паэтычная душа...

Аднак ён знайшоў у сабе сілы толькі на тое, каб, вырваўшы з вены кропельніцу, сказаць доктару:

— На гэты раз вам мяне не выратаваць...

...Я тройчы, выпрастаўшы рукі,
Ляжаў не ў ложку, а ў труне,
Я знаю, што такое мукі!

Бацька стаміўся паміраць! Але і ў смерці ён застаўся верным сабе, «салдату свайго часу»:

Упершыню Кастрычніцкае свята
Я сустракаю тут,
Дзе для мяне бальнічная палата
Горш, чым астрожны кут.

Адгэтуль выйсце мне закратавала
Хвароба — мой жандар.
Знясіленае цела прыкавала
Да ложка, як да нар.

Зняволення расклад для вязня строгі —
Не варухнуцца мне,
Дранцвеюць ногі, цёплы пыл дарогі
Іх грэе толькі ў сне.

Ды пагарджае ўладай неадступных,
Скаваўшых цела страт,
Душа былых гадоў, гадоў наступных
Няўпынны дэманстрант.

Яе да месца прыкаваць не здольны
Пакуты ланцугі,
Яна ляціць, ляціць, як вецер вольны,
Да вас, да вас, сцягі!

Яна — той самай буры парыванне,
Што ў свет вы несяцё.
На волі — вы, я тут вяду змаганне
Са смерцю, за жыццё.

(«7 лістапада 1966 года», 1967)

«Змаганне са смерцю за жыццё» мой бацька вёў неаднойчы. Інфаркт 1966 года быў у яго паводле афіцыйных звестак трэцім (паводле ж яго меркаванняў чацвёртым ці нават пятым) і кожны быў звязаны з нейкім стрэсам. Невыпадкова матыў гэтай хваробы гучыць у розных вершах шасцідзесятых гадоў, калі бацька ўжо здолеў асэнсаваць яе паходжанне:

Салдатаў веку, што па грозных цэлях
Вядуць агонь з траншэй перадавых,
Ужо не забіваюць на дуэлях
Забойцы каранованыя іх.

Аб паядынку не папераджае
Іх, як калісьці, секундант маны,
Ланцуг — яго вялікасць — іх знішчае,
Душу ад цела вее бог вайны.

Хваробай вокамгненнаю — інфарктам
Расстрэльваюць кароткае жыццё,
І незлічоных страт агульным актам
Спяшаюцца спісаць у небыццё.

Але, сярод ахвяраў незлічоных
Не спісаныя памяццю жывых,
Яны агонь вядуць па цэлях чорных
З магіл сваіх! З траншэй перадавых!
(1962)

Сярод бацькавых рэчаў, прывезеных з Нясвіжа, аказаўся блакнот, які з таго часу захоўваецца ў мяне. Блакнот новы. Спісана ў ім усяго некалькі старонак. Спісаны яны бацькавай рукой. Гэта невядомыя радкі. Вось яны:

*Парамонаў* (гледзячы ў акно)
Калісьці абыходзіла баракі
Норд Эльза — ваш канцлагерны
наглядчык.
А сёння Каця пугаю раменай
Стучыцца ў вокны, будзячы салдат.
Красільнікава... Хто яна такая?
Хутчэй за ўсё няшчасная дзяўчына,
Загнаная вайною ў кут глухі,
Яна ўжо, абышоўшы батальон,
Вяртаецца дадому... Трэба з ёю
Пагаварыць.
(Расчыняе акно.)

Дзень добры!
*Каця* (праходзячы)
Дзень добры!

Уваходзіць Каця Красільнікава, вешае раменную пугу на цвік каля дзвярэй.

*Парамонаў*
Ты, бачу, службу любіш.

*Каця*
Не пытайце.

Прасілася ў медсёстры, ды маёр, Пан Цукерман, забараніў, сказаў
Што іншую мне службу падбярэ...
І падабраў.

*Парамонаў*
Выходзіць, ён пакрыўдзіў
Цябе?

*Каця*
Нічога. Прыжылася тут
На пастуховай службе непрыкметнай.
Бізун пры мне, я з ім парой паўночнай,
Як Эльза Норд, праходжу па бараках:
Спяць мае хлопцы, спяць... А раніцой
У вокны грукну, праціраюць вочы
Пяцьсот салдат, пяцьсот салдацкіх сноў.
Няхітры пост, някрыўдная работа
Будзіць салдат.

*Парамонаў*
На гэта ёсць трубач.

*Каця*
Я нагляд
Праводжу санітарны.

*Парамонаў*
Так... А пуга
Дзеля чаго?
*Каця*
Таксама для парадку.
Як напамін, так растлумачыў мне
Пан Цукерман, аб днях былой няволі,
Прафілактычны сродак ад хвароб.

*Парамонаў*
Знаёмы лексікон.

*Каця*
Я ўсё павінна
І ведаць, і дакладваць аб настроі

Салдат і афіцэраў.

*Парамонаў*
Аб маім
Таксама?

*Каця*
Па магчымасці.

*Парамонаў*
Скажы
Мне, Каця, калі гэта не службовы
Сакрэт, не тайна, што паведамляеш ты
пра мяне?

*Каця*
Што вы не Парамонаў,
А Сыч, чырвоны камандзір, якога
У сорак першым вынес з поля бою
Мікола Канцавы, ваш ардынарац.

*Парамонаў*
Адкуль такія звесткі?

*Каця*
Ад салдат.
Яны вас хваляць. Нават ганарацца,
Што вы былі ў канцлагеры салдатам
Звычайным, радавым, сваё імя
Хавалі ад начальства, і бізун
Прафілактычны біў вас да паўсмерці:
Аднойчы вы ўцяклі. Пяцярых
Забіла варта. Не пашанцавала
Вам з ардынарцам Канцавым тады.

*Парамонаў*
Было такое... Раненых, за дрот
Нас варта кінула...

*Каця*
І ўцекачоў

Смяротнае чакала пакаранне.

*Парамонаў*
Яго прыняў бы я, ды толькі тут
Лёс ад мяне другі раз адвярнуўся.
Вярбоўшчык, аглядаючы палонных,
Прызнаў, зірнуўшы на мяне, што я
Не нейкі самазваны Парамонаў,
А камандзір палка... Ты гэта ўсё
Свайму начальству можаш расказаць
Таксама. Дазваляю. Цукерман
Нядрэнна знае нашу картатэку.

*Каця*
Я расказаць магу. Ды толькі ён
Мычыць, маўчыць.

*Парамонаў*
Вось, вось. Надзею мае,
Што разбярэшся ў службе далікатнай.
Ён, мусіць, спадзяецца, што такая,
Як ты, дзяўчына зможа адшукаць
Сама дарожку ў ложак камандзіра.

*Каця*
Жартуеце.

*Парамонаў*
Меў вопыт. Недарэмна
Ён пасяліў нас пад адной страхой.

*Каця*
Ёп іншы клопат меў.

*Парамонаў*
Які?

*Каця*
Каб я,
Так ён сказаў, за вамі даглядала
Як гаспадыня. Нават даў дазвол

Мне… у сялян… для вас купляць авечкі.
І мы іх, самі знаеце, не раз
Куплялі ўжо.

*Парамонаў*
Сваіх трымайся, Каця.
Салдат асцерагайся пугай біць
І словамі не зневажай. Яны
Якраз за гэта Эльзу пакаралі
Тады, калі палоннымі былі.
Гавораць, задушылі і патайна
Спалілі ў топцы. Ты служы... Пасля
Я, можа быць, Красільнікаву Кацю
Перавяду ў шпіталь.
Цяпер — ідзі.
Што ж ты стаіш?

*Каця*
Прабачце, пан палкоўпік,
Авечку нам прывезлі.

*Парамонаў*
То купі.

Каця
Купіла ўжо. А толькі чалавек,
Які прывёз яе, хацеў бы з вамі
Пабачыцца... Пагаварыць...

*Парамонаў*
Прасі.

Каця выйшла. Праз хвіліпу ўвайшоў чалавек, апрануты ў сялянскую вопратку, зарослы барадою.

*Парамонаў* (здзіўлена)
Макар Рамонак?.. Ты?.. Жывы?..

*Рамонак* (абдымаючыся)
Пазнаў?

*Парамонаў*
Як можна не пазнаць таго, з кім мы
З канцлагера ўцякалі...

Парамонаў дастае з буфета каньяк. Налівае чаркі.

*Рамонак*
Не турбуйся,
Я на хвіліну.

*Парамонаў*
Нас тады было
Сямёра.

*Рамонак*
Ну. Дзе ж іншыя? Маўчыш?
Што ж, вечная ім памяць.

(Выпіваюць.)

*Парамонаў*
Аднаму
Табе ўдалося рэчку пераплысці.
А я, прызнацца, думаў, што цябе
Ніколі не сустрэну. Раскажы,
Дзе ты цяпер? Як ты мяне знайшоў?

*Рамонак*
Дачуўся, што купляе Парамонаў
Авечкі. Рызыкнуў. Хацеў пабачыць.
Той ці не той... Гляджу: здаецца мне,
Той самы ты... Магу дапамагчы,
Калі жадаеш, рэчку пераплысці.

*Парамонаў*
Я не адзін. Тры тысячы пяцьсот
Пры мне салдат... Дзе ты жывеш?

*Рамонак*
Пры лесе
Жыву, прыстаў у прымы да ўдавы...

Я мог бы папрасіць яе, яна
Тутэйшых хлопцаў ведае, якія
Перададуць у лес, што Парамонаў
Жадае плыць да берага свайго.
То як?
(Парамонаў маўчыць.)
Не верыш мне?

*Парамонаў*
Даруй, Рамонак,
Я думаю аб тым, ці змог бы я,
З палону ўцёкшы, жыць у прымаках
Спакойна? Не! Я ваяваў бы. Ты ж
Гаворыш мне, нібыта жывеш пры лесе...
Я думаю, а што калі прывёз
Таварышу таварыш не збавенне
І не надзею нават, а пятлю?

*Рамонак*
Разумна разважаеш. Рызыкні.
Я ж большым рызыкую.

*Парамонаў*
Намякаеш
На мой мундзір палкоўніцкі? Яго
Абставіны надзелі.

*Рамонак*
А якія?
Абставіны?

*Парамонаў*
Цяжкія, перадай,
Што я пачаць хацеў бы перамовы
З камандваннем лясным. Не я адзін,
Мы ўсе да берага свайго гатовы
Адплыць па тайнаму загаду змовы.

*Рамонак*
Я зразумеў.

*Парамонаў*
Бывай.

На выхадзе з хаты Макар Рамонак сустрэўся з Мікалаем Канцавым. Зірнулі адзін на аднаго. Размінуліся.

*Канцавы*
Зноў селянін
Прывёз авечкі?

*Парамонаў*
Адгадаў. З дубровы!
Ты не пазнаў яго?

*Канцавы*
Знаёмы твар.
Чакай…
(Глядзіць у окно.)

*Парамонаў*
Што вочы трэш, нібы спрасонак?
Канцлагер прыгадай…

*Канцавы*
Далібог, Макар
Рамонак! Далібог, Макар Рамонак!..

*Парамонаў*
Мікола Канцавы, здаецца, ён
Прывёз нам не авечку, а здзяйсненне
Намераў дзёрзкіх, аб якіх з табой
Мы думалі тады, як апраналі
Мундзіры і ўзначальвалі брыгаду.
Не можа быць, каб лёс суровы
Нас ашукаў у трэці раз ..

Па ўсім відаць, што гэта фрагмент новай паэмы, якую на хвалі радасці пачаў пісаць бацька.

У гэтым урыўку, па ўсёй верагоднасці — завязцы паэмы, заключана багатая інфармацыя, якая дае ўяўленне і пра сюжэт паэмы, і пра вобраз яе галоўнага героя. Невядома толькі адно: як

паставяцца да Парамонава свае, калі ён разам з брыгадай — 3500 салдат, былых палонных — пяройдзе да іх. Ці паверацъ яму?

У асабістай храбрасці Парамонава і ў шчырасці яго жадання вярнуцца да сваіх сумнявацца не даводзіцца. Мы ведаем, што ён ужо двойчы спрабаваў — на жаль, няўдала — вырвацца з фашысцкага палону.

Ёсць у гэтым фрагменце і нешта, што насцярожвае, у чым, напэўна, і заключана зерне будучай драмы. Гэта кампраміснасць героя, які апрануў варожы мундзір па волі цяжкага лёсу, цяжкіх абставін.

У сувязі з гэтым мне прыгадваецца наша мімалётная гаворка з бацькам, калі ён толькі што прачытаў «Сотнікава» і хадзіў пад уражаннем новай аповесці Васіля Быкава. Творчасць Быкава была блізкая бацьку па духу. Па светаўспрыманні яны абодва — салдаты. І я б не здзівілася, калі б раптам даведалася, што, паводле задумы Быкава, Рыбак — далейшая распрацоўка вобраза Мікіты Ворчыка з паэмы «Сцяг брыгады».

Але я адхілілася. А гаворка была такая.

— Усе здзіўляюцца,— сказаў мне бацька,— як Быкаў мог зрабіць здрадніка героем аповесці? — Пры гэтым мне падалося, што ён глядзіць на мяне хітравата.

— Які ж гэта герой? — адказала я.— Гэты персанаж — антыгерой. А што сапраўды дзіўна, дык гэта тое, што гэта паўтараеш ты. Ты ўспомні, як абывацель гаварыў такое ж у 1943-м пра твайго Ворчыка.

Тое, што незадоўга да ад'езду ў Нясвіж бацька насіўся з новай задумай, я ведала. Але пра што ён хацеў бы пісаць, не здагадвалася.

Існуе версія, што ў Парамонава быў прататып. Гэта ўласавец Гіль-Радыёнаў.

І калі бацька ўзяўся за такую складаную тэму, асабліва пасля паэмы пра нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага («Хамуціус»), дык яго хутчэй за ўсё зацікавіў анатамічны зрэз гэтага вобраза, паталогія псіхалогіі здрадніка, а таксама яе карэнні, тым больш што з такой асобай, Вітаўтам Параф'яновічам, што выдаў Каліноўскага, ён ужо сутыкнуўся, калі пісаў пра апошняга, і гэта не магло не турбаваць бацьку. Ён павінен быў лічыць сваім абавязкам сродкамі мастацтва паказаць людзям, адкуль варта чакаць небяспекі.

Задума гэтай паэмы і ўзяла бацьку ў Нясвіжы ў сіло паэзіі, чым і тлумачыцца ягоны «стан палёту» і ягоная «пагібельная радасць» у апошнія дні жыцця.

Мінецца ўсё: пустая слава, мода,

І застанецца толькі сэнс адзін
Тых слоў, каторым саладзей ад мёду
Банкетнага быў палявы палын.
На брустверы акопа, на зямлянцы
Ён рос, і там — дзе праца рве карчы.
І толькі ён не рос на той дзялянцы,
Дзе не работу дзеляць, а харчы...
На подзвіг, а не танныя заробкі
Ішоў зямляк наш, кнігі кладучы
На шалі часу, нібы самародкі,
З пластоў глыбокіх
вымытыя працай...

## ПЛАНЕТА КУЛЯШОВА

-----

Аднойчы, яшчэ пры жыцці бацькі, я сустрэла на вуліцы беларускага паэта Рыгора Барадуліна, які, між іншым, задаў мне такое пытанне:

— А ці ведаеш, як у пісьменніцкіх колах завуць твайго бацьку?

— Як?

— Самаахвярнікам!

У Куляшова былі ўсе падставы для таго, каб з часам зрабіцца на шляхах творчасці самаахвярнікам.

Зайздрошчу я мастам, не іх канструктарам,
Дарогам, па якіх да нашых дзён
Імчаць саставы з посвістам і грукатам,
Не помнячы праслаўленых імён.

Хачу, каб так і слова — не жалезнае,
Знаёмае з пакутай і слязьмі,—
Ад славы і імёнаў незалежнае,
Трымала сувязь з часам і людзьмі.

Хачу, каб слёзы, што ў душы радзіліся,
Жыццём сваім асобным зажылі,
Каб так, як дождж на шкле, яны каціліся
І па шчацэ, і па шляхах зямлі.

Хачу, каб не прылізаным і чысценькім
Быў сэрца боль, каб пёк ён і смылеў,
Каб не прыкрыт быў грэх прыстойным лісцікам,
Смех — гулкім рухам быў, абвалам — гнеў.

А аўтар хто? Дзе рос? Як празываецца?
Ёсць весткі, альбо там яны ляжаць,
Дзе ўжо нічога ўслых не вымаўляецца? —
Знаць важна, але можна і не знаць.

Вы мне даруйце сёння, суддзі строгія,
Што мой і смех і гнеў не быў такім
І што, на жаль, пад імі, як і многія,
Я прозвішчам падпісваўся сваім.

(«*** Зайздрошчу я мастам...», 1073)

Гэты верш — крэда сталага Куляшова. Думка аб ананімнасці творчасці — важкі вынік шматгадовага роздуму паэта над сэнсам жыцця і ўласнай працы. Апошнія радкі верша сведчаць і аб тым, што творчасць для яго — справа грамадская.

Мне здаецца, што сведчаннем таму — увесь творчы шлях паэта, але для тых, для каго гэта невідавочна, прывяду радок з цыкла «Маналог»:

Нашто мне зрок, навошта гучны крок,
Хвілін імклівасць, цішыні хвіліны,
Турботы дня, апошнія навіны,
Крывёй не перагнагныя ў радок?

Бацька ў гэтым не адзінокі і не арыгінальны. Ён проста аднадумца ўсіх вялікіх нявольнікаў таленту. Каб пацвердзіць сваю думку, прывяду тут усяго адно выказванне — урывак з апошняга інтэрв'ю вялікага савецкага рэжысёра Андрэя Таркоўскага, дадзенага ім карэспандэнту парыжскага штотыднёвіка «Фігаро-магазэн» у кастрычніку 1986 года і перадрукаванага «Литературной газетой» 8 красавіка 1987 года. Вось аб чым там ідзе гаворка:

*Пытанне.* І апошняе пытанне, якое хвалюе на Захадзе многіх — гэта пытанне аб свабодзе. Свабодзе мастака. Свабодзе творчасці. Што вы думаеце пра гэта?

*А. Таркоўскі.* У вышэйшым сэнсе гэтага паняцця свабода, асабліва ў дачыненні да мастацтва, у сэнсе творчасці, не існуе. Так, ідэя свабоды існуе, гэта рэальнасць грамадскага і палітычнага жыцця. У розных рэгіёнах свету, розных краінах людзі жывуць ва ўмовах большай ці меншай свабоды. Але мы ведаем прыклады, якія сведчаць аб тым, што нават у самых жудасных умовах знаходзіліся людзі, якіх вылучала з асяроддзя нечуваная ўнутраная свабода, багаты свет душы, веліч. Мне здаецца, што свабода як выбар не існуе,— гэта стан душы. Так, напрыклад, можна ў сацыяльным, палітычным сэнсе быць выключна свабодным і тым не меней гібець ад пачуцця тленнасці ўсяго існага, пачуцця адзіноты, адсутнасці свабоды, адсутнасці выбару, будучыні.

Што ж датычыцца свабоды творчасці, дык пра гэта ўвогуле не варта спрачацца. Адсутнасць свабоды аўтаматычна абясцэньвае мастацкі твор, таму што гэта не дазваляе апошняму паўстаць перад грамадскасцю ў сваёй найлепшай форме. Адсутнасць свабоды прыводзіць да таго, што твор мастацтва, нягледзячы на сваё фізічнае існаванне, на самой справе, выходзіць не існуе.

У творчасці мы павінны бачыць не адну творчасць. Але ў XX стагоддзі, на жаль, пануе тэндэнцыя, пры якой мастак-індывідуаліст, замест таго каб імкнуцца да стварэння мастацкага твора, скарыстоўвае яго для вылучэння ўласнага «я». Мастацкі твор становіцца выказчыкам уласнага «я» яго творцы, рупарам яго дробных прэтэнзій. І наадварот, сапраўдны мастак, а больш таго — геній, з'яўляецца нявольнікам свайго даравання.

Ён лічыць сябе абавязаным служыць сваім дарам людзям як абранец лёсу, абавязак якога — жывіць людзей духоўна. Вось у чым я бачу свабоду.

«Самаахвярнік» Куляшоў стаў менавіта такім абранцам лёсу.

Я з юнацкіх дзён лічуся вязнем,
Бо зарок з мяне зямля ўзяла —
Я за лёс яе прыкуты ўласным
Ланцугом пакуты да стала.

Я на ўсё жыццё абраў дарогу,
Па якой калючак больш, чым руж.
Сэрца — як набат, што б'е трывогу
За мільёны падгарматных душ.

А калі ў смяротным грозным гуле
Упаду я, кінуты на дол
Ранняю хваробай альбо куляй,
І асірачу пісьмовы стол,—

Аб такім не пашкадую лёсе,
Бо, юнацкі помнячы зарок,
Паўтарыў бы зноў, каб давялося,
Я жыццё сваё — за крокам крок.
(1967)

«Юнацкі зарок» — гэта прысяга на вернасць маладосці, на вернасць ідэалам жыцця. Прысягу Аркадзь Куляшоў даваў ля вытокаў свайго паэтычнага шляху і не збочыў з яго, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, якія ён, зрэшты, так-сама прадбачыў.

Я пакідаў маленства край,
Дзе жыў жыццём вясёлым,
Прыйшла і мне чарга бывай
Сказаць лясам і долам.

Глядзелі зоры на мяне
Здалёк, як на другога,
Нібы за жорава мяне
Лічылі маладога.

Зямля шаптала мне — ляці,
Спяшайся, жораў ранні,
Цябе чакаюць у жыцці
Усе выпрабаванні.

Яны стаяць за радам рад:
З крыві, агню, з жалеза.
Ляці!
Няма шляхоў назад
Да салаўёў і бэза.
(«Крылы», 1945)

Жыццё ў згодзе з прызначэннем паэта прывяло ў выніку да таго, што сітуацыя Аркадзя Куляшова ў літаратурныхх колах Беларусі стала выключнай. Падобнае можна сказаць яшчэ толькі пра Пімена Панчанку, самага цікавага з паэтаў.

Апошняе сцвярджэнне можа здацца спрэчным. Калі, не паглыбляючыся ў гісторыю беларускай літаратуры, браць наверсе, няцяжка падлічыць, што Панчапка, які нарадзіўся ў 1917 годзе, маладзейшы за Куляшова ўсяго на тры гады. Адно пакаленне? Так. У жыцці, але не ў літаратуры.

У тыя часы, калі Пімен Панчапка рабіў першыя спробы пяра, Куляшоў ужо працаваў у паэзіі добры дзесятак гадоў і быў літкансультантам «Кабінета маладога аўтара» СП БССР. Ён быў першым рэдактарам і прапагандыстам вершаў таленавітага пачаткоўца ў паэзіі Пімена Панчанкі.

Дзякуючы Куляшову ўбачылі свет першыя вершы Міколы Аўрамчыка і Аркадзя Гейне. Дзякуючы яго намаганням змог прафесійна займацца літаратурай рускі паэт Навум Кіслік.

Куляшоў, як сапраўдны паэт, зацікаўлены ў плённым развіцці паэзіі, ставіўся да маладых вельмі ўважліва.

Пры падрыхтоўцы адной з тэлеперадач цыкла «Старонкі памяці» Мікола Аўрамчык расказаў мне такі эпізод:

— Калі я ўпершыню наведаў «Кабінет маладога аўтара» (раней я дасылаў туды вершы поштай), я так разгубіўся, што забыўшыся нават павітацца, проста паклаў перад Куляшовым свой сшытак і сеў ля

стала. Аркадзь Аляксандравіч зірнуў на мяне, узяў яго ў рукі, разгарнуў, глянуў і сказаў: «А, дык ты — Мікола Аўрамчык! Будзем знаёміцца!» — Пры гэтых словах ён устаў і падаў мне руку. Потым растлумачыў, што даўно ўжо ведае ўсіх нас па почырках.

Гэта быў перыяд, калі Куляшоў ішоў да свайго першага адкрыцця ў літаратуры — нізкі вершаў «Юнацкі свет». Гэты цыкл вершаў стаў для паэтаў-пачаткоўцаў беларускай літаратуры амаль тым, чым сталі для рускай і ўсёй савецкай літаратуры вершы Твардоўскага, што папярэднічалі «Краіне Муравіі», і сама паэма асабліва.

«Я нікольki не перабольшу, калі скажу,— пісаў Куляшоў,— што як паэт сваім нараджэннем абавязаны менавіта гэтаму твору. «Краіна Муравія» дала мне магчымасць не толькі па- новаму асэнсаваць блізкі мне свет народнага жыцця, але стала і тым штуршком, які вывеў мяне з творчага тупіка».

Пімен Панчанка і Мікола Аўрамчык неаднойчы гаварылі мне, што «Юнацкі свет» Куляшова зрабіў рэвалюцыю ў светаадчуванні маладых паэтаў, а Мікола Аўрамчык з уласцівым для яго энтузіязмам расказваў, як на вечары ў педінстытуце слухаў вершы «Юнацкага свету» ў выкананні аўтара.

Скончылася тым,— сказаў ён у заключэнні,— што ўсе мы неўзабаве далучыліся да аўтара і ўжо чыталі хорам, бо большасць з тых, хто захапляўся паэзіяй, ведала вершы на памяць.

Ведаючы больш-менш, якія вершы ўваходзілі ў нізку «Юнацкі свет», я доўгі час не магла знайсці сярод бацькавых вершаў таго, як мне здавалася, галоўнага, які даў назву цыклу.

Каб зразумець гэта, неабходна даць у рукі які-небудзь зборнік выбранага Аркадзя Куляшова — хоць бы апошні, «Крылы» — і паспрабаваць адшукаць там верш, пра які ідзе гаворка (а ён там ёсць). Ну, што, не ўдаецца? Вось так было і са мной.

Пакуль бацька быў побач, мне здавалася, што я заўсёды маю магчымасць даведацца пра гэта, а паколькі пытанне не належала да ліку актуальных, задаць яго так і не прыйшлося.

Адказ знайшоўся сам сабой і, як гэта звычайна бывае, выпадкова, калі я ўзяла ў рукі зборнік А. Куляшова «Вершы», выдадзены Дзяржаўным выдавецтвам БССР па серыі «Школьная бібліятэка» ў 1946 годзе. Там на старонках 148 і 149 я прачытала наступнае:

**ЮНАЦКІ СВЕТ**

Стаіць на ўзлессі дом,
Ад казак недалёка:
І мачты за акном,

І ветразі аблокаў.

Мы паўз яго ішлі
Пад сонцам
Пад высокім,
Мы флягі налілі
Кляновым хатнім сокам.
І вёсны з-за акна
Лічылі нам зязюлі.
Нас клікала вайна,
Мы ў стрэльбах неслі кулі.

Той дом,
Дзе піў я квас,
Бадзёрай дыша ласкай,
Той дом паплыў ад нас
Удаль знаёмай казкай.

Ці трапіць штых ва ўпор,
Ці куля ўп'ецца ў каску,
Хай знаюць:
Я памёр,
Памёр за гэту казку.
І воблакі, і дом,
І пыл пад небам гэтым,
І сосны за акном
Заву
Юнацкім светам.
(1940)

У сённяшніх зборніках Куляшова — і гэта зроблена ім самім у парадку рэдагавання — адсутнічае назва верша і яго апошняя страфа.

Мяркуючы па даце, бацька пісаў гэты верш напярэдадні вайны, але, як сведчаць апошнія радкі, глядзеў на будучую трагедыю вачыма чалавека, які яшчэ не перажыў яе. Ява ж вайны аказалася такой страшнай, што паэт, які цудам выйшаў жывым з яе горна, адчуў ідылічнасць апошняй страфы верша і выкрасліў потым гэтыя цудоўпыя радкі таму, што разам з сябрамі, якіх скасіла вайна, адплыла за далягляды юнацтва вясёлкавасць перадваеннага светаўспрымання і засталася ў памяці толькі суровая праўда вайны з

яе мільённымі чалавечымі стратамі. Так верш-прадчуванне ператварыўся ў біяграфічную анкету пакалення савецкай моладзі, якой жорсткі лёс наканаваў стаць шчытом радзімы ў часы яе ваеннага выпрабавання.

І яшчэ. Калі напярэдадні вайны, стоячы перад агульнай перспектывай лёсу свайго пакалення, Куляшоў адчуваў сябе яго голасам, дык пасля вайны, апынуўшыся ў неўласцівай для яго светаўспрымання сітуацыі абранца лёсу, шчаслівуца — «я шчаслівуцам ніколі не быў, быць такім — не жадаю!» — бацька палічыў, відаць, што не мае права гаварыць ад імя тых, чый юнацкі свет паглынула вайна, з такой бадзёрасцю.

На пасляваенным этапе ўсё пачалося з таго, што бацька аказаўся «першым пеўнем» грамадскіх змен у кірунку дэмакратызацыі, што пачаліся ў краіне пасля XX з'езда партыі, але, на жаль, не разгарнуліся.

А ў 56-м, калі паслякультаўскае грамадства цяжка асвойвала перамены, бацька без вагання перайшоў да дзеяння: распачаў энергічныя пошукі сяброў і блізкіх — ахвяр ягодаўска-яжоўскага перыяду.

Тая «вясна» дала беларускай паэзіі куляшоўскі цыкл «Маналог» і зрабіла яго яшчэ больш самотным, бо ў чыноўніцкіх «вярхах» «Маналог» энтузіязму не выклікаў, паказаўшы бюракрату, што як паэт Куляшоў «можа даваць нечаканасці», як трапна акрэсліў некалі незалежнасць думкі і самастойнасць паводзін, убачаныя вачыма бюракрата, Піліп Пестрак.

«Спасибо, дорогой друг, товарищ. Я из тех, у которых «нет не только милых душ, могил».

Но я счастлива тем, что теперь есть у меня папочка, в которой растет стопочка стихов, посвященных глашатаям революции, коммунистической нравственности, морали, любимым, близким, незабываемым.

«Когда мы вместе подрастали,— не о такой судьбе мечталось нам».

Спасибо, дорогой т. Кулешов!

Вы мне стали близким другом, Ваш «Монолог» — это монолог нас всех, таких, как я. Он будет вечным, как будет вечна память о борцах за Октябрь, безвременно и сташно погуб (перечеркнуто.— В.К.) погибших.

Я рада тому, что после страшных лет я дожила до времени, когда снова видишь друзей.

«И снова ощутив утраты жгучесть,<br>
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .<br>
Тех, без вести пропавших, помяну».

Москва, Н. Полякова».

Ліст прыйшоў у рэдакцыю «Нового мира» і, зарэгістраваны там пад № 128-И ад 29.3.66 г., быў перасланы бацьку, які захоўваў яго сярод лістоў самых дарагіх для яго людзей.

Што ж да пошукаў блізкіх, дык і яны не прыбавілі бацьку сяброў. Пачаўшы пошукі Таўбіна, Астапенкі і Галавача, Куляшоў звяртаўся і ва ўрад рэспублікі і ў адпаведныя ўстановы. Але з усяго, што ён шукаў, бацьку ўдалося пабачыць толькі судовую справу Галавача. Праз паўгода пасля першых захадаў.

Увесь час, пакуль гэтае пытанне «вісела ў паветры», адзін з нашых суседзяў, паважаны пісьменнік з тых, хто ў тыя трагічныя часы знаходзіўся ў кіраўніцтве Саюза пісьменнікаў, пазбягаў сустрэч з бацькам.

Так цягнулася да таго часу, пакуль не высветлілася, што матэрыялы следства над Галавачом, па сутнасці, знішчаны.

З таго часу адносіны з гэтым суседам заставаліся ў бацькі нацягнутымі. Толькі ў сямідзесятых яны зноў пачалі аднаўляцца, а за некалькі — ці не два! — месяцаў да сваёй смерці сусед прыйшоў да бацькі на доўгую і шчырую размову. Да гэтага руху яго душы бацька паставіўся вельмі сур'ёзна і з надзвычайнай павагай, прачуўшы, відаць, сэрцам глыбокі трагізм сітуацыі. Нам ён сказаў толькі, што наведвальнік прасіў у яго прабачэння за нешта ў мінулым.

За што? Гэтага мы не ведаем. Магчыма да тых трагічных падзей іх размова не мела дачынення, тым больш што ва ўспамінах пра гэтага чалавека вядомы сваёй бескампраміснасцю пісьменнік пісаў, што «апошнім часам ён жыў сумленна».

Нашым бацькам мы не суддзі, але грамадству варта было б разабрацца ў логіцы працэсу рэпрэсій і знішчыць іх пускавы механізм, улічваючы, магчыма, што на Беларусі ім заўсёды было не вырашанае яшчэ з часоў Рэчы Паспалітай і царскай Расіі нацыянальнае пытанне. Трэба задумацца над пытаннем хто, а галоўнае, чаму выказваецца на беларускай зямлі супраць роднай мовы як дзяржаўнай з усімі вынікамі — друкам, адукацыяй, справаводствам, льючы, такім чынам, ваду на мельніцу тых, хто вінаваціць у гэтым палітыку СССР, Савецкай Расіі, а тым больш Камуністычнай партыі. Гэты «хто», мне здаецца,— наш радзімы закаснелы бюракрат ды яшчэ які-небудзь палітыкан, што ловіць рыбку ў мутнай вадзе неразбярыхі.

Бацькава цікавасць да нацыянальнага пытання на Беларусі тлумачылася адным: ён разумеў, што нявырашанае па-ленінску, яно і

у будучым зможа служыць спекулянтам ад палітыкі, якія, імкнучыся да ўлады, будуць распальваць у асяроддзі моладзі нацыяналізм, што можа прывесці і да рэпрэсій урада, як было ў трыццатых.

Вось у чым, паважаны У.М. Конан, і вінавацію бацька намесніка старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Андрэя Александровіча на партыйным сходзе ў чэрвені 1937 года, «падрабязна спыніўшыся на двурушніцтве і антыпартыйнай дзейнасці Александровіча, які да апошняга часу патураў дзейнасці нацдэмаў», а потым выступаў на партыйных сходах з такімі прамовамі-прысудамі: «Жылуновіч — Цішка Гартны — гэта закончаны, заклятты вораг беларускага народа; Зарэцкі працягваў тыя ж самыя ідэі, што і Жылуновіч. Сымон Баранавых — кулак, юродзівы бандыт...»

А «юродзівы бандыт» Сымон Баранавых пісаў пасля з ссылкі жонцы: «Шкада маладых гадоў. Шкада волі. І за якія грахі такія пакуты? Увесь час гэтае пытанне сядзіць у галаве. Я зусім не вінаваты. І ніколі не быў ворагам Савецкай улады. Нават так званыя «сведкі» — Платон, Міхась, Васіль — на судзе нічога не змаглі прывесці ў доказ, а гаварылі ўвогуле... Гэтыя «сябры» — падлюгі, згубілі галаву. (Як не згубіць? Іх жа катавалі. Гэта ж не простыя нацдэмы былі, як малады Баранавых, а «трацкісты»-загаворшчыкі супраць Главы Дзяржавы! — В.К.) Іх, напэўна, расстралялі. Туды ім і дарога. Яны казалі, што я заходзіў да іх у госці. Дык хіба за гэта мяне трэба судзіць?!»

Цікава, што «згубіўшыя галаву» ўшчэнт скатаваныя Платон, Міхась, Васіль, такія ж «ворагі народа», як Баранавых, але з больш страшнымі абвінавачваннямі, нават перад тварам страшнага прысуду смерці не знайшлі для малодшых гаротнікаў ніводнага благога слова. Такіх слоў не было, відаць, у лексіконе сапраўдных пісьменнікаў. Усё, што змог сказаць Галавач пра з'яву тыпу аўтара «худой вошы», ён сказаў у мастацкай форме ў рамане «Ён», каб папярэдзіць нашчадкаў, што такое — магчыма.

Усё гэта бацька мой ведаў. Выпадкова пазбег гэтай долі, але творчай асцярожнасці не навучыўся і час ад часу даваў «нечаканасці», такія, як «Сцяг брыгады», «Маналог», «Варшаўскі шлях» і, мабыць, «Хамуціус», бо яго адмовіліся ўключыць у пасмяротнае выданне «Выбранае» Аркадзя Куляшова з вялікай серыі «Бібліятэка паэта».

Стылем жыцця і прынцыповасцю творчасці ён замацоўваў у нашай літаратуры высокі ўзровень крытэрыяў і ў гэтым сэнсе быў яе сумленнем. Вось як гаворыць пра гэта Пімен Панчанка, паэтычны нашчадак Куляшова, у вершы, прысвечаным настаўніку і сябру:

Прыціхнуў боль,
Адна туга тупая...
Не пазваніць табе,
Не адшукаць...
Як шчырасці тваёй
мне не хапае,
Як не хапае мне цябе, Аркадзь.
Лісток, з галінкі адарваны, шаснуў
Ля сэрца,
Паляцеў —
не здаганю...

Гарыць касцёр твой
Ля шашы Варшаўскай,
І кожны дзень
Бягу я да агню.

Штодня жыву
Між кніг тваіх і песень,
І ціха па зямлі тваёй плывуць
Любімая табой
Віхра і Бесядзь
І ў акіян жыццё тваё нясуць.
Цяжкім ты пры жыцці быў
ці інакшым,
Каго ты не любіў,
Каго любіў,—
Пачнуць хлусіць
Мемуарысты нашы...
А праўда ўся:
Ты Куляшовым быў.
Ты мудры быў —
І тут мне не пярэчаць —
І ўсё аддаў
праўдзіваму радку...
Ты марыў зноў
праплыць па роднай рэчцы,
Каб сонца з вёслаў
капала ў раку.
Асенні дзень.
Лятуць на поўдзень гусі.

Над Свіслаччу стаю я
над вярбой,
І скарджуся,
І радасцю дзялюся,
Я як заўсёды,
Раюся з табой.
Пад сонцам
І пад небам перуновым
Цяжэй нам без цябе пісаць і жыць...
І кружыцца планета Куляшова,
І песня пра Алесю ўсё звініць...

Свабода творчасці — рэч магчымая ва ўсе часы, але часам спараджае самаахвярнікаў.

## «ЖЫЛПЛОШЧУ ПАЗЫЧАЮ Я Ў НЯБЁС...»

-----

У нашым, падзеленым ужо спадчыннікамі на чатырох, нарачанскім доме мы ўсё яшчэ час ад часу знаходзім нешта новае, раней не вядомае, ці згубленае, што высвечвае ў памяці старонкі татавага жыцця.

Хочацца занатаваць на паперы і тыя ўсnаміны, што былі навеяны знаходкамі апошняга часу.

Вось, напрыклад, фотаздымак, які выпаў з сёмага тома Збору твораў Дзікенса. Ён вяртае мяне да апошніх дзён бацькавага знаходжання дома — да студзеня 1978 года. Тым часам па стану здароўя працаваць ён не мог, затое чытаў асабліва шмат. Кожны раз, заходзячы да бацькоў, я знаходзіла тату на канапе з кнігай у руках. На пачатку студзеня ён перачытваў «Ціхі Дон» Шолахава і не пераставаў захапляцца — у каторы ўжо раз! — талентам аўтара. Пасля, недзе ў сярэдзіне месяца, напярэдадні ад'езду ў Нясвіж, ён трымаў у руках том Дзікенса. Быў гэты том з ім і ў санаторыі. А фотаздымак, што выслізнуў з кнігі, бацька выкарыстоўваў, пэўна, як закладку.

Але ці толькі так? Здымак быў адным з тых, што на пачатку 1977 года я рабіла ў Міхайлаўскім. Чаму бацька выбраў з той серыі здымкаў гэты? Пра што разважаў ён, углядаючыся ў твары людзей, якія той утрываліў назаўсёды? Каб знайсці адказ на свае пытанні, я прагледзела ўсе зробленыя тады ў Міхайлаўскім здымкі. І зразумела, мне здаецца, чым дадзены адрозніваецца ад усіх астатніх. Толькі на гэтым здымку апрача іншых удзельнікаў свята мы бачым і Грыгора Ленкава.

Чаму мне здаецца, што ў тыя, апошнія свае дні бацьку хацелася аднавіць у душы вобраз, здавалася б, выпадковага на яго шляху чалавека?

Таму, па-першае, што памятаю, як у апошні дзень нашага знаходжання ў Міхайлаўскім, зранку, перад выездам на пушкінскую паляну, дзе павінен быў адбыцца заключны мітынг традыцыйнага пушкінскага свята паэзіі, бацька, які так не любіў фатаграфавацца на памяць, сам звярнуўся да Маныча, вядомага маскоўскага фатографа, які многа гадоў «абслугоўваў» Саюз пісьменнікаў СССР, з прапановай зрабіць нам такое фота. Мы пазіравалі Манычу ўпяцярых: бацька, Давід Кугульцінаў, Валера, я і Грыгор Ленкаў. Здымка мы так і не атрымалі, бо, як стала мне вядома зусім нядаўна, Маныч памёр

адразу ж пасля прыезду з Міхайлаўскага і наўрад ці паспеў праявіць негатывы.

Што зноў вярнула бацьку да невясёлых думак пра Грыгора? Доўгі час я не знаходзіла адказу на гэтае пытанне, але зараз, мне думаецца, ведаю яго.

Справа ў тым, што, праглядаючы на Нарачы вялікі часопісны архіў бацькі (у ім захоўваюцца тыя часопісы рознага часу, пачынаючы з пасляваенных, якія выклікалі яго цікавасць), я знайшла дванаццаты нумар «Иностранной литературы» за 1977 год, дзе ў чорнай рамцы ўбачыла знаёмае імя... Ніжэй падаваўся артыкул Ленкава, і трэба ж? — той самы яго даклад з канферэнцыі пушкіністаў у Міхайлаўскім. Яго бацька тады не чуў, бо, стомлены насычанай праграмай першай паловы дня, застаўся ў нумары, каб адпачыць. На канферэнцыю падалася я адна, а ўвечары расказала пра яе бацьку.

Часопіс бацька атрымаў якраз тады, калі ўзяўся перачытваць Дзікенса і збіраўся ехаць у Нясвіж... Можна ўявіць, з якім хваляваннем потым шукаў ён на недасканалых аматарскіх здымках чалавека, які на імгненне з'явіўся на бацькавым небасхіле, каб пакінуць яго гэтак раптоўна, імгненна, трагічна.

А тое, што ва ўяўленні Куляшова гэты чалавек спалучаўся з Пушкіным, паэтычны геній якога заўсёды заставаўся для яго зоркай першай велічыні, з якім сам ён як перакладчык так шчасліва судакрануўся на пачатку свайго літаратурнага шляху, не магло не выклікаць у бацькі асацыяцый пра падабенства творчага старту дваіх — яго і Ленкава, і тым самым не ўзмацніць смутку...

Прадчуваючы, мабыць, свой скрушны лёс, бацька развітваўся так зажурана з дарагімі людзьмі, з трывогай думаючы пра будучы лёс тых, каго пакідаў на зямлі, і з сумам пра тых, хто пайшоў ад нас раней. Нешта падобнае адбывалася трохі пазней з бацькавым задушэўным сябрам Кайсынам Куліевым, калі меркаваць па вершах, напісаных увесну восемдзесят чацвёртага:

Я старше стал моих друзей хороших —
Твардовского стал старше, Чиковани,
Стал старше Кулешова
И Симонова ныне старше стал.
Теперь, что б ни случилось, где найти
Мне слово одобренья иль поддержки,
Кому свою я выскажу обиду,
Кому я радость принесу свою?!
Как небеса безоблачны, как птица

Поет весне!..
А я друзей стал старше...

У розных бацькавых кніжках, што зберагаюцца дома і на Нарачы, я ўсё яшчэ, знаходжу візітныя карткі, надрукаваныя ім, нарэшце, у апошні год жыцця, але так і не раздадзеныя.

І яшчэ адна знаходка — запрашальны білет. Яго тата і мама рассылалі сябрам і знаёмым, запрашаючы іх 6 лютага 1974 года на таварыскую вячэру ў рэстаран гасцініцы «Беларусь». Карткі — запрашэнне на юбілейны банкет — я раней не бачыла і доўга ўзіралася ў яе, нібы гэта была вестка з-за той мяжы часу, за якой застаўся бацька. А не бачыла я гэтага запрашальнага білета таму, што ў той час хварэла і не прысутнічала на ўрачыстасцях, звязаных з бацькавым шасцідзесяцігоддзем. Затое ў памяці захавалася ўсё тое, што папярэднічала і спадарожнічала тым падзеям.

Не так даўно, калі мы з цёткай, татавай сястрой Надзеяй Аляксандраўнай, разглядалі фотаздымкі яе калекцыі, яна ўзяла ў рукі адзін, аматарскі, на якім тата сфатаграфаваны разам з сястрой і яе сяброўкай у Люберцах, дзе дзяўчаты вучыліся ў педінстытуце. Здымак зроблены быў вясной 1939-га.

— Бацька твой быў тады хворы,— знячэўку сказала цётка Надзя,— у яго была чарговая ангіна...

А я падумала пра тое, што бацька наогул не вылучаўся здароўем, што ён усё жыццё быў хваравіты. І вінавата ў гэтым не толькі вайна і стрэсы. Ягоная хваравітасць, ягоныя заўсёдныя ангіны — гэта і вынік недаяданняў і прастуд, зведаных ім у маленстве і юнацтве.

Асабліва дасталося бацьку ў дваццаць шостым годзе, калі па лжывым абвінавачванні маці яго, а маю бабулю, вырвалі з сям'і. Тыя паўгода дзеці жылі ў саматэвіцкім доме адны, жылі ў голадзе і нястачы. Бацька, расказвала мне цётка Надзя, спаў у сенцах у фаэтоне, падаслаўшы пад бок аблезлую аўчыну. (Гэты фаэтон, а можа, брычка, быў калісьці падараваны дзеду Аляксандру Мікалаевічу мясцовай памешчыцай і стаяў у сенцах, што падзялялі хату на дзве палавіны.) Спаў бацька ў фаэтоне таму, што ложка ў хаце не было.

Справа ў тым, што дзед за час адсутнасці бабулі ажаніўся другі раз, прадаў набытае сумесна з бабуляю дабро, пакінуўшы дзецям толькі тое, чаго на яго мужчынскае разуменне будзе ім дастаткова, каб дачакацца маці, а сам з маладой жонкаю паехаў на новае месца жыхарства кудысьці пад Крычаў.

Да гэтай пары належыць і апошні з тых драматычных эпізодаў бацькавага жыцця, пра якія я загаварыла на пачатку нашай гаворкі пра Куляшова.

Выйшла так, што, пакідаючы ў 1926 г. Саматэвічы, бацьку дзед таксама забраў з сабой, бо, разыходзячыся, мае дзяды дзяцей падзялілі.

Але бацька не прыжыўся ў новай сям'і і неўзабаве збег да маці ў Саматэвічы. Адбывалася ўсё гэта ўзімку. Шлях немалы — з-над самага Крычава, а ў бацькавай кішэні — толькі пятак, і ён рушыў у дарогу пешкі. Увечары падлетка знайшоў у прыдарожнай гурбе саматэвіцкі мужык, які вяртаўся дадому на санях.

— Што з табой? Чаму ты тут ляжыш? — спытаў ён хлопчыка.

— Не магу больш ісці...— адказаў той.

«У мяне, як потым высветлілася, была чарговая ангіна з высокая тэмпературай»,— тлумачыў мне бацька, удакладняючы ўласную споведзь.

— Як жа ты тут апынуўся? — распытваў сустрэчны далей.

— Я ішоў у Саматэвічы.

— Да каго?

— Я сын настаўніцы, Ратабыльскай.

— Дык ты Аркадзь?!

Бацька пацвердзіў.

— Дык сядай, падвязу!

— Не магу, не маю чым заплаціць — у мяне толькі пятак...— Гэтую манету бацька бярог усё жыццё як талісман. Пакінуў і мне... Можа, гэты выпадак і пераканаў яго ў цудадзейнай сіле гэтага талісмана, а можа, бацька надаваў асаблівае значэнне году свайго нараджэння, што пазначаны на манеце? Хутчэй за ўсё так, калі верыць куляшоўскай лірыцы, дзе тэма «пасведчання» распрацоўваецца неаднойчы, а верш «Маё пасведчанне», напісаны ў 1951-м, так і пачынаецца:

Дадзена яно сабе самому
У тым, што нарадзіўся ў год вайны.
Нянек не было ў мяне, вядома,
Песень не спявалі мне яны.
Думала вайна, як канадай
Лепей ёй мяне закалыхаць;
Клапацілася, як лепш блакадай
Рукі мне і ногі спелянаць.
Шмат вайной людзей закалыхана,

Многа спіць іх у зямлі сырой.
Выйшаў я на бой смяротны рана
З нянькаю няпрошанай людской...

Ужо гэтыя, пачатковыя радкі верша «Мае пасведчанне» — твора пра сталасць і ўмовы сталення — сведчаць аб тым, што свой паэтычны лёс Куляшоў ставіць у прамую залежнасць ад гістарычных лёсаў свайго народа, пакутніка і змагара. Таму і ён, дзіця народа, пакутнік, хоць і не сірата, абірае традыцыйны для свайго народа, пакуль ён існуе, шлях пераможнай барацьбы.

І справа ўжо не ў асабістым лёсе, а ў грамадскай пазіцыі нонканфарміста:

У суровы век жыву сурова,
Жыць інакш не здолеў бы зусім.
Сведчаннем таму вось гэта слова,
Што пранёс я праз агонь і дым.
Сведчаць гэта ўсё
лясы і гаці,
Сведчыць гэта ўсё Зямля сама —
Круглы шар, падобны да пячаці,
На якім жыву я недарма.

Галоўнае — не «як», а каб «недарма»! Але вернемся да бацькавага апавядання.

— Пра якія грошы ты гаворыш?! Сядай хутчэй!— працягваў успамінаць бацька, цытуючы свайго выратавальніка. Яму надзвычай цяжка даваўся гэты расказЗ Апошнія словы прагучалі зусім ціха...

Я разумела: гэты эпізод свайго жыцця бацька перажыў некалі як момант крайняга адчаю і знявагі, а ўчынак селяніна стаў для яго ўзорам бескарыслівасці і міласэрнасці.

Прыезд сына, як аказалася, прыйшоўся вельмі дарэчы: маці не проста арыштавалі, што бацька ўжо ведаў, але і асудзілі на паўгода па лжывым даносе.

Пра ўсё гэта бацька даведаўся ад аднавяскоўцаў, якія і растлумачылі яму, што аборт суседцы, ад якога тая памерла, зрабіла жанчына са Студзянца, пра занятак якой Кацярына Фамінічна добра ведала, але імя яе затаіла ад следчых, прыняўшы такім чынам абвінавачванне на сябе.

Людзі параілі Аркадзю звярнуцца за дапамогай да старшыні валаснога Савета Бальшунова.

Той так і зрабіў. Прыгавор быў абскарджаны, справу перагледзелі, Кацярыну Фамінічну апраўдалі і выпусцілі з турмы. Але чатыры месяцы яна адседзела ні за што, ні нра што.

Натуральна, што дзеці недаядалі, каб не сказаць больш — галадалі. Надзю, меншанькую, час ад часу падкормлівалі, шкадуючы, суседзі, а дванаццацігадовы Аркадзь лічыў сябе ўжо дарослым, саромеўся жыць з чужое ласкі і не толькі адмаўляўся ад дапамогі, але яшчэ і на сястру сварыўся, калі яна спакушалася чыім-небудзь гасцінцам ці пачастункам.

Сітуацыя стала крыху лепшай пасля таго, як бацька, скончыўшы школу, паступіў вучыцца ў Мсціслаўскі педтэхнікум, а неўзабаве, услед за сваімі дружбакамі, паэтамі Змітраком Астапенкам і Юліем Таўбіным, перабраўся ў Мінск. Але, папраўдзе, і ў Мсціславе, і ў Мінску жылося бацьку нялёгка. У Мінску сябры наймалі пакойчык на траіх, а ложак быў адзін, і тату даводзілася спаць на падлозе, закруціўшыся ў дыванок. Само сабой, юныя паэты частавата кладіся спаць галодныя.

Бацька ніколі не расказваў пра гэта. Відаць, ён лічыў, і не без падстаў, што ўсё гэта ў ягонай біяграфіі не самае істотнае. Проста ён, па ўсім відаць, не задумваўся аб сваім здароўі, як не задумваюцца аб гэтым усе маладыя людзі. Я ж тут згадваю ўсё гэта таму, што, як цяпер вядома медыцыне, прычынай прастудных, гарлавых і лёгачных захворванняў з'яўляецца шматгадовае недаяданне, так званае якаснае галаданне.

Не вылучаючыся здароўем з дзяцінства, бацька прызвычаіўся не звяртаць увагі на свае недамаганні і працаваць на поўную сілу з дня ў дзень. Яго выбівалі з рабочай каляіны толькі цяжкія прыступы хваробы, якія пагражалі самому жыццю. Прыступы гэтыя паўтараліся перыядычна, і бацька ведаў, што доўга яму жыць не давядзецца.

Усведамленне гэтага не спараджала адчаю. Наадварот, падганяла шчыраваць у рабоце, тым больш, што творчасць была самай вялікай радасцю яго жыцця. Таму ў апошнія гады, вымушаны выбіраць галоўнае, бацька стараўся крыху абмяжоўваць сваю актыўнасць у сферы грамадскага жыцця, асабліва ў яго параднай форме. Ён унікаў усялякіх урачыстасцей, сходаў, пасяджэнняў, адмаўляўся ад выступленняў, якія па прычыне яго павышанай эмацыянальнасці даваліся яму надзвычай цяжка, выбіваючы на доўгі час з рабочага рытму.

Працаваў бацька самаахвярна, аддаючы паэзіі ўсе свае сілы да астатку. У 1964 годзе ён апублікаваў сваю «Новую кнігу», якая пазначыла новы этап яго паэзіі і новы творчы ўзлёт. А. Твардоўскі,

думкай якога бацька даражыў надзвычай, сустрэў кнігу з захапленнем. «Сталасць таленту» — так назваў ён свой артыкул, прысвечаны выхаду «Новай кнігі». У артыкуле Аляксандр Трыфанавіч пісаў: «Новая кніга лірычных вершаў Аркадзя Куляшова паявілася ў 1964 годзе, пасля пэўнай паўзы ў нязменна прадукцыйнай рабоце паэта. Можна было б аднесці гэта за кошт перанесенай ім працяглай хваробы, можна было б лічыць і проста часовай замінкай, якія амаль непазбежныя ў сур'ёзнага пісьменніка, тым больш у эпоху, якая на кожным сваім крутым павароце абавязвае свядомасць мастака засвоіць гэты паварот ва ўсёй глыбіні.

Але якая ж гэта радасць, разгарнуўшы новую кнігу паэта, якога здаўна ведаеш і любіш, убачыць адразу, што паўза ці замінка былі толькі прадвесцем новага і моцнага рыўка ўперад і ўпэўненага ўздыму яго паэзіі.

Не заўсёды ўпоравень са сталасцю ўзроставай ідзе сталасць творчая, і калі яны супадаюць,— лепшага нельга пажадаць паэту... А гэтая вольная плынь лірычнай гаворкі — нібы роздум уголас,— якая яна экапомная ў словах, класічна падцягнутая, дысцыплінаваная без напятасці, строгая без сухасці і празрыстая, хоць і досыць складаная...

«Новая кніга» Аркадзя Куляшова — узор поўнага валодання паэтычнай формай, што выпрацоўвалася гадамі. Але не адно гэта дае магчымасць назваць «Новую кнігу» кнігай сапраўднай сталасці самабытнага і яркага таленту.

Шырыня ідэйнага гарызонту, асваенне нязвычных для ранейшага Куляшова вечных (гэтае слова чамусьці прынята заключаць у двукоссе), агульначалавечага значэння тэм: жыцця і смерці, любові і творчасці, лёсу і абавязку паэта, мінулага і сённяшняга, сённяшняга і невымерных далячынь камуністычнай будучыні — вось што галоўным чынам азначае новы этап у паэзіі Куляшова — адной з вяршынь савецкай паэзіі ў цэлым. Які́м, напрыклад, натуральным, пязмушаным чынам уваходзіць у кола яго лірычных разваг, робіцца прадметам паэзіі такая навізна, як сучасныя ўяўленні пра сусвет, што сталі значнай часткаю нашага светаадчування ў гады вялікіх поспехаў у вывучэнні космасу. Незлічонае мноства вершаў прысвечана гэтай нанова адкрытай тэме, але, калі да яе звяртаецца паэт, што не адлучае яе ад іншых, што аднолькава хвалююць яго, там, мы бачым узоры сапраўднага паэтычнага яе асваення.

Калі з зямлі на белай хмары
ў неба

Падымецца магутны карабель,
Мы, людзі, будзем думаць:
а ці трэба
Шукаць пілотам для Зямлі
зямель?
Ці варта круг рабіць ім
развітальны,
З тугой за кантынентамі
сачыць,
Як быццам бачыць кадр
дакументальны,
Дзе ім ужо статыстамі не быць?
Няхай, па невядомай нам
прычыне,
Не вернуцца яны на
касмадром,
Заснуўшы сном касмічным
у кабіне
Ці недзе новы адшукаўшы дом…
Аднак зацвердзяць поспеху
бясспрэчнасць
Наш век дваццаты і наступны
век,
І будзе фільм Зямлі глядзець
не вечнасці
Вачыма зор сваіх, а чалавек.

І вось што яшчэ адметна ў «Новай кнізе». Тут няма ніякіх слоўных, фразеалагічных эквівалентаў паняцця «культ асобы», няма намінальна гэтай тэмы, матываў, што паспелі ў многіх сённяшніх вершах ужо стаць агульным месцам. А між тым уся гэтая свабода лірычнай споведзі, гэтая нязмушанасць тону, смеласць нечаканага збліжэння строгай думкі і простая сардэчнасці – іх не аднясеш да іншага перыяду — яны належаць цяперашняму часу і спароджаны ім».

Цытата атрымалася, вядома, доўгая, але я ўсё ж дазволіла сабе згадаць тут гэтыя словы Аляксандра Трыфанавіча. Згадаць хоць бы таму, што ў той час ён раіў не аднаму літаратару, калі гаворка заходзіла пра беларускую літаратуру:

— Чытайце Куляшова! Менавіта ён прадстаўляе сёння ў савецкай літаратуры беларускую паэзію, «Новая кніга» была вылучана на

атрыманне Ленінскай прэміі побач з кнігай балкарскага паэта Кайсына Куліева. Сталася так, што прэміі яны не атрымалі.

Бацька, вядома, перажываў, але па-ранейшаму працягваў працаваць з той жа энергіяй, з тым жа напалам.

Былі, аднак, і іншыя прычыны для смутку, для горкіх думак. Не-не ды ўсё ж адчуваў бацька па-ранейшаму пэўную няўвагу да сябе, яго творы ў рэспубліканскай прэсе альбо не рэцэнзаваліся наогул, альбо вельмі рэдка, у выніку чаго рвалася зваротная сувязь, і недзе ў канцы 60-х гадоў ён пачаў адчуваць гэта асабліва балюча.

13 студзеня 1976 года на імправізаванай вячэры ў Беларускай даяржаўнай філармоніі пасля аўтарскага вечара Пімена Панчанкі, у якім прымаў удзел і бацька, ён раптам прапанаваў тост:

— За здароўе тых, хто ўваскрэсіў тут атмасферу зацікаўленасці ў паэзіі як у агульнай справе!

А Пімен Емяльянавіч дадаў:

— І вярнуў нам упэўненасць у тым, што наша паэзія патрэбна людзям!

У гэтым, аднак жа, прагучала і нотка сапраўднага пачуцця. Знамянальна, што нешта такое ж сказаў праз тры месяцы пасля свайго творчага вечара Іван Паўлавіч Мележ.

Глыбокі лістапад у Белавежы.
Шуміць лістота пушчы векавой,
Пытаецца шчымліва, быццам всршы
За ўсё жыццё напісаныя мной:

— Скажы, хіба нас не паліла смага,
Не абдаваў дажджоў лагодны душ?
Няўжо навек нас замяце няўвага
Сляпых завей, бесчалавечных душ?

Няўжо шыпамі вострымі падкова
Праб'е далоні нам?.. Хіба памром,
Гвалтоўнай смерці трапіўшы пад кола?
Няўжо мы станем снегам, пылам, тлом?

А я маўчу, а я маўчу, як дрэва
Асенняе, згубіўшае свой дах.
Вакол мяне — направа і налева —
Лісты, лісты, лісты засталі шлях...

Мне цяпер здаецца, што трывожнае пачуццё, выказанае ў гэтым вершы, жыло ў маёй свядомасці, мо нават хутчэй недзе ў падсвядомасці, у той час калі я, працуючы на Беларускім тэлебачанні, рыхтавала цыкл літаратурных вечароў. Першы з іх, прысвечаны творчасці бацькі, адбыўся 24 красавіка 1973 года на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі і быў запісаны на відэастужку для паказу па тэлебачанні.

Пра тое, што тэлебачанне рыхтуе такую передачу, бацьку сказаць я не адважылася і папрасіла калег паведаміць яму тады, калі далей маўчаць ужо будзе нельга — напярэдадні паяўлення ў горадзе афіш. Тата спачатку абурыўся, катэгарычна адмаўляўся, але ўрэшце-такі пагадзіўся. У вечары прынялі ўдзел яго добрыя сябры і паплечнікі Міхаіл Луконін, Кайсын Куліеў, Давід Кугульцінаў, Мікола Нагнібеда, Якаў Хелемскі, Пімен Панчанка. Вечар бліскуча правёў Ніл Гілевіч.

Гэта быў не проста творчы вечар паэта. Гэта было сапраўднае свята беларускай паэзіі, якое з захапленнем сустрэлі і гледачы і ўдзельнікі. Пра ўзнёсла-высокую і сардэчную атмасферу яго красамоўна гавораць фотаздымкі, зробленыя фотакарэспандэнтам газеты «Літаратура і мас-тацтва» Уладзімірам Крукам.

Тата быў надзвычай шчаслівы. У апошнія гады жыцця мне не часта даводзілася бачыць яго такім.

Гэтым зноў набытым пачуццём прыналежнасці да жыцця народа, спалучанасці, еднасці з ім тлумачыцца, мне здаецца, і тое пачуццё ўзрушанасці і ўздыму, з якім ён сустрэў свой 60-гадовы юбілей — крыху менш чым праз год пасля філарманічнага вечара. Справа ў тым, што мы, дамашнія, прывыклі чуць ад яго з рознай нагоды:

— Да юбілею мне не дацягнуць...

Пад словам «юбілей» бацька разумеў і пэўную ўзроставую мяжу, і адначасова пэўны вынік, грамадскі рэзананс сваёй дзейнасці, у рэальнасці чаго з нейкага часу пачаў сумнявацца.

Дык вось, тыя журботныя словы ні разу не сарваліся з яго вуснаў у перад'юбілейныя дні. Ды і самога юбілею, як вялікай эмацыянальнай нагрузкі, ён ужо — пасля таго вельмі ўдалага вечара — не баяўся.

На юбілеі мне быць, як я ўжо казала, не давялося. Тым не менш, памятаю, як захапляўся тата Тамарай Раеўскай, якая праспявала на юбілейным канцэрце песню Ігара Лучанка, напісаную спецыяльна для гэтага вечара, песню на бацькаў верш «Калі вясною закукуе...», і як ён быў расчараваны, калі я, пачуўшы пасля гэтую песню па радыё, першапачаткова не падтрымала таго ягонага захаплення. Памятаю і тую атмасферу любові, што панавала ў нашым доме увесь час, пакуль не раз'ехаліся татавы сябры, што збіраліся вечарамі ў нашым доме.

Менавіта ў тыя дні здарыўся і той кур'ёзны выпадак, пра які з уласцівым яму пачуццём гумару любіў успаміпаць Кайсын Куліеў. Расказваў ён так:

— Калі ўвечары мы сабраліся ў гасцінным доме Аркадзя (тут ішлі дыфірамбы кулінарнаму майстэрству мамы) і хтосьці з нас каторы ўжо раз сказаў тост у гонар юбіляра, Аксана Фёдараўна нечакана ўзмалілася: «І як вам толькі не надакучыць?! Вы ж трэці дзень толькі тое і робіце, што хваліце адзін аднаго!»

І Кайсын Шуваевіч заліваўся шчаслівым смехам.

Так яно і было на самой справе. Мама не зразумела толькі аднаго: таленавіты чалавек — як дзіця. І гэтак жа, як і дзіця, мае патрэбу ў заахвочванні і пахвале.

А вось і апошняя, самая дарагая знаходка.

Зусім нядаўна, праглядваючы бацькавы кнігі ў летніку на Нарачы, у томе перакладаў я ўбачыла складзены ў некалькі столак лісток. Як жа я ўзрадавалася, калі, разгарнуўшы яго, зразумела, што гэта тое, што мы так доўга шукалі і ўжо не спадзяваліся знайсці. Гэта быў рукапіс бацькавай прамовы на магіле Пушкіна, сказанай у чэрвені 1977 года ў час XI Усесаюзнага пушкінскага свята паэзіі. Ён пісаў яе ў Міхайлаўскім, вельмі хваляваўся ў час работы і не менш тады, калі чытаў яе над магілай паэта.

У Міхайлаўскім ён быў упершыню, і гэтае судакрананне з лёсам яго паэтычнага куміра вельмі ўсхвалявала бацьку, адкрываючы для яго, відавочна, штосьці такое ў Пушкіне, пра што раней тата наўрад ці задумваўся.

Рукапісы бацька звычайна знішчаў, але гэты лісток паабяцаў зберагчы. Аднак сярод папер яго не аказалася. Лісток так і застаўся ляжаць там, куды бацька паклаў яго ў Міхайлаўскім,— у томіку перакладаў, з якога ён чытаў на пушкінскай паляне строфы «Яўгенія Анегіна» па- беларуску.

Хочацца нагадаць тут гэтую бацькаву прамову, тым больш што яна, як мне здаецца, не друкавалася:

«Са школьных гадоў памятаем мы словы, напісаныя ў дзень смерці Пушкіна: «Сонца рускай паэзіі закацілася...» Ужо і тады, над смяротным ложам паэта, параўнанне яго з сонцам выказвала не толькі найвялікшую жалобу, але і ацэнку яго спадчыны. Далейшы ход грамадскага развіцця Расіі і звязанага з ім развіцця рускай літаратуры пацвердзілі глыбіню і непераходны сэнс гэтых памятных слоў.

Гэтаксама, як сонца выпраменьвае святло, дарує цяпло і святло нашай зямлі, пад праменнямі жыватворнага пушкінскага сонца

расцвітала і расцвітае паэзія. Геній Пушкіна добры, ён не прыніжае сваёй веліччу, не прыгнятае сваёй непасціжнасцю, у ягонай атмасферы дыхаецца лёгка і вольна. Ён вітае творчы парыў, натхняе яго ранішнім заклікам: «Да здравствует солнце, да скроется тьма!»

Мне здаецца, што кожны сапраўдны паэт па-свойму рос «под сенью дружных муз», перажыў пачуццё пушкінскага «гнезда», юначай вернасці ідэалам высокай паэзіі, таго творчага этапу, калі «душа стесняется лирическим волненьем». Далейшы самастойны лёс вызначылі жыццё, новы час, выхад з чароўнага палону пушкінскага тону і вобразаў да сваіх уласных форм выказвання думкі і пачуцця. Аднак гэта ніяк не было здрадай ранейшаму захапленню, таму што традыцыі Пушкіна вымагаюць не пераймання, а пошуку натуральнага слова, якое перадавала б дакладна і праўдзіва пайшоўшае наперад жыццё з уласцівымі яму клопатамі, запатрабаваннямі і складанасцямі...»

Мне кожны год, нібы жыццём другім,
Жыць у дваццаты век наш давялося...
Я — акіяну жытняга калоссе:
Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,
Яшчэ да дна не вычарпаным лесе.
Не золатадабытчык і не бос —
Двадцатым векам вызвалены атам,
Жылплошчу пазычаю я ў нябёс,
Каб быць для іх таварышам і братам.
Але і гэта не апошні лёс,
Які мне векам суджаны двадцатым...
(«*** Мне кожнны год, нібы жыццём другім...» 1962)

Апошні лёс сапраўднага паэта — гэта несмяротнасць. Несмяротнасць — гэта не «бронзы многопудье», якое адвяргаў і мой бацька, а магчымасць удзельнічаць у справах жывых вопытам свайго жыцця, замацаваным у мастацкім слове.

**ЗМЕСТ**

Куляшова В.

Лясному рэху праўду раскажу...: Літаратуразнаўч. эсэ.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 335 с., [9] л. іл., партр.

**ISBN 5-340-00079-6.**

Кніга Валянціны Куляшовай — гэта і ўспаміны пра бацьку, народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова, і адначасова даследаванне яго творчасці.

Кніга напісана эмацыянальна, падкупляе трапнасцю меркаванняў, здольнасцю аўтара зразумець і паказаць складанасць і шматграннасць паэтычнай натуры вядомага майстра беларускай паэзіі.

ББК 83.3 Бел 7
К 90

4603020102-142
К ------------------------ 81-89
М 302(03)-89

*Литературно-художественное издание*
Кулешова Валентина Аркадьевна
ЛЕСНОМУ ЭХУ ПРАВДУ РАССКАЖУ
Литературоведческое эссе
Минск
Издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*
Куляшова Валянціна Аркадзьеўна
ЛЯСНОМУ РЭХУ ПРАЎДУ РАСКАЖУ
Літаратуразнаўчае эсэ

*Рэдактар М.М. Мятліцкі*
*Мастак В.П. Масцераў*
*Мастацкія рэдактары А.І. Цароў, А.І. Дрозд*
*Тэхнічны рэдактар Л.М. Шлапо*
*Карэктар К.А. Крукоўская*

ІБ № 3089
Здадзенаў набор 18.11.88. Падп. да друку 23.06.89. АТ 06828. Фармат 84X90 1/32.
Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая.
Высокі друк. Ум. друк. арк. 14,70+0,785 укл. Ум. фарб.-адб. 15,62.
Ул.-выд. арк. 15,08. Тыраж 5500 экз Зак. 1993. Цана 1р. 2О к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР
па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
паліграфкамбінат МПВА імя Я. Коласа
220005, Мінск, вуліца Чырвоная, 23